# Маладосць

8

Штомесячны
літаратурна-мастацкі
і грамадска-палітычны
ілюстраваны часопіс

(681) ЖНІВЕНЬ, 2010

Выдаецца з 1953 года

Галоўны рэдактар
**Раіса БАРАВІКОВА**



**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова**
**«Літаратура і Мастацтва», г. Мінск**

## У НУМАРЫ:






Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютэрная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Яна ЯВІЧ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Адрас рэдакцыі: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.08.2010. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 15,12.
Ул.-выд. арк. 14,36. Тыраж 2423 экз. Заказ 1884.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.



**maladost@bk.ru**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»**



# Выхаванне душы, альбо Настаўнік роднай літаратуры

*Гэта, відаць, з маленства, з тых самых школьных гадоў, адзін з самых хвалюючых тыдняў, — апошні тыдзень жніўня... Пасля некалькіх месяцаў вакацый — наперадзе школа! Сустрэча з сябрамі і самы лепшы букет — любімаму Настаўніку... Як ні дзіўна, але тое трапяткое і ўзнёслае хваляванне не сцёр час. Відаць, у мяне былі вельмі добрыя Настаўнікі, і ўжо праз даволі вялікую прасторавую адлегласць у маёй памяці для кожнага з іх жыве свая ўдзячнасць.*

*З удзячнасцю да Настаўнікаў прыходжу ў школы і цяпер, калі яны запрашаюць на літаратурныя сустрэчы. Са многімі з іх з гадамі склаліся цёплыя, амаль сяброўскія адносіны, што асабліва шануецца. А яшчэ я вельмі люблю чытаць артыкулы ці проста допісы настаўнікаў, а то і вялікія сцэнарныя распрацоўкі ўрокаў у часопісе «Беларуская мова і літаратура», які ўзначальвае знакаміты літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук Алесь Іванавіч Бельскі. Гэтыя публікацыі аднойчы прывялі мяне да думкі, што нашы Настаўнікі беларускай мовы і літаратуры не проста педагогі, яны яшчэ і захавальнікі чагосьці вельмі абавязковага і важнага для нас, беларусаў. Маю на ўвазе той асаблівы наш беларускі менталітэт, пра які з захапленнем даволі часта згадваюць апошнім часам. А што такое менталітэт? Гэта — наш светапогляд, гэта той стрыжань у кожным з нас, які мацуецца ўсім тым, што генетычна мы атрымалі ў спадчыну ад дзядоў-прадзедаў. Вось на гэта яны і скіроўваюць сваіх вучняў, ненавязліва, але дакладна выбіраюць з твораў тое зерне, з якога і прарастае наш нацыянальны дух, наша адметнасць. Адно не разгубіць бы яе новым пакаленням.*

*Вось нядаўна слухаю інфармацыю пра будучых студэнтаў, а пакуль абітурыентаў гэтага года. Якія толькі спецыяльнасці не абіраюцца імі! Ад зямных інжынерных да штучнага інтэлекту і касмічных — выключна новых. Самы ж нізкі паток — на гуманітарныя спецыяльнасці. А чаму? Адна сялянка мне адказала, што ў гэтых людзей самыя нізкія зарплаты, маўляў, яны — не ў рынку. А як можна ўкруціць у прадпрымальніцтва, у той самы рынак, свядомасць чалавека, гісторыю і культуру народа?! Тут іншае вымярэнне, зусім іншыя каштоўнасці. Вось прыклад з паверхні: сёлетняя засуха... і ў шмат якіх краінах абвальваецца зерневы рынак. Гуманітарная ж сфера належыць вечнасці, дык, можа, і прызнаюць яе нейкім чынам патрэбна? Сённяшні абітурыент можа стаць у будучым геніяльным вучоным, але яму, напэўна, схочацца аднойчы прачытаць і не менш геніяльны літаратурны твор. Але гэта ўжо разважанні з іншай плоскасці.*

*Мне ж хочацца павіншаваць нашых шаноўных Настаўнікаў, сярод якіх нямала і чытачоў «Маладосці», з пачаткам новага навучальнага года і пажадаць далейшага плёну ў такой няпростай і разам з тым высакароднай працы на ўсе часы — быць Настаўнікам! Шчасця і здароўя ўсім Вам!*

*Але разам з тым гэты нумар — жнівеньскі! У жніўні адзначае свой шасцідзесяцігадовы юбілей выдатны беларускі пісьменнік (найперш Паэт, а потым літаратуразнаўца і эсэіст) Леанід Галубовіч. Рэдакцыя «Маладосці» віншуе Леаніда Міхайлавіча з высокім юбілеем, жадае залатога натхнення і шмат-шмат цікавых старонак новых твораў.*

*З пачуццямі павагі да ўсіх —* Ф. Баравікова



Ганна Радзько нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску. Студэнтка факультэта міжнародных адносінаў Беларускага дзяржаўнага універсітэта. У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

Ганна РАДЗЬКО

# ЛІСТ І ПЯЛЁСТАК

* * *

**З**агадкавы пада**РУНА**к —
**Г**ліняная **РУНА** —
**А**крэсліла мой накі**РУНА**к,
**Д**арогу, дзе лёсу ка**РУНА**к.
**К**ахаць — смакаваць віна т**РУНА**к.
**А** мараю аб каханні жыць — незайздросны
да**РУНА**к!

* * *

**К**ожны дзень я чакаю:
**А** раптам прыйдзе твой цень.
**Х**ай не адзін лістадзень
**А**пынуўся ў мінулым,
**Ю**нацтва будзе панурым, калі не сказаць
КАХАЮ.

## ЛІСТ І ПЯЛЁСТАК

Кляновы ліст і ружы пялёстак
Я падняла з зямлі.
Тут — родны Мінск, там — далёкі Ростак.
Паплылі караблі…

Ружовы ветразь, ветразь надзеі,
Завеі не замялі.
Вачэй не ўзняць ад штодзённай кудзелі.
Дзе шанец, што скарыстаць маглі?

Ліст і пялёстак.

Побач ляжаць яны на зямлі,
Ветрам сустрэчным знесеныя.
Яркі вугольчык ты запалі,
Яшчэ не ўсё перакрэслена.

Подых восені зноў бліжэй і бліжэй,
І лістота кружыць за вокнамі.
Зоры ззяюць ярчэй і ярчэй.
Мы, як ліст і пялёстак, самотныя.

Часіна маркотная.
Восень робіць сэрцы халоднымі.
А я ўсё чакаю ліст.
Вырашыць лёс так —
Знайду я свой шчасця пялёстак.

**ЗАПАВЕТНАЕ ЖАДАННЕ**

Начная вандроўка па вуліцах
Брукаваных, старажытных, светлых.
А ў дарагіх шкляных вітрынах
Бачыцца толькі ўсмешка твая ветлая.

Твае бяздонныя шэра-блакітныя вочы,
Каханнем ззяюць яны ўночы.
Веліч і разважлівасць яны
захоўваюць —
Мяне тым зачароўваюць.

Піцер — горад рамантыкаў.
Думак розных родзіцца багата.
Я гляджу гадзінамі на Балтыку...
Каханне маё — гэта набытак ці страта?

На загадкавым узбярэжжы Неўскім
Сфінксы егіпецкія хаваюцца.
Пэўна, каб тут, ля ракі,
Падслухоўваць,
Як трэба ў каханні прызнавацца.

Меў кожны з нас магчымасць
Папрасіць сфінксаў спраўдзіць жаданне.
Маё было незвычайнае:
*Першае каханне.*





*Алёна Беланожка нарадзілася ў 1985 годзе ў Магілёве. Скончыла Магілёўскае Дзяржаўнае вучылішча культуры імя Н. Крупскай па спецыяльнасці «Арганізатар культурна-дасугавай дзейнасці, рэжысёр дасуга, абрадаў і свят» і Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў. Працавала рэжысёрам узорнай эстраднай студыі «Вясёлыя ноткі», рэдактарам і метадыстам па культурна-дасугавай дзейнасці Магілёўскага гарадского цэнтра культуры і вольнага часу. Друкавалася ў газетах «Магілёўскія ведамасці», «Веснік Магілёва» і часопісе «Маладосць».*

Алёна БЕЛАНОЖКА

***Апавяданні***

# ЯБЛЫКІ

*На стале ляжаў блакітны яблык.* Блакітны не таму, што падгніў ці яго расфарбававалі. Проста селекцыянер, які выводзіў гэты гатунак, вельмі любіў блакітны колер. Крыху пазабаўляўшыся з прабіркамі, ён дамогся таго, каб скурка ў пладоў была светла-сіняй, гладкай і бліскучай. Ён хацеў атрымаць яблыкі, у якія можна было б глядзецца, як у люстэрка. Мала таго, селекцыянер задумаў гэты гатунак вельмі смачным — духмяным, сакавітым, з лёгкай кіслінкай, ад якой прыемна зводзіць сківіцы і рот умомант напаўняецца слінаю.

Селекцыянер быў ідэалістам. Ён не ведаў, што ў блакітныя яблыкі, выведзеныя з такой любасцю, работнікі садовых гаспадарак стануць упырскваць этылавы спірт, каб тыя хутчэй даспявалі, а потым будуць націраць іх воскам, каб даўжэй захоўвалі таварны выгляд і не зморшчваліся ў дарозе.

Дарога ў яблыкаў была доўгая. Спачатку сур’ёзныя жанчыны ў сіняй уніформе і мяккіх пальчатках раскладвалі іх згодна з памерамі, апраменьвалі ультрафіялетам і пакавалі ў драўляныя скрыні, кожны загортваючы ў мяккую паперыну. Потым смуглыя мужчыны грузілі скрыні ў вагоны ды самалёты, каб яблыкі ехалі па зямлі, плылі па моры і ляцелі над зямлёй у розныя куткі планеты — нават туды, дзе зашмат мясцовых гатункаў, выдатных і з выгляду, і на смак. Блакітныя яблыкі, хоць і дарагавата каштавалі, мелі попыт. Але пасля ўсіх «чараў», учыненых над імі, зусім знікаў чароўны водар. А скурка рабілася на смак як поліэтылен.

І вось адзін з такіх яблыкаў, ужо атрымаўшы ін’екцыю алкаголю, навошчаны, нібы паркет перад балем, патрапіў на стол, — стол без абруса ў маленькай кватэрцы на Усходняй вуліцы. Там яго і згледзела Валошка.

Яна рэзка штурхнула дзверы перад тым як увайсці з сакавіцкага марозу ў добра прагрэтае памяшканне. Валошка вольнай рукой прыціскала да сэрца кантаваты пакунак.

— Як у цябе цёпла! Як на пляжах Фларыды! — разгледзеўшыся, сказала яна замест прывітання і замоўкла, каб пачуць, адкуль прагучыць адказ — з лазенкі ці з кухні.

Ніхто не адказаў. Цяжкія шторы завешаныя. У пакоі паўзмрок. На кухні з крана гучна падалі кроплі вады. Валошка счакала, потым уздыхнула:

— Маўчыш? Не хочаш са мной размаўляць? Добра. Я цябе змушу. Вось я… я… зараз з’ем гэты блакітны яблык, бо вельмі хачу есці!

Яна падышла да стала, паклала пакунак, узяла блакітны яблык і нават паднесла яго да вуснаў, калі выпадкова заўважыла на стале невялічкі аркуш паперы і прачытала: «Калі хочаш есці, можаш пашукаць чаго ў халадзільніку».

— От яшчэ! — чмыхнула Валошка, але, паразважаўшы, паклала яблык на стол. — Не хачу я есці. І наогул, я прыйшла да цябе мірыцца. Так, я занадта ўпартая, ніколі не слухаюся… Але ж, пагадзіся, у нашых непаразуменнях шмат і тваёй віны!

Яна адкрыла маленькую сумачку і выняла з яе блакітны яблык — адзін у адзін як той, што ляжаў на стале:

— Я табе прынесла блакітны яблык. Цяпер іх у цябе будзе два. Ты мяне чуеш?

Зноў ніхто не адказаў. Валошка зняла боцікі, занесла іх у вітальню, потым вярнулася ў пакой і, прысеўшы на канапу, гучна сказала:

— Пачакаю! Сёння ў мяне часу колькі хочаш. Сёння асаблівы дзень. І ў мяне для цябе ёсць яшчэ адзін падарунак, — яна зашамацела паперай, і на свет з’явілася карціна ў сіняй рамцы. А на карціне таксама яблык нябеснага колеру.

Валошка паставіла карціну на стол:

— Сама намалявала. А ты дарма не зачыняеш дзвярэй на замок. Ты занадта давяраеш людзям. Добра, што прыйшла я, а не які злодзей! У цябе, вядома ж, няма чаго браць, але ён мог спакусіцца на твой яблык, і гэта была б вялікая страта для цябе — я так думаю. Іначай нашто пакідаць побач пісулькі з папярэджваннямі? Ды хай сабе злодзей! А от каб сюды ўварвалася адна з тых дзіўных дзяўчат, ад якіх ты хаваешся! Ты ж нават паставіў металічныя дзверы, каб яны сваімі кіпцямі не прадзерлі ў тваю кватэрку дзіркі. Помніш, ты расказваў мне пра нейкую Цвятану, маўляў, яна зусім вар’ятка, дзень і ноч пільнуе цябе ў зарасніку пад вокнамі? Мы тады яшчэ пасмяяліся і набылі табе бінокль, каб і ты бачыў, што яна там робіць, сярод галля. А я тады сказала: «Цяжка жыць на першым паверсе, не разумею, чаму ты не прадасі гэтай кватэры і не з’едзеш у прыстойнейшае месца! Ты, здаецца, гэта заслужыў!» Памятаеш?

Рэзка адчыніліся дзверы лазенкі. У пакоі з’явілася высокая дзяўчына ў куртачцы і ў чаравіках, з фотаапаратам на шыі. Быццам яна не з лазенкі выйшла, а ўвайшла з вуліцы. Дзяўчына пстрыкнула фотаапаратам, стала рукі ў бокі і амаль пракрычала высокім голасам:

— Дык вы з ім за мной назіралі?! А я на вас у суд падам! Я пра вас у часопісы напішу! І на тэлебачанне пазваню!

У Валошкі на імгненне адняло мову. Потым яна міжволі рассмяялася, схаваўшы бледны сінявокі твар у свежую газету, якая ляжала на канапе, ахутаная пахам вясны і друкарні.

— І не пакамяч газеты — там мой нарыс! — абрынулася дзяўчына.

— Нарыс?

Валошка адняла твар ад газеты і ўголас прачытала:

— «Блакітныя яблыкі — найлепшы спосаб прызнацца ў каханні». Ніколі б гэтак не падумала. Гэта сталічнае выданне… Ты журналістка?

— Журналістка. Са сталіцы. А ты мастачка, я цябе знаю, ты часцяком бываеш на сходках у мясцовай галерэі. Не баішся пацукоў? Там іх паўнютка, я рабіла рэпартаж, — сказала Цвятана, кінуўшы хуткі позірк на карціну. — Нішто сабе. Вельмі падыдзе для конкурсу дзіцячых малюнкаў на тэму «Мая ўлюбёная садавіна».

— Дзякуй, — адказала Валошка. — А пра пацукоў у галерэі я нічога не чула.

— Глядзі, з’ядуць твае малюначкі і цябе разам з імі, бо ніхто не збіраецца тых пачвар вынішчаць, — Цвятана прысела на канапу побач з Валошкай і павярнула да яе нахабны твар, які бывае ці не ва ўсіх журналістаў незалежна ад іх полу і веку. —

Гэта нейкія дужа гістарычныя пацукі, адно што не запісаныя ў Чырвоную Кнігу. Дарэчы, усе мастакі крыху падобныя да пацукоў: жывуць невядома дзе, выжываюць невядома як, а папуляцыя іх толькі павялічваецца.

Валошцы не спадабалася параўнанне з пацукамі. Яна нічога не мела супраць грызуноў, ды што там — паважала іх за бессаромнасць, якой не мела сама. Валошку абразіў тон, якім Цвятана гутарыла. Ёй нават падумалася, што журналісты больш падобныя да пацукоў, але толькі Валошка адкрыла рот, каб падзяліцца гэтай думкай з Цвятанай, як тая заявіла:

— Я бачыла цябе на мінулым тыдні. На выставе. Ты міла гутарыла з нейкім англічанінам і вельмі неадназначна яму ўсміхалася. Хто гэта быў?

— Якая розніца? Адзін… спонсар, — Валошка сарамліва адвяла вочы.

— Не хочаш — не кажы. Я ўсё роўна даведалася і нават змясціла ваша фота ў газеце побач са сваім артыкулам.

— Гэта… блага. Бацька не любіць, калі я заводжу знаёмствы з іншаземцамі. Прачытае — будзе нервавацца.

— Мой таксама забараняў сябраваць з замежнымі гасцямі. На адлегласці забараняў: мы з маці жылі ў сталіцы. Тады я падалася ў мас-медыя яму на злосць. Каб заўсёды быць у цэнтры ўвагі. З бацькам я болей не бачылася. А ты, напэўна, ніколі не чытаеш прэсы, як і ўсе мае знаёмыя служкі муз. Яны цікавяцца толькі сабою.

— Не чытаю. Бо не люблю плётак і жахаў. Ад іх я расчароўваюся ў людзях. Чаму вы, журналісты, заўсёды пішаце пра людзей нядобрае? Збіраеце самае смецце!

— Мы пішам праўду. Каб яна калола вочы. Галоўнае правіла: не маніць. Некаму, мабыць, стане сорамна, і ён спыніць сваю разбуральную дзейнасць.

— А нехта вызверыцца, знойдзе цябе і зробіць табе… «саечку» за перапуд.

— Не зробіць. Я нічога не баюся.

— Тады твой галоўны вораг — ты сама. Наогул, ты як сюды трапіла?

— Як і ты: праз дзверы, — адказала журналістка і зняла куртку.

— А мне падалося, што праз вентыляцыйную адтуліну ў ванне, як сапраўдная шпіёнка. У найлепшых традыцыях жанру.

— Мяне твае кпіны не даймаюць, можаш і далей практыкавацца ў досціпах.

— Не, чаму ж… я лепей пачытаю твой нарыс! Выдатны выпадак, каб упершыню за колькі гадоў даведацца з друку, што ж адбываецца ў свеце, — Валошка разгарнула газету. — Аднак тут цёмна... Так і вочы папсуеш! Трэба адвесіць шторы.

Валошка ўстала, падышла да акна і ўзялася за бераг парцьеры. Раптам акно адчынілася, і ў кватэру ўвалілася кірпатая дзяўчына з вяснушкамі на носе ў задымленым швэдры, а за ёй — велізарны паходны рукзак і абсмалены да непрагляднае чарнаты кацялок.

Цвятана моўчкі пстрыкнула фотаапаратам. Дзяўчына зажмурылася ад рэзкай успышкі, паправіла ўскудлачаныя валасы, паглядзела на Цвятану, на Валошку, потым на стол, аздоблены яблыкамі. Крыху павагаўшыся, адкрыла рукзак, выняла з яго блакітны яблык і паклала на стол побач з першымі двума, а тады гучна сказала:

— Мяне завуць Ліля!

— Вельмі прыемна! Валошка, — адказала Валошка, зрабіўшы крок назад.

— Цвятана, — прадставілася журналістка.

— Гэта імёны ці прозвішчы? — Ліля падняла кацялок.

— Гэта творчыя псеўданімы! Вы, напэўна, толькі што вярнуліся з паходу? — пацікавілася Цвятана.

Ліліны вусны распаўзліся ў шчырай усмешцы:

— Так! Мы на Алтаі былі! З сябрамі! Алтайскі край для мяне асаблівы. Там мае бацькі пазнаёміліся. Мама казала, што бацька быў ого які вандроўнік!.. А вы тут жывяце ці таксама ў госці?

— У госці. Толькі мы скарысталіся дзвярыма. Іншым разам і вы паспрабуйце. Людзі кажуць, гэта вельмі зручна, — заўважыла Цвятана.

Ліля стала пунсовай, як мак, і зірнула на акно, быццам збіралася пакінуць праз яго кватэру. Валошка прапанавала:

— А давайце вып’ем за новае сяброўства, пакуль гаспадара няма.

Яна наблізілася да серванта, дзе за шклом пераліваліся крыштальныя кубачкі, адчыніла арэхавыя дзверцы, каб узяць сваю ўлюбёную вішнёвую наліўку, і замерла: сярод калекцыйных бутэлек блішчэў навошчанымі бакамі яшчэ адзін блакітны яблык.

— Гэта ўжо ціка-ава… — Цвятана таксама заўважыла яблык. — Бяры чатыры кубачкі.

— Чатыры? Нас жа тры. Каго нам яшчэ чакаць? — здзівілася Ліля.

І нібыта ў адказ на гэтае пытанне пад ложкам, накрытым пярэстай падшыванай коўдрай, нехта баязліва чхнуў.

— Во! Зараз адтуль выпаўзе гістарычны пацук! — Цвятана зняла накрыўку з аб’ектыва і накіравала яго на ложак.

— А-а-а! Пацук! Мамачкі! Ратуйце! — закрычала Ліля, ускочыла на канапу, схапіла падушачку, што бессаромна чырванела на накідцы, рэзка выбіваючыся з інтэр’эра, і кінула яе ў «пацука».

«Пацуком» была дзяўчына з доўгімі светлымі валасамі, у якіх заблыталіся жмуты пылу. Яна чхнула яшчэ раз, паправіла акуляры:

— Тут гадамі не прыбіраліся. Уся перапэцкалася! — дзяўчына стала счышчаць са светлай спадніцы цёмныя плямы, як раптам заўважыла чырвоную падушачку. — Хто гэта зрабіў? Хто яе кінуў?! Не чапайце маіх вырабаў! Вы! Яна ж зусім новая, гэтая падушачка... Гэта падарунак! Вы ніводная не ўмееце так вышываць!

Дзяўчына падняла падушачку і паказала яе. На чырвонай тканіне крыжыкам быў вышыты блакітны яблык.

— Як хораша! — ахнула Ліля.

А Цвятана ўкалола:

— Сёння што — Міжнародны дзень блакітнага яблыка?

Валошка разліла наліўку па кубачках:

— Хадземце да стала, і давайце, згодна з традыцыяй, — за знаёмства!

— Наша падложкавая фея яшчэ не назвалася, — Цвятана села на крэсла.

— Мяне завуць Разалія Францаўна. Дзеці так завуць.

— Дзеці? — перапыталася Ліля, злазячы з канапы.

— Я выкладаю ў вясковай школе. Вяду заняткі па працы.

— Вы настаўніца! Як гэта міла! — пляснула ў далоні Ліля. — Разалія Францаўна — вельмі прыгожа!

— Для вас проста — Роза, — прамовіла Разалія.

— Вы мне не паверыце, Разалія, — сказала Цвятана, — але ў нас з вамі… давай на «ты», добра? У нас з табой адно імя па бацьку. Я таксама Францаўна.

— Ой, і я Францаўна! Во дзе супадзенне! — узрадавана ўсклікнула Ліля.

— Я не вельмі вас здзіўлю, калі скажу, што маё поўнае імя — Валянціна Францаўна Валошка? — Валошка падняла кубачак. — За знаёмства!

Дзяўчаты выпілі наліўку. На стале сінелі чатыры аднолькавыя яблыкі, праз акно ў пакой прабівалася красавіцкае сонца — тое самае, што аздобіла Лілін твар вяснушкамі і пакрыла лістотай куст, з-за якога па той бок шкла Цвятана ўсю зіму назірала за падзеямі ў кватэры.

— Які цудоўны кветнічак у нас выйшаў! А вы, паненкі, дзеля чаго сюды прыйшлі? — спыталася Цвятана, праціраючы фотаапарат мяккай сурвэткай.

— Я прыйшла, каб павіншаваць свайго бацьку з народзінамі, — адказала Роза.

— Не паверыце. Я таксама! — узрадавалася Ліля. — Нашы бацькі жывуць разам? Як гэта цікава!

Цвятана засмяялася:

— Так, разам. Учатырох. І ўсе — Францы! Дарагія мае, не хачу вас расчароўваць, але ў нас — адзін бацька. Адзін на ўсіх. Супольны.

— Не можа быць! — узрушана сказала Ліля, а Роза зноў паправіла акуляры.

— Не верыце мне — дык паверце сваім вачам!

Цвятана ўстала і накіравалася да люстэрка, што вісела на сцяне. Дзяўчаты рушылі за ёй.

— Гляньце. Аднолькавая форма вуснаў. Падобныя насы… пакажыце вушы! — загадала журналістка. Па яе камандзе дзяўчаты паднялі валасы. — Вушы — як раздрукаваныя з аднаго клішэ. Любата! Наш бацька, даражэнькія мае, выдатны селекцыянер: ён падарыў свету не толькі блакітны яблык, але і чатырох узорных дзяўчат!

— Віншую: сёння ў кожнай з нас з'явілася ажно па тры сястры! — сказала Валошка.

— Даражэнькая Валошка, але з усіх нас толькі ты жывеш у гэтым горадзе і раз-пораз наведваешся да бацькі, можа, возьмеш на сябе абавязкі гаспадыні? — спыталася Цвятана. — Накрыем стол і адзначым два святы запар!

Чатыры блакітныя яблыкі, зззяючы далікатнай скуркай, ляжалі пасярод стала ў чорным металічным кацялку. За сталом сядзелі чатыры дзяўчыны — яны гаманілі і смяяліся. Адна дзяўчына, чый твар быў прысыпаны вяснушкамі, грала на гітары і спявала песню пра паходы, горы, вольнае паветра, рамантыку і яблыкі.

Над сталом вісеў чорна-белы фотаздымак дваццацігадовай даўніны, а з яго ўсмешлівымі вачыма пазіраў мужчына ў белым халаце… Мужчына, які прызнаваўся ў каханні жанчынам, але чуў у адказ: «Я буду тваёй толькі тады, калі ты прынясеш мне блакітны яблык!»

Хіба ёсць на свеце тое, чаго не здолее зрабіць закаханы мужчына?

## НЕЧАРОЎНАЕ АПАВЯДАННЕ

*— У тваім апавяданні не стае казачнасці.* Яно зусім не чароўнае! — сказаў Віталь, перагарнуўшы апошнюю старонку сшытка, і запэцкаў далонь: на старонцы яшчэ не высахла чарніла.

Арына вылезла з-пад стала, дзе нешта шукала, запаліла позіркам свечку на краі стала і апусціла вочы:

— Мы знаёмыя ўжо дваццаць гадоў, з дзіцячага садка, і ты мяне заўсёды вінаваціш, якая я прыземленая. Што б я ні зрабіла — для цябе ў гэтым мала ўзнёсласці, мала лёту… Ой, зноў недзе падзела запалкі. Пасунься, будзь ласкавы, каб я цябе не апякла!

Віталь пасунуўся. Свечка, што ружавела побач, успыхнула ад узмаху Арыніных веек. Па сталовых прыборах разлілося жоўтае святло.

Стол быў святочна ўбраны. На абрусе, як на ўзлётнай паласе, роўным радком стаялі талеркі, падобныя да міжпланетных караблёў, на якіх вось-вось паляцяць у вялікае касмічнае падарожжа тарталеткі ды смажаныя курыныя крылцы, сарамліва прыкрытыя лісцікамі салаты, іншыя апетытныя стравы. На фужэрах у заломах крыштальных узораў зіхацелі маленькія сонейкі.

— Сама гатавала? — спытаўся Віталь, недаверліва павёўшы брывамі.

— Сама.

— Не мані! Можа, ты крыху… ленавалася?

Арына зачырванелася:

— Сёння адключылі электрычнасць.

— Зноў? Што ж у цябе за дом такі: ніколі не бывае электрычнасці!

— Уяві сабе! Гэта выдаткі жыцця на ўскрайку горада! — Арына зняла паркалёвы фартух і павесіла яго на цвік ля дзвярэй. — Цэлы вечар палю свечкі! А ў мяне пліта — электрычная, ты ж ведаеш. Так што з гатаваннем я сабе крыху дапамагла…

— Скажы прасцей: зноў начаравала!

— Хай сабе так. Але стравы ад гэтага не прэсныя і не штучныя. Усё так, як ты любіш, акрамя солі. Вось табе сальніца, ты заўсёды скардзішся, што я недасольваю, салі сам!

— Ты забылася пакласці мне відэлец! — усміхнуўся Віталь.

Арына паглядзела на драўляную палічку, дзе ў паўзмроку блішчэлі металічныя бакі лыжак, нажоў, відэльцаў, і ўзняла руку. Адзін відэлец падскочыў на паліцы, а тады, нібы да магніта, прыцягнуўся да яе далоні. Арына працерла яго мяккай блакітнай сурвэткаю і падала Віталю. Ён удзячна кіўнуў.

— А хочаш, яны для цябе патанцуюць? — какетліва спыталася Арына.

Не дачакаўшыся адказу, пстрыкнула пальцамі. Кран над ракавінай заспяваў саксафонам, сальніца зашастала маракасам, з залы пачуліся гукі раяля. Лыжкі, нажы і відэльцы ўзняліся і па паліцы, як па сцэне, сталі рухацца пад музыку.

— Даволі, даволі гэтай чартаўні!

— Сёння мой дзень нараджэння! Хто вінаваты, што я кожны год накрываю гэты вялікі стол і запрашаю ўсіх знаёмых, а прыходзіш толькі ты? Гэта свята — дык давай радавацца! Праграма ў нас такая, — сказала Арына і села насупраць Віталя, — спачатку джаз у выкананні ансамбля «Трынаццаць лыжак», потым факстрот — яго прэзентуюць нам патэльні ды рондалі, за ім поўнае выданне твораў Коласа пакажа нам польку — цотныя тамы будуць выступаць у пары з няцотнымі, — і, нарэшце, «Сабачы вальс» — яго будуць танцаваць «сабачкі» на зашпільках і курыныя костачкі. А калі скончыцца віно… я стану з нагамі на стол і да світанку буду чытаць табе свае вершы ды апавяданні, у якіх зусім няма казачнасці. Дарэчы, што да віна! Зусім забылася!

Арына ўстала, адчыніла дзверы балкона, працягнула руку ў цемру, і праз імгненне ў пакоі з’явіліся дзве бутэлькі з зялёнага шкла.

— Дзе ж мой штопар? — азірнулася Арына і прыкусіла губу.

— Дазволь мне, — сказаў Віталь. — Я мужчына. Я ўмею адкаркоўваць бутэлькі і без штопара.

Ён узяў відэлец і праціснуў корак усярэдзіну. У фужэры палілося густое чырвонае віно. Віталь падаў адзін фужэр Арыне:

— Калі ласка!

— Дзякуй. Можаш нават курыцу падзяліць — як мужчына.

— Гэта я заўсёды гатовы! — Віталь адкасаў манжэты, узяў нож і пачаў звыклымі рухамі рэзаць белае мяса. — Паслухай… нам трэба сур’ёзна пагаварыць.

— Не жадаю траціць час на сур’ёзныя размовы ў такі вечар! Чакай… — Арына зажмурылася і сціснула кулакі. Радыёпрыёмнік замоўк. Насценны гадзіннік захрыпеў і спыніўся. Моль, што лятала вакол свечкі, застыла ў паветры. — Вось цяпер можна. Я крыху прыпыніла час. Зусім ненадоўга, так што хутчэй кажы, чаго хацеў, і прыступім да святочнай вячэры!

Віталь уваткнуў нож у курынае сцягно:

— Я ведаю. Ведаю, што ты можаш спыняць час, лётаць, перасоўваць рэчы ў прасторы, нават чытаць мае думкі, і ніяк не магу прывыкнуць да гэтага. Ужо дваццаць гадоў аніяк не прывыкну. Калі ты была дзяўчынкай, гэта было не так яўна, як цяпер. Я цябе баюся.

— Табе гэта не падабаецца?

— Мне дрэнна, што ты такая толькі са мною! Ніводзін чалавек на зямлі не ведае, якая ты! Для мяне гэта пакута…

Арына памаўчала, узнагародзіла Віталя невыносна доўгім паглядам і перапытала:

— Не ведае? А ты ніколі не задумваўся, куды гэта я знікла на тры гады? Я правяла іх у спецшколе для «незвычайных» дзяцей. Мяне забралі сілком. Ты сабе не ўяўляеш, якіх намаганняў мне каштавала ўпэўніць дарослых акадэмікаў, што сімптомы «незвычайнасці» ў мяне скончыліся! Ты ніколі не адчуваў сябе паддоследным трусом? Во, паглядзі, — Арына падняла валасы з шыі, дзе чырванела некалькі плям, — гэта ад электродаў. У іх там паўнютка прыбораў, і ўсе б'юцца токам! З тае пары я электрычнасць не выношу!

— Та-ак… Дык во чаму ў цябе ніколі не бывае святла!

— Але, я наўмысна яго выключаю! Мне нават бяскрыўдны тостэр падаецца жудаснай прыладай для катаванняў!

Арына стала расціраць збялелыя далоні. Зрабіла вялікі глыток віна, закашлялася:

— Халоднае! Трэба было пагрэць… не люблю халоднага. Нас там… нас трымалі ў халодных пакоях. Як у моргу. Нейкія эксперыменты праводзілі — на замаруджванне целавых працэсаў. Целавых і разумовых. Усё вышуквалі, пры якіх умовах «незвычайнасць» знікае і з'яўляецца зноў! Хочаш, нешта пакажу?

Віталь кіўнуў. Арына закасала рукавы і паклала на стол рукі:

— Ты часта пытаешся, чаму я не нашу адкрытага адзення. Во, падзівіся. Шнары. Гэта ад іголак. А вось гэта — рознымі рэчывамі прыпальвалі. Хацелі дазнацца, загоіцца ці не. У некага зышло зусім, нават слядоў не засталося. А ў каго, як у мяне, загаілася, але не знікла. Я цяпер мушу нават улетку хадзіць з доўгімі рукавамі. Калі надзяваю саколачку, усе спалохана шэпчуць: «Наркаманка!» — і пальцамі ў мой бок тыкаюць.

Віталя перасмыкнула. Ён тузануў плячыма і адвёў вочы.

— Нас прымушалі перасоўваць розныя рэчы. Спачатку дробязь — запалкі, алоўкі… потым сталі вывозіць усіх разам на палігоны, каб мы сілаю думкі рухалі машыны, цягнікі… хадзем сюды! — Арына пацягнула Віталя на балкон і старанна зачыніла зашклёныя дзверы, каб не выстуджваць пакоя.

На пляцоўцы пад балконам, каля прыдарожнай кавярні, стаяла вялізная фура. Арына прыжмурылася:

— Так… там — абсталяванне. Нейкія варштаты — я ў гэтым не разбіраюся. Ведаю толькі, што яны металёвыя і таму цяжкія. Глядзі! — яна падняла руку і наставіла далонь на фуру.

Фура пакацілася ўперад. З кавярні выбег перапалоханы дальнабойнік, гучна закрычаў па-турэцку і кінуўся даганяць свой груз.

Арына выцерла пот з ілба:

— От так! Даўно не займалася, стамілася. А некалі мы маглі паасобку рухаць цэлыя цягнікі! Цяжка было, страчвалі прытомнасць, спыняліся сэрцы… мяне таксама аднаго разу рэанімавалі. Потым мы прывыклі.

Арына павярнулася і ўвайшла ў пакой праз зачыненыя дзверы. Вінавата засмяялася, адчыніла балкон, каб упусціць Віталя.

— Я не ведаў, што ты можаш хадзіць праз сцены! — сказаў той.

— Я таксама не ведала. Даведалася на другім годзе ў спецшколе. Мне сяброўка паказала, як гэта робіцца, гэта вельмі проста, нават ты зможаш, калі захочаш! Я тройчы намагалася ўцячы, але гэта не так лёгка: там паўсюль прыборы! Налі мне яшчэ віна, — Арына працягнула Віталю пусты фужэр. Ён напоўніў яго духмянай вадкасцю і спытаўся:

— А што потым? Дзеля чаго ўсё гэта было патрэбна?

Арына павярнулася да яго спінай і расшпіліла гузік каўняра:

— Паглядзі… там, паміж лапатак.

Віталь пацягнуў каўнер Арынінай кашулі ўніз. Паміж яе лапатак чарнеў штрых-код і лічбы «0875».

— Што гэта?

— Гэта мой асабісты нумар. Мне яго паставілі на трэцім годзе навучання. Потым я даведалася, што з нас будуць рабіць спецаддзел для аперацый у «гарачых пунктах» і сакрэтных шпіёнскіх місій. Нас сталі вучыць страляць і яшчэ… рознаму.

— Прыкладам?

Арына пляснула ў далоні. Моль, што вісела ў паветры, працягнула сваё бясконцае падарожжа вакол свечкі. Арына паглядзела на насякомае — і моль упала на стол мёртвай.

— Жабкі, белыя лабараторныя пацучкі… Нас прымушалі забіваць іх паглядам. Потым — каты. Я не хацела забіваць. Жанчына не павінна забіваць, яна павінна даваць жыццё! Але мяне навучылі знішчаць каго хочаш — і не навучылі ажыўляць. Я не хацела несці смерць! Я зрабіла ўсё што магла, каб упэўніць іх, быццам страціла ўсе свае здольнасці. Мне паспрабавалі выцерці памяць і выслалі дадому. Але з памяццю яны схібілі: я памятаю ўсё. І нікому не кажу. Ведаеш толькі ты! Не вінаваць мяне ў гэтым: сябры заўсёды цягнуць на сабе таямніцы адзін аднаго, як крыжы. Табе дастаўся такі крыж. Будзь мужным.

Арына змоўкла. Віталь таксама маўчаў, спыніўшы вочы на пустой бутэльцы.

Арына ўздыхнула:

— Людзі прагнуць цудаў… Яны хочуць быць чараўнікамі. Яны не ведаюць, што гэта за мілата — быць такім, як усе! Калі ты «іншы», табе абавязкова ўжывяць пад скуру драты, паставяць кляймо, цябе змусяць ужываць сваю сілу супраць людзей, якім ты не зычыш нічога благога! Я пішу пра вялікае шчасце быць звычайным і проста жыць! Не патрабуй ад мяне чароўных казак. Ой, ледзь не забылася! Глядзі!

Арына паднесла далонь да молі. Моль затрапятала і ўзляцела.

— Я навучылася рабіць гэта сама. Не так даўно. Магу ўваскрашаць. Пакуль што толькі розных кузурак і маленькіх яшчарак. Я буду стараннай! Я малайчына?

— Ты малайчына, — адказаў Віталь і пагладзіў Арыну па галаве.

— Але… Самы час павячэраць!

Насценны гадзіннік мерна зацікаў, з радыёпрыёмніка палілася прыгожая музыка. Арына падчапіла тонкімі пальчыкамі курынае крылца, якое нават не паспела астыць, паклала яго сабе на талерку і раптам схапіла Віталя за рукаво:

— Хадзем! Хадзем са мной!

— Куды? — здзівіўся ён.

— Магу я сабе дазволіць зрабіць падарунак найлепшаму сябру? — сказала Арына, апранаючы паліто.

Яны выйшлі з дому, перайшлі трасу і патрапілі на поле, скаванае начным змрокам. Над полем у бяздоннай вышыні халоднага неба ззялі буйныя зоркі.

— Будзь пільны, — Арына паглядзела ўгору і паправіла валасы, раскіданыя ветрам, — зараз пакоціцца зорачка, і ты зможаш загадаць што-колечы! Жаданне споўніцца! Я пачынаю лічыць! Раз… два…

Па трасе праехала фура — тая самая, якую Арына не так даўно ледзь не выправіла ў рэйс без кіроўцы.

— …Тры!

З небасхілу скацілася знічка. Яна ляцела павольна, пакідаючы за сабой прыгожы бліскучы шлейф.

— Паспеў? Ты паспеў? Тады давай вернемся і, нарэшце, павячэраем! А што ты загадаў?

— Хіба можна гаварыць услых свае жаданні?

— Мне — можна! Гэта ж была мая зорка!

— Я загадаў, каб ты… каб ты болей не ўмела чараваць.



*Юлія Новік нарадзілася ў 1985 годзе ў Салігорску. Выпускніца Мінскага дзяржаўнага лігвістычнага універсітэта, факультэт міжкультурных камунікацый (2008). Працуе перакладчыкам. Друкавалася ў салігорскіх газетах, у часопісах «Полымя», «Маладосць», «Вожык», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у калектыўным зборніку «Свет на дваіх». Аўтар кнігі вершаў «Сонца за тэрыконамі».*

Юлія НОВІК

# «БЫЦЬ ШЧАСЛІВЫМ — ШУКАЦЬ ПРАЦЯГУ»

* * *

Я згараю ў тваім маўчанні,  
Падначаленая адчуванням.  
Ты ўсміхнешся з далоняў мая —  
Зберагаю і пазбягаю.

Невычэрпны свет і жывучы —  
Гэта можна спытаць у слёз.  
Лёс таксама аднойчы вучань.  
Ты, аднак, ніколі ўсур'ёз.

Я ў маўчанні тваім згараю —  
Абяскрыленая ў небакраі.  
Неба сілаў пазычыць хоча.  
Ты ўсміхнешся. Згараю моўчкі.

* * *

Проста ты мне забарані  
Ў роспачы спавядацца.  
Горад хлынуў — рэкі-агні.  
Поўных гадоў — дваццаць.

Слову *пакуль*, слову *бывай*  
Я не зусім веру.  
Мой абярог — хуткі трамвай —  
Не зачыніў дзверы.

Лета паўзе да навальніц —  
Возьмем з сабой лета.  
Будзем шукаць з першакрыніц,  
Як гэта — быць светлым…

**НЕАДРАСАВАНАЕ**

Заснежаную ўсмешку падары —
І мы пачнём як ліпень гэты люты.
Забудзем, што прадказвалі сябры
І пражывём надзеяй мы на цуды.

Спыніся: кожны момант — гэта крок,
А думкі я транслюю аўтаспынам.
Твой воблік — засакрэчаны папрок.
Твой талент — пражываць, як дні,
гадзіны.

Заснежаная ўсмешка да вясны
Растане, і збягуць твае дарадцы.
Для думак я набуду праязны.
Для смеху тваім стану папарацы.

* * *

Ты запоўніў мяне да краёў —
Так, што месца не засталося
Ні для крыўды, ні для высноў,
Для надзеі на іншы досвед.
Ды бязмежжа пустых лістоў
Мне прарочыць адно — адвагу.
Быць свабодным — шукаць прастор.
Быць шчаслівым — шукаць працягу.

**НЯРОЎНЫ ВЕРШ**

Строгі закон года:
Люты — і людзі таюць.
Думкі рвуцца пад лёдам.
Сіла волі — пустая.

Пільна глядзім долу.
Вочы ў вочы — хістае.
Кволы засне кволым.
Будзем чакаць мая.

* * *

Твае рукі — бы стрэлы ў сэрца.
Іх восеньскага ўздыху
Мне мала, каб адагрэцца.
Ад непагадзі захутаныя,
Абменьваемся пакутамі.
Тваіх непрамоўленых позіркаў
Мне многа, каб ацверазець.

* * *

Летнія сны пад апёкай у зімняга сонца.
Прыгаршчы снегу на скроні тае
пакладу я,
Каб пабудзіць і самой паспяхова
прачнуцца.
Снег растае. Толькі скроні заўчасна
сівыя.
Не наракай, што запозна прыйшла
на світанак.
Чайкі крычаць: то не мора —
пясчаныя дзюны.
Рэкі твае завязаныя дзесьці вузламі.
Прыгаршчы сноў пакладу на халодныя
скроні…



*Адам Глобус нарадзіўся ў 1958 годзе ў г. Дзяржынску Мінскай вобласці. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча і Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Працуе ў жанрах паэзіі і прозы. Аўтар многіх паэтычных і празаічных кніг. Друкуецца ў самых розных літаратурна-мастацкіх выданнях і перыядычным друку.*

Адам ГЛОБУС

# КРУТАГОРСКІЯ КАЗКІ

## ПРАЗРЫСТАЯ ПАВУЦІНКА

Маленькі павук навучыўся бегаць па паветры. Быў сонечны блакітны ранак, павучок вылез з-пад пялёстка вяргіні і пабег-пабег па свежым паветры. Як тое адбылося, ён і сам не ведаў. А калі даведаўся, дык ужо мог хутка бегаць па духмяным вераснёвым паветры. «Якая ў цябе танюткая і празрыстая павуцінка…» — казалі маленькаму павуку іншыя павукі. Ён не спрачаўся. Нашто? Хай усе думаюць, што ён такі самы, як і ўсе, толькі ў яго Празрыстая павуцінка.

## ЧЫРВОНЫЯ ЯБЛЫЧКІ

У мястэчку Крутагор'е жыла-была старая па мянушцы Крывая бяроза. Яна магла хадзіць пад зямлю. Ніхто не ведаў, як тая Крывая бяроза заходзіць пад зямлю і выходзіць з-пад яе, але некаторыя на свае вочы бачылі тое дзіва, ну а чулі пра яго ўсе. Мястэчка не любіла Крывую бярозу, ды толькі тая не пераймалася з-за такой драбязы, як нянавісць. Яна лічыла, што нянавісць да яе паходзіць ад чорнай зайздрасці, бо і напраўду ёй моцна зайздросцілі. А зайздросцілі ёй, бо жыла Крывая бяроза заможна. Пра такіх кажуць, што ім чэрці грошы носяць. Толькі грошы і золата Крывая бяроза выносіла з-пад зямлі сама. Там, пад зямлёю, яна наведвала мерцвякоў і частавала іх райскімі яблычкамі. А за тыя яблычкі мерцвякі аддавалі ўсё, яны аддавалі і грошы, і золата, і праклятыя падземныя скарбы. Яны аддавалі Крывой бярозе ўсё чыста, бо верылі ёй. А яна казала ім, што райскія яблычкі не простыя яблычкі, а не простыя яны, бо выраслі не ў звычайным мястэчковым садзе старой кабеты, а ў сапраўдным Раі тыя яблычкі наліліся чырванню. Мерцвякі елі Чырвоныя яблычкі і марылі пра светлы Рай. Яны спадзяваліся на Рай доўга, пакуль свежы нябожчык не расказаў ім пра вялікі дом Крывой бярозы. І здагадаліся мерцвякі, што дом той збудавала Крывая бяроза за іх золата. А яшчэ яны зразумелі, што ніколі не трапяць у сапраўдны Рай. Яны ўзлаваліся на крывую старую і хацелі парваць яе на кавалкі, ды яна паспела

выйсці з-пад зямлі. Тады мерцвякі сталі чакаць смерці Крывой бярозы. Яны спадзяваліся, што раней ці пазней яна ўсё адно трапіць пад зямлю. Марныя былі спадзевы, бо абачлівая старая напісала запавет, у якім казалася, што цела яе мусяць спаліць, а жменьку попелу мусяць высыпаць пад райскую яблыню, якая родзіць салодкія, як мёд, Чырвоныя яблычкі.

## ЧОРНЫЯ КРЫЛЫ

Выходжу ў двор і на поўныя грудзі ўдыхаю п’янкое восеньскае паветра. Такое адчуванне, нібыта я не адрываючыся выпіў шклянку яблычнага віна. Іду пад залатымі каштанамі паўз блакітныя дамкі-вагончыкі будаўнікоў. У маім двары дабудоўваецца вялікі дом, палова двара пазастаўляна гэтымі вагончыкамі-дамкамі. За адным з іх і бачу пару вялікіх Чорных крылаў. Бяру левае крыло, прымерваю. Крыло сядае на руку, як маё. Узмахваю. Бог мой, якое шчыльнае паветра! Як шархацяць пёры ў той дрогкай шчыльнасці! Слоў няма… Спрабую прымераць-прыладзіць правае крыло, а яно — чужое. Не падыходзіць яно, а я не адступаюся. Тут голас: «Нічога ў цябе не атрымаецца з Чорнымі крыламі!!!» Уздымаю вочы. На будаўнічым буданчыку сядзіць чорт. Апранахі скураныя з безліччу замкоў-маланак, чаравікі важкія, рогі залаціста-лакавыя, скроні паголеныя, вочы чорна-сінія, твар сур’ёзны. Злосць мяне ўзяла: «Ідзі ты да д’ябла!!!» І прапаў чорт разам з Чорнымі крыламі, адно боль застаўся ў маёй правай руцэ, нібыта я яе чымсьці намуляў.

## БЛАНДЗІНКА ЧАРТАВОКАЯ

Такая сярод светлавалосых жанчын трапляецца на тысячу адна. Выглядае яна прыгажуняю, а вока ў яе кепскае, злое ў яе вока. За ўсё жыццё я толькі аднаго разу сустрэў такую Бландзінку чартавокую. Яна мне сама і распавяла пра сілу сваю неўтаймоўную. Была ў Бландзінкі малодшая сястра, жанчынка як жанчынка, звычайная і цёмнавалосая. Вялікага шчасця тая сястра не шукала, знайшоўся просты хлопец, прапанаваў шлюб, яна і не адмовіла. Праз год у іх нарадзілася дзяўчынка з рудзенькімі кудзеркамі. Прывезлі дзіця з радзільні, паклалі на ложак і распавілі. «Ты чаго дзіця голае на ложку трымаеш?» — спыталася Бландзінка чартавокая. «А што ёй зробіцца?» Бландзінка толькі зіркнула на пляменніцу і сышла. А дзіцёначак у крык. І раве, і раве, ажно заходзіцца. І раўла дзяўчынка рознымі галасамі, і супакоіцца не магла, ажно пакуль суседка — старая шаптуха — не прыйшла і не пачала папраўляць дзіцятка. Паправіла шаптуха дзіцятка, а сказаць пра тое, хто яго папсаваў, збаялася. Бландзінка чартавокая сама сваёй сястры распавяла пра ўласную злавокасць. Сястра ёсць сястра, і малодшая сястра зрабіла выгляд, што ўсё даравала старэйшай.

## СІНІ ЯЗЫК

Дзяўчына чытала кнігу, доўга чытала, ад пачатку і да канца, ад канца і да пачатку, а прачытаўшы, кнігу спаліла. Парвала дзяўчына кнігу і спаліла ўсю чыста разам з вокладкаю. Спаліла яна кнігу і легла спаць, а пасярод ночы прахапілася ды раўці пачала: «Душаць мяне, душаць!!!» Бацькі паўставалі, паспрабавалі дзяўчыну супакоіць, а яна не супакойваецца, па падлозе качаецца, енчыць, вішчыць, падскоквае,

на сцены кідаецца, па кватэры скача. Бацькі спрабавалі яе злавіць, ды не змаглі. Пабеглі бацькі да суседзяў, дактароў выклікаць, а калі вярнуліся, дзяўчына ўжо на падлозе ляжала нежывая. У сціснутых кулаках былі валасы, павырываныя з галавы, а з рота тырчэў даўжэзны Сіні язык. Дактары сказалі, што ніколі ў жыцці такога брыдкага трупа не бачылі. Поп, які на пахаванне прыйшоў, моцна дзівіўся, маўляў, Сіні язык такі доўгі і страшны, што і да чалавечага не падобны. Прывезлі труну з дзяўчынаю на могілкі, толькі ў яміну апусцілі, тут такая навальніца пачалася, такі гром грымнуў, што нават далакопы і тыя ўцяклі. Калі залева спынілася і людзі да магілы вярнуліся, дык яміна тая была поўная вады. У вадзе пустая труна плавала, а дзяўчыны з Сінім языком не было. Поп сказаў, што яе, пэўна, Пярун да сябе забраў, сказаў і сам сваіх слоў спалохаўся. Далакопы пустую магілу сырым пяском закідалі, бо ўсе пагадзіліся, што лепей пра такое не гаварыць, лепей пра такое забыцца. Ды дзе ж ты забудзешся пра Сіні язык.

## СІВАЯ СОЛЬНІЦА

Жанчына вярнулася з працы, паставіла машыну ў гараж і ўзнялася па прыступках у варэльню. Жыла тая жанчына на ўскрайку Крутагор'я ў сваім вялікім, на тры паверхі, доме. Зайшла жанчына ў варэльню, а тамака пагром. Посуд пабіты, крупы парассыпаныя, лядоўня стаіць наросхрыст, лужына каля яе вялізная, а каля той лужыны кот сядзіць. Жанчына хацела была крыкнуць на свайго ката, бо відавочна, што ён той пагром і ўтварыў, але ж крыкнуць яна не паспела. Кот падняўся на заднія лапы і пайшоў на сваю гаспадыню. Вочы каціныя гарэлі агнём зялёным. Жанчына выскачыла з варэльні і дзверы за сабою зачыніла, і яшчэ ключ у замку павярнула тры разы. Праз два дамы ад жанчыны жыў ветэрынар. Ён параіў усыпіць ката. Але жанчыне стала шкада свайго хай і ашалелага, але ж любімца. Тады ветэрынар прапанаваў схадзіць да Сівой Сольніцы. Маўляў, тая Сольніца можа на соль нашаптаць, а соль можа ката ад шаленства ўратаваць. Сівая Сольніца дала жанчыне маленечкі мяшэчак з нашаптанай соллю і сказала той соллю тры разы на ката-шаленца сыпануць, калі адыдзе, дык адыдзе, а не адыдзе, то ўжо хай ветэрынар яго ў каціны вырай выпраўляе, бо вылекаваць кацінае шаленства ніхто ўжо не зможа. Яшчэ Сівая Сольніца папярэдзіла жанчыну, што калі яна будзе вяртацца дамоў, да яе можа падысці вядзьмарка, якая ката зачаравала. Вядзьмарка будзе загаворваць, але жанчына мусіць маўчаць. Так і здарылася: каля самага дома жанчыну пераняла суседка і пачала дарогу заступаць. Заступіць і пра рознае пытаецца, а жанчына маўчыць як вады ў рот набраўшы. «Што ж ты маўчыш? Што ж ты мяне зневажаеш так? Што я табе такога зрабіла?» — сыпала пытаннямі суседка. Жанчына ледзь было не сказала, што яна яе ката зачаравала і ў шаленства абрынула, але стрымалася. Кот, пабачыўшы мяшэчак з соллю, паспрабаваў уцячы, але жанчына спрытна сыпанула солі яму на хвост. Кот замёр. Жанчына яшчэ раз сыпанула на яго соллю, а калі сыпанула трэці, дык з ката пасыпаліся ў розныя бакі вогненныя блохі. Блохі ссыпаліся з ката і растаялі ў паветры. Кот стаў такім, якім быў заўсёды — ласкавы, добры і муркатлівы. Жанчына прыбралася ў доме, а прыбраўшыся, патэлефанавала суседцы. «Яшчэ раз зачэпіш майго ката, я табе хату спалю!» — сказала так і супакоілася. Маленечкі мяшэчак, прынесены ад Сівой Сольніцы, жанчына схавала ў сейф. Можа, яшчэ каму і спатрэбіцца…

## БЕЛАТВАРАЯ АШЫЙНІЦА

Старая яна была, а на працу хадзіла. Вартаўніцай яна служыла ў бальніцы. Яе ставілі толькі ў начную змену, бо паўз яе не праскочыш і не прапаўзеш. Людзі яе баяліся, і лекары, і медсёстры, не кажучы ўжо пра пацыентаў. Пужаліся яе бяскроўнага твару. У вартаўніцы той твар быў такі белы, што выглядала яна на мёртвую. Толькі дзеці са школы, што побач з бальніцаю стаяла, той вартаўніцы не лякаліся, бо насілі ёй крэйду. Яна тую крэйду ела, а за кавалак крэйды расказвала школьнікам розныя брыдкія гісторыі. Школьнікі яе нават любілі, ажно пакуль бяда не здарылася з Міколам Караткевічам. Ён ёй крэйду прынёс, яна тую крэйду зжавала, а гісторыю не стала распавядаць, сказала, што другім разам раскажа. Мікола і абазваў вартаўніцу старой чапялою. Аблаяў ён яе, абмацюкаў брыдотна і дамоў пайшоў. А дома кепска яму стала, і на шыі з’явілася чырвоная паласа. Шырокая такая паласа, нібыта след ад ашыйніка. Ніхто тады і не падумаў на вартаўніцу-крэйдаедку. Меркавалі, што алергія. А Мікалаю ўсё горш і горш рабілася, яго па «хуткай дапамозе» ў лякарню заімчалі, але і тамака рады ніхто даць не змог такой дзіўнай хваробе. Задыхаецца хлопец. А чаго ён задыхаецца? Якая трасца яго душыць? Ніхто не ведаў. Цэлую ноч Мікола Караткевіч прапакутаваў. А раніцай нейкая прыбірачка сказала, што вядзьмарка начапіла хлопцу ашыйнік і трэба шукаць ведзьмака, каб той ашыйнік зняў, бо адны яго начэпліваюць, а другія здымаюць. Той, хто начапіў, сам яго не здыме, нават калі і захоча. Павезлі Міколу з Крутагор’я ў Станькава, да старога ведзьмака, і ён яму той рабскі ашыйнік зняў. Пашаптаў вядзьмак, указальным пальцам вакол шыі павадзіў, і чырвоная паласа прапала, як і не было. Дыханне лёгкае да хлопца вярнулася. Тут ён усім і расказаў пра Белатварую ашыйніцу, што крэйду есць. Увечары людзі пайшлі ў бальніцу, каб пакараць ашыйніцу, але яе там не было, прапала яна. Замест Белатварай ашыйніцы ў вартаўнічым дамку людзі знайшлі на стале адно гурбачку белай крэйды.

## БЕЛЫЯ КОТКІ

Жылі на ўскрайку Крутагор’я, у невялікім дамку дзве старыя тартаркі. Чаму іх клікалі тартаркамі, ніхто не ведаў. Тартаркі ды тартаркі. Адкуль тыя тартаркі ў мястэчка прыехалі, з якой тартарскай мясціны прыйшлі? Каб хто сказаў. Прыйшлі і прыйшлі. Спачатку ціха ўсё было, а потым ва ўсім мястэчку гарбузы пагнілі. Ніхто на тартарак і не падумаў. Праўда, той-сёй заўважыў, што гарбузы пагнілі ва ўсіх, акром тартарак. За гарбузамі пачалі гнісці памідоры. Ва ўсіх гніюць, а ў тартарак проста ззяюць. Пачалі местачкоўцы да тартарак прыглядацца. Адна з іх была высокая-высокая і худая-худая, а другая кароценькая і тоўстая. Абедзве былі сівыя, як дзьмухаўцы. І заўважылі нашыя местачкоўцы, што кожны вечар з двара тартарак выбягаюць дзве белыя коткі, адна доўгая і худая, другая тоўстая ды кароткая. Выбягаюць Белыя коткі і шастаюць па чужых гародах, у каго з’явяцца, у таго гароднiна і загнівае. Пабачыўшы такое шкодніцтва, тутэйшыя людзі вырашылі прагнаць Белых котак з мястэчка. Уночы людзі абклалі дамок тартарак травою дзівасілам. Спачатку хацелі дамок спаліць, але перадумалі. Вырашылі, што трава дзівасіл тых вядзьмарак тры дні з дамка не выпусціць. Так і было. Так і прасядзелі шкадлівыя тартаркі тры дні і тры ночы ў зачыненым дамку. Нават да ветру схадзіць не маглі, гадзілі ў вядро. На чацвёрты дзень тутэйшыя людзі сказалі тартаркам з’ехаць з мястэчка. Тыя і з’ехалі. Белых котак больш ніхто на сваім гародзе не бачыў, ну і гарбузы болей не гнілі.

## ЛІЛОВЫ САБАКА

У пятніцу хлопец пайшоў у начны клуб. Хацеў крыху выпіць, трохі патанчыць і з якой дзяўчынаю пазнаёміцца. Звычайная справа, маладыя гады і жаданні маладыя. Сеў ён за столік, выпіўку замовіў, а калі хацеў паўтарыць, дык не знайшоў партманеткі. Ляжала партманетка на століку, побач з тэлефонам. Сотавік застаўся, а партманетка прапала. Акром рудой афіцыянткі, да століка і не падыходзіў ніхто. Хлопец да рудой: «Аддавай, сучка, партманетку!» Тая ў крык. Прыбеглі ахоўнікі, скруцілі хлопца і выкінулі з клуба, на задні двор. Каб толькі скруцілі і выкінулі, яно б і нічога, а то збілі невінаватага моцна. Ён толькі пад раніцу змог устаць і дадому пайсці. Ідзе хлопец пустой вуліцаю, кульгае, а за ім Ліловы сабачка бяжыць. Вясёлы такі гарэзлівы цюцік. У хлопца настрой змрочны, ад сабачай весялосці яму яшчэ горш робіцца. Паспрабаваў хлопец Ліловага сабачку прагнаць, а той не пужаецца, не ўцякае, а наадварот, усё падскоквае і пысаю хлопца ў зад папіхае. Зазлаваў хлопец на Ліловага сабаку, падняў з зямлі важкі кавалак асфальту і шпурлянуў у жывёліну. Шпурнуў моцна, але не трапна. Асфальт упаў побач з Ліловым сабакам, якраз у тое месца, дзе на зямлі быў чорны сабачы цень. Хлопец знарок прычакаў, пакуль сабака пад ліхтар забяжыць, каб святлей было, каб дакладней пацэліць. Прамахнуўся! Хлопец падумаў, што прамахнуўся, а насамрэч ён і пацэліў. Калі вядзьмарка абарочваецца ў Ліловага сабаку, трэба якраз у цень і біць. Пазней знаёмыя хлопцу таму распавялі, як у начным клубе пад самую раніцу проста пасярод залы танцоры ўбачылі рудую афіцыянтку з разбітай галавою. Пакуль дактары прыехалі, яна ўжо д’яблу душу перадала. А таго, хто яе ўдарыў, не знайшлі. Шукалі-шукалі, а знайсці не змаглі.

## ШЭРЫ ВЯДЗЬМАК

Захварэў вядзьмак. Цяжкая хвароба ўбілася ў старое цела. Смяротная хвароба напала на нямоглага стогадовага ведзьмака. Цісне яна яго, круціць і ломіць, а вядзьмак ніяк памерці не можа. Пашарэў увесь, высах, скурка ды костачкі, валасы ўсе павыпадалі, у роце ніводнага зуба не засталося, а смерць не ідзе. Пачаў Шэры вядзьмак столь разбіраць. Над сваім ложкам ён не толькі столь разабраў, а і дах зняў. Суседзі глядзяць на разабраны дом Шэрага ведзьмака і дзівяцца. Ужо і неба з ложка відаць, і зоркі ў небе паблісквають, а смерці як не было яму, так і няма. Тады Шэры вядзьмак каля свайго ложка ў жалезнай бочцы вогнішча расклаў. Пачаў ён паліць кіпарысавыя цурбэлачкі ды ядлаўцовыя ягады. Увесь дом зацягнула сінім дымам, а потым і палова вуліцы тым дымам заплыла. І пабеглі праз той дым чорныя каты, вялізныя чорныя каты пабеглі праз сіні дым, такія вялізныя каты, што можна было падумаць, што і не каты яны зусім, а чэрці. Разбегліся тыя чэрці-каты па суседніх дамах, толькі тады памёр Шэры вядзьмак. Пахавалі яго за дзяржаўны кошт. Дах у ведзьмакоўскім доме адрамантавалі, але прадаць дом не могуць. Так ён і стаіць, пэўна, чакае свайго новага ведзьмака.

## БЛАКІТНАВОКАЯ ЛЯЛЬКА

У доме каля могілак прадавалі гарэлку. Гаспадары прымогілкавага дамка наладзілі начны гандаль, бо і самі любілі выпіць. Гарэлачная справа рызыкоўная. Хто спрачаецца? Ды дзе ж ты бачыў лёгкія і бяспечныя грошы? Гады два муж з жон-

Дыхаў і Тэхаў? Жыві! Сплаціла Света чарадзейніцы аванс, тая спакойненька зайшла ў дом, панюхала паветра і дастала са Свецінай валізы маленечкую Шэрую паперку. На той паперцы былі напісаны толькі два кароткія словы; з аднаго боку — Дых, а з другога — Тэх. Света як убачыла тую паперку, дык адразу парваць хацела, але Пэля спыніла: «Ты маеш права на адно жаданне! Можаш папрасіць Дыха і Тэха што заўгодна зрабіць. Яны зробяць, а потым ты Шэрую паперку парвеш і спаліш. Толькі не спяшайся, падумай…» Света Бохан схапіла чароўную Шэрую паперку і закрычала на ўсё Крутагор’е: «Адраб-ляй-це назад усё, што на-ра-бі-лі!» Увобмільг усё ў доме Боханаў стала на свае спрадвечныя месцы. «Такую магчымасць ты, Светка, страціла! Такі шанц ты ўпусціла. Дурная ты баба…» — Пэля ледзь стрымалася, каб не ляснуць Свету па патыліцы. «Ты, вядзьмарка, памаўчы, бо не атрымаеш другую палову заробленага! Ясна? А зараз мы паглядзім, як гэтыя нячысцікі з майго цукру свой могілкавы пясок павыбіралі!» — Света Бохан адкрыла цукарніцу, а там быў толькі снежна-белы цукар і ні драбочка пяску. Света па-дзіцячы ўзрадавалася, парвала і ў попельніцы спаліла чароўную Шэрую паперку, яку падклаў ёй у валізу стары жабрак.

## БЕЛЫ МАНЕКЕН

Толькі-толькі ў Крутагор’і адчыніўся начны клуб «Тарнада», як і здарылася гісторыя з Белым манекенам… Віця Нацэўскі прыехаў на выхадныя да бацькоў, ён паступіў у медыцынскі і марыў стаць псіхіятрам. Жыў Віця ў мінскім інтэрнаце, бацькоў адведваў раз на месяц. Прыехаў, а ў Крутагор’і навіна — начны клуб. Як не схадзіць? Пратанчыў, правесяліўся, праклубіўся Нацэўскі ўсю ноч з пятніцы на суботу. Пад раніцу выйшаў з «Тарнада» з сяброўкаю Галяю Бабіцкай. Правёў Галю да самага дому. Дамы Бабіцкіх і Нацэўскіх побач стаялі. Віця з Галяю сябравалі з дзяцінства, потым ён з’ехаў вучыцца, а яна засталася працаваць прадавачкаю ў краме гатовага адзення. У кожнага свая дарога. Але часам адразу дваім людзям ісці па дарозе замінае адна рэч. Так і ў гэтай гісторыі… На дарозе, якраз перад дамамі Бабіцкіх і Нацэўскіх з’явіўся Белы манекен і пачаў танчыць. Віктар не спалохаўся ані на кроплю: «Што нам гэтая пустая лялька можа зрабіць?» — сказаў ён Галіне і пакрочыў насустрач манекену. Той падскочыў да хлопца і ўдарыў далонню па скроні. Нават не ўдарыў, а дакрануўся, дакрануўся і прапаў. Галя пабегла ў свой дом, а Віктар зайшоў у свой і лёг спаць. Раніцаю ён паскардзіўся бацькам на моцны боль у галаве. Тыя спачатку думалі, што іх хлопец пертанчыў у «Тарнада», але Віктар праляжаў у ложку ўсю суботу і ўсю нядзелю. У панядзелак выклікалі доктара, але пакуль той прыехаў, Віктар ужо памёр. Перад смерцю ён расказаў бацькам пра танец Белага манекена, які дакрануўся да яго, каб забіць. Яшчэ Віктар сказаў, што гэта Галіна забіла яго Белым манекенам, бо ён не захацеў з ёю любіцца і жыць. Галя сапраўды любіла Віктара і хацела з ім жыць, а калі той з’ехаў у Мінск і пакінуў яе ў Крутагор’і, паабяцала адпомсціць. Яшчэ Віктар прасіў бацькоў знайсці ў сутарэннях крамы гатовага адзення стары Белы манекен і спаліць яго. Пачуўшы бацькоўскія абяцанні спаліць Белы манекен, ён і памёр. Пасля пахавання сына бацькі пайшлі да дырэктара крамы і распавялі пра апошнія запаветныя словы Віктара. У сутарэннях сапраўды знайшоўся Белы манекен з паўтыканымі ў яго доўгімі іголкамі. Нацэўскія завезлі манекен у лес і спалілі. У вогнішчы Белы манекен устаў і затанчыў, ён танчыў і смяяўся, віхурыўся і клубіўся, пакуль не рассыпаўся ў пыл. Што да Галіны, дык яна не прызнала сябе за вінаватую, сказала, што ніякага Белага манекена не бачыла і нічога кепскага нікому не рабіла. Бабіцкія з Нацэўскімі цяперака не размаўляюць, гэтым гісторыя і скончылася.

## БЕЛАЯ ПЯТЛЯ

Крутагорцы, як і ўсе тутэйшыя людзі, добра ведаюць, што бацькоў сваіх трэба любіць і паважаць. Ведаў пра тое і дзесяцікласнік Анатоль Варакса. Праўда, з бацькоў у яго была адна маці — Маня. Пра прыгажосць Мані можна было б вершы пісаць, а вось жа з мужчынамі ёй не шанцавала. Два разы яна выходзіла замуж і два разы выганяла мужоў з дому за п’янства. Ад першага замужжа застаўся ў Мані Толічак. Любіла Маня свайго Толічка да бяспамяцтва. Часам здавалася, што, акром Толічка, для Мані і людзей на свеце не існуе. Ад гэткай вялікай любові і ад бясконцай увагі Анатоль стаміўся, ды так стаміўся, што вырашыў маці сваю напужаць. Узяў ён вяроўку, прывязаў да крука пад столлю, зрабіў пятлю, стаў на крэсла пад пятлёю і думаў, як маці праз вакно ўбачыць, дык засуне сваю галаву ў пятлю і з крэсла саскочыць. А маці як пабачыць, што сын павесіўся з-за яе, дык напалохаецца і больш не будзе да яго прыставаць са сваёй увагаю ды любоўю. Дурныя думкі. Ніхто і не кажа, што яны добрыя. Дурота. А вось жа ўлезла такая дурота хлопцу ў галаву, і стаяў ён на крэсле з Белай пятлёю ў руках і чакаў сваю маці. Наўпрост са столі выплыў да Анатоля Маціцовы чалавек і сказаў, што нельга з пятлёю забаўляцца. Хлопец паслухаў Маціцовага чалавека, адвязаў вяроўку ад крука. Толькі ён вяроўку адвязаў, як наўпрост з падлогі вылецеў чорт і выбіў крэсла з-пад Анатолевых ног. Моцна тады пабіўся Анатоль Варакса. Маці як вярнулася, як пабачыла пабітага сына, дык праплакала ўсю ноч, а ён яе суцяшаў, казаў, што моцна яе любіць і больш ніколі-ніколі не будзе забаўляцца з вяроўкаю і Белай пятлёю.

## ШЭРАЯ КЕПКА

Аднойчы ўвечары зайшоў у рэстарацыю «Крутагорскі вецер» чужы мужчына. Спакойна зайшоў, спакойна выбраў самы лепшы стол каля вялікага вакна, сеў, зняў Шэрую кепку і паклаў на белы абрус. Галоўны афіцыянт, а ім ужо гадоў пятнаццаць працуе Генадзь Ладаўшчук, абурыўся такімі нахабнымі паводзінамі чужынца. Паліто не зняў, сеў за найлепшы стол ды яшчэ старую кепку на новы абрус паклаў. Чужынец прапанаваў Генадзю Шэрую кепку аднесці ў гардэроб. Ладаўшчук хацеў кепку скінуць са стала на падлогу, ды не змог яе падняць. З выгляду яна — кепка як кепка, а цяжар у яе неверагодны. Гена здолеў толькі брыль над абрусам на які сантыметр прыўзняць ды пальцы пад Шэрую кепку падсунуць, як яму пальцы і прыціснула. Так Генадзь Ладаўшчук і прастаяў, сагнуўшыся, каля стала, пакуль чужынец павячэраў. Той з’еў вячэру з чатырох страў, разлічыўся, надзеў Шэрую кепку і пайшоў. А Ладаўшчуку яшчэ з месяц прыціснутыя пальцы з пачарнелымі пазногцямі балелі так, што ён нават грошы лічыць не мог.

## ЧЫРВОНАЕ ВІНО

Якое вяселле без віна? І дзе ўжо тое віно наліваецца без шкадаванняў, як не на вяселлі. Колькі я таго віна выпіў на розных вяселлях? Не перамераеш! Ідзеш па якому мястэчку, чуеш музыку, падыходзіш, а тамака вяселле спраўляецца. І заўсёды табе чарку прапануюць. Свята павінна быць ва ўсіх. Так і стары Нарко думаў, калі да Гелякевічаў у двор заходзіў. Ядзя Валахановіч ішла за малодшага з братоў Гелякевічаў. Стаяла Ядзя пасярод двара і машыну чакала, каб паехаць распісвацца. Падышоў да яе Нарко і папрасіў наліць яму шклянку Чырвонага віна. Ядзя — дзеўка

наравістая — вазьмі ды скажы: «Я ў гэтым доме яшчэ не гаспадыня!» Закрыўдаваў Нарко і сказаў, што пашкадуе яна моцна за адмову. Якраз машына падышла, жаніх з нявестаю ўрачыста селі ў машыну, думалі, паедуць. Не завялася машына, давялося маладым пешкі ісці. Трэба ісці, а ў Ядзі ногі не ідуць. Добра, што на вяселле запрасілі Петухоўскую. Яна загадала маладой зняць чаравічкі і паклала ў кожны чаравік па сто рублёў. Ногі пачалі Ядзю слухацца. Схадзілі маладыя ў Дом шлюбаў, распісаліся, а калі вярталіся, сустрэлі на дарозе старога Нарко. Ядзя не вытрывала і як закрычыць: «А каб жа ты, стары чорт, ды не сваёю смерцю памёр!!!» Нарко з нявесты смяяцца пачаў, і дарэмна смяяўся: праз нейкі месяц яго на шашы машына збіла, і памёр ён не сваёй смерцю. На ягоных хаўтурах я выпіў шклянку Чырвонага віна і падумаў, што на хаўтурах віно таксама наліваецца без шкадавання.

## БЛАКІТНАЯ МАЛПА

У каірскім музеі культуры старажытнага Егіпта маю ўвагу спыніла каменная малпа. Яна ўважліва глядзела на мяне. Я зазірнуў ёй у вочы і згадаў Блакітную малпу, якую бачыў аднаго разу ў сваім Крутагор’і. У мяне быў знаёмы паэт, ён піў без продыху гадоў з дваццаць. Ад такога несупыннага п’янства розум ягоны аслаб. Таму ніхто асабліва не ўслухоўваўся ў паэтычныя расповеды пра блакітнага звера, які нібыта пасяліўся ў скверы. П’янoе трызненне. Якая можа быць малпа ў крутагорскім скверы? Адным светлым кастрычніцкім ранкам я завітаў да паэта, бо збіраўся надрукаваць у альманаху ягоны верш. Мы сядзелі ў варэльні і пілі: ён — разбаўленае халоднай гарбатаю таннае віно, а я — каву. Паэт распавядаў пра свой намер напісаць эпічную паэму пра лён. За вокнамі пахістваліся высокія клёны. На адным — самым чырвоным — сядзела Блакітная малпа. Я хацеў быў паказаць паэту незвычайную малпу, але перадумаў. Ён і так пра яе ведае, а два прыхільнікі Блакітнай малпы на адно Крутагор’е — зашмат. Таму я разам з іншымі крутагорцамі смяяўся, калі гутарка заходзіла пра незвычайнага звера. Хіба ж можа ў беларускім мястэчку жыць вольная Блакітная малпа? Не! Такія малпы жылі ў старажытным Егіпце, іх даўно няма, як даўно няма і нашага паэта.

## РУДАЯ ДЗЯЎЧЫНА

Спрабую ўявіць Крутагор’е без бара «Ветрык» — не ўяўляецца. Колькі сябе памятаю, столькі і «Ветрык» стаіць каля дарогі на Мінск. Канечне, можна пацікавіцца ў старэйшых і праўдзіць дату пабудовы нашага «Ветрыка», але мне лепей сказаць так: у Крутагор’і «Ветрык» быў заўсёды. Прадавачкі і гаспадары мяняліся, а «Ветрык» вечна стаяў пад прыдарожнымі вербамі. Раней у «Ветрыку» гаспадарылі жанчыны, і быў ён неахайны, брудны і няўтульны. Зайшоў, выпіў і пайшоў. Так было, пакуль Славік Сарока не забраў «Ветрык» у свае спрытныя рукі. Год ён прастаяў за прылаўкам, разабраўся ва ўсіх складанасцях працы прыдарожнага бара і выкупіў яго ў дзяржавы. «Ветрык» пачаў квітнець, цяпер там акрамя гарэлкі і піва можна выпіць кавы і гарбаты, можна пасядзець і пагутарыць у чысціні, святле і цяпле. Бармен Сарока не спыніўся на «Ветрыку», ён выкупіў сталоўку і зрабіў рэстарацыю «Крутагорскі вецер». Справы ў Сарокі пайшлі выдатна, і ён адчыніў начны клуб «Тарнада». На прэзентацыю клуба Слаўка прыехаў на новым «Мерседэсе». Нехта павінен быў ездзіць па Крутагор’і на белым «Мерседэсе». Чаму не рэстаратар Сарока? А вось чаму… Наш Сарока страшэнны бабнік, жонкі

не мае, а каханак паназаводзіў процьму. Дзявулі любілі вясёлае жыццё рэстаратара. І катаў ён легкадумных дзявуль на белым легкавіку кожную ноч. Часам надакучвалі Славушку дзеўкі, і тады гнаў ён сваю хуткую машыну куды вочы глядзяць. А куды могуць глядзець вочы крутагорскага рэстаратара? У бок сталічных рэстарацый і начных клубаў. Лётаў наш Сарока з Крутагор'я ў Мінск і з Мінска ў Крутагор'е па тры разы на тыдзень, лётаў, пакуль не наляцеў на Рудую дзяўчыну. Глыбокай ноччу яна стаяла на мінскай кальцавой дарозе. Сарока праімчаўся паўз яе, а потым нейкая сіла яго спыніла і прымусіла вярнуцца. Надта ўжо прыгожая дзеўка стаяла пад ліхтаром. Слаўка вярнуўся і прапанаваў Рудой дзяўчыне пакатацца. Тая села ў машыну, Славік паспрабаваў крануцца з месца і не змог. «Мерседэс» памёр! Новы, белы, дарагі «Мерседэс» памёр у тое самае імгненне, як у яго села Рудая дзяўчына. Сарока так заперажываў, ажно слёзы пацяклі. Славік заплакаў, а Рудая дзяўчына засмяялася. Яна зарагатала злым рогатам, абярнулася з маляванай прыгажуні ў кудлатую чарціху, выскачыла з мёртвай машыны і паскакала ў лес, памахваючы кароткім хвастом. Перапужаны рэстаратар выклікаў дапамогу, сеў у таксоўку і з'ехаў у Крутагор'е. Свой мёртвы «Мерседэс» ён прадаў на запчасткі. Мусіць, не яму наканавана ездзіць па Крутагор'і ў белым «Мерседэсе», пэўна не яму. Каму? Пажывём — пабачым.

## ЧЫРВОНЫ КАМАР

Здарылася тое каля прадуктовай крамы. Хлопцы стаялі і гаманілі, вырашалі, куды лепей пайсці — у кіно ці ў клуб. Вечар быў летні, цёплы і сонечны. У хлопцаў былі дзве бутэлькі віна на траіх. Так што можна было нікуды не ісці, а сесці ў сквярыку ды за вясёлай гутаркаю выпіць. Хлопцы вагаліся, і якраз у гэты час да іх падышоў незнаёмы мужчына. Ён сказаў, што можа праходзіць праз сцяну. Чамусьці такая заява ўсіх страшэнна развесяліла. Хлопцы спыталіся, ці зможа мужчына зайсці ў зачыненую краму і вынесці бутэльку віна. Ён запэўніў, што зробіць тое лёгка. Хлопцы на свае вочы бачылі, як мужчына прайшоў праз сцяну і апынуўся ў краме. У тое імгненне, калі ён здымаў з паліцы бутэльку, аднаго з хлопцаў укусіў Чырвоны камар. Укус быў такі балючы, што хлопец ажно вочы заплюшчыў, а калі расплюшчыў, дык убачыў мужчыну, які рухаецца не ў краме, а побач з ёю. «Падман! Ён не ў краме, ён побач з ёю! Ён шальмуе…» — закрычаў укушаны Чырвоным камаром. «У цябе кашуля на спіне гарыць!» — спакойна сказаў чужынец. Хлопец азірнуўся на сваё пляча і пабачыў вялізныя языкі полымя. Ён упаў на зямлю і пачаў качацца, каб збіць агонь. Сябрукі спрабавалі яго суняць, спрабавалі сказаць, што ніякага полымя нямашака і ён дарэмна качаецца па зямлі. Хлопец не чуў, бо крычаў, каб яму дапамаглі патушыць полымя. Калі ён змогся і крыху супакоіўся, хлопцы — усе ўтрох — кінуліся шукаць падманшчыка. Шукалі доўга, абшукалі ўсё Крутагор'е, але нідзе нават следу ягонага не знайшлі. Змэнчаныя і злыя, яны вярнуліся ў скверык, селі і моўчкі выпілі свае дзве бутэлькі.

## ЧЫРВОНЫ ГЭБЛІК

Адбылася тая містычная драма ў доме Шотаў. Стары Шот займаўся сталярствам, меў ён добрую майстэрню, дзе рабіў мэблю. Ні сыны Паўлюка Шота, ні ўнукі ягоныя вучыцца сталярнай справе не захацелі, а як толькі стары Шот выправіўся ў іншасвет, папрадавалі ягоныя інструменты. Прадавалі ўсё танна, абы прадаць, абы

хто даў хоць нейкую капейчыну. На Дзяды старэйшаму з сыноў прыснілася, што бацька прыйшоў да яго з могілак і папрасіў Чырвоны гэблік. Мужчына нават у сне памятаў: нябожчыку нельга нічога даваць. Таму сын і адмовіўся даць роднаму бацьку яго любімы Чырвоны гэблік. Паўлюк Шот раззлаваўся і сказаў, што сам забярэ гэблік. Сказаў, забраў і сышоў. Праз тыдзень раптоўна памёр самы малодшы ўнук старога Шота. Людзі казалі, што стары Паўлюк забраў малога да сябе, бо няўдзячныя дзеці моцна зняважылі яго, калі паспешліва разбурылі майстэрню.

## ЧОРНЫЯ ВУСЕНІ

У Яніны Драздоўскай на агародзе завяліся Чорныя вусені. У суседзяў іх не было, а тут, што ні пасадзі, усё з'ядаюць. І апырсквала Яня свой гарод, і збірала вусеняў у вядро з саляркаю, каб спаліць, і насенне ездзіла купляць у Мінск. Нічога не дапамагала, напрыканцы вясны з'яўляліся Чорныя вусені і нішчылі гарод Драздоўскай. Знаёмыя нараілі схадзіць да чараўніка — Яся Калечыца. Яня ў чарадзействы не верыла, але глядзець, як трэці год узапар вусені сточваюць гарод, сіл не было. Калечыц паабяцаў прыйсці і прыйшоў праз дзень з новенькім, зробленым з ядлоўцу, кіем. Абышоў Ясь вакол агарода Драздоўскай тры разы, потым загнаў кій у зямлю і стаў чакаць, пакуль Чорныя вусені не спаўзліся на кій, абабраў ён вусеняў з кія і паскідаў у мех, а той мех закапаў на дне Вараксавай ямы. Больш Чорных вусеняў у агародзе Яніны Драздоўскай ніхто не бачыў.

## ШЭРЫ ФАКЕЛЬШЧЫК

На левай руцэ ў Шэрага факельшчыка быў гадзіннік. Спярша гадзіннік, як і ўвесь факельшчык, меў срэбны колер, але пад дажджамі фарба пажухла і пацямнела. У Крутагор'і факельшчык з'явіўся разам з аленем, двума мядзведзямі, вясляркай і дзяўчынай з талеркаю. Бетонныя скульптуры прывезлі са сталіцы, каб упрыгожыць беднае пасляваеннае мястэчка. Факельшчыка паставілі каля ўвахода на стадыён. Там ён і стаяў са сваім высока ўзнятым вострым носам. Там яму і знявечылі руку. Толік Мазуркевіч упадабаў гадзіннік. Нашто было хлопцу браць камень і адбіваць ад скульптуры кавалак? Адбіў. Як той казаў, ні сабе ні людзям. Увечары Мазуркевіч папсаваў скульптуру, а ўночы Шэры факельшчык прыйшоў у дом Мазуркевічаў. Ён загадаў сабраць усе гадзіннікі, што былі ў доме, выбраў сабе найлепшы, надзеў і паабяцаў спаліць дом таму, хто яго зачэпіць. Мазуркевічы распавялі пра начное здарэнне і рабаванне ўсяму мястэчку. Ніхто не паверыў, але калі са сталіцы прыйшоў загад знішчыць усе скульптуры, бо яны антымастацкія, Шэрага факельшчыка не кранулі. Зламалі аленя, разбілі мядзведзяў, паваліілі вяслярку і дзяўчынку з талеркаю, а Шэры факельшчык застаўся стаяць. Усе скульптуры вывезлі на сметнік, адзін факельшчык усё яшчэ стаіць каля стадыёна. Штогод вясною яго фарбуюць, а ён за дагляд сплочвае крутагорцам удзячнасцю. Калі табе не хапае часу, каб зрабіць нейкую справу, напрыклад напісаць кантрольную па матэматыцы, ты можаш схадзіць да Шэрага факельшчыка і дакрануцца да ягонага гадзінніка, і твой час зробіцца іншым. У тваёй гадзіне будзе не 60, як ва ўсіх, а 70 хвілін. Шэры факельшчык дапамагае хірургам рабіць цяжкія аперацыі, дапамагае школьнікам пісаць складаныя кантрольныя, дапамагае каханкам расцягнуць салодкі час спаткання. Шэрага факельшчыка ў Крутагор'і любяць усе, акром Мазуркевічаў.

## ЧЫРВОНЫЯ ЯБЛЫКІ

Дом Скуратовічаў стаяў побач з домам Тодара Баравіка. У садзе Скуратовічаў вырасла высокая яблыня, і яблыкі з яе пачалі падаць на паўмежак Тодара, а той збіраў іх і даваў свінням. Скуратовічы пачалі абурацца, яны абураліся не тым, што Баравік збірае яблыкі з-пад чужой яблыні, а тым, што чужымі Чырвонымі яблыкамі корміць сваіх парсюкоў. Рассварыліся суседзі так моцна, што Скуратовічы не паклікалі Баравіка на вяселле свайго сына, усю вуліцу запрасілі, а Тодара абмінулі. Тры дні і тры ночы гуло вяселле, а на чацвёрты дзень маладыя выправіліся ў падарожжа. Мядовы месяц яны збіраліся пражыць на востраве Кіпр. Ды не суджана. Самалёт, у якім ляцелі маладыя Скуратовічы, упаў і разбіўся. Большасць людзей казала, што гэта проста супадзенне, а меншасць была перакананая, што не запрошаны на вяселле Тодар Баравік наваражыў, каб адпомсціць.

## ЗЯЛЁНАЕ ВЯДРО

На вуліцы Чыгуначнай жыла злая баба — Маня Дудкоўская. Замуж яе ніхто не ўзяў, яна і састарэла ў пустой адзіноце. Ад злосці на свет пачала баба Маня людзям шкоду рабіць. Як хто з суседзяў збярэцца ісці ці ехаць па справах, дык Дудкоўская яму дарогу перабяжыць з пустым Зялёным вядром. У чалавека не толькі настрой сапсуецца, а і справа ягоная не пойдзе. Людзі з Чыгуначнай пайшлі да чараўніка Яся Калечыца. Сказалі, што раніцаю збіраюцца ехаць у Мінск прадаваць парэчкі, але баяцца Мані з Зялёным вядром. Ясь паабяцаў дапамагчы і дапамог. На досвітку Дудкоўская выбегла на вуліцу з пустым вядром, набрала ў калонцы вады і пайшла з той вадою не дамоў, а на шашу. Зялёнае вядро, поўнае да самых краёў чыстай вады, Маня Дудкоўская з Крутагор'я данесла ажно да Фаніпаля. Толькі ў Фаніпалі нейкі добры чалавек спыніў яе, спытаўшы: «Куды вы, цётачка, ваду несяцё?» Маня адказала, што ваду нясе дамоў, і глянула на свае пасціраныя да крыві рукі. Тут яна і зразумела, што прайшла з поўным вядром дваццаць кіламетраў, зразумела і спалохалася. Добры чалавек яе суцешыў, сказаў, каб не баялася, але галоўнае — каб не рабіла людзям шкоды, і ўсё будзе добра.

## ЧОРНАЕ ВІНО

Генрых Варатніцкі разлюбіў сваю Марыю. Год разам пражылі, і ён яе разлюбіў. Плакала Марыя, перажывала. А Генрых пусціўся ў загулы: піў і да дзевак у інтэрнат швачнай фабрыкі хадзіў. Марыя так заперажывалася, ажно твар змяніўся. Была віднай жанчынаю, а зрабілася жывой нябожчыцаю, страшна глянуць. Ваця Грушэўскі вазьмі і пашкадуй Марыю. Ваця сябраваў з Генрыхам і шчыра радаваўся, калі той узяў сабе ў жонкі Марыю. А цяперака заперажываў і прыдумаў, як загульнага Генрыха вярнуць у сям'ю. Ваця завёў Марыю да чарадзейкі Фрузы, а тая дала ім бутэльку Чорнага віна, сказаўшы, што як муж вып'е таго віна, дык зноўку палюбіць жонку. У нядзелю Марыя прыгатавала святочны абед, паставіла на стол гарэлку і віно. Толькі яны селі за стол, а Генрых кажа: а давай гасцей паклічам. Як ні адгаворвала жонка мужа, а той усё адно паклікаў сяброў. Ніхто з сяброў не прыйшоў, усе былі занятыя, акром Ваці Грушэўскага. Той прыйшоў, паабедаў з сябрамі, трохі

выпіў і сышоў. Не паспеў ён выйсці з двара Варатніцкіх, як адчуў неверагодную ласку да Марыі. З таго дня ён не мог думаць ні пра каго, акрамя Марыі Варатніцкай. Пачаў Ваця Марыю пераследаваць, пачаў казаць ёй пра сваё каханне неадольнае. Пакутаваў мужчына. І невядома, чым бы тыя пакуты скончыліся, каб Ваця і Марыя не зляцеліся да самага грэшнага. Злюбіліся яны, а пасля любошчаў пайшлі разам да Фрузы, пайшлі прасіць, каб адчаравала яна Вацю. Фруза мела ў любоўных чарах вялікі спрыт і адчаравала Грушэўскага за адно імгненне. Аказваецца, разлюбліваць лягчэй, чым пакахаць. Ваця аддзячыў Фрузе і зажыў з лёгкай душою. А Генрых? Пасля Чорнага віна Генрых наноў палюбіў сваю Марыю, але палюбіў не так моцна, як раней. Ён палюбіў яе спакойнай любоўю, якой было больш чым дастаткова на доўгае-доўгае сямейнае жыццё.

## СІНЯЯ БЕЗДАНЬ

Ты — стварэнне з роду разважлівых — заснуў і прачнуўся, каб ізноў паспрабаваць заснуць. Сон агарнуў цябе — сына тых, хто сыходзіць з жыцця. Свядомасць захавала яснасць… І спусціўся ты да пачатку свайго, у Сінюю бездань. Плоць твая была падобная да густой вады і плыла ў вадзе, але дыхаць табе было лёгка. Дыхаў ты блакітнай вадою, як празрыстым паветрам. І дзівіўся, і разумеў: улада — туман, любоў і захапленні — кірмашовыя госці, а ўсё навокал рухомае і пазбаўленае сутнасці, і не трэба табе імкнуцца да пазбаўленага сутнасці… Блакітныя рыбіны праплывалі каля цябе, блакітныя змеі з белымі ікламі глядзелі на цябе круглымі вачыма, блакітная трава хісталася пад тваімі нагамі… І быў ты духам Сіняй бездані. А выплыванне-прачынанне тваё было напоўнена невытлумачальнымі страхамі, якія давялося змываць з сябе ледзяною вадою ў рэальнасці.

Мар'ян ДУКСА

# «ІСЦІНА РАЗЛІТА СЯРОД НОЧЫ...»

* * *

Бог дрэва пасадзіў — мой род.
Яму цяпло нябеснае спрыяла.
Ды колькі навальнічных, снежных год
яно расло і гнулася нямала!
І дажыло да сённяшняга дня.
Ускідваюцца верхнія галіны.
А хто я ёсць? Я тая вышыня,
што вынеслася ўгору вершалінай?
Якая ў буру, спёку і мароз
змагла цягнуцца ўверх праз перашкоды.
Я — верхні ліст.
І я — апафеоз
свайго не мной прыдуманага роду.
Мяне хай цешаць лета і зіма.
Я чую ствол, жывую яго мякаць…
А над галлём,
якога ўжо няма,
хачу схіліцца й ціхенька паплакаць.

* * *

Падворак. Кветкі. Гусі. Куры.
Сляды дзяцей панішчыў венік.
А храм сям'і — будынак хмуры,
і бацька ў ім — адзіны вернік.
Зазелянела зноўку вецце.
«Так лепш», — падумала прырода.
Дзьме лёгкі вецер. Гэты вецер
трасе старанна дрэва роду.
Дзён нечапаных свецiць рэшта,
не ўсе ў жыццёвым коле спіцы…
Як хочацца, аднак, за нешта
вячэрняй думкай зачапіцца.



*Мар'ян Дукса нарадзіўся ў 1943 годзе на хутары каля вёскі Каракулічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ (1969), у 1969—1987 гадах настаўнічаў у Сольскай сярэдняй школе на Смаргоншчыне. Аўтар паэтычных зборнікаў «Спатканне», «Крокі», «Станцыя», «Забытыя словы» і інш., кніг для дзяцей. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя А. Куляшова (1990).*

* * *

А ісціна разліта сярод ночы,
схаваная ў неверагодны змрок.
Глядзім вакол… Што могуць нашы вочы?
Які ён слабы — чалавечы зрок.
Бездапаможны позірк чалавечы.
Нуль бачнасці, калі не падсвяціць.
Ён па паверхні толькі грубых рэчаў,
не глянуўшы ў іх сутнасць, слізгаціць.
Ці здольны ён па сонейку, ці зможа
схапіць палёт пчалы ці авадня?
А як цябе пабачыць, любы Божа,
угледзець раптам на дарозе дня?
Цябе б заўважыць у пару начную
хоць на імгненне —
толькі як, скажы?
Не здольны ўбачыць,
проста ён адчуе
Цябе наўкроч —
відушчы зрок душы.

* * *

Вытворцы радасці — ну хто яны, скажы?
Шчыруюць дзе, іх жменька ці іх многа?
Яны — бацькі, дзяржаўныя мужы,
абраннікі ці пасланцы ад Бога?
Вытворцы радасці — іх добрая душа
ратуе ад бясілля і ад змогі.
Не возьмуць за паслугу ні граша,
адно папросяць, каб устаў на ногі.
Вытворцы радасці — іх першы запавет,
святы парыў, які ўзнікае хутка:
заліць вясёлым сонцам цэлы свет
і ўрэшце людства атрасці ад смутку.
Тварэнне радасці для тых, каму цяжэй,
каго так любіць доля-нескладуха.
Тварэнне радасці —
што можа быць вышэй
у свеце тым, дзе ў сэрца лезе скруха?

* * *

Ад крыўды дробнай сэрца засмыліць —
што значыць, калі страціцца цярпенне.
Якім дажджом гаючым нас заліць,
каб прытушыць вуголле утрапення?
Сваю гарачку астудзіць ледзь-ледзь,
каб нас не гнала ў далячынь дарога.
Як хутка навучыліся хацець
зусім не крышку, а занадта многа.
І зацугляць не можам нораў свой.
Ці знаем самі, што нам сёння трэба?
Як гэта мала — столь над галавой,
кавалак столі і кавалак хлеба.
Наш апетыт разросся пакрысе,
ён і цяпер у маладым разгоне.
Ад бегу аж задыхаліся ўсе —
як быццам і жывём на стадыёне.

* * *

Я страціў так даўно свае ўсе слёзы…
Я з дому бег, туліўся да бярозы.
Ніколі плакаць не любіў публічна.
Пад дрэвам румзаў, хоць было нязвычна
рабіцца плаксам пасярод цвіцення
мурожнага шматтраўя, мільгацення
стракоз і матылькоў. Ад пахкіх зёлак
аж сэрца замірала. З пульхных норак
паўзлі мурашкі каля босых ног —
я іх, малых, рукой пагладзіць мог.
Сінічка цінькала ля галавы.
Вітаўся жаўранак з-пад сінявы.
Навокал пчолы ў радасным запале
кружыліся, а шчокі не чапалі.
Якая музыка ад іх плыла!
Ад тых мелодый тонкіх і цяпла,
што сонца зверху пасылала дню,
знікала ў мяне крыўда на радню.
І ў рэшце рэшт даймаў парыў адзіны —
ад шчасця слёзы ліць яшчэ з гадзіну…
Падросшы, іх адчуў я дэфіцыт,
бо надта рана вычарпаў ліміт.

* * *

Душа, запаланіў цябе пясок,
запаланіў цябе пясок без меры.
Ах, колькі раз бярвенні я валок
на бераг твой, каб стаў будынак веры.
Здаецца, і вялікім быў парыў,

здаецца, майстраваў і сцены дбайна.
Але заўсёды мой будынак плыў…
І я за гэтым назіраў адчайна.
Ах, як я мог забыцца пад вуглы,
ну проста так, як той казаў, на шчасце,
кавалак цвёрды колатай скалы,
ці мармур духу, укапаць — падкласці!

* * *

Ён ёй, мілагучнай, сябе наталіў,
прыстанішча даў ёй у ветраным часе.
А родную мову касцёл прытуліў —
як хуценька ў ім яна прыжылася.
Яна тут такая жывая адна,
ну хто гэта скажа, што выглядзець марна.
Крылатая, коціцца з хораў яна
і ўверх узлятае з пляцоўкі алтарнай.
І робяцца спевам малітвы азы,
сярэбраным звонам звініць усхваленне.
Купаюцца ў гуках усе абразы,
і свеціца радасцю роспіс скляпення.
А музыка слоў, як святая, наўздзіў,
не хоча змаўкаць пад аховай надзейнай.
А родную мову касцёл прытуліў —
ён гэта зрабіў для апекі музейнай?

* * *

Прасякнуты бяздонны ўвесь сусвет
святлом, якому не спазнаць згасання.
Між зорак апусціўся цемры след,
але ж у ёй Яго іскрыцца ззянне.
Яго адчуць зусім не ўмее зрок.
А Ён — наш Валадар і Абаронца.
Ён між галактык і зямных аблок —
як Неўміручае Жывое Сонца.
Вакол Яго — бягуць гады, вякі.
З трывогаю у вечнай цемры хіжай.
Мы кружымся, як тыя матылькі
і цешымся, як падлятаем бліжай.





*Іван Капыловіч нарадзіўся ў 1944 годзе ў в. Забалацце Мазырскага раёна. Скончыў БДУ. Працаваў у газеце «Чырвоная змена». Друкуецца з 1963 года. Выдаў зборнікі апавяданняў і аповесцей «Сонца садзіцца ў травы», «Два дні ў лютым», «Асенні гром», «Сны не вяртаюцца». Аўтар раманаў «Пасынак», «Крумкач».*

Іван КАПЫЛОВІЧ

***Апавяданні***

# ДРУГІ ШЛЮБ

*Хавалі Паўлаву сястру.* Дзень выдаўся сонечны, светлы, амаль што летні. Могілкі на гары, паблізу Прыпяці. Гара высакаватая, парослая немаладымі бярозамі. Могілкі старыя. Гэта відаць па магілах, па надмагільных крыжах і помніках. Хавалі тут каталікоў і праваслаўных. У бліжняй вёсцы жыве шмат палякаў. Адкуль яны тут узяліся — ніхто дакладна не ведаў, але казалі, што яны — наязджалыя. Яны ўзвялі на крутым беразе Прыпяці белы касцёл, і маліліся не ў царкве з блакітнымі купаламі, якая адсюль мо за два кіламетры, паблізу Прыпяці, але ўжо ў Мазыры, у старым цэнтры горада. Праязджаючы перш міма царквы, а затым міма касцёла, Павел заўсёды задумваўся аб тым, каму і навошта спатрэбілася падзяліць людскія душы па рэлігіі. Рэлігія дзяліла людзей як на гэтым свеце, так і на тым: на могілках, дзе зараз хавалі Паўлаву сястру, каталікі ў заходняй іх палавіне, а праваслаўныя — на ўсходняй, у той, што бліжэй да ракі.

Сястра памерла нечакана і неспадзявана. Ёй не было яшчэ і сарака гадоў. Яна ўдала выйшла другі раз замуж, нарадзіла аднаго за адным двух хлопцаў, у яе ўжо быў сын ад першага шлюбу, ёй бы жыць-пажываць, але падкінулася невылечная хвароба...

Наталля, так звалі сястру, была дужа падобная на бацьку як знешне, так і характарам. Сярэдняга росту, з шэрымі тужлівымі вачыма, узрыўным, запальчывым характарам.

Калі Павел вучыўся ўжо ў інстытуце, Наталлін бацька, Паўлаў айчым, кінуў сям'ю, перабраўся ў Мазыр, уладкаваўся на будоўлі сталяром, выбіў сабе на адной з глухіх вулак Мазыра зямельны ўчастак на дзесяць сотак і пачаў будаваць дом. Паставіў часовую хацінку, неўзабаве забраў з вёскі маці з Наталляй і сваім сынам — Паўлавым братам. Грошай, каб наняць будаўнікоў, не было, і айчым узводзіў дом сам. Дапамагалі яму маці з Наталляй, якая з-за гэтай будоўлі кінула школу, уладкавалася на работу на мэблевую фабрыку. Недзе тады ў Наталлі з'явіўся кавалер — рыжавалосы, канапаты, як цэцерукова яйка, у салдацкай форме, але без пагонаў. Ён быў з той самай вёскі, дзе наязджалыя палякі. Але ён не з палякаў, а з тутэйшых. Невысокі, каржакаваты, з кароткімі, дужымі рукамі. Як і Наталля, ён

таксама рабочы — пракладваў водаправодныя трубы. І гуляў у футбол. У выхадныя ягоная футбольная каманда заўсёды некуды выязджала — у той ці іншы райцэнтр або прымала такую ж каманду ў сябе дома. Матч адбываўся на адзіным гарадскім стадыёне, што на ціхай, з тапалямі, вулцы.

Аднойчы Павел прысутнічаў у час такога матчу. Наталлін кавалер к таму часу стаў ужо яе мужам, у іх нарадзіўся сын, якому споўнілася мо тры ці чатыры гады.

Мікола, першы Наталлін муж, быў нападаючым. У адной з атак ён выйшаў сам-насам з варатаром, але метраў з пяці-шасці нанёс гэтакі ўдар, што мяч свечкай узмыў крута ў неба, міма варот. Адзін з таварышаў па камандзе даў Міколу добрага падзатыльніка.

Пасля гульні Мікола падышоў да Паўла і прыдуркавата ўсміхаўся — мабыць, яму і самому было няўтульна, няёмка не толькі перад Паўлам, а і перад самім сабой, што з пяці-шасці метраў не забіў гол. Павел заўважыў, што Мікола быў на добрым падпітку. Гэта ўжо ўвайшло ў звычку — пасля гульні ён са сваімі сябрукамі прыкладваўся да бутэлькі.

Праз гэта Наталля неўзлюбіла яго, падала на развод. У яе з Міколам была ўжо свая асобная двухпакаёвая кватэра. Гэта ў новым мікрараёне, каля завода будматэрыялаў. Вокны выходзілі на шумную вуліцу, але ўжо добра тое, што ўсё ж у Наталлі быў свой куток, яна была незалежная ад бацькоў, якія ўвесь час папракалі яе гэтым раннім, не надта ўдалым замужжам.

Павел да таго часу скончыў інстытут, працаваў у Мінску, меў нядрэнную работу, неблагія заробкі, але яшчэ не меў сваёй кватэры, аціраўся па чужых вуглах, праз гэта і не жаніўся. У Наталліны з Міколам справы не ўмешваўся. Бачыў, што Наталля была не дужа радая свайму замужжу, зайздросціла яму, што вось ён мае вышэйшую адукацыю, паважаную работу, не тое што яна — на мэблевай фабрыцы далбёжніцай на дрэваапрацоўчым станку. Заробкі, праўда, і ў яе таксама неслабыя, не горшыя, чым у Паўла, але ж хіба яны лёгка ёй даваліся? Наталля працавала ў тры змены, скардзілася, што ад работы ў яе баляць рукі, ёй часам цяжка дыхаць, бранхіт, няйнакш ад таго, што на фабрыцы ніколі не выветрываюцца пахі лакаў, а ў паветры бясконца кружыцца пілавінне. Мо таму, а мо і з іншых меркаванняў Наталля вырашыла пайсці ў школу рабочай моладзі, каб атрымаць атэстат сталасці аб сярэдняй адукацыі: яна збіралася паступаць завочна на юрфак. Перад ёй, словам, адкрывалася перспектыва. Павел запаважаў сястру за яе сілу волі, за тое, што не згубіла галавы, не апусціла крылы, спахапілася вельмі своечасова.

Мікола падабаўся Паўлу тым, што чалавек ён быў шчыры, добрай душы. Ён любіў Наталлю, свайго сына. На тое, што выпіваў, Павел глядзеў спакойна. А хто гэта з маладых людзей сёння не выпівае? Павел і сам іншым разам выпівае. Праўда, толькі іншым разам, бо ягонае начальства і дня не пацярпела б яго на рабоце, калі б заўважыла, што без бутэлькі, без выпіўкі па прычыне і без ён не можа.

Калі гаварыць шчыра, то Павел зайздросціў Наталлі, што яна мела сям’ю, мужа, сына, сваю кватэру, не тое што ён — адзін, адзінокі, не меў ні кала, ні двара. І таму калі ён пачуў ад сястры словы пра развод, то падумаў, што яна жартуе.

— Збіраешся адна выхоўваць сына? — спытаў з дакорам Павел. — Гэта адно. І другое. Што будзе з кватэрай? Яна — Міколава, ён атрымаў яе.

— Дапамажы мне, брат. У цябе, я ведаю, ёсць знаёмыя адвакаты, суддзі. Трэба зрабіць так, каб кватэра засталася мне з сынам.

— А Мікола? Што будзе з ім? Хіба ён не чалавек? Хай прападае на вуліцы, пад плотам?

— Няхай вяртаецца да маці, у вёску, у Навікі.

Навікі — прыгарад Мазыра, тое самае месца, дзе большасць жыхароў — палякі.

Ведаў Павел і тое, што ў Міколы ёсць шлюбная сястра з плоймай дзяцей, жыве яна разам з маці.

— Да маці... Там яго надта чакаюць. Там і без яго няма дзе павярнуцца.

— Не хочаш дапамагчы, то так і скажы. Міколы яму шкада. А хто пашкадуе мяне? Няўжо ты хочаш, брат, каб я мучылася з гэтым п'янчугам усё жыццё?

Павел замоўк. Маўчаў і думаў: крывіць душой сястра. Не з-за таго, што Мікола выпівае, хоча яна з ім развесціся. Не кахае яна яго. Незразумела: як, не кахаючы, яна выходзіла за яго замуж? Памылілася, зразумела гэта потым?

І яшчэ адна думка прыйшла ў галаву падчас гэтай размовы, калі сястра папрасіла яго аб дапамозе выселіць Міколу без права на жыллё. Мабыць, падумалася, сястра закахалася ў некага іншага. Ды так закахалася, што гатова на развод хоць сягоння. Інакш хіба яна была б гэткай рашучай?

У душы ў Паўла варухнулася і іншая думка: ён упершыню нядобра падумаў пра родную сястру.

— Твая, Наталля, справа — жыць з Міколам ці не, — Павел казаў гэтыя словы ціхім, бы не сваім, прыглушаным голасам, але ў гэтым голасе было незадавальненне, абурэнне, якія ён не ўтойваў ні ад сябе, ні ад сястры. — Рабі, што табе хочацца, але ж будзь ты чалавекам!

Ён не выказаў усяго, што хацеў, што было ў гэты момант у думках, ён нават трохі разгубіўся, губляў ніць размовы, якая была для яго і нечаканасцю, і непрыемнасцю адначасова. Ён адчуваў нейкую раздвоенасць душы, што не здаралася з ім да гэтага мо ніводнага разу. Ён не ведаў, ці возьмецца дапамагаць сястры ў гэтай яе шлюбаразводнай, заблытанай і няпростай справе. Хіба ж гэта па-людску — рабіць так, як задумала сястра?

Трохі супакоіўшыся, узяўшы кантроль над сабой, Павел збіраўся яшчэ сказаць, каб сястра не спяшалася, усё як след узважыла і тады ўжо, добра ўзважыўшы, вырашала.

— Ты хочаш сказаць, Павел, каб я падзяліла кватэру з Міколам? Каб я рабіла ўсё па дабру, па справядлівасці? — сястра, было відно, настроілася рашуча, беспаваротна і выбівала з-пад Паўла тую глебу, на якой, здавалася, ён стаяў цвёрда і, стоячы на цвёрдым грунце, збіраўся пераканаць сястру, схіліць на свой бок, давесці ёй тое, як ён бачыў усё і разумеў. — А ці падумаў ты пра тое, што калі я зраблю гэтак, як ты хочаш, то дзеля чаго? Я табе не ўсё расказвала, не хацела ўсё расказваць, бо чым добрым пахваліцца, а гэтым... Мікола іншы раз да таго напіваецца, што нават на работу не йдзе, прагульвае. Падзялю я з ім кватэру, то ён і кватэру пусціць у распыл.

Павел зразумеў: не пераканаць яму Наталлю. Яна ўжо ўсё вырашыла.

Ён не памыліўся — у Наталлі была вельмі важкая прычына для разводу. У яе з'явіўся другі мужчына. Экскаватаршчык. Як і Мікола, так і гэты другі, таксама трубаўкладчык. Мікола клаў водаправодныя трубы, а гэты, другі, — нафтавыя. Па Палессі вялі нітку нафтаправода «Дружба», і Жэня, так зваць гэтага другога, сваім экскаватарам капаў траншэю. Ён быў худы, высокі, даўгавязы, хлёсткі, як дубец, з насцярожанымі, уважлівымі вочкамі-свярдзёлкамі, якімі ён нібы ўпіваўся ў таго, з кім размаўляў.

Жэня адразу ж перабраўся, пасяліўся ў Наталлінай кватэры, і Паўлу было незразумела, чаму сястра гэтак спяшаецца, чаму яна сама сябе нібы падганяе, не доўга думае над тым, над чым, можа, трэба было б ёй думаць ды думаць.

Пазнаёміўшыся з Жэнем, Павел убачыў у ім простага, добрага, шчырага вяскоўца з мнагадзетнай сям'і, які, мабыць, быў рады таму, што сустрэўся з Наталляй, хай

ужо і з сынам ад першага шлюбу, яшчэ нават не разведзенай, але са сваёй кватэрай, з работай, дзе былі нядрэнныя заробкі.

Пры першым зручным выпадку Наталля нагадала Паўлу, каб ён усё ж дапамог ёй з судом. Сястра, бачыў Павел, ужо зацяжарыла, чакала сваё другое дзіця ад Жэні. «Калі гэта яна паспела?» — падумаў ён сам сабе, падзівіўся сястрыной хватцы, хуткасці, з якой яна вырашала няпростыя жыццёвыя калізіі. Зацяжарыўшы, яна забылася пра тое, што збіралася паступаць на юрфак, перастала наведваць школу рабочай моладзі. І калі Павел нагадаў ёй пра гэта, Наталля толькі цяжка ўздыхнула: «Я — жанчына, маё шчасце ў сям'і».

Вой, як не хацелася Паўлу ісці ў суд да знаёмага суддзі, да адвакатаў і прасіць за Наталлю. Яго душа пратэставала, не згаджалася, ён разумеў: робіць тое, што не павінен рабіць. Хоць ён і не бачыў Міколу які ўжо час, але думкі аб ім не пакідалі Паўла. Што з ім, дзе цяпер ён? У душы Павел і злаваў на Міколу, і шкадаваў яго: дакаціўся во да чаго... Не змог узяць сябе ў рукі... Усё з-за выпіўкі, з-за гарэлкі... Страціў сям'ю, кватэру... А мо кватэру яшчэ і не страціў? Суда яшчэ не было, а калі будзе, то як ён усё вырашыць — хто яго ведае.

Суддзя — Паўлавых гадоў малады мужчына, выслухаўшы яго, узяў у рукі светла-шэрую папку, раскрыў яе, пагартаў падшытыя акуратна лісты, на хвіліну задумаўся і, выйшаўшы з задумення, прамовіў:

— Тое, што мы знаёмыя, — мала дапаможа. Канечне, я на баку тваёй сястры, але ж... Калі я вынесу неаб'ектыўнае рашэнне, яно будзе абскарджана ў вышэйшую інстанцыю, і там справу перагледзяць, і што пра мяне падумаюць?

З гэтым суддзёй Павел быў знаёмы са студэнцкай пары; жылі ў адным інтэрнаце, разам хадзілі на студэнцкія вечарынкі, а іншы раз і чаркавалі ў адной кампаніі на якое-небудзь свята — на Новы год, пасля майскай дэманстрацыі...

У кабінеце ў суддзі яны былі адны, і Паўлу падалося, што суддзя, нягледзячы на знаёмства, прыяцельскія ўзаемаадносіны, робіць намёк... Няўжо ён хабарнік і ад Паўла чакае хабару? Думка была дужа непрыемная, балючая, але яна прыйшла ў галаву, і Павел разгубіўся — што ж рабіць? Ён палез у кішэню, дастаў грошы, але суддзя, убачыўшы ў яго руках сторублёвую купюру, ціха, ледзь чутна, пэўна, спалохаўшыся, прамовіў:

— Ты што?! Схавай! Ды як ты мог?! Мне мая пасада дарагая, і я так проста не хачу губляць яе.

Павел здранцвеў: трымаў у руках купюру, думаючы, што суддзя разыгрывае спектакль. Але не, ён настойліва паўтарыў:

— Я табе сказаў — схавай! Калі хочаш, каб я хоць неяк дапамог сястры — схавай!

Потым ужо, наймаючы адваката, Павел раіўся з тым, выказваў яму сваё непаразуменне:

— Я ж з ім разам вучыўся, мы жылі ў адным інтэрнаце, разам хадзілі на вечарынкі, чаркавалі...

— Хто ж так робіць? — падвучваў Паўла адвакат. — У яго кабінеце і сцены вушы маюць...

Адвакат адкрываў Паўлу тое, што існавала ў жыцці, было на кожным кроку, але з чым Павел пакуль не сутыкаўся. Хабар суддзі Павел усё ж даў, але праз адваката.

Выйшаўшы ад адваката, Павел падаўся да Прыпяці, каб скінуць з душы цяжар думак, што навaліліся на яго, і, пэўна, ад гэтага сціснула, забалела ў грудзях.

Ён часцяком, прыехаўшы ў госці да маці, у вольную хвіліну прагульваўся берагам Прыпяці і думаў, думаў... Ён заўсёды ў гэткія во моманты дадумваўся да нечага добрага, суцяшальнага, думкай раптам трапляў на выйсце з таго ці іншага жыццёвага тупіка.

Ледзь толькі на гэты раз ён паспеў спусціцца ад дома правасуддзя, што на гары, уніз, да Прыпяці, як тут жа згледзеў Міколу. Той нерухома сядзеў у прывязанай іржавым ланцугом да ўбітай у зямлю рэйкі лодцы, спінай да яго, і па гэтай яго каменнай нерухомасці можна было зразумець, што ён у глыбокім, цяжкім роздуме.

Павел чамусьці нават абрадаваўся: хоць будзе з кім пагаварыць, проста, па-чалавечы, без напругі.

— Мікола! — ціха клікнуў Павел. — Што ты тут робіш?

Мікола паволі павярнуў шыю, утаропіўся ў яго халодным, адчужаным позіркам. І тут жа з яго вачэй пасыпаліся слёзы. Ніколі да гэтага Павел не бачыў, каб Мікола плакаў.

— Я знаю, — Мікола ўраз справіўся з сабою, выцер далонню з вачэй слёзы, гаварыў тым голасам, да якога Павел прывык на працягу апошніх гадоў, але ў якім усё ж адчувалася ўжо і нешта новае, незнаёмае: яно й так — хіба тое, што давялося Міколу перажыць, не дае аб сабе знаць? — Наталля падала на суд, знаю, што яна знайшла сабе другога... Няхай!.. Няхай будзе так, як ёй хочацца. Перадай ёй — я на ўсё згодны... І кватэра няхай будзе ёй... У нас з ёю сын... Не трэба ніякіх судоў...

Павел аслупянеў. Яму хацелася крыкнуць: «Чаму ты такі бязвольны?!»

Паўла закалаціла, бы ў ліхаманцы. Але ён маўчаў як рыба. Думкі варочаліся ў ім, бы цяжкае каменне.

Мікола, болей не кажучы ні слова, падаўся берагам да прыстані, да якой прычаліў серабрысты лайнер на падводных крылах.

Наталля нарадзіла двух сыноў — аднаго за другім, і Павел памалу забываўся пра тое, што яна жорстка, не па-чалавечы абышлася з Міколам, выселіўшы, выпісаўшы яго з кватэры. Бываючы ў сястры, Павел чамусьці згадваў дзень, калі ён сустрэўся з Міколам на беразе Прыпяці. «Дзе цяпер ён, што з ім?» Гэта хвалявала Паўла, аб гэтым ён пастаянна думаў і гэтымі думкамі развярэджваў сябе. Але калі ён бачыў, што Наталля кладзе ў прагулачную каляску самага меншага сына, а другога бярэ за руку і яны кіруюцца на вуліцу, у двор — на прагулянку, то ўжо зусім іншыя думкі авалодвалі Паўлам: а мо сястра і правільна зрабіла, развёўшыся з Міколам? Сапраўды — хіба жаночае шчасце не ў сям'і, не ў дзецях?

Цяпер Павел прыязджаў да сястры, да маці на сваёй машыне — старым, дзесяцігадовай даўнасці «Фольксвагене», балазе трохі разжыўся, ажаніўся, ад работы яму далі кватэру, пакуль аднапакаёвую, але з выгодамі, з вялікім балконам, асобнай кухняй. У яго ўжо нарадзілася дачка, і пасля ўсіх перамен, што адбыліся ў ягоным асабістым жыцці, Павел неяк па-іншаму глядзеў на сябе і на свет, што акружаў яго. Усё ішло, бегла, мянялася так шпарка, што не было калі агледзецца, ва ўсім як след разабрацца. І толькі не мяняліся яго думкі аб тым часе, калі сястра разводзілася, высяляла Міколу, сыходзілася з Жэнем. Але і гэта паступова адсоўвалася ўсё далей і далей, трацiла свой першапачатковы сэнс, сваю вастрыню, боль, пакідаючы ў душы горкі, непрыемны асадак. І калі Павел лавіў сябе на гэтай думцы, то разумеў, што ён ужо іншы чалавек. Абставіны і час змянілі яго прыкметна.

— Прыехала б калі да мяне ў госці, — не то жартам, не то ўсур'ёз сказаў Павел аднойчы сястры, — пакуль у дэкрэтным водпуску, то чаму б табе не пагасцяваць у мяне? Кватэра, канечне, у мяне цеснаватая, але як-небудзь размесцімся. Пабачыш сталіцу, нашыя магазіны, базары.

Наталля ўтаропілася ў яго нейкім бы чужым, апустошаным позіркам, ад якога Паўлу зрабілася нядобра, у сэрцы кальнула, забалела. З сястрой, мабыць, нешта здарылася. Але што?

— Ага, браток, добра, што ты пра гэта загаварыў. Трэба мне ў Мінск, — вымавіла Наталля і зноў глядзела перад сабой бы не сваім, а нейкім трывожным, разгубленым позіркам.

Нейкі момант яны маўчалі. І пасля маўчання:

— Неадкладна мне трэба ў Мінск. Пухліна ў мяне пад грудзьмі. Была я ў анколага, ён кажа, трэба класціся на аперацыю.

У сярэдзіне ў Паўла нешта абарвалася, ён зразумеў: у іхнюю сям'ю прыйшло вялікае гора.

— А мо гэта памылка? Хіба дактары святыя, не памыляюцца?

— Таму я і хачу прыехаць у Мінск у Інстытут радыялогіі. Усё ж там не нашы дактары.

Пасля гэтых Наталліных слоў Павел нават уздыхнуў з палёгкай: яно і праўда — хіба ў Мінску радавая, правінцыяльная медыцына? Тым больш у навуковадаследчым інстытуце. Там дацэнты, прафесары — свяцілы.

— То не цягні, не адкладвай. Любую хваробу добра лячыць, калі яна не ўелася, не задаўненая, — скончыў Павел ужо зусім спакойна, бо ў гэтай цяжкай размове быццам убачылася выйсце.

У Інстытуце радыялогіі ён праз сваіх добрых знаёмых выйшаў на прафесара — чалавека, які звекаваў у медыцыне, у гэтым самым інстытуце, дзе лячылі хворых на рак. Інстытут быў трохі подалека ад горада, у сасновым немаладым лесе. За бетонным масіўным плотам стаялі трох-дзевяціпавярховыя карпусы, каля якіх праходжваліся хворыя, сёстры, дактары, санітары. Павел упершыню трапіў на гэтую тэрыторыю, узіраўся ў твары хворых, не бачыў у іхніх вачах безвыходнасці, адчаю, думаў, што людзі верылі ў тое, што вось пакачаюцца трохі на бальнічным ложку, папraвяцца, выпішуцца здаровымі, вернуцца да сваіх сем'яў, да сяброў, да свайго звыклага жыцця — а як жа інакш? Інакш яно і быць не павінна. Так, мабыць, устроены чалавек — ён да апошняга ўздыху верыць у заўтрашні дзень.

Прафесар быў сталага веку, пенсійнага ўзросту, але дужа рухавы, гаваркі, усмешлівы, і было незразумела, як гэта яму ўдаецца заставацца ў гуморы, калі вакол чалавечыя трагедыі?

Размова з прафесарам завялася хутка і лёгка. Павел, як умеў, растлумачыў, што да чаго, чаму ён шукаў дарогу да медыкаў-анколагаў, сказаў, што сястра чакае ў калідоры каля прыёмнага пакоя.

Агледзеўшы Наталлю, прафесар не парадаваў, пацвердзіў дыягназ, які ўстанавілі сястры правінцыйныя дактары.

— Хвароба, на жаль, трохі задаўненая, — падвёў вынік гэтай размове прафесар, — аперацыю трэба рабіць неадкладна.

«Навошта была тая аперацыя?» — пытаецца ў сябе Павел, слухаючы, як музыкі ляніва і разладжана ігралі тое, што заўсёды і ўсюды іграюць на пахаванні. Пад гэтую музыку апусцілі ў выкапаную магільшчыкамі магілу труну — пафарбаваную ў шэра-попельны колер, з бліскучымі ручкамі па баках, з адкідным вечкам. Павел развітваўся з сястрой, калі вечка было адкрыта, бачыў, што твар у сястры жоўты: метастазы пайшлі ў пячонку, і жоўць разышлася па ўсім целе. Калі ён цалаваў сястру ў лоб, ледзь не захлынуўся слязамі, але стрымаўся, не заплакаў, праз сілу вымавіў, каб зямля была ёй пухам.

З могілак ён ішоў апошнім. Ішоў, азіраўся на свежы курганок пяску, на вянкі і кветкі на гэтым курганку і не верыў, што Наталлі няма, што ён з ёй больш не пагаворыць.

І тут ён згледзеў Міколу. Той таксама спускаўся з гары, ішоў ад Наталлінай магілы. Ён, мабыць, быў тут з таго моманту, калі Наталлю прывезлі з дому, развіталіся... Як гэта Павел не заўважыў яго? Дзіва што — сёння ён і сябе, не тое што іншых, не заўважае.

Мікола кіраваўся да яго. Але Паўлу не хацелася зараз ніякіх размоў.

# ЦЁЦЯ БРОНЯ

*Ёй далека ўжо за шэсцьдзесят,* хада ў яе цяжкаватая, і гэта не дзіўна, бо цёця Броня ў целе, і таму, мабыць, ногі ў яе распухлыя, яна, ідучы, злёгку перавальваецца то ў адзін бок, то ў другі. Праз тоўстыя шкельцы акуляраў з чорнай рагавой аправай яе вачэй амаль не відно, але мне здаецца, што яны ў яе добрыя, шчырыя, як і словы, з якімі цёця Броня звяртаецца ці да мяне, ці да каго з іншых хворых.

— Ну во, сёння цябе не пазнаць, — цёця Броня спыняецца каля майго ложка, — а то ўчора глядзеў у столь, слова не вымавіў. Ты не думай пра дрэннае, не слухай дактароў, — надта яны многа ведаюць.

У цёці Броні мова спакойная, павольная, пявучая, як музыка Эдварда Грыга, якая кладзецца на сэрца, заварожвае, слухаючы яе, забываешся пра ўсе нягоды, пра ўсё змрочнае, нядобрае, і ў душы раптам затрапечацца агеньчык надзеі — напачатку кволай, няспешнай, але якая разрастаецца, набывае крылы, дае веру, і ты ўвачавідкі мяняешся, думаеш, што вось за гэтым змрокам абавязкова будзе светлая паласа, будзе жыццё, якога ты хочаш, якога чакаеш.

Слухаючы тое, як цёця Броня суцяшае мяне, кажа, што вось я трохі яшчэ паляжу ў бальніцы, а потым усё ж стану на свае ногі, і калі не пабягу, але ўсё ж пайду, змагу зноў хадзіць скрозь і ўсюды, дзе толькі захочацца, то, на сваё дзіва, я веру ёй больш, чым дактарам, якія не ўтойваюць, што пасля такой траўмы, як у мяне, выкараскацца, пазбавіцца немачы не так проста. А пра тое, каб зноў стаць такім, якім быў да гэтага, трэба забыцца раз і назаўсёды.

Аб гэтым учора я і сказаў цёці Броні. Яна слухала мае словы маўкліва, цярпліва, а калі я скончыў, утаропіўся вачыма ў белую столь, яна непрытоена ўздыхнула:

— Меней слухай ты гэтых дактароў... Ты паслухай мяне, я ў гэтай бальніцы ведаеш колькі? Усяго наглядзелася, набачылася, знаю болей за дактароў... Пойдзеш, абавязкова пойдзеш. Мо не пабяжыш адразу, мо з кавенькаю пакінеш бальніцу, але потым і кавеньку зашыбнеш, вяселле сваё справіш, толькі ж не забудзь мяне запрасіць на вяселле, я ўсім раскажу во пра гэту нашу размову.

Я гатовы быў ускочыць з ложка, абняць цёцю Броню, расцалаваць яе і спытаць:

— Няўжо гэта праўда?! Няўжо я зноў змагу хадзіць?

Але я гэтага не раблю. Ляжу нерухома каторы ўжо месяц, не чую сваіх ног з таго часу, як трапіў у аўтакатастрофу, у мяне кампрэсійны перalом пазванкоў, адняліся ногі, і з таго часу мяне акружаюць дактары, бальніца, сёстры, нянькі... і цёця Броня.

Я маўчу, на вачах у мяне круцяцца слёзы, але я ім волю не даю — стрымліваюся з апошніх намаганняў, не хачу паказацца цёці Броні гэтакім раскіслым смаркачом. Я толькі заўважаю, што і цёця Броня, гледзячы на мяне, таксама ледзь стрымліваецца, каб не расплакацца. Ёй гэта ўдаецца, мабыць, няпроста, але яна ўмее валодаць сабой, сваімі пачуццямі. Яна, думаю я, мужная жанчына. Хіба ж не? Каб кожны дзень даглядаць гэтакіх цяжкахворых, прыкутых да ложка, як я, суцяшаць іх, казаць добрыя словы — трэба быць мужным. А яшчэ, мабыць, цёця Броня ні разу не заплакала пры мне таму, што шкадуе мяне, не хоча, каб я лішні раз засмучаўся. І я ёй за гэта ўдзячны.

# АНТРАЦЫТ

*Іван Андрэевіч падымаецца завідна.* На ім зялёны трэніровачны касцюм, у якім ён і днём, і ноччу. Ён совае ногі ў шырокія, растаптаныя, з тонкай скуры, карычневыя тапачкі, бярэ ў рукі кавеньку. Але нейкі час усё яшчэ сядзіць на ложку, засяроджаны ў сабе, у сваіх думках.

Але ўсё ж праз хвіліну-другую ўстае. Рабіць гэта яму цяжка, бо ён хварэе на артрыт, суставы ног балючыя, ходзіць Іван Андрэевіч паволі, моцна апіраючыся на кавеньку, і далёка ісці не можа — іншы раз боль круціць суставы да таго, што хоць на сцяну дзярыся.

Іван Андрэевіч высокі, мо каля двух метраў ростам, з выцягнутым, старанна паголеным электрабрытвай тварам. Даланя ў яго шырокая, мазолістая: амаль усё сваё жыццё Іван Андрэевіч адпрацаваў на Крайняй Поўначы, за палярным кругам, у Варкуце, у шахтах здабываў адбойным малатком каменны вугаль — антрацыт. Ён пра гэта расказваў неаднойчы і мне, і ўсім астатнім, хто з намі ў адной палаце.

— Вядома, — удакладняў Іван Андрэевіч, — час адбойнага малатка даўно мінуў, цяпер вугалёк здабываюць камбайнамі, але пакуль дайшла чарга да гэтых камбайнаў, то я ўсе маладыя гады не вылазіў з забою.

Валасы ў яго чорныя, як воранава крыло, як той антрацыт, якога Іван Андрэевіч даў на-гара невядома колькі тысяч, а можа і мільёнаў тон. Іншы раз Іван Андрэевіч забудзе пагаліцца, то шчэць на барадзе, на шчоках гэтакая ж чорная. Між сабою хворыя яго так і называюць — антрацыт. Завошта далі чалавеку такую мянушку — невядома. Мо з-за таго, што чорнавалосы, а мо і таму, што ён пры любым зручным выпадку любіў згадваць, як здабываў у забоі, у лаве гэты самы пракляты антрацыт, з-за якога, сцвярджаюць дактары, у Івана Андрэевіча непарадак з лёгкімі.

Апіраючыся на чорную алюмініевую кавеньку, Іван Андрэевіч устае, бухае доўгім, з хрыпатой, грудным кашлем.

Адкашляўшыся, ён робіць колькі крокаў да майго ложка і, убачыўшы, што я не сплю, пытаецца:

— Як табе? Не палепшала?

Я маўчу. А што сказаць? Хіба ён сам не бачыць, у якім я стане? Ён вось хоць як-небудзь ды варушыцца, з цяжкасцю, але ходзіць па палаце, выбіраецца кожны дзень на двор, ідзе ў бальнічны сквер, дзе зялёныя дрэвы, дзе не душна, і ўвесь вольны ад працэдур час ён праводзіць на свежым паветры. А я ляжу нерухома ўжо не першы месяц, і дактары нічога суцяшальнага мне не абяцаюць, кажуць, каб радаваўся, што застаўся жывы.

Не дачакаўшыся майго адказу, Іван Андрэевіч непрытворна ўздыхае:

— Гэта ж трэба... А ты ж яшчэ малады, сама жыць ды жыць.

Ён шкадуе мяне, а я шкадую яго. Іван Андрэевіч адзінокі. Ні жонкі ў яго, ні дзяцей, ні сваёй кватэры. Ён ужо не раз скардзіўся мне на свой лёс. Пасля абеду, калі палата апусцее, ён, нагуляўшыся ў бальнічным скверы, вяртаецца ў палату, садзіцца на краёк майго ложка і пачынае размову пра тое, што вярэдзіць яго душу, што жыве ў ім пакутамі і болем.

— Вартаўніком я цяпер на аўтастаянцы, — кажа ён. — Пенсія ў мяне добрая, з усімі паўночнымі надбаўкамі, вышэй, чым у мяне, пенсіі не бывае, але я ўладкаваўся на работу, каб менш быць дома. Хоць які там дом...

Вярнуўся ён з Поўначы гадоў колькі таму. Жонка, з якой пражылі свой век, але дзяцей не нажылі, памерла, і стала яму там, на Поўначы, невыносна. Пацягнула дадому, на Радзіму, у Беларусь.

— Тут у мяне брат родны, я напісаў яму, што хачу паміраць там, дзе нарадзіўся, — у голасе Івана Андрэевіча гэткая туга, ад якой робіцца няўтульна. — Брат адказаў мне вельмі хутка: маўляў, прыязджай, у мяне для цябе месца знойдзецца.

Ён раптам абрывае ніць размовы, пытаецца:

— У цябе ёсць браты?

Я не разумею: навошта яму гэта ведаць? Але ён, не дачакаўшыся майго адказу, працягвае:

— Я ніколі не думаў, што родны брат можа быць ворагам...

Да гэтай размовы ён вяртаўся потым не раз, і я, слухаючы яго, спачуваю яму, не ведаю, што сказаць, каб неяк супакоіць, суцешыць.

— Па першым часе, калі я толькі вярнуўся з Поўначы, усё было добра. У брата двухпакаёвая кватэра, у якой толькі ён ды жонка — дзеці параслі, жывуць асобна. Мне адвялі месца ў зале, на тахце, і я быў задаволены.

Іван Андрэевіч не можа зразумець, чаму брат раптам неўзлюбіў яго, пачаў выжываць.

— Хворы я, кашляю дзень і ноч, і каму гэта даспадобы, — выказвае ён здагадку, шукаючы адказу на тое, чаму раптам стаў чужы роднаму брату.

— Вы — ветэран, схадзілі б да ўлад, то мо вам далі б якую аднапакаёўку, — я рады, што магу нешта параіць Івану Андрэевічу, магу падтрымаць яго хоць добрым словам.

— Хадзіў, а як жа, — Іван Андрэевіч глядзіць сабе пад ногі, пакручвае ў руках кавеньку. — Адзінокі я, дый прапісаны ў брата зусім мала, а каб стаць на ветэранскую чаргу на атрыманне жылля, трэба...

Ён замаўкае. Глядзіць на мяне доўгім, няміргаючым позіркам, і відно, што ён пакутуе ад болю, ад няпэўнасці ў сваім цяперашнім жыцці.

— От і ў цябе няма сваёй кватэры, — нарэшце выходзіць ён з задуму. — Куды ты пасля выпіскі? У дом інвалідаў?

Апошняе яго слова апякло мяне з галавы да ног. Упершыню я пачуў гэтае балючае слова ад палатнага доктара, які, не доўга думаючы, сказаў, што я, магчыма, застануся інвалідам. Я гатовы тады быў схапіць доктара за грудзі, трасянуць так, каб ён болей свайму языку волю не даваў. Я хацеў тады ў доктара спытаць: «Што вы такое гаворыце?! Вы думаеце, што гаворыце?!» Але я гэтага не зрабіў, я тады ледзь не заплакаў і падумаў: «Няўжо ён гаворыць праўду?» Тады мне ўпершыню зрабілася страшна за сябе, за сваю будучыню.

— Я — малады спецыяліст, быў размеркаваны на работу з правам атрымання жылля, — не пагаджаюся я з Іванам Андрэевічам.

— Права... Хто надта паглядзіць на гэтае тваё права? Ведаеш, колькі бескватэрных людзей? Мора і трошкі больш. У многіх сем'і, малыя дзеці. А мы з табою адзінокія. Каму патрэбны адзінокія? Самае лепшае, што нам могуць прапанаваць, — гэта месца ў доме інвалідаў.

На вачах у Івана Андрэевіча закруцілася няпрошаная сляза, і ён не хавае гэтага свайго настрою, выцірае гэтую слязу сваёй шурпатай, з мазалямі, даланёй.

— Брат гразіцца, што выправіць мяне ў дом інвалідаў. Не крыўдна хіба гэта мне? Я свой век — з адбойным малатком, а мяне за гэта ў дом інвалідаў.

Паступова ён спакайнее і, паспакайнеўшы, разважае па-іншаму:

— Я ўжо згодзен і на дом інвалідаў. Далі б толькі асобны пакой, дзе б я мог дажываць сваю старасць.

Праз колькі дзён пасля гэтай размовы з Іванам Андрэевічам да мяне ў палату наведаўся мой шэф і, не паспеўшы зачыніць за сабою дзверы, ашаламаніў нечаканай весткай:

— Віншую! Вось — атрымай ордэр! Думаеш, проста было выбіць кватэру? Але я выбіў, я ўсё зрабіў, толькі ты давай хутчэй папраўляйся, станавіся на ногі і ажаніся. А чаму б і не? Калі ёсць свая кватэра...

Калі шэф пайшоў, я зірнуў на Івана Андрэевіча: ён усё бачыў і чуў, але чаму маўчыць? У яго дрыжэлі рукі, дрыжэлі вусны, ён сіліўся нешта сказаць, але да таго ўзрушыўся, што нейкі момант не мог саўладаць з сабой. Але ўсё ж саўладаў, і не то жартам, не то ўсур'ёз прамовіў:

— Бяры мяне на кватэру, я дагледжу цябе не горш за любую жанчыну. Думаеш, не? Гатаваць я ўмею, галодны ты ў мяне не будзеш. Купім пральную машыну, пыласос — будзе парадак і чысціня.

Ён замоўк, зайздросліва паглядаў на мяне сваім добрым позіркам і быў, здавалася, нават шчаслівы ад таго, што сёння ў мяне не дзень, а сапраўднае свята.

Трохі памаўчаўшы, Іван Андрэевіч адрокся ад сваіх жа слоў, сказаных якую хвіліну назад:

— Ат, гавару я што папала. Малады ты, табе трэба вартая дзяўчына. Хіба можна ў твае гады без дзяўчыны? Толькі не бяры прыгажуню легкадумную, якую-небудзь з ветрам матыліцу — яна цябе давядзе, жыць не захочаш. Вазьмі простую, з сяла, якая не баіцца чорнай работы, умее гаспадарыць...

Сёння Іван Андрэевіч, як і кожны дзень да гэтага, устаў завідна. Узяў у рукі кавеньку, каля майго ложка зноў затрымаўся.

— Не спіш? — пытаецца ціха, каб не разбудзіць іншых хворых. — І я не сплю. Гэта, мабыць, ад думак. Хутка і табе, і мне выпісвацца.

Болей ён не сказаў нічога, падаўся з палаты на двор, у бальнічны сквер. У такі час у двары спакойна, душа Івана Андрэевіча адпачывае, але ці радуецца? Куды яму з бальніцы ісці? Вяртацца да брата, з якім ні міру, ні рады?

Я пазіраў услед Івану Андрэевічу, думаў пра яго, пра сябе. Думаў: выпішуся, то абавязкова запрашу яго да сябе ў госці. Хай пабачыць маю кватэру, пажыве, нагасцюецца няхай столькі, колькі яму захочацца.



*Ніна Маеўская нарадзілася ў горадзе Любань. Скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Працавала ў газетах і часопісах, загадчыкам рэдакцыі выдавецтва «Юнацтва». Аўтар кніг прозы «Агата», «Надзеевіч», «Такая позняя вясна», «Холад доннай вады», «Трывожна шумяць ясакары» і інш. Працуе і ў жанры паэзіі.*

Ніна МАЕЎСКАЯ

# «КРАІНА, ДЗЕ ЦВІЦЕ МАЯ ЛЮБОЎ...»

* * *

Як хочацца мне, бы ў дзяцінстве,
Хадзіць па задумных барах,
З прыродаю жыць у адзінстве,
Не ведаць пра боязь і страх.

Сачыць, як вядзе курапатка
Ў чарнічнік няўклюд-куранят,
Вавёрка ляціць без аглядкі —
Дзесь блізка арэхавы спрат.

Схіліцца да ціхай крыніцы
І рукі, і твар абрасіць,
Крыштальнай напіцца вадзіцы
І думаць: як хораша жыць!

* * *

Ды будзе ўсё тое забыта...
Не трэба болей мне вяртацца.
На бераг рэчкі, дзе ракіты
Шапочуць, бы завуць купацца.

Дзяцінства — мройны прывід Раю.
Я ў гульнях не змагла б забыцца.
Ды па начах, калі не спіцца,
Туды, бывае, зазіраю.

Стаю ля рэчанькі малечай
І светлай радасці чакаю.
Спамін душу, аднак, не лечыць,
Пякучы боль яе сцінае.

Аерны прысмак даўняй драмы —
Дзяцінства горкага без мамы.

* * *

Пяшчоты вашай і цяпла
Мне, як паветра, не хапала.
Я ў віртуальны свет сышла
І там як быццам бы прапала.

Я ў віртуальны свет сышла,
Бо шчырых слоў ад вас не чула,
Ды і сама тады была —
Глухой, зацятай і нячулай.

Сярод будзённай сумятні
Я рэдка зазірала ўдалеч.
І беглі, йшлі пустыя дні,
І следу нат не пакідалі.

Я ў віртуальны свет сышла.
Я пэўна знала — ён мажлівы.
Там поўна сонца і святла.
І я змагу пабыць шчаслівай.

Мне ўсё здалося ў навіну.
Інтуітыўна я, памалу
Спасцігла ісціну адну —
Знайшла ўсё ж тое, што шукала.

Чытаў мне вершы там паэт.
Душу натхненне хвалявала.
І нараджаўся мой санет,
Які ля сэрца я хавала.

І марай музыка плыла
Адтуль, з высокага блакіту,
І я свой голас набыла —
Гучаў мой верш, нібы малітва.

* * *

Сонейка, сонца,
Скрозь хмару прабілася.
Мілае сонца,
Табе я здзівілася.
Што я сумую,
Як ты здагадалася?
Хмары пагрозлівай
Не напужалася.
Яе разарала ты
Пратуберанцамі,
Мяне ўратавала
Самотнаю раніцай.

* * *

Рвуся ў нябёсы, ды крыл не стае.
Плачуць са мною Анёлы мае.

Раяць яны — пажыві на зямлі,
Мы з табой будзем заўжды, як былі.

Сэрца тваё калыханкі пяе,
Дзетак мілуюць і крылы твае.

Мы прылятаць будзем самі сюды.
Ведай — Анёлы так робяць заўжды.

Зведала здраду я... Мой недавер
Гэтым Анёлам відочны цяпер.

Той, хто намерваўся мне памагчы, —
Глянула я, — ён на іншым плячы.

Іншым дыктуе ён думкі мае.
Сумна, што крылаў пакуль не стае.

* * *

Нікога ніхто не пытае:
Гатовы ты ўжо ці чакаць?
Знянацку лісток ападае.
А дрэвы... А людзі — маўчаць.

Бязгучнымі робяцца гукі,
Гаворка — зацішней вады.
Натруджана зложаны рукі,
Заціхлыя ўжо назаўжды.

Іх працу мо хтосьці згадае,
Ды зноўку жыцця не пачаць.
Заўчасна лісток ападае,
А гонкія дрэвы маўчаць.

Ніхто не прамовіць ні слова.
Расінка, ці кропля... Сляза?
Растуць маладыя дубровы.
А лісце... Яно драбяза.

* * *

*Памяці Пятра Сотнікава*

Цудоўны жыў чалавек сярод нас —
Добры, вясёлы і вельмі шчыры.
Ах, дружа наш мілы, Вы так не ў час
Выправіліся ў самотны вырай.
Вярнуліся птушкі ў нашы сады,
Квецень якіх — зацьміла аблокі.
Не думалі мы, што Вы — назаўжды...
Верце — боль наш бязмерна глыбокі.
Вы зведалі шмат у гэтым жыцці.
З песняй і жартам лёгка дружылі,
Бо гэтак смялей па сцежках ісці,
Цяжкі жыццёвы бальшак асільваць.
Вы зычылі людзям толькі дабро,
Беды іншых сваімі лічылі.
За што ж, скажыце, ў нябесным бюро
Позву заўчасную Вам уручылі?
Як жа нам страту такую трываць?
Розум працівіцца — немагчыма.
Сябры і родныя скрушна маўчаць
З поўнымі горычных слёз вачыма.
Усё наўкруг ацішэла балесна.
Каб Вы ведалі, як жа нам горка.
Адно цешыць — у царстве нябесным
Новая ўзыдзе — яркая Вашая зорка.

* * *

*А. М.*

Няхай святкуе і пяе Парыж
У россыпах фантанаў і агнёў,
Чаруюць Елісейскія палі, —
Я ўсё шукаю праведную ціш
Той, блізкай аж да болю мне зямлі.
Краіны, дзе цвіце мая любоў
Пад спеў і плач чуллівых жаўрукоў,
Пад плёскат хваль рачулкі, у якой
Я змыла першы цяжкі неспакой
І дзе ад бедаў розных і трывог
Знаходзіла надзейны абярог.

Пакуль святкуе і шуміць Парыж,
Выплёскваючы музыку з дамоў
І воклічы вясёлых гараджан,
Ты, ведаю, сумуеш і маўчыш,
А ў сэрцы рой нявыказаных слоў.
Цябе ўкрывае маіх дум туман...
Павер, што для мяне нібыта зман
Чужая весялосць і прыгажосць,
Я там, як ты, — заезджы буду госць.
Скажу адно, і — праўда будзе ў тым:
Пакуль не прапяе мне херувім,
Хачу, Радзіма, госцем быць — тваім.

Уладзімір ЯГОЎДЗІК



Уладзімір Ягоўдзік нарадзіўся ў 1956 годзе ў в. Кастровічы Слонімскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў карэспандэнтам Брэсцкай абласной газеты «Заря», рэдактарам Брэсцкай абласной студыі тэлебачання, у газеце «Літаратура і мастацтва», рэдактарам газеты «Дзеці і мы». Выдаў кнігі прозы «Стронга», «Вочы Начніцы», «Прыручэнне птушкі», зборнік казак «Сонейка, свяці!» і іншыя.

# СІНІ КАЛОДЗЕЖ

## *Сто беларускіх легенд і паданняў*

***Пераказаў Уладзімір ЯГОЎДЗІК***

### ЗАМЕСТ ПРАДМОВЫ

***Гэта дзівосны скарб. Няма ў ім золата-срэбра, адны праўдзівыя алмазы. Іх назбіралі ў XIX і XX стагоддзях сярод беларускіх сялян фалькларысты Еўдакім Раманаў, Міхал Федароўскі, Павел Шэйн, Павел Дземідовіч, Адам Ганоры Кіркор, Павел Шпілеўскі, Аляксандр Сержпутоўскі, Сяргей Сахараў, Вацлаў Ластоўскі, Майсей Грынблат, Мікола Гайдук, Уладзімір Васілевіч і Лія Салавей.***

***Я паспрабаваў адшліфаваць гэтыя народныя алмазы ў брыльянты, якія склалі зборнікі легенд і паданняў «Заклятыя скарбы» (1992) і «Вужовы кароль» (1996). Аднак з цягам часу мае брыльянты непрыкметна ператварыліся ў ледзяшы, зашморгалі насамі і наплакалі літаратурную лужыну.***

***Ад роспачы я ледзь не расплыўся слязамі, як гэта зрабілі князь Рыдан і яго сыны Дняпро і Сож, але ў апошні момант перадумаў. Паехаў на Магілёўшчыну, у Слаўгарадскі раён, да Сіняга калодзежа, каб прамыць вочы. Спыніўся на зялёным беражку і ўбачыў на дне карагод зоркак-весялінак. Не разгубіўся я – зачарпнуў крынічнай вады, а заадно паўнюткае вядро зорак. Сам удосталь напіўся і вам прынёс. Калі ласка, частуйцеся на здароўе! Сёння, заўтра – заўсёды. І не забывайцеся:***

***«НЯМА СМАЧНЕЙШАЙ ВАДЗІЦЫ, ЧЫМ З РОДНАЙ КРЫНІЦЫ!»***

**1. Неба**

Неба зроблена з сямі столак ці пластоў. Мы бачым толькі першае неба, а Бог жыве на сёмым. Аніхто з людзей не ведае, з чаго зроблена неба.

**2. Бурбалка**

Спачатку зямлі не было, усюды стаяла мора. Ішоў па моры Бог, а насустрач яму — бурбалка.

— Спыніся! — загадаў Бог.

Бурбалка спынілася.

— Лопні!

Бурбалка лопнула, і адтуль выскачыў чорт.

— Што табе трэба?

— Прынясі мне пяску!

Чорт боўтнуўся на марское дно і дастаў дзве жмені пяску. Адну жменю аддаў Богу, а другую схаваў — паклаў сабе за шчаку.

— Няхай паўстане зямля! — шпурнуў Бог пясок на вецер. — Няхай шумяць дрэвы і расце трава!

Падхапіў вецер пясчынкі, і там, дзе яны ўпалі, зазелянела трава, зашумелі вершалінамі дрэвы. У чорта за шчакой таксама вырасла дрэва. Пачаў ён хутчэй выплёўваць пясок. Куды чорт плюнуў, там узніклі балоты.

**3. Зоркі**

Зорак столькі на небе, колькі людзей на свеце. Народзіцца чалавек — анёлы запальваюць новую зорку; а калі хтосьці памрэ, яго зорка падае на зямлю.

Зоркі людзей, якія жывуць па-божаму, свецяць ясна і прыгожа. А зоркі грэшнікаў і ліхадзеяў, наадварот, ледзь-ледзь мігцяць, нібыта плачуць.

Пагаслыя зоркі часам трапляюцца на зямлі. Яны падобныя на шэрыя палявыя каменьчыкі, але не кожнаму дадзена ўбачыць іх дзівоснае хараство.

**4. Сонца**

Калі стварыўся свет, Бог паслаў сонца, каб яно свяціла і на добрае, і на ліхое. А сонца сказала, што не хоча служыць ліхому.

Бог раззлаваўся за гэта і загадаў сонцу свяціць толькі днём, а ноччу, калі гуляюць ліхія, не паказвацца на неба.

**5. Месяц**

Былі ў бацькі два сыны. Абрыдла ім сялянская работа, згаварыліся яны пашукаць сабе лёгкага хлеба. На скрыжаванні дарог старэйшы брат сказаў:

— Далей пойдзем паасобку. Ты знойдзеш сваё шчасце, а я — сваё.

— Праўду кажаш, — пагадзіўся малодшы.

Як дамовіліся, так і зрабілі. Адзін павярнуў направа, а другі — налева. Старэйшы брат спыніўся ў суседнім царстве, наняўся служыць багатаму пану. Аднойчы паехаў гэты пан у царскі палац на баль і ўзяў з сабою слугу. Увішны хлапчына спадабаўся цару, і ён забраў яго да сябе. З таго дня старэйшы брат зажыў прыпяваючы, хіба птушынага малака яму не хапала.

А малодшы брат хадзіў па свеце і не мог знайсці сваё шчасце. Ён бачыў, што ўсюды золата-срэбра блішчыць людскімі слязамі. І вось дарога прывяла яго ў царства, дзе служыў старэйшы брат. Пачаў малодшы брат вучыць, як праўдзіва жыць, каб не было бяды-гора. Далёка пакацілася слава пра мудрага падарожніка.

— Гэта страшны разбойнік! — данёс цару старэйшы брат, які не пазнаў роднага брата. — Ён бунтуе людзей!

Цар загадаў пакараць бунтара. Сабраўшы хеўру, старэйшы брат забіў мудраца, а сам кінуўся наўцёкі. У лесе ён азірнуўся назад, а за ім — бяжыць Месяц, быццам хоча здагнаць. Жахнуўся брат-забойца і датуль уцякаў, пакуль не зваліўся з ног. Зваліўся і ўбачыў, як на Месяцы брат забівае брата. Здагадаўся нягоднік, каго загубіў сваімі рукамі, і ад страху сканаў.

А на Месяцы і цяпер відаць, як брат забівае брата.

**6. Агонь**

Першы чалавек жыў у райскім садзе, а калі саграшыў, Бог яго пакараў — прагнаў на зямлю. На зямлі акурат стаяла зіма. Каб выгнаннік не замёрз, Бог прынёс яму два кавалкі дрэва і загадаў церці адно аб адно. Так з’явіўся агонь, які даў чалавеку святло і цяпло.

Калі чалавек грэўся, да вогнішча падкраўся чорт. Ён схапіў вугольчык і шпурнуў у сухое галлё. У неба шуганула вялікае полымя. Нячысты скочыў туды, каб пагрэцца, і ўвесь абсмаліўся, толькі зубы засталіся белыя.

Потым чорт занёс агонь у пекла, каб смажыць грэшнікаў. З таго часу агонь служыць людзям, але часам прыносіць нам шмат бяды і гора.

**7. Пекла**

Пекла — гэта вялізная гара на краі свету. Здалёк чуваць, як енчаць там грэшнікі. Чэрці валакуць туды смалу, ажно клубіцца чорны дым.

Усярэдзіне гары сядзіць Люцыпар, прыкуты на дванаццаць ланцугоў. Вакол яго стаяць катлы, пад якімі гарыць агонь, а зверху льецца смала. У гэтых катлах пакутуюць грэшныя душы каралёў і цароў, міністраў і паноў, ксяндзоў і папоў і ўсіх астатніх прайдзісветаў, якія дурылі простых людзей. Затое пасля смерці яны нюхнуць, па чым фунт ліха!

У пекле завіхаюцца мужыкі з сякерамі. Сякуць на кавалкі смалу і пільнуюць, каб пад катламі не патух агонь.

**8. Юр’я — апякун коней**

Паклікаў Бог на край свету апосталаў, а заадно — свойскую жыўнасць. Усе прыйшлі, нават чорт заявіўся з пекла. І кожны атрымаў ад Госпада харч, які найбольш яму смакаваў. Хітры чорт выбраў авёс, каб уладарыць над коньмі. А святому Юр’ю дастаўся калючы асот, бо ён спазніўся на дзяльбу. Пачаў Юр’я жаліцца, прасіць сабе лепшы наедак.

— Вазьмі авёс, калі адбярэш у чорта, — сказаў Бог.

Юр’я не стаў марудзіць. Прымчаўся да нары, што вяла ў пекла, схаваўся за бухматым кустом. Неўзабаве паказаўся чорт. Ён бег напрасткі і паўтараў, каб не забыцца:

— Авёс! Авёс!

— Ату яго! — крыкнуў Юр’я.

Напалоханы чорт спыніўся, давай пляваццa:

— Цьфу на цябе, цьфу! Я забыўся, як завецца мой харч!

— Твой харч — асот! — падказаў Юр’я.

— Асот! Асот! — узрадаваўся чорт і шуснуў у пекла.

Потым Юр’я вярнуўся на край свету. Бог аддаў яму авёс і прызначыў апекуном над коньмі. На святога Юр’я пастухі ідуць у царкву, а гаспадары ў гэты дзень вараць аўсяны кісель.

**9. Ілья і Пятро**

Прызначыў Бог сваімі памочнікамі Ілью і Пятра. А там, дзе гаспадараць два падпанкі, не чакай ладу. Адзін пасылае дождж, а другі — пагоду. Плачуць хмары, не ведаюць, каму дагаджаць. Сыпануць яны дожджык — бяжыць Пятро.

— Цяпер сенакос! Навошта вы мочыце сена?

— Нам загадаў Ілья! — кажуць хмары.

— Я вам пакажу Ілью! — злуецца Пятро. — Ілья наробіць гнілля!

Потым схопіць мятлу, падмяце чысценька неба. А назаўтра зноў тарахціць на фурманцы Ілья, ажно зямля захлынаецца ад ліўня.

Жаляцца людзі Богу, просяць пагоду. Бог ушчувае Ілью, а той апраўдваецца, маўляў, шмат развялося чарцей, трэба іх прыстрашыць.

Таўкуцца хмары, як уюны ў рэшаце; на небе кіпіць, быццам у вялізным гаршку; маланка бліскае, грыміць пярун.

— Го-го-го! Мацней лупі яго! — рагоча Ілья. — От так, от так... Го-го-го! У карак яму, у карак! Так-так-так! Го-го-го!..

Нацешыцца Ілья і спяшаецца ў госці да сонца. Пятро тым часам не марудзіць — падмятае неба, сушыць зямлю. Нарэшце прыходзіць пара сеяць жыта. Бядуюць сяляне: змарнуецца зерне без дожджыку. Клічуць яны Ілью, а ён сваволіць з сонцам і не думае вяртацца.

Аднойчы Ілья і Пятро паспрачаліся, каго з іх шануюць больш. Убачылі яны ў полі селяніна, які сеяў грэчку.

— Памагай Бог! — прывітаўся Пятро.

— І табе няхай памагае, — адказаў грэчкасей.

— Скажы, чалавеча, хто лепшы: Пятро ці Ілья?

— А Бог яго ведае! — паціснуў плячамі селянін. — Мо Ілья, а мо Пятро...

— Ты не хітры, а кажы як ёсць! — зазлаваў Ілья.

— Гэтыя святы мы аднолькава любім.

— А якое больш? — дапытваецца Пятро.

— Бадай, Пятра-Паўла, — прызнаўся грэчкасей.

— Без дажджу на тваім полі зусім не зародзіць! — прыгразіў Ілья.

— Не бойся, чалавеча, — засмяяўся Пятро. — І ў мяне знойдзецца дожджык.

— Давай дамовімся, — прапанаваў Ілья. — Той падавіцца, хто першы адкусіць аладку з гэтай грэчкі.

Пятро не стаў адмаўляцца — пагадзіўся. Кажуць, лецейка выдалася на славу. Дзень у дзень стаяла пагода, а ноччу церусіў цёплы дожджык. Здаецца, пасадзі ў полі дзіця — яно само вырасце. Селянін скасіў грэчку, намалоў шмат мукі. Жонка напякла свежых аладкаў. Селі яны вячэраць — заходзяць Ілья і Пятро.

— Калі ласка, паешце аладак! — запрасіла гасцей гаспадыня. — Надта грэчка сёлета зарадзіла.

Згаладнелы Ілья схапіў хутчэй аладку. І толькі адкусіў — адразу падавіўся. Потым упомніў, што сам пракляў першую аладку, пачаў прасіць у гаспадароў прабачэння. З таго часу Ілья спрыяе людзям, нават у сенакосную пару. А вось Пятро зусім аглух ад старасці.

— Пасылай людзям дождж, калі цябе просяць! — кажа яму Бог.

А Пятро не дачуе і пасылае дождж, калі косяць.

**10. Саламяны плот**

Даўней людзі наперад зналі, калі забярэ іх смерць. А цяпер, акрамя Бога, нікому гэта невядома.

Настаў час паміраць аднаму гаспадару. Зірнуў ён у вакно, — у гародзе грабуцца

куры. Прынёс гаспадар сноп жыта і пачаў гарадзіць плот. А па вёсцы якраз ішоў Бог. Спыніўся ён і пытаецца:

— Няўжо салома пастаіць?

— Ат, на мой век хопіць! — махнуў рукой гаспадар. — Усё роўна я заўтра памру...

Пачуўшы гэткі адказ, Бог раззлаваўся і пастанавіў, каб людзі не зналі, калі прыйдзе смерць. А той чалавек, што гарадзіў саламяны плот, сто гадоў яшчэ пражыў.

**11. Адкуль на свеце ліха**

Малоў парабак муку, а жорны шэпчуць:

— Там лепш! Там лепш!..

Наняўся ён служыць у суседнюю вёску. Новы гаспадар таксама паслаў парабка малоць муку. Круціць хлапчына жорны, а жорны адно і тое паўтараюць:

— Як і там, так і тут! Як і там, так і тут!..

— Усюды ліха! — плюнуў ад злосці парабак.

— Матай на вус, што я табе раскажу, — пачуўшы гэта, засмяяўся гаспадар. — Спачатку ні паноў не было, ні мужыкоў. Пачаў Бог вучыць людзей, як трэба праўдзіва жыць на свеце.

«Аддай нам уладу і адчапіся!» — адказалі яму людзі.

«Няхай тады самі думаюць, калі пачнецца ліха!» — пакрыўдзіўся Бог і вярнуўся на неба.

Убачыў шатан, што Гасподзь пакінуў зямлю, і пачаў намаўляць дужэйшых запрыгоніць слабейшых. Спусціліся з неба анёлы, раяць слабейшым не слухацца паноў, бо перад Богам усе роўныя. Ад гэтага стала яшчэ горш. Паны прыдумалі для беднякоў астрогі. Вярнуліся анёлы на неба, каб параіцца з Богам, што рабіць далей. А паны паміж сабой счапіліся. Грызуцца яны, б’юцца, а ў бедных мужыкоў чубы трасуцца, ілбы трашчаць ды сківіцы вішчаць.

Паслаў Бог на зямлю архангелаў, каб вярнуць парадак. Яны з добрым слаўцом, а ліха — з дубцом; яны Божую праўду ладзяць, а паны рагочуць ды чэрава гладзяць. Гаруюць мужыкі, бо жыццё іхняе падобнае на горбу камянёў. Вялікія камяні на пясок расцерлі малыя, што ляжаць пад нізам. А зверху ўсіх цісне вялізны валун. Труцца камяні бакамі, усё ніжэй асядае горба і хутка зусім разваліцца. Дужэйшыя людзі забралі ў бедных багацце і забыліся, што золатам ад смерці не адкупішся.

А потым сталася так, як захацеў Бог. Нарадзіўся і пачаў расці ясны розум. Спачатку — вельмі паціху. Чалавек пражыве век, а розум толькі на макавае зернятка падрасце. Жыццё — нібы вада ў рацэ: адны людзі нараджаюцца, другія паміраюць. І розум не спыняецца, таксама расце. І калісьці ён бліснe, як сонечны промень. Тады ўсе зразумеюць, адкуль на свеце ліха.

**12. Ад каго доля**

Кожнаму чалавеку пры нараджэнні даецца доля. Калі трапіць благая доля, працуй хоць з раніцы да вечара, усё роўна пампэш бедаком. А як выпадзе шчаслівая доля — ніколі не мецьмеш клопату.

Жылі ў адной вёсцы муж і жонка. І не было ў іх дзетак. Гаспадар пойдзе на паляванне — цэлы дзень цягаецца па лесе. Прыцемкамі вернецца дахаты, павячэрае ды заваліцца спаць. А жонка справіць свае клопаты, прысядзе да вакна і глядзіць на вуліцу.

Аднойчы насупраць весніц спыніўся падарожнік і папрасіў вады. Кабета прынесла бярозавіку.

— Гаспадынька, чаму ты маркотная? — спытаўся падарожнік.

— А чаго мне радавацца, — уздыхнула кабета, — калі Бог не даў нам дзетак...

— Дапі гэты бярозавік, і будуць у вас дзеці, — сказаў падарожнік і развітаўся.

Гаспадыня здагадалася, што гэта прыходзіў Гасподзь, да апошняй кропелькі дапіла бярозавік. Праз пару тыдняў яна адчула, што народзіцца дзіцятка. А самой не церпіцца ведаць: сыночак ці дачушка? Суседкі ёй парадзілі, што трэба зрабіць... Выпіла яна чарадзейныя зёлкі і толькі заснула — пакінула сваё цела. Паднялася над хатай і паляцела да ракі, у якой купаліся тры прыгажуні. Выскачылі яны галюткія на бераг і давай плесці вянкі.

Першая спляла вянок з асоту і сказала:

— Я стану доляй няшчаснага бедака.

Другая спляла вянок з каліны і сказала:

— Мая доля — доля рыбака і паляўнічага.

А трэцяя спляла вянок з жытнёвых каласоў і палявых кветак.

— А я — шчаслівая доля гаспадара.

«Няхай такая доля выпадзе майму дзіцятку!» — падумала кабета.

Надзелі прыгажуні вянкі і пабеглі па лузе. Гойсалі яны, гойсалі, затым спыніліся каля кабеты. І сталі раіцца паміж сабой:

— Яна хутка народзіць сыночка. Хто дасць яму долю?

Адна кажа — мая чарга; другая ёй пярэчыць — мая чарга; а трэцяя прыгажуня вырвала з вянка валошку і падкінула ў неба.

— Тая з нас падорыць, хто зловіць кветку!

Доля гаспадара апярэдзіла сяброўак, схапіла валошку і заткнула сабе ў валасы. Раптам навокал усё закруцілася, замітусілася... Прыгажуні немаведама куды зніклі, а кабета апынулася дома. Толькі яна вярнулася ў сваё цела — нарадзіла прыгожага хлопчыка. Кажуць, другога такога шчаслівчыка больш не было на свеце.

**13. Лопаўшчына**

Даўней дзеці адвозілі старых бацькоў на галодную смерць у лес. У Лопаўшчыну — так гэта называлася. У адной вёсцы жыў гаспадар. І былі ў яго два сыны, якія вельмі шанавалі бацьку. Яны дамовіліся Лопаўшчыну адмяніць. Схавалі бацьку ў пограб і шчыра яго даглядалі.

А потым здарылася бяда: зусім не ўрадзіла жыта. Нават жменькі зярнят не засталося, каб пасеяць вясной. Прыйшлі сыны да бацькі і пытаюцца:

— Тата, што рабіць?

— Трэба поле араць! — пачулі яны ў адказ.

Узаралі сыны поле, зноў прыйшлі да бацькі.

— А цяпер здзірайце з хаты страху, — параіў стары. — Пасцяліце салому ў барозны і прысыпце зямлёй.

Сыны так і зрабілі. Хутка мінула лета, настала жніво. Па ўсёй ваколіцы — ніводнага каласочка не знайсці, а на полі братоў — жыта сцяною стаіць.

— Як вы даўмеліся, што ў страсе ёсць зерне? — дапытваюцца суседзі.

— Бацька нас навучыў! — прызналіся хлопцы.

— А дзе ваш бацька?

— У пограбе сядзіць.

Не паверылі ім суседзі, пакуль не ўбачылі бацьку.

— Ці праўда, што ты навучыў, як жыта пасеяць?

— Я навучыў, — пацвердзіў стары.

З таго часу дзеці не адвозяць бацькоў у Лопаўшчыну, а кормяць іх да самай смерці.

**14. Адкуль паны**

Сустрэліся ў карчме мужык і пан. Слова за слова — сталі спрачацца, як яны з'явіліся на свет.

— Мужыкоў Бог зляпіў з гліны, — сказаў мужык, — і паставіў на двор сушыцца. А паноў вылепіў з пшанічнай мукі і пасыпаў цукрам...

— Ага! — цешыцца пан. — Хіба ты мне раўня?

— Бег па вуліцы сабака, — расказвае далей мужык. — Абнюхаў мужыкоў — глінай пахне. Падняў лапу, пырснуў пару разоў...

Пачуўшы гэта, пан ледзь не памёр ад смеху. Пачакаў мужык, пакуль ён супакоіцца, і зноў правіць:

— Падбег сабака да пшанічных паноў. Панюхаў — смачным пахне, і з'еў усіх да аднаго. Прыходзіць Бог — няма паноў, а паблізу ляжыць сабака, быццам гара. Схапіў Бог ладны кій і давай перыць сабаку. Задраў цюцька хвост, ды як пасыплюцца з яго паны! Адно паспявай лічыць. І ўсе такія важныя, пузатыя...

— Цыц, дурань! — закрычаў пан.

А мужык у адказ:

— Калі сабака на мяне пырснуў, ты рагатаў. Дык цяпер з сябе пасмейся!

**15. Адкуль беларусы**

Спачатку зямлі не было, усюды стаяла мёртвая вада. Пасярэдзіне вады тырчаў вялікі камень. Раптам пачалася навальніца, у камень сталі цаляць маланкі. Ад вогненных стрэл пырснулі тры іскрынкі — белая, жоўтая і чырвоная. Яны ўпалі ў ваду, і навалілася цемра.

Калі навальніца мінула, свет перамяніўся. Вада адступіла, паднялася зямля, завяліся рыбы, птушкі і звяры. Потым з'явіўся чалавек, якога звалі Бай. Ніхто не ведае, адкуль ён прыйшоў.

Міналі гады, чалавек завёў свае парадкі. Знайшоў каханую жонку, пабудаваў сядзібу, пагадаваў дзяцей. Перад смерцю Бай падзяліў паміж дзяцей усю маёмасць. Толькі сын Белаполь застаўся без спадчыны. Ён якраз адлучыўся на паляванне і ўзяў з сабою любімых бацькавых сабак — Стаўры і Гаўры.

Калі Белаполь вярнуўся дахаты, браты сказалі:

— Бацька пакінуў табе сабак, але папрасіў адпусціць на волю. Колькі за дзень яны прабягуць зямлі, уся гэтая зямля належыць табе.

Злавіў Белаполь дзве птушкі. Адну з паўднёвага мора, а другую — з мора заходняга. Падкінуў ён першую птушку і крыкнуў:

— Лаві яе, Гаўры!

А потым — падкінуў другую птушку:

— Хапай яе, Стаўры!

Пабеглі сабакі за птушкамі — ажно пыл закурыўся. А ўслед за імі пакаціліся дзве вялікія ракі. На захад — Дзвіна, а на поўдзень — Дняпро. Паміж гэтых рэк Белаполь заснаваў сваю краіну. Ад Белаполя размножыліся людзі, якіх завуць беларусамі. Яны жывуць паміж Дзвіной і Дняпром, зямельку аруць і сеюць жыта.

**16. Адкуль беларуская песня**

Даўным-даўно, а можа, нядаўна, ішлі па Беларусі падарожнікі. Стаміліся яны ў дарозе — вырашылі адпачыць. Прыселі на ўзбочыне і раптам пачулі: хтосьці спявае. Ды так прыгожа, ажно за сэрца бярэ.

— Мабыць, жаўрук у небе звініць, — сказаў адзін падарожнік.

— Не, — запярэчыў яму сябар, — так гудуць вершаліны хвояў.

А трэці падарожнік прыклаў да зямлі вуха і прамовіў:

— Хлопцы, гэта наша зямля спявае!

**17. Векавечная мяжа**

Асілак Радар быў кавалём, а потым людзі назвалі яго князем. На Ляшскай зямлі тады правіў каралевіч Лях, якому служыў цмок Крагавей. Панадзіўся гэты ненажэра лётаць у Беларусь жыўцом глытаць людзей. Князь Радар вырашыў пакараць ліхадзея. Спілаваўшы стары дуб, ён зрабіў вялізную саху і завалок у чыстае поле. А сам з дружынай схаваўся за жалезнымі дзвярамі ў каменнай вежы.

Назаўтра прыляцеў Крагавей, каб нажэрціся чалавечыны.

— Я табе сяду на язык, — крыкнуў Радар, — калі ты праліжаш дзверы!

— Хай будзе па-твойму! — пагадзіўся цмок.

Лізнуў ён адзін раз, лізнуў другі раз, а за трэцім разам — пралізаў жалезныя дзверы. Цапнуў Радар абцугамі паганага за язык і давай частаваць молатам. Пакуль цмок ачомаўся, дружыннікі запраглі яго ў саху. Убачыў Крагавей, што не вырвацца на волю, пачаў прасіць замірэння.

— Не, спачатку мяжу пракладзём паміж нашай і ляшскай зямлёй, — сказаў Радар, — а тады пабачым.

Хоць-няхоцькі Крагавей павалок саху. Першы тыдзень аралі яны ў полі. Другі тыдзень — аралі ў лесе. А на трэцім тыдні цмок спыніўся каля шырокай ракі.

— Гайда далей! — замахнуўся Радар молатам. — Бух у ваду!

Ад страху Крагавей кінуўся з берага ў рачную плынь і ледзь не ўтапіўся. Вырваўся ён з дубовай сахі і паляцеў без аглядкі ў Ляшскае каралеўства.

— Помні, Ляша, па Буг наша! — крыкнуў напаследак свайму гаспадару і знік у бяздоннай нары.

З таго часу след ад сахі, названы людзьмі Бухам, ці Бугам, на векі вечныя стаў мяжой паміж нашай і ляшскай зямлёй. А каменная вежа, дзе хаваўся князь Радар, і сёння стаіць паблізу ад Белавежскай пушчы ў горадзе Камянец.

**18. Пра пагоду**

Стварыў Бог зямлю і прылёг адпачыць, а ўсталяваць пагоду забыўся. Таму людзям спачатку жылося блага. То цэлы месяц, як з вядра, ліў дождж, то два месяцы запар стаяла спёка. На полі зусім не радзіла — усё вымакала ці засыхала.

Прыйшоў у вёску сляпы жабрак, які збіраў падаянку. Гаспадар паклаў у торбу акраец хлеба і сказаў:

— Старча, старча, памаліся, каб свяціла сонца! Я цэлую раніцу касіў, няхай сена падсохне.

— Добра, чалавеча, памалюся, — паабяцаў жабрак.

А гаспадыня з суседняй хаты дала кавалак сала і папрасіла:

— Старча, старча, памаліся, каб дождж пайшоў, бо агарод завяў.

— Добра, памалюся, — пачула яна ў адказ.

Сабраў жабрак падаянку, спыніўся за ваколіцай і маракуе:

«За што мне маліцца? Ці за сонца? Ці за дождж?..»

Думаў ён, думаў — нарэшце, прыдумаў. Перахрысціўся і прамовіў:

— Божа, няхай будзе і дождж, і пагода, абы людзям выгода!

Так яно і павялося: то сонейка свеціць, то дожджык ідзе. Усім дагадзіў сляпы жабрак.

**19. Возера Нарач**

Гэтую дзяўчыну звалі Нара. Яна была круглай сіратой, але затое найпершай прыгажуняй у ваколіцы. Нара пакахала рыбака Ача. Перашкодзіў іх шчасцю магнат-ліхадзей, які аддаў Ача ў жаўнеры. На развітанне юнак падарыў каханай чароўныя пацеркі і пакінуў родную старонку. А магнацкая дворня сілком прывяла красуню ў палац. Не захацела Нара цешыцца панскімі ласкамі, адразу ўцякла з палаца. Служкі

дагналі бяглячку, але яна моцна баранілася. Парваліся на дзявочай шыі чароўныя пацеркі, пырснулі блакітнымі кроплямі на зямлю. І там, дзе яны ўпалі, расхінуліся азёры. Найбліжэй упала самая буйная пацерка. Нара кінулася ў азёрнае прадонне — не аддала на здзек сваю дзявочую годнасць.

Потым у возеры з’явілася рагатае страшыдла, і з вёсак сталі знікаць маладыя красуні. Пойдзе дзяўчына купацца — дамоў не вяртаецца. Людзі казалі, што гэта прыблуда яе забраў на забаву. А ў купальскую ноч ён адпускаў сваіх паланянак на бераг. Беражніцы вадзілі карагоды і спявалі самотныя песні.

Сівым дзедам вярнуўся дахаты Ач. Пачуўшы пра гаротную долю Нары, ён блукаў каля возера і сустрэў беражніц у купальскую ноч. Над вадой, нібы туман, плылі іх тужлівыя песні.

— Нара-а-а!.. — паклікаў Ач каханую.

Ад берага да берага пакацілася рэха. А затым наляцела шалёная хваля і змыла беражніц у прадонне.

— Калі пацешыш мяне граннем, — зарагатала страшыдла, — тады ўбачыш сваю Нару!

Злавіў Ач рыбу-вугра, зрабіў сабе гудзёлку. Цэлы год ён іграў на беразе возера. І дагадзіў-такі прыблудзе, бо зноў убачыў паланянак. Заварожаны іх спевамі, Ач забыўся паклікаць каханую, але запомніў песні беражніц. Потым, вандруючы ад вёскі да вёскі, ён спяваў гэтыя песні людзям. З часам імёны закаханых Нары і Ача зліліся ў адно слова, якое стала назвай возера Нарач.

**20. Возера Свіцязь**

У месячную ноч з празрыстай вады Свіцязі даносіўся жаласны стогн. Каб разгадаць таямніцу, адзін багаты пан купіў невад і загадаў зрабіць новыя чоўны. У прызначаны дзень з мястэчка Цырын прыехаў святар, які адслужыў малебен.

Рыбакі выплылі ў чоўнах на сярэдзіну возера. Невад з шумам патануў у прадонні, не засталося ніводнага паплаўка. Потым хлопцы дружна ўзяліся за вяроўкі. Невад вяртаўся назад лёгка, быццам пусты. І раптам у сетцы паказалася прыгажуня з распушчанымі косамі. Ад страху рыбакі хацелі кінуцца ўплаў, але дзяўчына сказала ім ціхім голасам, падобным на звон ручаіны:

— Не бойцеся, у вашых жылах цячэ мая кроў! Таму я адкрыю вам таямніцу... Калісьці тут стаяў горад Свіцязь, якім валодаў мой бацька князь Туган. Аднойчы на Літву напаў рускі князь. Вялікага князя Мендаўга чакаў ганебны палон. Князь Туган сабраўся на дапамогу Наваградку. А перад тым, як ісці ў паход, ён спытаўся ў мяне: «Калі загіне дружына, хто абароніць родны горад?» — «Мне прысніўся Бог, ён заступіцца за нас...» — сказала я бацьку. У той раз вораг перамог, нашы бацькі і браты не вярнуліся... Чужацкія мячы загрукалі ў вароты Свіцязі. Усе як адна свіцязянкі пакляліся: «Лепей памерці дома, чым жыць у няволі!» І толькі мы пакляліся — на небе мільгануў дзівосны бляск, а зямля расхінулася. А потым хлынула вада, і на вуліцах горада разлілося возера...

Расказаўшы гэта, прыгажуня знікла з невада. Больш у Свіцязі яе не бачылі.

**21. Глотаўскае возера**

У канцы вуліцы жыла дзяўчына-сіраціна. Ні бацькоў яна не мела, ні радні. Сама галодная, а з кожным падзеліцца апошнім праснаком. Аднойчы ў вёску прыйшоў жабрак. Ніхто яго не пусціў начаваць, прывяціла бедная сіраціна. Павячэраў жабрак скарынкай хлеба, закінуў за спіну торбу і пайшоў у поле.

А жыта ў той час радзіла шчодра: у чалавечы рост наліваліся каласы. Вырваў жабрак адну сцябліну, але не змог падняць — такі цяжкі аказаўся колас. Пачаў ён

шморгаць зерне, не вырываючы сцяблін. Убачыўшы гэта, збегліся людзі. Плачуць, просяць пакінуць ім жыта. Нават кот з сабакам прыбеглі, бо ўсім цяжка без хлеба — і чалавеку, і жыўнасці. Злітасціўся жабрак, пакінуў на развод апошні колас, а сам пайшоў далей.

Мінула некалькі гадоў. Людзі сталі яшчэ больш злосныя, бо жыта здрабнела, радзіла слаба. Аднаго дня ў вёску зноў прыцягнуўся жабрак. Іваўся ад хаты да хаты — усюды яго адпрэчылі. Пераначаваўшы ў сіраціны, раніцай ён сказаў:

— Хадзем адсюль, бо тут жывуць кепскія людзі.

Сабрала дзяўчына свой няхітры скарб і пайшла за жабраком, не здагадваючыся, што гэта — сам Бог.

— Толькі не азірайся, — сказаў за ваколіцай Бог, — інакш будзе бяда!

Раптам у вёсцы пачаўся лямант. Дзяўчына не вытрывала: нагнулася, быццам падвязаць лапаць, паглядзела назад. І тут жа ператварылася ў валун.

На беразе Глотаўскага возера, куды правалілася вёска, да сённяшняга дня ляжыць камень, падобны на дзяўчыну, якая нібыта сагнулася ў паклоне.

**22. Нёман і Лоша**

З маленькай крыніцы, што бруілася з-пад каменя, выбег блакітнавокі асілак Нёман. Жыў ён сярод раздольных лугоў і пушчаў-лясоў. Нікога не крыўдзіў, усім спрыяў — і птушкам, і звярам, і людзям. А паблізу ад Нёмана няспешна цякла прыгажуня Лоша. Яна люляла ў цянёчку хвалі і цікавала за працавітым суседам.

Ніхто цяпер не скажа, чым прыглянулася Нёману суседка. Адно вядома: згулялі яны вяселле, на якое паклікалі ўсіх сваякоў — і Сулу, і Усу, і Уздзянку, і Шчару, і Зяльвянку. Пасля вяселля Нёман калыхаў на сваіх магутных грудзях рыбацкія чоўны, ганяў плыты, паіў у летнюю спёку прыбярэжныя лясы і лугі. Кожны дзень ён клікаў на дапамогу Лошу, а яна не хацела працаваць.

Абрыдла Нёману такое жыццё, падаўся ён цёмнай ноччу ўпрочкі ад жонкі-гультайкі. Уцякаў і хаваў сляды: то прабяжыць па лузе, то паверне ў поле, то затуліццаляснымі шатамі. І толькі тады, як мінуў Забалоцце, паімчаў напрасткі да мора.

Прачнулася раніцай Лоша — няма побач Нёмана. Кінулася лянівіца шукаць мужа. Бегла яна, бегла — выбілася з сіл, стала клікаць сяброўак. Ніводная не адгукнулася: ні Пціч, ні Бярэзіна, ні Свіслач... Толькі рэчка Выня пашкадавала пакінутую Лошу. Выбеглі яны ўдзвюх да вёскі Пясочнае і ўбачылі: пракладвае Нёман дарогу да сіняга мора. Заплакала Лоша, кінулася ў абдымкі каханаму, бо зразумела: калі застанецца адна, зусім перасохне. Пачала дапамагаць мужу ў нялёгкай рабоце.

З таго часу Нёман бяжыць да сіняга мора, але не забываецца пра сваю родную старонку. Зрэдку ён вяртаецца вялікай вадой да матулі-крынічкі, што бруіцца з-пад каменя.

**23. Дняпро і Сож**

Сярод цёмных бароў, на крутой гары, жыў князь Рыдан. Шмат багацця ён меў, а найвялікшым яго скарбам была замкнутая на дванаццаць замкоў, схаваная за дванаццаццю дзвярамі залатая карона, аздобленая камянямі-самацветамі. Калі Рыдан надзяваў гэтую карону сабе на галаву, ноч рабілася днём, а зіма ператваралася ў лета.

Суседнія магнаты, якія зайздросцілі Рыдану, папрасілі варажбітоў прыдумаць, як залезці ў скарбец. Тры дні і тры ночы блукалі варажбіты па лясных нетрах, пакуль знайшлі разрыў-траву. Прытуліш разрыў-траву да замка — замок упадзе; дакранешся да дзвярэй — і дзверы адчыняцца. А яшчэ варажбіты нарвалі ў лесе сон-травы.

Цёмнай ноччу зладзеі пранiклi ў Рыданаў палац. Яны шпурнулі пад ногі вартавым сон-траву — і вартавыя заснулі. Дакрануліся разрыў-травою да замкоў — і дзверы адчыніліся. Схапіўшы карону, зладзеі кінуліся наўцёкі.

Прачнуўся раніцай Рыдан — ляжаць вартавыя ўпокат. Здагадаўся князь, што застаўся без кароны. Ударыў адзін раз у звон, ударыў другі раз — прыбеглі сыны Дняпро і Сож.

— Вазьмі мой меч, — сказаў бацька старэйшаму сыну. — Дагані зладзееў, вярні мне карону!

Памчаўся Дняпро наўздагон рабаўнікам. Праз гадзіну Рыдан загадаў малодшаму сыну:

— Паслухай, ці далёка Дняпро.

Прыклаў Сож вуха да зямлі.

— Бегма бяжыць Дняпро, яшчэ не стаміўся.

Праз тры гадзіны Рыдан папрасіў малодшага сына:

— Паслухай, ці не дагнаў Дняпро зладзееў.

Прыклаў Сож другі раз вуха да зямлі.

— Бяжыць наш Дняпро, але цяжка дыхае.

А на трэці раз Сож падхапіўся на ногі.

— Моцны гул ідзе пад зямлёй і крыкі чуваць!

— Не пад сілу Дняпру вярнуць карону! — абняў малодшага сына Рыдан.

Пабег Сож на дапамогу брату, а Рыдан застаўся адзін у палацы. Доўга чакаў ён вестак, але не дачакаўся. Заплакаў ад несуцешнага гора:

— Няхай бы мы, сыночкі, слязьмі разліліся!

І толькі гэтак прамовіў — ператварыліся сыны і бацька ў рэкі. З таго часу Дняпро плыве праз лясы і сады; Сож — па балотных імхах; а Рыдан — куды вочы глядзяць.

**24. Прыпяць і рыба Малімон**

Прыпяць — маці ўсіх палескіх рэк. Калісьці яе называлі інакш: не Прыпяць, а Трыпяць. Гэтая забытая назва ўтварылася ад лічбаў «тры» і «пяць», што значыць тры разы па пяць. Менавіта столькі ўпадае ў Прыпяць прытокаў. Лічыце самі: Бобрык, Гарынь, Іпа, Лань, Піна, Пціч, Славечка, Случ, Стаход, Стыр, Сцвіга, Трэмля, Убарць, Цна і Ясельда.

На Палессі бываюць моцныя паводкі, але Прыпяць у тым не вінаватая. Кажуць, увесь палескі край на сабе трымае велізарная рыба Малімон, якая жыве ў падземным моры-акіяне. Адзін раз у сем гадоў яна то ўсплывае наверх, то зноў апускаецца на дно. Калі Малімон усплывае, тады рэкі выходзяць з берагоў, а калі апускаецца, бываюць моцныя засухі.

**25. Рэчка Дзіва**

Каля вёскі Цётча Ушацкага раёна, на беразе Дзівы, стаіць невялікая гарушка. У 1812 годзе тут ішло французскае войска. Напалоханыя людзі схаваліся ў балота. А французы пусцілі ноччу на карытах падпаленыя саламяныя кулі. Збегліся людзі на бераг рэчкі, сталі крычаць:

— Ой, дзіва! Вада гарыць!.. Ой, дзіва!

Напалі на іх французы. Каго злавілі, закапалі ў глыбокую яму і насыпалі зверху курган. З таго часу рэчка так і завецца — Дзіва. Яна не замярзае нават у моцны мароз. Над вадой паднімаецца пара — гэта дыхаюць жыўцом пахаваныя людзі.

**26. Рымаўшчына**

Гэтую мясціну завуць Рымаўшчына, бо тут гаспадарыў нейкі Рымар. Побач у лесе бруілася крыніца. Рымар зрабіў запруду, каб разлілося возера. Каля возера ён пабудаваў млын, а на кургане паставіў кузню, там і сёння ляжыць перапаленае каменне. Рымар малоў збожжа, завіхаўся каля кавадла з молатам. Кажуць, ён умеў чараваць, нават мог абярнуцца ў ваўкалака.

У Рымара гадаваліся дачушка і сынок. Аднойчы яны пабеглі купацца і ўтапіліся. За гэта Рымар пракляў возера. Ён кінуў у крыніцу выпацканыя ў смале конскія шарсцінкі і накрыў іх патэльняй. А сам ператварыўся ў валун і прыціснуў зверху патэльню. Крыніца перастала бруіцца, возера высахла. У лагчыне, як на патэльні, вырасла калючая сівая трава, падобная на конскае шчацінне.

Мінула шмат гадоў. Тутэйшыя людзі шкадавалі загубленую крыніцу і спадзяваліся, што возера вернецца. Адзін чараўнік паабяцаў зняць закляцце. Каб адваліць валун, ён папрасіў дванаццаць хлопцаў прывесці дванаццаць жарабцоў. А сам хацеў забраць з крыніцы патэльню і развеяць зачараваныя шарсцінкі.

Чараўнік сказаў людзям неадкладна перасяляцца, бо вёска магла апынуцца пад вадой. Аднак гаспадары адмовіліся пакідаць сядзібы, і ўсё засталося па-колішняму.

А шкада, бо Рымар загубіў крыніцу-акно. У ёй, паміж першым і другім дном, быццам у віры, круцілася вада. Ад гэтай крыніцы вялі хады да іншых крыніц, азёр і рэк. Тут жыў Вадзянік, а восенню сюды збіраліся зімаваць русалкі.

**27. Сіні калодзеж**

У Прапойску жылі асілкі Сцяпан і Марка, а ў недалёкай вёсцы — прыгажуня Кацярына. Абодва асілкі закахаліся ў дзяўчыну. Сцяпан быў слабейшы за Марку, затое любы Кацярыне, а Марка хоць і дужэйшы, але нялюбы. Трэба красуні выбіраць, за каго ісці замуж.

«Пайду за Сцяпана, — разважыла яна, — дык Марка яго заб'е. Пайду за Марку — шкада Сцяпана...»

Думала яна, гадала і вось што надумала:

«Хто далей шпурне камень, за таго і пайду...»

Любаму Сцяпану выбрала камень памерам як стол, а нялюбаму Марку — большы за печ. Асілкі не сталі спрачацца, шпурнулі валуны за раку. Пабегла Кацярына глядзець, хто перамог. Спачатку залезла на Сцяпанаў камень — на ім засталіся дзявочыя сляды. А потым убачыла, што Маркаў валун ляжыць далей.

— Чым з нялюбым жыць, лепш вадою плыць! — заплакала Кацярына і кінулася з Маркавага каменя на зямлю, абярнулася ў крыніцу.

Гэтая крыніца жыве за пяць вёрст ад Прапойска, каля берага Сажа. Струмень б'е з жарала ў чалавечы рост, а вада — сіняя-сіняя! Сіні калодзеж — так называюць Кацярыніну крыніцу. Сюды цяпер не зарастае сцежка, а даўней мала хто наведваўся.

Знайшоў крыніцу ляснік Шэпіт, які вартаваў свае дзесяціны. Ішоў ён аднойчы і пачуў, як штосьці моцна шуміць.

«Што за праява? — здзівіўся Шэпіт. — Можа, лес крадуць?»

Прыпусціўся ён бягом і апынуўся каля Сіняга калодзежа. Глядзіць — на беражку расчэсвае косы русалка.

«Зачураю, каб згінула нячыстая сіла!» — падумаў Шэпіт.

Паспрабаваў бліжэй падысці, але пад лапцем трэснула галінка.

— Гэта ты, Шэпіт! — убачыла яго русалка. — Хацеў мяне зачураць, каб я згінула? Дык ведай: будзе патоп на тваю радзіну!

Сказала так і нырнула ў крыніцу. А на трэці дзень у Сажы ўтапілася Шэпітава дачка, якой было дзевятнаццаць гадкоў...

**28. Замчышча**

Каля вёскі Замасцяны ёсць круты пагорак, які называецца Замчышчам. Калісьці тут стаяў замак магутнага князя. У гэтага князя быў адзін сын, якога даглядала простая дзяўчына. Яна ні на крок не адпускала ад сябе княжыча. Аднак праўду кажуць: ад бяды кіем не абаронішся. Хлопчык уцёк праз акно купацца і ўтапіўся. Заліваючыся слязьмі, дзяўчына прыбегла да крыніцы, адкуль выцякала рэчка, і накрыла яе патэльняй. Рэчка неўзабаве высахла, а вакол Замчышча разляглося балота.

Мінула шмат гадоў, як здарылася гэтае няшчасце. Аднойчы да бацькі гаспадара маёнтка Замасцяны пана Свіды прыехаў чараўнік. Ен спытаўся, ці хоча ягамосць, каб каля Замчышча цякла рэчка.

— Хачу, — згадзіўся пан Свіда.

— Тады адпраўце на кані свайго слугу, — сказаў чараўнік. — Калі ён схопіць з крыніцы патэльню, рэчка хлыне за ім...

— А слуга не загіне? — пацікавіўся пан Свіда.

— Калі выпусціць патэльню, можа ўтапіцца, — адказаў чараўнік.

Пан Свіда не стаў рызыкаваць жыццём слугі. Таму вакол Замчышча і па сённяшні дзень ляжыць балота.

**29. Расколаты камень**

Першыя жыхары зямлі былі надзвычай вялікія, даставалі галавой да вершалін дрэў і называлі сябе волатамі. Каб паказаць сваю сілу, яны капалі глыбокія азёры, пракладвалі праз пушчы рэкі, шпурлялі дзеля забавы валуны.

Бывала, схопіць каторы волат каменьчык памерам з каня ды як шыбане ўгору!

«Ву-у-у!..» — загудзе ён і знікне за воблакамі.

З таго незапамятнага часу каля вёскі Якімавічы, што на Слонімшчыне, ляжыць Расколаты камень. Мабыць, ён няўдала прызямліўся, калі зваліўся з неба, таму раскалоўся на два кавалкі. Большы кавалак важыць амаль 60 тон, яго даўжыня — 4 метры, вышыня — 3 метры 80 сантыметраў. Меншы кавалак, значна драбнейшы, адхіліўся ўбок і паважліва глядзіць на брата.

Старажылы Якімавіч так расказвалі пра Расколаты камень. У іхняй вёсцы жыў асілак Янка. Пакахаў ён дзяўчыну-кветку, ужо збіраўся ў сваты. А да прыгажуні пачаў заляцацца двухгаловы цмок. Выклікаў Янка страшыдлу на бой. Дзень яны біліся, другі біліся — не можа хлопец адолець пачвару. Зусім затупіўся меч!

«Эх, каб павастрыць лязо!» — падумаў Янка.

І раптам з-пад зямлі падняўся агромністы камень. Пачаў Янка вастрыць меч. А цмок размахнуўся ды сякануў з усёй сілы! Ад вернай смерці хлопца засланіў камень. Прыняўшы на сябе ўдар, ён раскалоўся на дзве палавіны, але выбіў меч з цмокавых лап. Малайчына Янка — не спудлаваў, умомант сцяў абедзве цмокавы галавы. Потым ажаніўся з каханай дзяўчынай і доўга жыў-пажываў, дабра нажываў.

**30. Змееў камень**

Пры дарозе, што вядзе ад Віркаў да Ігры, на кургане ляжыць Змееў камень, у якім ёсць акно і дзверы. У гэтым камені жыў аднагаловы змей. З выгляду ён быў звычайным чалавекам, нават размаўляў па-чалавечы. У ваколіцы не было лепшага краўца. Прынясе дзяўчына палатно і просіць:

— Пашый, майстрок, абы надзець...

Змей такую абноўку справіць — на любое ігрышча не сорамна ісці. Плацілі краўцу мала, па некалькі капеек. Але не дай Бог сказаць:

— Пашый, майстрок, каб у царкву схадзіць!

Назаўтра не будзеш рады. Адзін рукаў да спіны прышыты, другога зусім няма. Як хочаш, так і насі гэтую хламіду!

Змей-кравец закахаўся ў прыгожую дзяўчыну, якая жыла ў вёсцы Бузер'і. Абернецца ў дугу — і ляціць праз Лукомльскае возера да каханай. А калі ўпадзе на зямлю, перакінецца ў статнага дзецюка. Доўга дзяўчына хавалася ад змеевых заляцанняў, але мусіла пайсці замуж. Аднойчы пасла яна авечак. Прыляцеў змей і кажа:

— Пагладзь мяне па галаве! Ды глядзі, каб хмар не нацягнула!

Паклаў на жончыны калені галаву і моцна заснуў. А тым часам вецер прыгнаў навальніцу.

«Дакуль я буду служыць яму?» — падумала дзяўчына і не стала будзіць змея.

Раптам бліснула маланка, па небе пракаціўся гром.

— Зжыла ты мяне са свету! — ударыў змей жонцы па твары, а сам абярнуўся ў дугу і паляцеў да каменнай хаціны.

Жахнуў пярун, аж здрыганулася зямля. А змею — хоць бы што! Другі раз жахнуў пярун. Пярэварацень шабултыхнуў у возера, аднак падхапіўся і памчаўся далей. Да каменя было рукой падаць, калі трэці раз стрэліў пярун. І змей зваліўся на зямлю.

— Шукайце яго ў полі, — падказаў хлопцам рыбак, які ўсё гэта бачыў.

Тры дні і тры ночы не аціхаў лівень, пакуль хлопцы шукалі змея. Нарэшце знайшлі, закапалі ў глыбокую яму. Назаўтра — зноў лье як з вядра. Прыбеглі хлопцы на поле, а змей ляжыць наверсе. Тры разы закопвалі гада, але кожны раз ён паказваўся з-пад зямлі. Потым адзін бузерскі дзядзька прысніў, што пярэварацень загіне, калі яго засыплюць малыя дзеці. На дапамогу дзецям прывялі жарабят з прывязанымі торбамі. Цэлы тыдзень дзеці і жарабяты засыпалі гада. І па сённяшні дзень над яго магілай стаіць курган.

**31. Рагвалодаў камень**

Рагвалодаў камень ляжыць побач з вёскамі Дзятлаўкі і Лістаны, каля паштовага тракта на Мінск, за дзевятнаццаць вёрст ад Оршы. Тутэйшыя людзі называюць яго грабніцай.

Цяпер гэты камень вытыркаецца на чатыры вяршкі. А калісьці ён стаяў на чатырох нагах і быў падобны на жывёліну. Нейкі млынар адсек жывёліне каменную галаву, каб зрабіць новае кола для жорнаў. Гэтыя жорны за год змалолі ўвесь млынароў дастатак, а заадно самога млынара і яго сям'ю.

Пад Рагвалодавым каменем хаваліся ў непагадзь пастухі. Цяпер схавацца нельга, бо камень глыбока закапаўся ў зямлю.

**32. Літава гара**

На мяжы Істранскай і Нерзенскай воласцей ёсць Літава гара, падобная на касцельны звон. Кажуць, тут стаяў прыгожы касцёл, у які спяшалася на імшу маладая паненка. Па дарозе яна спатыкнулася, балюча падкурчыўшы нагу.

— Няхай праваліцца гэты касцёл! — крыкнула ад злосці паненка.

І касцёл знік пад зямлёй, нават ніякага знаку не засталося.

Мінула шмат гадоў. Людзі даўно забыліся пра гэтае жахлівае здарэнне. Адна бабка збірала на Літавай гары суніцы і ўбачыла прыгожыя пацеркі. Старая пацягнула пацеркі да сябе, а ім — няма канца. Раптам ходырам захадзіла зямля. З прорвы паказаўся касцельны крыж і пачуўся голас:

— Цягні, любая, цягні хутчэй! Ратуй нас ад праклёну!

Перапалоханая бабка выпусціла пацеркі, і касцёл апусціўся назад у гару.

Калі прыйсці сюды ў нядзелю і прыкласці да зямлі вуха, можна пачуць гукі аргана. Гэта ў Літаўскім касцёле моляцца пакутнікі, каб хтосьці дапамог ім вярнуцца на белы свет.

**33. Багатыр гара**

У Расонскім раёне, што на поўначы Беларусі, ёсць крутая гара, якую людзі завуць Багатыр гарою. Даўным-даўно тут жыла вельмі высокая і дужая дзяўчына. Яна хадзіла да крыніцы з двума вялізнымі цэбрамі, куды налівала па 15 вёдраў вады.

Аднойчы маладую багатырку перапынілі татары і загадалі паказаць ім дарогу да рускага войска. Дзяўчына не збаялася, завяла ардынцаў у лясное балота, а сама ўцякла.

Няшмат ацалела татараў у непраходнай дрыгве. А тыя, каму пашчасціла выйсці, вяртаючыся назад, забілі адважную дзяўчыну і пахавалі яе на вяршыні гары. З таго часу гара так і завецца — Багатыр гара.

**34. Тураў**

Прыпяці-ракі тады не было, толькі цяклі паўнаводныя Струмень ды Язда, што сёння падобныя на малыя ручаіны. Навокал раскінуліся багатыя зверам лясы. Азёры і рэкі кішэлі рыбай, а над балотамі лёталі хмары птушак. Потым прыйшоў сюды князь Тур. Ён прылёг адпачыць і прысніў сон: нібыта сядзіць высока на возе, а ўнізе стаяць гарады.

Назаўтра князь загадаў пабудаваць тут сталіцу. Магутны дзядзінец дружыннікі насыпалі з чыстага рачнога пяску. Пясок на тры аршыны засыпалі попелам. На попел надзерлі бярозавай кары і накідалі пабітых гаршкоў. Гліняныя чарапкі зацерушылі язевай луской і звярынымі косткамі. Галоўную браму паставілі ўбок Азяран, а пасярэдзіне горада выкапалі глыбокую студню, якую назвалі Тур-калодзежам. Праз некалькі гадоў суседнія паселішчы — і Верасніца, і Рычоў, і Дварэц, і Азяраны — прызналі ўладу новай сталіцы.

Князь Тур любіў паляваць каля Буразі, дзе сустракалася шмат звяроў. Без здабычы дамоў не вяртаўся, таму назваў гэтую мясціну «Буй раз», што азначае — «Разіць буяў».

Пасля князя Тура на пасад сеў Уладыка. Пры ім збудавалі новую браму і павесілі вялізны замок. Калі Уладыка памёр, яго пахавалі ў каменнай дамавіне, якую нядаўна адкапалі ў зямлі.

Далей княжыў Комар, за Комарам — княгіня, імя якой забылася. Кажуць, яна была чараўніца. Калі на Тураўскую зямлю навалілася пошасць, княгіня загадала закапаць жыўцом нямога чалавека, бабра і мядзведзя. І пошасць адступіла. А там, дзе закапалі ахвяры, стаіць Бабруйкава гара.

На Тураў часта нападалі ворагі. Аднойчы, абклаўшы горад, яны спыніліся табарам каля Перадола. Княгіня шпурнула ў той бок шчотку са свіной шчаціны. Чужакам падалося, што на месцы Турава вырас чарот. Затым княгіня кінула туды зачараванае яйка, і навокал нібыта разлілася паводка. Доўга чакалі заваёўнікі, пакуль спадзе вада, але не дачакаліся — паўміралі ад голаду.

Калі княгіні-чараўніцы не стала, заваёўнікі захапілі Тураў. Яны забівалі людзей, а малых дзяцей кідалі ў калодзежы. Вада ў гэтых калодзежах ператварылася ў малако.

Адзін чалавек перачакаў ліхую гадзіну ў бусліным гняздзе. З таго часу яго нашчадкаў завуць Буслінымі. А другі туравец схаваўся ў яму. Ён сядзеў ціха і еў сушаную рыбу, таму яго нашчадкаў назвалі Седунамі.

**35. Менеск**

На беразе Свіслачы, паміж Татарскім канцом і Пярэспенскім мастком, калісьці жыў чараўнік, якога звалі Менеск. Ён пабудаваў млын на сямі колах і малоў з камення муку.

Днём чараўнік не паказваўся людзям на вочы, затое ноччу ездзіў на млыне па ваколіцы і збіраў у дружыну асілкаў. Гэтыя асілкі потым заснавалі каля Свіслачы паселішча, ад іх пачаўся адважны і дужы народ.

З таго даўняга часу засталася прымаўка: «Не пайду я да Менска ад шляху Віленскага, а пайду па шляху Віленскім і сустрэнуся з Менескам».

**36. Машэка**

У лясных нетрах, дзе гнаў неўтаймоўную плынь Дняпро, жыў разбойнік Машэка. Нібы гуляючы, ён выдзіраў векавыя дрэвы, спыняў адной рукой на ходу экіпаж, запрэжаны васьмерыком коней. Хадзіў Машэка ў мядзведжай шкуры, вывернутай поўсцю наверх. Ніхто не мог адолець яго, а калі ішло войска, Машэка хаваўся ў непралазны гушчар.

Аднойчы па лясной дарозе ехала карэта, у якой сядзелі прыгожая паненка і малады кавалер. Раптам з-за густой яліны выскачыў Машэка. Адважны кавалер выхапіў шаблю і ўдарыў разбойніка па галаве. Аднак шабля зламалася, і смяльчак сканаў ад жудаснай смерці. Потым разбойнік замахнуўся над прыгажуняй і застыў ад здзіўлення, бо пазнаў каханую, якая адпрэчыла яго заляцанні. З-за гэтага нешчаслівага кахання Машэка стаў помсціць людзям.

Разбойнік прынёс непрытомную паненку ў свой бярлог. Яна дайшла да памяці і зразумела, куды трапіла. Прыгажуня прыкінулася пяшчотнай, а калі Машэка заснуў, забіла яго нажом. Над магілай разбойніка людзі насыпалі курган, які назвалі Магілаю Льва, а потым заснавалі тут горад Магілёў.

**37. Бярэсце**

Ехаў у Літву купец. Памалу сунуўся воз, нагружаны ўсякім таварам. Наперадзе — няблізкая дарога. І раптам здарылася бяда: загразу балоце воз. Конь ажно рвецца ў аглоблях, а колы — ні з месца. Пачаў купец дзерці бяросту і гаціць грэблю. Шмат бяросты надраў, пакуль выбраўся з балота.

Удала збыўшы тавар, купец вяртаўся дахаты. На грэблі з бяросты ён спыніўся і паставіў каплічку. Да каплічкі, як да святога месца «на берасце», сталі прыходзіць вернікі. Спадабалася ім гэтая мясціна: з аднаго боку — Буг, а з другога — Мухавец. Лепшага месца не знойдзеш, каб хавацца ад ворагаў. Потым людзі пабудавалі тут горад Бярэсце.

**38. Легенда пра Браслаў**

Даўным-даўно на вялікай стромкай гары стаяў непрыступны замак. У гэтым замку жыў магутны князь Дзвін з каханай жонкай Друйкай і дачкой-прыгажуняй Дрывай. У маладую князёўну закахаліся тры браты — Брас, Ноў і Снуд. Ганарлівая Дрыва паабяцала кожнаму дзецюку выйсці замуж. Але толькі тады, калі загінуць яго браты...

Ноў і Снуд згаварыліся забіць старэйшага брата. Вечарам яны зрабілі на дарозе засаду. Аднак Брас, нібы прадчуваючы бяду, паслаў да князёўны з падарункам слугу. Ноў і Снуд забілі ў прыцемках няшчаснага, а потым схапіліся паміж сабой. Меч Снуда трапіў Нову проста ў сэрца, аднак і сам пераможца сканаў ад цяжкіх ран.

Пахаваўшы братоў, Брас прыйшоў у замак.

«Каханы! — выбегла насустрач Дрыва. — Цяпер нам ніхто не замінае. Я гатовая стаць тваёй жонкай!»

«У цябе каменнае сэрца, — адказаў князёўне Брас. — Я не веру ў тваё каханне, бо ты загубіла маіх братоў...»

Пачуўшы горкую праўду, Дрыва кінулася галавой уніз з высокай вежы. І пад сценамі замка расхінуліся азёры. Калі Друйка ўбачыла, што засталася без дачкі, яна залілася слязьмі і ператварылася ў рэчку. Атрымаўшы на паляванні жахлівую вестку, князь Дзвін разліўся шырокай ракой, каб суцешыць у сваіх абдымках любімую жонку.

У замку пачаў гаспадарыць Брас. Побач сталі сяліцца працавітыя людзі і з цягам часу вакол гары паўстала паселішча. Вось так узнік горад Браслаў, азёры Дрывяты, Снуды і Навяты, а таксама рэкі Заходняя Дзвіна і Друйка.

**39. Гомель**

У рацэ Сож імклівая плынь намыла шмат пяску. Каб чаўны і плыты, што днём і ноччу ішлі па рацэ, не селі на мель, на беразе стаяў вартавы. Ён крычаў:

— Го! Мель!.. Го! Мель!..

Потым людзі заснавалі тут горад, які так і назвалі — Гомель.

**40. Камянец**

На ўскрайку Белавежскай пушчы ляжаў вялікі валун, да якога здалёк і зблізку спяшаліся людзі. Яны пяшчотна гладзілі валун і шапталі замову:

«Камень-камянец, дай мне хлябец, бо стала цяжка жыць, дзяцей няма чым карміць!..»

Валун нікому не адмаўляў: кожны вяртаўся дахаты з боханам хлеба. Доўга камень-хлебнік дапамагаў бедным людзям. І так было б заўсёды, каб не злы чараўнік-ліхадзей, які прыбег у поўнач і крыкнуў:

«Камень-камяніска, аддай мне залаціска. Яно ў табе марна ляжыць, а я буду весела жыць!..»

Пачуўшы гэта, валун праваліўся пад зямлю, забраўшы з сабой чараўніка. А там, дзе ляжаў хлебавік, да раніцы разлілося возера. Людзям спадабалася прыгожая мясціна, і яны пачалі тут сяліцца. А сваё паселішча назвалі Камянцом.

**41. Пярунаўка і Гарадок**

Мястэчка Асвея стаіць каля Асвейскага возера. А калісьці тут расла дрымучая пушча, у якой заблудзіўся нейкі падарожнік. Ён доўга не мог выбрацца з лясных нетраў, пакуль не ўсклікнуў:

— Божа, асвяці мне!

Неўзабаве лясная сцежка прывяла яго да вялікага возера. Прыгожая мясціна спадабалася падарожніку. Ад слова «асвяці» ён прыдумаў возеру назву — Асвейскае, на яго беразе заснаваў паселішча, якое назваў Асвеяй.

У Асвейскім возеры ёсць вялікі востраў, дзе спрадвеку жылі рыбакі. На востраве здалёк бачны два пагоркі — Пярунаўка і Гарадок. У Пярунаўку часта цаляюць маланкі, бо там хаваюцца чэрці, а пра Гарадок расказваюць такую легенду...

Адзін пастушок прыгнаў на Гарадок авечак. На вяршыні гары ён праваліўся ў глыбокую яму і ўбачыў сабаку. Хлапчук пакарміў сабаку апошнім кавалкам хлеба. Раптам з’явіліся дзядуля і бабуля. Яны далі малому шапку золата і памаглі вылезці з ямы.

Вечарам пастушок прыгнаў у вёску авечак. Прагны сусед адабраў у сіраты золата і паслаў на Гарадок сыноў. Дахаты яны не вярнуліся. І дасюль невядома, што з імі здарылася.

**42. Паненка і Панiквы**

Малады паніч Панятоўскі, уладар вялікага маёнтка, вырашыў пабудаваць млын. Нагледзеўшы добрае месца, ён загадаў прывезці бярвенне і паклікаў цесляроў. А вечарам прыйшоў на рэчку, каб яшчэ раз упэўніцца, што выбраў удалае месца. І раптам убачыў на вадзе паніклую дзявочую постаць у белай сукенцы.

— Калі ласка, не будуй млын, — сказала яму незнаёмка. — Я маладая, мне цяжка круціць каменныя жорны... Пабудуй лепш тут вёску! І я буду спяваць людзям пра цябе, мой каханы...

Паніч адразу ўсім сэрцам закахаўся ў прыгажуню. Ён памкнуўся падысці бліжэй, але дзяўчына знікла, як ранішні туман над рэчкай.

Назаўтра малады Панятоўскі загадаў цeслярам замест млына будаваць новыя хаты. Перад яго вачамі стаяла паніклая дзявочая постаць, таму ён рэчку назваў Паненкай, а вёсцы даў назву Панiквы.

Рэчка Паненка цякла ў Камянецкім раёне, а потым высахла, бо людзі ператварылі яе рэчышча ў глыбокі роў.

**43. Лесавік**

Адзін ляснік не паспеў згрэбці сена. Не захацеў ён вяртацца дахаты, вырашыў заначаваць на балоце. Павячэраў, памаліўся Богу і заваліўся спаць. Качаўся з боку на бок, а заснуць не мог, бо дзесьці ў вёсцы заліваўся шчанюк. Ды так моцна, быццам званок. Раптам з лесу пачулася: «Трэсь-трэсь! Трэсь-трэсь!» Быццам хтосьці спяшаўся. Ляснік падняў галаву і ўбачыў Лесавіка, які гнаў воўчую зграю. Выгнаў шэрых на ўзлесак і спытаўся:

— Чуеце, як шчанюк заліваецца?

— Чуем, — адказалі ваўкі.

— Калі яго не задушыце, дык ён вас перадушыць.

Сказаў так і пагнаў зграю далей.

Пераначаваў на стозе ляснік, а назаўтра раненька пабег у вёску. Пачаў пытацца ў людзей пра шчанюка. Пытаўся, пытаўся — і дапытаўся. Прыйшоў да гаспадара.

— Прадай мне гэтага шчанюка.

— Як я прадам, калі ён такі ўдалы, — не згаджаецца гаспадар, — цэлую ноч не замаўкае.

І ўсё-такі ляснік купіў шчанюка — цэлыя тры рублі аддаў. Прывёў дахаты і пасадзіў у пограб. Тройчы на дзень карміў, але не выпусціў на вуліцу. Мінуў роўна год. І вось аднаго дня пайшоў ляснік на паляванне. Малады сабака наскочыў на ваўка — тут жа разарваў на кавалкі. Убачыў мядзведзя — і мядзведзя задушыў. Натрапіў на ласіны след — лася зарэзаў. Столькі надушыў дзічыны, што за дзесяць вазоў не забраць.

Прысеў ляснік адпачыць і пачуў у сябе за спінай: «Трэсь-трэсь! Трэсь-трэсь!». Азірнуўся — стаіць побач Лесавік.

— Мабыць, ты падслухаў, што я сказаў зрабіць ваўкам...

— Вінаваты, падслухаў, — прызнаўся ляснік.

— У мяне шмат дзічыны, — уздыхнуў Лесавік, — але твой сабака ўсіх звяроў перадушыць. Каля вёскі, пад валуном, закапаны скарб. Вазьмі сабе золата, а сабаку — забі.

Сказаў так — і як скрозь зямлю праваліўся. Паклікаў ляснік сабаку, падняў стрэльбу — бах! бах! — і забіў. А потым узяла яго цікавасць: адкуль у сабакі такая нечуваная сіла? Разрэзаў чэрава, паглядзеў і налічыў ажно дванаццаць нырак.

**44. Ваўкалак**

Ішоў я дахаты праз лес, а насустрач мне падарожнік. Ды такі брыдкі, што не выказаць словамі. Касавокі, крывароты, гарбаты — аж страшна глядзець. Хацеў я збочыць, але няма куды: навокал непралазны гушчар. Паздароўкаліся мы, спыніліся. Слова за слова — разгаварыліся.

— Што за хвароба цябе знявечыла? — не вытрываў, спытаўся я.

— Воўчая шкура, браце, — адказаў падарожнік.

— Няўжо ты быў ваўкалакам?

— А як жа, давялося!

Пачаставаў я небараку тытунём, а пакуль мы пыхкалі люлькамі, ён расказаў, што здарылася.

— Пацякла на гумне страха. Перакрыў я свежай саломай адзін бок, узяўся за другі. А пару снапоў звалілася ў гарод суседкі, якую ўсе звалі чараўніцай. Выскачыла яна з хаты, нарабіла крэчу:

«Ты мае памідоры зламаў!»

«А хіба я хацеў? — адказаў я дурніцы. — Хоць у суд падавай, нічога не адсудзіш!»

«Я сама табе прысуджу!» — прыгразіла яна.

Мінула некалькі дзён, паехаў я па дровы. Цэлы воз нагрузіў камлёў — як пацягнуць каню. Па дарозе назад прыстаў мой гнеды. Я выпраг каня, каб трохі паскуб травы. А самому раптам зрабілася нудна, хоць ты завый. І конча захацелася пралезці цераз хамут. Толькі я гэта зрабіў — абярнуўся ў ваўка. Тры гады бегаў адзін, а на чацвёрты год прынялі мяне ў зграю. Аддаў нам апостал Юры на спажыву старога каня. Доўга мы яго шукалі, іншых коней не чапалі. Затое на цэлы тыдзень нажэрліся. А калі прагаладаліся, ваўкі паслалі мяне па здабычу. Схапіў я на лузе авечку, павалок у хмызы.

«Злодзей!.. Злодзей!..» — нарабіў ляманту пастух.

Я спыніўся — ні туды, ні сюды.

«Хутчэй уцякай!» — крычаць ваўкі, а я стаю як укопаны.

«Аддай мой кажух!» — падбег пастух і сцебануў па мне дванаццаць разоў пугай.

Воўчая шкура ўмомант спаўзла з майго цела. І я зноў абярнуўся ў чалавека, але ў крывога і страхалюднага.

**45. Кадук**

Кадук — страшэнная пачвара, падобная на звера з вялізнай, калматай галавой. Ён мае шырачэзную зяпу. Як выскаліцца — усё жывое пруцянее ад жаху.

Людзі часам ад злосці кажуць:

«Каб яго ўзяў Кадук!»

Альбо:

«Вазьмі яго Кадук!..»

Кадук не заўсёды бярэ. Ён мае сілу толькі ў ліхую хвіліну, што выпадае тройчы ў суткі: у поўдзень, у поўнач і на світанні. Каб гэтая пачвара прыходзіла тады, калі ёй захочацца, на свеце не засталося б людзей. Кадук не мае ўлады над чалавекам, а чакае, пакуль яго паклічуць. І з’яўляецца ў такі момант, калі што ні папросіш, — усё збываецца.

**46. Халера**

Самая страшная халера была ў трыццатым годзе. Людзі ратаваліся як маглі, уцякалі ў лясы і балоты. Ды хіба ад смерці схаваешся? Спачатку халера прычапілася да мяшчанскай сям’і, якая жыла ў мястэчку. Суседзі закапалі няшчасных у зямлю,

а іхні скарб кінулі ў рэчку. Рачная плынь вынесла халеру за мястэчка. Паплыла яна ўніз і давай касіць навакольныя вёскі. Усіх касіла, нікога не прапускала. Раніцай чалавек здаровы, быццам рэпа, а вечарам пакачаецца на зямлі — і дух з яго вон.

Дзякаваць Богу, наскочыла гадзіна на бывалага маскаля.

— Прылёг я ў цяньку на балоце і задрамаў, — расказваў ён потым людзям. — А калі прачнуўся, ледзь не абамлеў. Уперылася на мяне худая, як жэрдка, карга ў чорнай спадніцы. А твар у самой — сіні-сіні, нібыта курыны пуп! Я адразу здагадаўся, каму прыглянуўся. Што рабіць? Ат, ці пан, ці прапаў! Падхапіў на рукі кашчавую і папёр у дрыгву.

— Адпусці! — стала прасіцца яна. — Я нікога больш не крану!

Хацеў утапіць праклятую ў багне, але перадумаў. А раптам прыпрэцца новая? Дык гэтая, калі адпушчу, маю навуку не забудзе.

— Пакляніся, што знікнеш! — даў кулаком пад бок.

Прысягнула гадзіна, нават за зямлю схапілася. А калі адпусціў, панеслася напрасткі ў сухі лес, аж трэск пакаціўся па наваколлі.

З таго часу халера забылася дарогу ў наш беларускі край.

**47. Напасць**

Паехаў дзядзька ў мястэчка на кірмаш. Па дарозе здагнаў ён незнаёмую бабу, якая несла на плячы молат.

— Падвязі мой молат, — папрасіла яна.

— Ладна, падвязу, — прыпыніўся дзядзька.

Паклала старая молат на воз, а сама не прысела, пешкі побач ідзе. Потым спыталася:

— Скажы, гаспадарык, ці молішся ты ад напасці?

— Навошта мне маліцца? — здзівіўся дзядзька. — Яна да мяне не прычэпіцца.

— Усё роўна маліся, — заківала галавой старая і залезла на воз. — Бо пасля пашкадуеш...

Едуць яны далей. Непадалёку ад мястэчка баба зноў пра сваё:

— А чаму ты не молішся ад напасці?

— Сядзі, пакуль не турнуў! — раззлаваўся дзядзька.

Нарэшце прыехалі на кірмаш. Выпраг гаспадар каня, падкінуў у торбу аўса. А баба сядзіць на возе і не думае злазіць.

— Забірай молат і будзь здарова! — сказаў дзядзька.

— Чаго ты прычапіўся! — закрычала старая. — Гэта я прывезла цябе і твой молат!

І сталі яны сварыцца паміж сабой. Дзядзька — сваё даводзіць, а баба — сваё. Прыбег станавы прыстаў.

— Што здарылася?

Кожнаму дурню вядома, што молат — не для бабскіх рук. Таму прыстаў не доўга разбіраўся — павалок дзядзьку за каршэль у астрог. А той плача ды хрысціцца:

— Божа, за што на мяне гэтая напасць звалілася!

— Глядзі, не забывай маю навуку! — зарагатала баба і злезла з воза. — І запомні, што завуць мяне Напасць!

Сказала так — і знікла ў людскім натоўпе.

**48. Начніцы**

Начніцы гуляюць на пачатку лета, калі на лузе цвітуць кветкі, а ў лесе цесна ад пахучага лісця. Ды так не бывае, каб усё спрыяла чалавеку. Калі на сэрцы весела, асцерагайся бяды. Толькі схаваецца сонейка — рагочуць на галінах русалкі, верашчаць за кустамі начніцы, ломяць дрэвы лесавікі.

Пайшлі мы з Данілам вечарам лавіць уюноў. Возера гразкае, а ўюноў — хоць кашом чэрпай. Як бачыш налавілі пару мяхоў. Больш нельга, бо вада залівае човен, ледзьве прыпхнуліся да берага. Знайшлі сухі грудок, каб заначаваць пад вярбой. Толькі закурылі люлькі — паблізу штосьці заверашчала, ажно лес захістаўся. Трэба хутчэй раскласці вогнішча, бо нечысць баіцца агню. А на грудку, як назнарок, ні галля, ні карчоў. Пачалі прыглядацца, што навокал робіцца. Ноч выдалася хмурная, пасярэдзіне возера туман клубіцца. У тумане штосьці мітусіцца, быццам дзяўчаты фартухамі махаюць. Здагадаліся мы, што гэта начніцы ігрышча спраўляюць.

Ледзь дачакаліся, пакуль пачало світаць. Раніцай пасунуліся да берага. Прадзерліся праз вербалоз. Выскачылі проста на вачах у нас начніцы і — плюх! плюх! — у ваду, як жабы.

**49. Лазнік**

Пайшла дзеўка замуж за старога чалавека, а сама насміхаецца з мужавай старасці, старым чортам называе. Нарадзіўся ў іх сыночак. Сабралася маладзіца ў лазню і малога ўзяла. А мужу сказала:

— Ты, стары чорт, пасля прыйдзі, сыночка забяры.

Памыла яна хлопчыка і пытаецца праз дзверы:

— Ты тут, стары чорт?

— Тут!

— Ну дык вазьмі малога.

— А, давай, давай...

Выпхнула маладзіца за дзверы сыночка, а сама далей мыецца. Раптам чуе — муж крычыць:

— Адпусці хлопца! Хопіць шараваць!

— Якога хлопца? Я табе яго аддала!

— Калі?

Выскачыла маладзіца з лазні, пачалі яны шукаць сыночка. І да сённяшняга дня не могуць знайсці. Аддала языкатая дурніца хлопчыка старому чорту Лазніку.

**50. Хут**

У каго пасяліўся Хут, таму ён спрыяе: снапы з чужых палеткаў прыносіць, золатам-срэбрам адорвае. Вечарам Хута можна прыкмеціць на небе. Калі ён ляціць і зіхаціць агнём, значыць, нясе зачараваны скарб; а калі чуваць лопанне крылаў, тады валачэ збожжа.

Хута трэба шанаваць і смачна карміць. Яго любімая страва — яечня. Разумная гаспадыня, падсмажыўшы яйкі, лезла на гарышча, ставіла да коміна міску і клікала:

— Хут, Хут, хадзі снедаць!

Калі гаспадыня вярталася ў хату, Хут з’ядаў яечню і назаўтра шчодра аддзячваў гаспадарам.

Хут можа лёгка перакінуцца ў корч ці старое кола. Кажуць, быў такі выпадак. Адзін парабак з’еў яечню, якую гаспадыня паставіла каля коміна. Хут страшэнна раззлаваўся: паклікалі снедаць, а міска — пустая. Ноччу ён падпаліў хату. Збівалі людзі пажар, збівалі — не далі рады. Засталіся ад сядзібы адны галавешкі ды старое кола, што ляжала каля плота. Ніхто не здагадаўся, што гэта — Хут. Не стала дзе жыць, таму ён перакінуўся ў кола.

— Навошта яно валяецца! — сказаў сусед і занёс кола ў свой хлеў.

З таго дня ракой паплыло да суседа багацце.

***Заканчэнне ў наступным нумары.***



*Мікола Шабовіч нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Бадзені на Мядзельшчыне. Скончыў беларускае аддзяленне філалагічнага факультэта Мінскага педінстытута імя М. Горкага. Працаваў настаўнікам на Вілейшчыне. Цяпер — дацэнт кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка. Аўтар паэтычных кніг «Дом», «Яшчэ пакуль не лістапад», «Падары мне сваю адзіноту», «Мая надзея» і іншых.*

Мікола ШАБОВІЧ

# ПЯШЧОТА

* * *

Мне ў вачах тваіх бачыцца весні прамень,
Русакудрае лета, і восені сцежкі,
І бялюткага першага снегу агмень,
І цяпло беспадобна-чароўнай усмешкі.

Столькі тоіш пяшчоты, святла, дабрыні,
Ружай-кветкай цвіцеш — паспрабуй падступіся!
Напаўняеш лагодай завейныя дні,
Быццам клічаш-завеш у паднебныя высі.

Прытуліць бы цябе, нібы мрою саму,
І ў шчаку цалаваць, і хінуцца да вушка...
Ну чаму мы з табою так рэдка, чаму?..
Застаецца ўспаміны да раніцы гушкаць

І чакаць новай стрэчы лагодлівы дзень,
Дзень, як сыдуцца нашы пагляды і ўсмешкі.
Мне ў вачах тваіх бачыцца весні прамень,
Русакудрае лета і восені сцежкі...

* * *

Ты артыстычная наскрозь.
Што выбраць воліш?
Стаіш бярозкай між бяроз
І беластволіш.

Праменіш радасць, дабрыню,
Цяплынь, сінечу,
Малітву заўтрашняму дню.
На ростань? Стрэчу?

Бруіць-гудзе жаданняў рой
Пчаліна-чмельна.
А дзе твой рыцар, твой герой?
Заняты вельмі?

Цябе не стрэне-правядзе...
Закарыфеіў?!
А што, як нехта украдзе
Такую фею?!.

І ўсё ж, пакуль спрыяе лёс,
Цвіцеш-сваволіш,
Стаіш бярозкай між бяроз
І беластволіш...

* * *

Пяшчотнаспеўная і мілая,
Усмешку маеш ты, дай бог!
Якой такой чароўнай сілаю
Мужчын прыбрала ты да ног?

Уся зіхоткая, як сонейка.
Праменіш радасны настрой.
З-пад броў сваіх чарнява-тоненькіх
Завеш у край спакус і мрой.

Мо за табой пайшоў бы следам я.
Але куды ты прывядзеш?
Аб тым сама, бадай, ці ведаеш,
Бо пачуццё — не мае меж.

Таму паціху супыняюся
І свой прытойваю парыў.
Магчыма, заўтра я пакаюся
За ўсё, што сёння гаварыў,

За рук свавольную гарэзію,
За гэты вечар не святы...
Але ж хіба не ты — Паэзія?
Душы рамантыка — не ты?

* * *

Ты распускаеш валасы
І дорыш казку летуценняў,
Дзяўчына велічнай красы,
Уся сатканая з хаценняў.

Сама пяшчота і мілосць,
Любога позіркам спакусіш,
Ды толькі ты стрымацца мусіш,
Бо у цябе ўжо хлопец ёсць.

Глядзі, дазнаецца й тады
Разборкі ўчыніць і разлікі.
Твае ўсе ляснуць Галенджыкі
На ўсе наступныя гады…

І ўсё ж мне мрояцца часы,
Як ты пад зорнае мігценне
Зноў распускаеш валасы
І дорыш казку летуценняў.

* * *

Цябе туліць — такая асалода,
Нібыта піць світальную расу.
І я прашу: прыйдзі ў маю гасподу
І распляці зрыжэлую касу.

І падары мне свята пацалункаў,
Як ты адна умееш падарыць,
Каб я п’янеў з асмеленых лятункаў,
Пакуль жаданне стоена вірыць.

Не гавары пра даўнія падманы,
Пра ўсе былыя стрэчы-міражы.
Нашто вярэдзіць колішнія раны?
Мне лепей слоўца гойнае скажы.

Адно ўсміхніся велічна-шчымліва —
І мо з усмешкі падабрэе свет,
Анёлак мой, мой промнік зіхатлівы,
Маёй вясны расчулены санет.

* * *

Вачэй зіхоткае святло
Мне будзе помніцца да ранку.
Здаецца, сонейка ўзышло,
Як ты з’явілася на ганку.

І дождж, што хмараю павіс,
Застыў-стаіўся счаравана,
І званнем ты «Пяшчоты Міс»
Была ў той міг каранавана.

Пабудзь хвіліну, не спяшы
Ў свае зацемненыя шаты!
З табой так лёгка на душы:
Такое ты прынесла свята!..

Прыгадваць дзіўных воч святло,
Сустрэчай мроіць аж да ранку…

Здаецца, сонейка ўзышло,
Як ты з’явілася на ганку.

* * *

О, як ты ўмееш радасці дарыць!
Цябе туліць, нібы саму пяшчоту.
Ў тваіх вачах агонь спакус гарыць
І спапяляе стылую самоту.

Мне так цябе салодка абдымаць,
Нібы сваю няздзейсненую мрою,
І ўжо радкоў гарэзных не стрымаць
Вячэрне-лістападнаю парою.

І хочацца сваволіць, як тады,
У дні свайго вясновага нястрыму,
Калі наўкол шматквецілі сады,
Бы запрашалі ў марыва інтыму

І столькі ўцех дарылі і дабра,
Што летуценні мкнулі за аблокі...
Мая дзяўчынка! Шчодрасці сястра!
Ты сёння мне вярнула май далёкі...

Ў тваіх вачах агонь спакус гарыць,
Што спапяляе стылую самоту.
О, як ты ўмееш радасці дарыць!
Цябе туліць — туліць саму пяшчоту.

* * *

Я дзіўную казку прыдумаць хачу
Для светлай дзяўчынкі, што стрэлася
ўранні,
І ў марах сваіх, як на крылах, лячу
Да ваблівых вуснаў, што промняць
жаданні.

Да воч яе шчымна-блакітнай тугі,
Да мілай усмешкі, такой яснавейнай,
Да рук, ледзь азяблых і ўсё ж дарагіх,
Ласкавых, і чуйных, і самых надзейных...

Я дзіўную казку прыдумаць хачу
І радасных сноў пажадаць ёй штоночы,
Бо вобраз яе не згасае ўваччу,
А зоркаю свеціць зіхотка-прароча.

Я з ёю душой маладзеў, бы юнак,
І сёння душа, як калісь, крыгаходзіць.
Мо нашая стрэча — Ўсявышняга знак?
А ён проста так анікога не зводзіць.

* * *

Летуценка мая! Цуд дзівосны прыроды!
Ты мой спеў саграваеш зімова-расстайны.
Слодыч вуснаў тваіх буду помніць заўсёды
І вачэй трапятліва-спакусную тайну.

Паланянка начы! Мары-мроі ружовіш
І гатова лунаць у завоблачных высях.
А як слоўца пяшчоты мне ў трубку прамовіш,
Так, здаецца б, і ўкленчыў: «На хвілю вярніся!

Дай адчуць зноў сябе маладым і шчаслівым
І не ў думках — наяве гарэзіць-сваволіць,
Каб затым у радках рамантычна-шчымлівых
Пал жадання на хвілю-другую спатоліць...»

Слодыч вуснаў тваіх буду помніць заўсёды
І вачэй трапятліва-спакусную тайну.
Летуценка мая! Цуд дзівосны прыроды!
Ты мой спеў саграваеш зімова-расстайны.




Ян ДЛУГАШ

# ГРУНВАЛЬДСКАЯ БІТВА*

## З «ГІСТОРЫІ ПОЛЬШЧЫ»

## ГОД ГАСПОДНІ 1410

**ЗАМАК ПРУСМАРК, ЯКІ ЗДАЎСЯ, КАРОЛЬ АДДАЕ Ў КІРАВАННЕ МРОЧКУ З ЛАПУХОВА.**

У нядзелю, перад святам святой Марыі Магдаліны, дваццатага ліпеня, кароль, выступіўшы з войскамі з Маронга, спыніўся на адпачынак, размясціўшы стан ля паселішча і возера Чолпе, каля замка Прусмарка. Туды прыбыло да караля шмат крыжакоў Ордэна, пакінутых для абароны гэтага замка. Пакорліва молячы караля пра літасць, яны перадаюць яму замак Прусмарк; кароль жа прызначае яго ў трыманне Мрочку з Лапухова, герба Ласкі, рыцару Вялікай Польшчы. Але паколькі, па чутках, у гэтым замку былі схаваны некаторыя выдатныя і каштоўныя рэчы і шмат скарбаў, кароль паслаў у замак Прусмарк свайго натарыя Яна Саху, герба Наленч, назіраць за Мрочкам у замку і скласці спіс усіх рэчаў і каштоўнасцей замка. Калі Ян Саха, праверыўшы згаданага Мрочка і перапісаўшы рэчы, вяртаўся, яго забілі па дарозе (свае ці ворагі, засталося невядомым) з усімі суправаджальнікамі. Згаданаму рыцару Мрочку прад'явілі цяжкае абвінавачванне ў тым, што ён арганізаваў гэта забойства, каб з данясення Яна каралю не стаў вядомы стан апісаных рэчаў і скарбаў замка Прусмарка. Падчас вядзення каралём аблогі Марыенбурга быў здзейснены суд над Мрочкам па абвінавачванні яго братамі і сваякамі забітага Яна Сахі ў забойстве; але Мрочка апраўдаўся, прыняўшы рыцарскую клятву.

**ПАЛЯКІ АВАЛОДВАЮЦЬ ЗАМКАМ ДЗЯЖГОНЕМ, ПОЎНЫМ РАЗНАСТАЙНЫХ ЗАПАСАЎ, АЛЕ ПАКІНУТЫМ ЛЮДЗЬМІ, І ВЯЗУЦЬ АДТУЛЬ У ПОЛЬШЧУ СТАТУІ.**

У панядзелак, у дзень святой Пракседы, дваццаць першага ліпеня, Уладзіслаў, кароль Польшчы, выступіўшы з войскам, размясціўся лагерам над возерам Далстат, зблізку горада і замка Дзяжгоня. У аўторак жа, у дзень святой Марыі Магдаліны, дваццаць другога ліпеня, ён падышоў да замка і да горада Дзяжгоня. Уступіўшы беспершкодна ў замак (бо браты Ордэна і іншыя, пакінутыя для яго аховы, пачуўшы пра набліжэнне караля, у моцным страху разбегліся з замка), кароль знайшоў там гарачыя стравы, накрытыя абедзенныя сталы, а таксама каморы і скляпы, поўныя віна, аўса, піва, рыбы, мяса і ўсякага іншага харчу. Акрамя таго, там быў знойдзены склад адзежы (на нямецкай мове трапарыя), поўны пурпурных і дарагіх тканін і адзення, належных Ордэну крыжакоў, з якога кароль шчодра адарыў рыцараў.

* *Працяг. Пачатак у нумарах 1—7 за 2010 г.*

З дазволу караля ўсё каралеўскае войска набрала сабе ўсяго ў дастатку як з прадметаў адзежы, так і харчу, знойдзенага ў замку Дзяжгоні, нагрузіўшы на свае вазы піва, віно, мяса, рыбу, хлеб і іншыя харчы. У той дзень кароль праслухаў абедню ў замку Дзяжгоні, але і наступны дзень, менавіта сераду, дваццаць трэцяга ліпеня, ён таксама правёў там. Найцудоўнейшыя статуі, усе выразаныя з дрэва, якія знайшлі ў замкавай капліцы, ён распарадзіўся адвезці ў каралеўства Польскае і прынёс у дарунак сандомежскай царкве святой Марыі кракаўскай епархіі разам са срэбным, пазалочаным крыжом, узятым пазней у Бродніцах. Усё гэта ў сандомежскай царкве захоўваецца і дагэтуль у якасці памятнага дарунка на вечную славу.

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, НЕ НАДАЎШЫ ЗНАЧЭННЯ ПАСЛАНЦАМ КАМАНДОРА ГЕНРЫХА ФОН ПЛАЎЭНА, НАКІРОЎВАЕЦЦА З ВОЙСКАМ ДА МАРЫЕНБУРГСКАГА ЗАМКА.**

У чацвер, напярэдадні дня святога апостала Якава, дваццаць чацвёртага ліпеня, Уладзіслаў, кароль Польшчы, аддаўшы замак Дзяжгонь ва ўладу і кіраванне маршалку Збігневу з Бжэзя, выступіў з войскам і размясціўся станам на паўдарозе паміж Марыенбургам і Дзяжгонем, над паселішчам і возерам Старытаргам. Туды з’явіліся да караля два рыцары з Марыенбургскага замка і прасілі гарантаваць бяспечны праезд пасланцам Генрыха фон Плаўэна, якія прыбудуць у вялікай колькасці; але кароль адказаў, што з ласкі Божай ён заўтра сам прыбудзе ў Марыенбург і тады дарує бяспеку колькім заўгодна паслам. Для таго каб горад Марыенбург у выпадку яго захопу не ператварыўся для караля Польшчы ў апорны пункт і крэпасць для яго войска, адкуль атрымалася б яшчэ цясней атачыць Марыенбургскі замак, апошні быў у той жа дзень спалены па загадзе камандора Генрыха фон Плаўэна.

**ЛЁГКІЯ СУТЫЧКІ ПАЛЯКАЎ З ВОРАГАМ ЛЯ ГОРАДА МАРЫЕНБУРГА.**

У пятніцу, у дзень святога апостала Якава, дваццаць пятага ліпеня, Уладзіслаў, кароль Польшчы, выслаўшы наперад да замка Марыенбурга некалькі рыцарскіх харугваў з наказам заняць зручныя месцы для прадухілення засады і іншых небяспек, размясціўся лагерам спачатку над возерам Грунгаў, а адтуль удала падышоў да Марыенбурга і неадкладна з усіх бакоў абклаў замак аблогай. Польскае войска кароль размясціў ля верхняй часткі замка з усходу і поўдня, літоўскае ж паставіў ля ніжняй часткі; акрамя таго, у асобным месцы, на поўдзень ад замка, ён размясціў ваяроў зямель свайго каралеўства — Падоліі і Русі. На працягу ўсяго дня паміж каралеўскімі рыцарамі і ворагамі ішлі лёгкія сутычкі за спалены ўжо горад Марыенбург; ворагі ледзь паспелі абараніць горад ад уступу ў яго польскіх рыцараў; бо няцяжка было хутка авалодаць горадам, не абароненым натуральнымі ўмацаваннямі і пакінутым разбегшымися жыхарамі.

**МАРЫЕНБУРГСКІ ЗАМАК ЛЕДЗЬ НЕ БЫЎ УЗЯТЫ ДЗЯКУЮЧЫ АДВАЗЕ НЕКАЛЬКІХ ПОЛЬСКІХ РЫЦАРАЎ. НАРЭШЦЕ КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ЗАГАДВАЕ ЎНАЧЫ ЎСТАЛЯВАЦЬ БАМБАРДЫ Ў ГАРАДСКОЙ ЦАРКВЕ І ДОЎГА, АЛЕ ДАРЭМНА АБЛОЖВАЕ ЗАМАК.**

У суботу, на наступны дзень пасля свята святога апостала Якава, дваццаць шостага ліпеня, у той час як каралеўскія ваяры з дзвюх харугваў (менавіта вялікай харугвы і харугвы алясніцкай) па жэрабі, па чарзе неслі варту, пад вечар справа дайшла да бітвы.

Каралеўскія войскі імкнуліся ўварвацца ў горад Марыенбург, ворагі ж з вялікай мужнасцю перашкаджалі гэтаму, прычым пакрысе пала большасць ворагаў; астатнія ж, абложаныя, былі вымушаны з прычыны колькаснай перавагі палякаў адмовіцца ад горада Марыенбурга і адступіць у замак. Першым увайшоў у горад Марыенбург Якуб Кабылянскі[1], рыцар герба Гжымаля, другім — Дабеслаў з Алясніцы, рыцар герба Дзембна, за імі рушылі ўслед іншыя. Згаданыя двое рыцараў Якуб і Дабеслаў, вырашыўшы не спыняць сутычкі, тут жа, па ўзяцці горада, трасучы дзідамі, гучнымі крыкамі сталі заклікаць да прыступу замка і імкліва дабеглі да царквы і амаль да самых сцен. Калі б астатнія каралеўскія ваяры падтрымалі іх з такой жа адвагай, то замак Марыенбург можна было б узяць у той жа час (доступ да замка быў тады яшчэ адкрыты, дзякуючы незаладжанаму вялікаму пралому, праз які рыцары маглі б уварвацца). Паколькі ўсе ворагі, якія ахоўвалі замак, разбегліся, схаваўшыся ў вежы і ў больш надзейных месцах, знаходзячыся ў моцным страху і смутку, як калі б замак ужо быў узяты, то палякам трапляўся выдатны выпадак захапіць Марыенбургскі замак. Гэта магчымасць была ўпушчана палякамі, лёс спрыяў крыжакам. З наступленнем змяркання ворагі спалілі мост, які яны трымалі ў сваіх руках, праз раку Віслу насупраць Тчэва, з асцярогі, як бы адтуль польскія рыцары не напалі на замак. Гэта паслужыла на вялікую карысць каралеўскага войска, бо фуражыры з каралеўскага лагера маглі, перасякаючы раку Віслу, кожны дзень бяспечна спускацца ў Жулавы. Згаданы шырокі пралом, які мог, відавочна, пагражаць пранікненню ў замак, ворагі на працягу ўсёй наступнай ночы латаюць, умацоўваюць і закрываюць моцным дубовым бярвеннем[2]. Але і польскі кароль Уладзіслаў у тую ж ноч, усталяваўшы вялікія бамбарды ў гарадской царкве, бесперапыннай стральбой з іх б’е па замку. Пастаўлены былі і іншыя бамбарды сярод літоўскага войска: адны ўздоўж гарадскіх сцен, другія ў пачатку моста, спаленага з другога боку Віслы; з усіх іх вельмі моцна білі па замку з чатырох бакоў. Каралеўскі шацёр з капліцай і пераддзвер’ем быў змешчаны на высокім узгорку над Віслай, адкуль кароль мог аглядаць усё сваё войска і замак. Аблогу ж гэту Уладзіслаў, кароль Польшчы, рабіў на працягу цэлых двух месяцаў. Тым часам туды прыбыў біскуп пазнанскі Альберт Ястшэмбец наведаць Яго Светласць. Прыбыццё біскупа было прыемна каралю і яго вяльможам, бо ён адрозніваўся бляскам розуму і энергіі. Аднак падчас знаходжання там біскуп занямог ліхаманкай, якая не пакідала пастыра год і шэсць месяцаў, і ён па наказе караля быў вымушаны вярнуцца ў сваю епархію.

### БОЛЬШАЯ ЧАСТКА ПРУСІІ ЗДАЕЦЦА НА ЛІТАСЦЬ КАРАЛЯ ПОЛЬШЧЫ І ПРЫСЯГАЙ АБАВЯЗВАЕЦЦА ЯМУ НА ВЕРНАСЦЬ. ВЫДАТНАЯ ВЕРНАСЦЬ КАРАЛЮ ЭЛЬБІНГЦАЎ.

Падчас аблогі Марыенбургскага замка знаць і рыцары зямель Прусіі, Кульма і Памераніі, а таксама гараджане амаль усіх галоўных гарадоў, змешчаных у згаданых землях, а менавіта: Гданьска, Эльбінга, Торуня, Кульма, Кінсберга, Свеца,

[1] Якуб Кабылянскі — каштэлян гнезненскі і стараста брэсцка-куяўскі ў 1407—1454 гг.

[2] Марыенбург быў абнесены трыма сценамі. Першая сцяна атачала «падзамак», дзе змяшчаліся стайні, свірны і іншыя гаспадарчыя пабудовы. Паміж ім і так званым «сярэднім замкам», рэзідэнцыяй вялікага магістра, высілася аддзеленая ровам другая сцяна. Трэцяя сцяна ішла вакол «верхняга замка» — асноўнай часткі Марыенбурга, дзе знаходзіўся манастыр Ордэна, захоўвалася яго казна, жылі рыцары-манахі і г. д.; перад ёй таксама быў глыбокі роў. С. Кучыньскі лічыць, што пралом, пра які кажа Длугаш, меўся ў першай сцяне, якая атачала замак, а крыжакі беглі ў верхні замак (S. Kuczyński. Wielka wojna, стар. 395—397).

Гнева, Тчэва, Новай Бродніцы, Брандэнбурга, а таксама чатыры біскупы, Іаан вармійскі, Арнольд кульмскі, Генрык памезанскі і Іаан самбійскі[1], прыбылі асабіста да Уладзіслава, караля Польшчы, і здаліся з усімі сваімі валадарствамі, гэта значыць замкамі і гарадамі, прынесшы прысягу на вернасць, шанаванне і падпарадкаванне з ускладаннем рукі на Евангелле. Аднак знаць і гараджане згаданых зямель і гарадоў, якія патрапілі ў палон да караля падчас бітвы, сваімі просьбамі дамагліся, каб іх адпусцілі з палону перад здзяйсненнем імі абраду шанавання і прынясеннем прысягі на вернасць. Яны заяўлялі, што нельга ім здзяйсняць абрады прысягі і падпарадкавання, пакуль яны прызнаюцца палоннымі. Па просьбе ж рыцараў і гараджан Уладзіслаў, кароль Польшчы, пацвердзіў іх ранейшыя правы і вольнасці і да ранейшых дадаў яшчэ новыя. Сярод жа ўсіх прускіх гараджан адметнай была вернасць і адданасць каралю эльбінгскіх гараджан. Апошнія пасля ўцёкаў камандора эльбінгскага Вернера Тэцінгера з поля бітвы і выгнання з Эльбінгскага замка, куды ён схаваўся, здалі Уладзіславу, каралю Польшчы, Эльбінгскі замак з некранутай маёмасцю і запасамі харчу разам з горадам. Уладзіслаў, польскі кароль, аддаў замак у трыманне Яну з Тарнова, кракаўскаму ваяводу. Уступіўшы ў валоданне ім, згаданы ваявода знайшоў там шмат каштоўных рэчаў і перадаў з іх Уладзіславу, каралю Польшчы, сто залатых і срэбных пасудзін.

**ЖОРСТКАЯ БІТВА КАРАЛЕЎСКАЙ ВАРТЫ З ВОРАГАМІ, ЯКІЯ РАСПАЧАЛІ ВЫЛАЗКУ З МАРЫЕНБУРГСКАГА ЗАМКА.**

Падчас аблогі, калі рыцары трох харугваў, менавіта Дабеслава з Алясніцы, Кміты з Вісніц і Грыфаў, неслі варту пры бамбардах, варожыя рыцары, зрабіўшы вылазку з замка, спрабавалі прарвацца да месца аховы ля бамбард. Але каралеўскія рыцары са згаданых трох харугваў, папярэдзіўшы іх напад, выходзяць ім насустрач да ракі Віслы, дзе ўзнікае моцная сутычка, прычым ворагі, страціўшы значную частку сваіх людзей, пасяваюць схавацца ў замак. Польскія рыцары неадступна пераследуюць іх аж да круглай вежы, забіваюць і захопліваюць у палон. Каб адкінуць праследнікаў, ворагі абвальваюць сцяну замка, пашкоджаную каралеўскімі бамбардамі. Пры падзенні гэтага гмаха задушыла многіх польскіх рыцараў. Другіх ворагі абсыпалі стрэламі, пускаючы зверху іх у вялікай колькасці, аднак нікому не нанеслі смяротных ран. Лоўчаму сандомежскаму Пятру з Алясніцы ўдарамі камянёў так моцна памялі шлем, што апошні можна было зняць з галавы толькі з дапамогай кавальскіх молатаў.

**ЗАМКІ І ГАРАДЫ, ЯКІЯ ЗДАЛІСЯ, КАРОЛЬ РАЗМЯРКОЎВАЕ ПАМІЖ СВАІМІ РЫЦАРАМІ.**

Прыняўшы прускія замкі і гарады, якія здаліся, Уладзіслаў, кароль польскі, размеркаваў іх паміж сваімі рыцарамі для кіравання. Так, Бронніцкі замак ён аддаў Мікалаю з Міхалова, ваяводу сандомежскаму. Мікалай, уступіўшы ў валоданне ім і знайшоўшы ў замку шмат срэбных і залатых рэчаў, а таксама цудоўныя кнігі, у

[1] Правільна Длугаш называе толькі біскупа кульмскага, у імёнах астатніх ён памыляецца (гл. № 6/2010, 1410 г., ст. 92, заўв. 4, 5, 7).

прыватнасці пяць частак «Зерцала» Вінцэнта[1], а таксама выдатныя карціны, упрыгожаныя золатам і срэбрам куфры, крыжы і ўпрыгожванні і шмат іншых каштоўнасцей, усё сумленна прадставіў каралю. Хоць частку гэтых каштоўных рэчаў кароль аддаў у дарунак кракаўскай царкве, у прыватнасці «Зерцала» Вінцэнта, аднак самыя выдатныя прадметы і каштоўнасці ён размеркаваў паміж віленскім саборам і прыходскімі літоўскімі цэрквамі. Таксама замак Капшыўна, інакш Энгельсберг, аддадзены быў Дабеславу з Алясніцы; таксама замак і горад Тчэў — Пятру Венглю; таксама замак Грабін — Альберту Мальскаму; таксама горад Гданьск — Янушу з Туліскава, каштэляну калішскаму; таксама замак і горад Гнеў — Паўлу з Вшэрадава, каменьскаму каштэляну; таксама горад Торунь — Вінцэнту з Гранова, каштэляну наклоўскаму, а калі ён там сканаў ад яду (як многія сцвярджалі), паставіў на яго месца Збігнева з Бжэзя, маршалка Польскага каралеўства; таксама замак Венцлаў і Старгард[2], дзе захоўвалася галава святой Варвары, якую Уладзіслаў, польскі кароль, не дазволіў вывезці адтуль, хоць яго абложвалі шматлікімі просьбамі; таксама горад і замак Грудзендз — Масціцыю са Стэншава, каштэляну пазнанскаму[3]; таксама замак Голуб — Немсце з Шчытнікаў; таксама замкі Астэрод і Нідборг — князю мазавецкаму Янушу; таксама замкі Дзялдаў і Шчытна — князю мазавецкаму Земавіту; таксама замкі Кужэнтнік і Браціян — Яну Краткоўскаму; таксама замак Кавале — Мікалаю, падканцлеру каралеўства Польскага; таксама Свецэ, толькі горад, бо замак яшчэ ўтрымлівалі ворагі, — Дабеславу Пухалу; таксама замкі і гарады Бытаў і Гамерштэйн — Багуславу, князю слупскаму. Апошні, прыбыўшы да Яго Светласці (падчас аблогі Марыенбургскага замка), падпісаў адкрытую грамату ў тым, што будзе верна служыць і дапамагаць каралю і кароне польскай са сваімі ваярамі, гараджанамі і ўсімі падданымі. Па яго просьбе і даручальніцтве Уладзіслаў, кароль Польшчы, дазволіў адпусціць узятага ў палон яго роднага пляменніка, князя Казіміра шчэцынскага. Таксама замак і горад Лемберг дадзены ў трыманне Пятру Хелмскаму і яго братам; таксама замкі Кінсберг і Голанд з гарадамі — вялікаму князю Літвы Аляксандру; таксама рыбныя лоўлі за Эльбінгам, багатыя рыбай, — Яну Туміґралу; таксама замак Рагозьна — чэху Гінчку; таксама замак і горад Тухоля — Янушу Бжазаглаваму; таксама Штум — Андрэю Брахоцкаму. Бо ўсе гарады, паселішчы і замкі зямель Прусіі, Памераніі, Міхалоўскай і Кульмскай ужо аддаліся пад уладу караля Уладзіслава, акрамя замкаў Марыенбурга, Радзіна, Гданьска, Свеца, Плохава, Брандэнбурга, Бальгі, Рагнеты, Тройпеды, інакш Мемеля; аднак замак Радзін абложвала каралеўскае войска. Замак жа Гданьск дамогся таго, што кароль не падверг яго аблозе, склаўшы з каралём дамову, якой прадугледжвалася, што пасля заваявання замка Марыенбурга Гданьск павінен будзе здацца каралю.

### КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, ЗАХОПЛЕНЫ ПЕРАМОГАЙ, ПАДАХВОЧВАЕ НА АДВАЖНУЮ АБАРОНУ ЗАМКА МАРЫЕНБУРГА КАМАНДОРА ГЕНРЫХА ФОН ПЛАЎЭНА, ЯКІ З'ЯВІЎСЯ, ПРОСЯЧЫ ЛІТАСЦІ І ПРАПАНУЮЧЫ СПРАВЯДЛІВЫЯ ЎМОВЫ МІРУ.

На працягу ўсяго месяца ліпеня, калі Уладзіслаў, кароль Польшчы, быў заняты аблогай Марыенбургскага замка, поспех нязменна суправаджаў караля і яго войска ва ўсіх іх ваенных дзеяннях і бітвах; і ў далейшым кароль спадзяваўся на

[1] Поўны загаловак гэтай працы: «Speculum majus doctrinale, historiale, naturale, et speculum minus vel imago mundi». Аўтар гэтай свайго роду энцыклапедыі, Вінцэнцій з Бовэ, памёр у 1264 г. Упершыню «Зерцала» было выдадзена ў XV ст. Падрабязныя звесткі пра яго гл.: А. И. Малеин. Энциклопедия Винцентия из Бовэ. Труды Института книги, документа и письма АН СССР, т. 2, Л., 1932, стар. 23—41.

[2] У Длугаша прапушчана імя рыцара, якому кароль перадаў замкі Венцлаў і Старгард.

[3] Масціцый са Стэншава быў пазнанскім каштэлянам у 1401—1429 гг.

вялікія поспехі. На пачатку ж жніўня месяца камандор Генрых фон Плаўэн адправіў да караля Польшчы Уладзіслава пасланцоў з просьбай дазволіць яму з'явіцца з Марыенбургскага замка для перамоў і атрымаў дазвол. Калі камандор Генрых фон Плаўэн са стрыечным братам сваім парафіянінам Генрыхам фон Плаўэнам і некалькімі чэхамі і сілезцамі, прыбыўшы, паўстаў перад каралём, князямі і вяльможамі ля мяжы горада, загадана было яго спытаць, з якімі прапановамі ён прыйшоў і чаго дамагаецца. Камандор прамовіў наступнае: «У вялікай бітве і ў страшнай кровапралітнай сечы харугвы і войскі нашы і Ордэна нашага нядаўна былі пераможаны і разгромлены табой, наймагутны святлейшы кароль! Таму, засмучаныя нягодай і зламаныя няшчасным лёсам, з рашэннем якога пагадзіліся, вядома, сілы нябесныя і пякельныя (тады як магістр Прусіі Ульрых і яго камандоры, як вар'яты, адпрэчылі мір, прапанаваны табой на справядлівых умовах, і жадалі застрашыць цябе дзёрзкімі заявамі і двума аголенымі мячамі), мы прыйшлі да цябе, шануючы цябе пераможцам лагодным і міралюбным, з просьбай і маленнямі ў спадзеве атрымаць надзею, падтрымку і літасць ад тваёй міласці. І вось я, якому гэта бліжэй за ўсё, бо я дзейнічаю за магістра, малю і заклікаю тваю непераможную вялікасць пакутамі Госпада нашага Ісуса Хрыста і яго крывёй, пралітай дзеля выратавання роду чалавечага, і маці яго, благаславёнай паннай Марыяй і найчыстым млекам Панны, грудзьмі якой, напоўненымі з неба, сілкаваўся і ўскормлены быў сам Бог наш Ісус Хрыстос, ды ўдастоіць твая вялікасць, суцішыўшы буру свайго абурэння, адхіліць, нарэшце, бізун помсты ад нас і нашага Ордэна і не імкнуцца назаўжды знішчыць наш Ордэн пасля таго, як ты досыць змірыў нашу фанабэрыю і ганарыстасць. Мы ж цяпер і надалей будзем здаволены, калі твая міласць зробіць ласку выслухаць нашы просьбы, і адкрыта прызнаём, што мы і наш Ордэн атрымалі ад тваёй вялікасці вечнае дабрадзейства, калі тваё правасхадзіцельства, прыняўшы землі Памераніі, Кульмскую і Міхалоўскую, з іх замкамі, гарадамі і паселішчамі (якія па праву, складзе і прыналежнасці ўваходзяць у тваё Польскае каралеўства і з-за якіх часта ўзнікала вайна паміж каралеўствам і Ордэнам), пакіне Ордэну землі Прусіі, набытыя ад варвараў кровапралітнымі войнамі і вашага польскага народа і іншых каталіцкіх народаў, каб Ордэн крыжакоў, заснаваны для абароны хрысціян ад язычнікаў, не апынуўся цалкам выкараненым у прускіх абласцях»[1]. Калі гэта пасольства і просьба камандора Генрыха фон Плаўэна былі дакладзены вялікай радзе[2], то, з прычыны таго, што ў гэтай просьбе падазравалі больш каварства, чым пакоры, меркаванні князёў і вяльможаў разышліся: сталыя поспехі пазбавілі саветнікаў здольнасці вынесці правільнае рашэнне; яны не ўзважылі таго, што парадак рэчаў хуткаплынны і пераменлівы і што ніколі шчасце не спрыяе толькі аднаму боку. Прапанова спадабалася саветнікам менш, чым каралю, бо яны лічылі, што замак Марыенбург не вынесе доўгай аблогі і што калі Ордэну крыжакоў пакінуць зямлю Прусіі, то ён будзе зноў імкнуцца пры выпадку заваяваць землі, ад якіх адмаўляўся: прагнасць атрымаць больш, чым прапанавалі, вяла палякаў па няслушным шляху, і яны ішлі ўслед чалавечай слабасці. Таксама і кароль Уладзіслаў, верачы, што поспехі будуць ісці адзін за адным, у надзеі набыць большае згубіў нават тое, што яму прапанавалася. Вялікае шчасце пазбаўляе зроку розум людзей! Бо менавіта гэтыя шчаслівыя

[1] З нагоды прапаноў Генрыха фон Плаўэна, прыведзеных Длугашам, у літаратуры існуюць розныя меркаванні. Большасць не сумняваецца ў іх дакладнасці. Некаторыя лічаць іх выдумкай Длугаша, мяркуючы, што калі б магістр насамрэч прапанаваў аддаць Польшчы Хелмінскую (Кульмскую) і Міхалоўскую землі з Памор'ем, мір неадкладна быў бы падпісаны.

[2] Г. зн. каралеўскай радзе ў яе звычайным шырокім складзе, а не той з васьмі чалавек, якая была абрана каралём на пачатку вайны.

поспехі і перамога, здабытая ў бітве пад Грунвальдам, заахвоцілі караля Уладзіслава ўзнесціся ганарыстасцю пераможца і пагадзіцца на адказ, занадта напышлівы для пераможнага караля. Такім чынам, было вырашана даць Генрыху фон Плаўэну адказ такога роду, па наказе караля абвешчаны яму Збігневам з Бжэзя, маршалкам Польскага каралеўства: «Калі б ты, — сказаў ён, — камандор Генрых, шчыра прыйшоў прасіць міру, то не вызначаў бы нашаму каралю таго, што па Божым і чалавечым законе заўсёды належала каралю і яго каралеўству і што вернута яму пасля законнай здачы. Табе належала б, вядома, прапанаваць перадачу іншых замкаў, якія адмаўляюцца здацца, і першым чынам — Марыенбургскага замка; ведай, што як тыя, што ўжо здаліся, так і тыя, што адмаўляюцца здацца, з'яўляюцца ўзнагародай пераможцу. Такім чынам, каралю няма за што табе дзякаваць. Але калі ты пакінеш Марыенбургскі замак, то кароль наш будзе табе ўдзячны за саступку яго і пасля здачы Марыенбургскага замка не адмовіць Ордэну крыжакоў у належным пакрыцці адпаведна таму, якое Ордэн мае ў германскіх землях». На гэта камандор Генрых сказаў: «Значыць, гэта канчатковае рашэнне караля, і мы не павінны спадзявацца на больш міласцівае?» Калі ж маршалак Збігнеў адказаў, што абвешчаныя ім умовы канчатковыя і што калі камандору патрэбен мір, то хай прадставіць больш старанна абдуманыя прапановы, камандор дадаў: «Я спадзяваўся было, што кароль ахвотна прыме мае справядлівейшыя просьбы і прадстаўленні, злітаваўшыся над нашым няшчасцем. Зрэшты, я лічу, што гэтае пасольства і зняважаныя просьбы загладзілі гнеў сіл нябесных, выказаны на нас за парушэнне дамовы, і я зусім не пакіну Марыенбургскага замка. Мала таго, спадзеючыся на дапамогу ўсемагутнага Бога і заступніцтва блажэннай панны Марыі, я паспрабую абараніць яго ўсімі сіламі і не дапушчу, нават калі прыйдзецца загінуць, з такой лёгкасцю знішчэння майго Ордэна». На гэтым яны разышліся, і кароль вярнуўся ў свой шацёр, а Генрых — у Марыенбургскі замак. Тым часам, як меркавалі, такое пакорлівае прадстаўленне камандора Генрыха прынесла вялікую карысць боку крыжакоў; яно загладзіла, або змякчыла, гнеў сіл нябесных, што ў нейкай меры яшчэ гнялі крыжакоў за парушэнне дамовы; каралеўскаму ж боку прынесла шкоду з-за гонару. Адказ гэты паказаў, як безразважна абражаць каго б там ні было да канца вайны, пакуль яшчэ не вырашана жэрабя пераможцы і пераможанага. Бо з таго дня шчасце памалу перастала спрыяць каралю і яго войску, а справы Ордэна сталі прымаць больш спрыяльны зварот. Так, праз некалькі дзён ворагі зрабілі вылазку з замка, напаўшы на рыцараў зямлі Вялюньскай, якія не асабліва старанна ахоўвалі бамбарды. Ім удалося ўзяць у палон аднаго начальніка, многіх яны паранілі і пашкодзілі некалькі бамбард. Яшчэ трохі пазней, калі такую ж варту несла харугва князя Мазовіі Януша, бамбарда пры сваім адкаце стукнула ў сцяну спаленага ў горадзе каменнага дома; сцяна, адваліўшыся, раздушыла сваім цяжарам дваццаць рыцараў, якія стаялі пад ёй. Але не толькі тады, але і пасля няўдача суправаджала большасць каралеўскіх спраў і распачынанняў, асабліва ў параўнанні з ранейшым часам, калі каралю падаравана было вялікае шчасце. У давяршэнне ўсяго ў каралеўскім войску развялося такое мноства мух ад трупаў загінуўшых коней, ад кішак хатняй скаціны, а таксама ад гною і ад гнілой падлы, што гэта не толькі прычыняла млоснасць, але і прынесла вялікія пакуты войску. Усякіх харчоў мелася вялікае, амаль неверагоднае багацце, якога ніхто не мог бы мець ва ўласнай хаце і гаспадарцы; так што ні ў чым не было недахопу. Коней амаль з усяго войска адвялі на выспу Жулаву, і яны пасвіліся падобна дзікай жывёле на пакінутых жыхарамі паселішчаў нівах. Конюхі, якія іх вартавалі, уваходзячы ў хаты ўцекачоў-сялян, не толькі падмацоўваліся і сілкаваліся. Паколькі ў кожнай каморы было шмат усякага харчу, то, адвозячы яго на рынкі суседніх гарадоў, яны зараблялі шмат грошай, якія адпраўлялі дахаты, купіўшы сабе першым чынам адзе-

жу. У шматлікіх паселішчах Прусіі і Памераніі знойдзены былі таксама вялікія запасы збожжа, схаванага ў ямах, якія сяляне клапатліва ўладкоўвалі з-за частых войн. Падчас аблогі Марыенбургскага замка польскім войскам усякага роду харчу і ўсяго неабходнага было ў такім жа багацці, як і ў сваёй краіне і ва ўласных хатах, бо па ўсёй Прускай зямлі панаваў спакой.

**МАГІСТР ЛІВОНІІ, КАБ ДАПАМАГЧЫ Ў АБАРОНЕ МАРЫЕНБУРГСКАГА ЗАМКА, ВЫРАШАЕ АЖЫЦЦЯВІЦЬ ГЭТА ХІТРАСЦЮ. АБЯЦАННЯМІ ЁН СХІЛЯЕ ВЯЛІКАГА КНЯЗЯ ЛІТВЫ АЛЯКСАНДРА НА СВОЙ БОК. ПРЫХОДСКІ СВЯТАР ГОРАДА ГДАНЬСКА, ПАКІДАЮЧЫ МАРЫЕНБУРГСКУЮ КРЭПАСЦЬ, ВЫНЕС З САБОЙ ТРЫЦЦАЦЬ ТЫСЯЧ ПАЎНАЦЭННЫХ ЗАЛАТЫХ ДЛЯ АКАЗАННЯ ДАПАМОГІ СУСЕДНІМ КАМАНДОРАМ, ПРЫЧЫМ ПАЛЯКІ НІЧОГА ПРА ГЭТА НЕ ПАДАЗРАВАЛІ.**

Магістр Лівоніі Герман фон Вінткіншэнк, намерваючыся таемна дапамагчы Марыенбургскаму замку, пра вельмі цяжкае становішча якога ён даведаўся, прыбыў у Прускую зямлю з атрадам у пяцьсот узброеных людзей[1]. Жадаючы застацца незаўважаным, магістр размясціўся ў патайным месцы каля горада Кінсберга. Даведаўшыся ад разведчыкаў пра прыбыццё магістра, кароль Уладзіслаў паслаў супраць яго вялікага князя літоўскага Аляксандра, далучыўшы да сіл князя дванаццаць харугваў польскіх рыцараў. Сустрэўшы магістра каля ракі Пасарыі за Голандам, Аляксандр на наступны дзень збіраўся напасці на яго. Аднак лівонскі магістр Герман, разважыўшы, што лепш служыць справе Ордэна хітрасцю, чым сілай зброі, просіць (як задумаў ужо даўно) князя Аляксандра ўступіць з ім у перамовы. Атрымаўшы згоду, ён асабіста прыбывае ў лагер князя і без усякіх сведак уступае ў перамовы і абмяркоўвае з ім умовы таемнай дамовы. Прапануючы Аляксандру адмовіцца ад Самагіцкай і Судаўскай[2] зямель (з-за якіх пачалася вайна) і ніколі больш іх не дамагацца, магістр пры дапамозе шчодрых абяцанак пераманьвае князя на бок Ордэна; бо князь больш прагнуў уз’яднання сваёй літоўскай радзімы, чым польскай. Такім чынам, заручыўшыся добразычлівасцю вялікага князя літоўскага Аляксандра, магістр адправіў сваё лівонскае войска ў замкі Бальга і Брандэнбург. Сам жа толькі з пяццюдзесяццю вершнікамі, на чале з князем Аляксандрам, рушыў у каралеўскі стан ля Марыенбурга, каб выканаць абяцанні і таемнае дамаўленне з князем Аляксандрам. Па прыбыцці туды ён па хадайніцтве і пры садзейнічанні таго ж вялікага князя Аляксандра, якога прывабілі таемныя абяцанкі, атрымаў дазвол уступіць у Марыенбургскі замак нібы для таго, каб схіліць крыжакоў да здачы ў згодзе з патрабаваннем караля. Прабыўшы там некалькі дзён і правёўшы перамовы і нарады з Генрыхам фон Плаўэнам пра вяртанне страчаных замкаў, гарадоў і зямель, а таксама пра таемную дамову, складзеную з літоўскім князем Аляксандрам, магістр з’ехаў. І з гэтага часу згаданы камандор Генрых фон Плаўэн, прасякнуўшыся вялікай адвагай і энергіяй, якія ўзбудзіў у ім згаданы магістр Лівоніі Герман, зрабіўся зацятым, ганарыстым і напышлівым, не жадаючы і чуць ніякага згадвання пра мір. Таму пры перамовах з ім пра мір ад імя караля яго ніяк нельга было схіліць да выканання тых умоў, прыняць якія ён сам жа раней маліў. Зараз кароль, узважыўшы, хоць і позна, якую выгаду ён адпрэчыў, згаджаўся прыняць іх. Кароль ведаў, што настрой

[1] Па звестках «Хронікі» Посільге, лівонскі атрад прыбыў пад кіраўніцтвам не магістра, а маршала лівонскага (Possilge. Chronik, стар. 321), Бернда фон Гевельмана. Магістр быў у той час хворы.

[2] Судаўскай зямлі, г. зн. землі яцвягаў (гл. № 1/2010, 1387 г., ст. 106, заўв. 2), якія ў прусаў і літоўцаў называліся «судавы».

Аляксандра, вялікага князя Літвы, ужо моцна змяніўся і што князь рашуча супраць працягу аблогі, маючы на ўвазе звярнуць перадачу зямель Польскаму каралеўству на карысць Літвы[1]. Дадалася да гэтай і другая бяда каралю і каралеўству Польскаму. Калі згаданы магістр Лівоніі Герман пакідаў Марыенбургскі замак, з ім выехаў прыходскі святар з Гданьска, брат Ордэна крыжакоў, чалавек вельмі старэчага ўзросту, быццам бы для таго, каб пазбегнуць нягод аблогі, на што кароль лёгка даў дазвол. Яго ад'езд утойваў страшную небяспеку і пасля нанёс вялікую шкоду справе караля; бо праз гэтага прыходскага святара Генрых фон Плаўэн (лічачы іншы шлях ненадзейным) пераслаў трыццаць тысяч паўнавартасных залатых для размеркавання паміж гданьскім, члухаўскім і свецскім камандорамі. Апошнія па яго распараджэнні і наказе ўрэшце паклапаціліся пра набор на гэта золата значнага атрада наёмных рыцараў з чэхаў, венгерцаў, сілезцаў і немцаў. З гэтага любы чалавек па разумным меркаванні зразумее, якую небяспеку можа прынесці дазвол на ўезд ці выезд з замка і горада падчас аблогі.

**ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ АЛЯКСАНДР ПАД ПАДСТАВАЙ ТАГО, ШТО ЯГО ВОЙСКА ПАКУТУЕ АД ПАНОСУ, ЗДЫМАЕ АБЛОГУ МАРЫЕНБУРГСКАГА ЗАМКА; АКРАМЯ ТАГО, ВЯРТАЮЦЦА ДАХАТЫ І КНЯЗІ МАЗОВІІ.**

Набліжаўся дзень ражаства ўладаркі нашай панны Марыі, які прыпадаў на панядзелак. Аляксандр, вялікі князь літоўскі, падбіраў розныя падставы і выкруты, дзякуючы якім ён мог бы вярнуцца са сваім літоўскім войскам у Літву, зняўшы аблогу Марыенбургскага замка. Князь сцвярджаў, у прыватнасці, што войска яго пакутуе паноснай хваробай ад нязвыклай яму вытанчанай ежы і што калі ў хуткасці не сыдзе, то хвароба распаўсюдзіцца яшчэ больш. Хоць гэта і было праўдай, аднак пры добрым жаданні гэту хваробу можна было спыніць простымі сродкамі. І хоць Уладзіслаў, кароль польскі, старанна шляхам мноства абяцанняў спрабаваў адгаварыць князя ад яго намеру, але ўрэшце, бачачы змену яго настрою і няшчырасць, дазволіў князю сысці з усім войскам. Атрымаўшы гэты каралеўскі дазвол, Вітаўт выступіў са сваім войскам у чацвер пасля ражаства святой Марыі і зняў аблогу Марыенбурга. Аднак князь не адважыўся ісці без суправаджэння каралеўскага атрада, баючыся нападу лівонцаў ці іншых крыжакоў і іх наймітаў. З прычыны гэтага кароль Уладзіслаў надаў яму шэсць харугваў сваіх войскаў з палякаў. Праводзіўшы князя да меж Літвы, каралеўскі атрад вярнуўся цэлым да аблогавага стана[2]. Крыху пазней сышлі таксама мазавецкія князі Земавіт, Януш і Земавіт-малодшы са сваімі войскамі. Кароль, аднак, з астатнімі войскамі свайго каралеўства, колькасць якіх пасля сыходу князёў Літвы і Мазовіі, вядома, паменшылася, працягваў аблогу. Такім чынам, крыжакі з мэтай адхіліць аблогу Марыенбургскага замка і хуткі ў будучым яго захоп, калі б аблога працягнулася, падалі князю Аляксандру-Вітаўту небеспадстаўную надзею на вяртанне Самагіціі. Да гэтага князь з вялікай прагнасцю імкнуўся, прычым яго надзея не разыходзілася з рэчаіснасцю; прываблены

[1] Польскі гісторык С. Кучыньскі з нагоды апошніх слоў Длугаша намякае, што выкананне з боку Вітаўта сваіх інтарэсаў было звычайнай справай, але зусім не азначала, што дзеля іх ён збіраўся здрадзіць інтарэсам Польшчы, як піша Длугаш (S. Kuczyński. Wielka wojna, стар. 431).

[2] Сваім паведамленнем пра тое, што Вітаўт не адважыўся ісці без аховы, Длугаш сам аспрэчвае абвінавачванне Вітаўта ў здрадзе і заключэнні таемнай дамовы з крыжакамі. Мабыць, Вітаўт адпрэчыў зробленыя яму прапановы і на гэтай падставе асцерагаўся нападу на сваё войска і на сябе асабіста з боку крыжакоў.

гэтай прынадай, Вітаўт змяніў свой настрой і волю і задумаў кінуць аблогу і, спыніўшы вайну, сысці дахаты. Вітаўт стаў не тым, кім быў спачатку. Акрамя таго, князь Вітаўт пачаў моцна асцерагацца за сваё становішча: як бы кароль, мірным шляхам авалодаўшы ўсёй Прусіяй, не пазбавіў яго літоўскага княжання.

### ПАЛЯКІ, ЯКІЯ АБЛОЖВАЮЦЬ ЗАМАК МАРЫЕНБУРГ, АДПРЭЧВАЮЦЬ ЗМОВУ З ЧЭХАМІ ПРА ЗДАЧУ ЯГО ЗДРАДАЙ, ЛІЧАЧЫ ГЭТА ГАНЕБНЫМ.

Тым часам чэшскія найміты, абаронцы Марыенбургскага замка, бачачы, што аблога зацягваецца надоўга, устрывожаныя гэтым, завялі з Уладзіславам, каралём польскім, праз пасрэдніцтва чэха Яська Сокала, каралеўскага рыцара, зносіны і перамовы пра здрадлівую здачу Марыенбургскага замка. Ужо кароль і здраднікі ўмовіліся, што ў тую ноч, калі яны будуць несці варту, адчыняць браму і ўпусцяць каралеўскае войска ў замак. Ва ўзнагароду за здраду яны атрымаюць пасля таго сорак тысяч фларынаў і поўную беспакаранасць. Аднак калі гэта справа разглядалася таемнай радай, то каралеўскія саветнікі прызналі несумленным і ганебным захопліваць непрыяцельскія замкі падманам, падступствам, здрадай і золатам, калі маецца зброя, якой без сораму для сябе і для каго-небудзь іншага можна іх заваяваць; і перамовы пра захоп Марыенбургскага замка подкупам, якім, як мы бачым, вельмі часта карысталіся і сумленныя ваяры, спыніліся.

### РОЗНЫЯ МЕРКАВАННІ АБ ЗНЯЦЦІ АБЛОГІ МАРЫЕНБУРГА.

Пасля гэтага ў каралеўскім стане распаўсюдзілася ўзніклая па ілжывым уяўленні чутка, быццам венгерскі кароль Жыгімонт з вялікімі войскамі і сіламі ўварваўся ў межы каралеўства Польскага, нішчачы ўсё рабаваннямі і пажарамі. Гэтая чутка зламала мужнасць каралеўскага войска, і яно стала выяўляць схільнасць да вяртання; і сярод вяльможаў было нямала такіх, якія настойліва раілі адступіць. Моцна здзіўленыя гэтай новай акалічнасцю і чуткамі пра яе, рыцары і гараджане Прусіі ў незвычайнай стараннасці і любові да Уладзіслава, польскага караля, прыходзяць асабіста да яго і пераконваюць Яго Светласць нізавошта не перарываць аблогі Марыенбургскага замка, бо, кажуць яны, працягваючы аблогу і авалодаўшы замкам (што, можна спадзявацца, адбудзецца хутка), кароль упершыню спазнае плады сваёй перамогі. Калі ж ён не авалодае замкам, то страціць іх, бо ўсе замкі і гарады, якія прызналі яго ўладу, ізноў вернуцца ў падначаленне крыжакам і Ордэну. Калі ж кароль Уладзіслаў стаў спасылацца на недахоп грошай, з-за чаго наёмныя рыцары сталі для яго цяжарам і ён заявіў пра намер вярнуцца ў Польшчу для збору грошай, то прускія рыцары і гараджане далі яму, без сумневу, разумную раду: менавіта — абкласці ўсе прускія гарады паборам; тады ў яго будзе досыць грошай не толькі на расплату з наймітамі, але і для вайны і працягу аблогі. Аднак кароль, каб у самым пачатку свайго кіравання не пакрыўдзіць прускія гарады, пэўнасць і адданасць якіх была яшчэ хісткай, і не парушыць іх правоў і тым не заахвоціць іх да адпадзення, вырашыў устрымацца ад абкладання іх паборам. Яму падказалі таксама і другую, такую ж выдатную раду: дараваць замкі і гарады ў Прусіі і ў землях Кульмскай і Памеранскай, якія перайшлі да Яго Светласці, наёмным рыцарам; апошнія са свайго боку заявілі, што ахвотна прымуць гэты дарунак узамен жалавання, якое ім належыць, і ва ўсякім разе будуць зацята працягваць аблогу Марыенбургскага замка. Аднак кароль не злічыў годнай і гэту, хоць і вельмі разумную раду, з асцярогі, што найміты будуць цяжарам для прускіх гараджан і сялян,

ці стануць рабаваць іх маёмасць, ці ж, падкупленыя грашыма, пачнуць змаўляцца з ворагамі пра вяртанне ім гарадоў і замкаў. Такім чынам, Уладзіслаў, кароль польскі, у клопаце пра чужыя нягоды быў вымушаны пасля выпрабаваць на сабе самім і на сваіх людзях яшчэ большыя цяжкасці. З усіх жа каралеўскіх саветнікаў ніхто з такой зацятасцю не настойваў, шматразова і ясна выказваючы сваё меркаванне, на працягу аблогі Марыенбургскага замка, пакуль апошні не атрымаецца ўзяць прыступам ці прымусіць здацца, як Мікалай, падканцлер Польскага каралеўства. Мікалай сцвярджаў, што ў выпадку зняцця аблогі адразу ж наступіць шмат цяжкіх і горкіх нягод і ўдараў для караля і каралеўства. Не здавольваючыся аднымі радамі і патрабаваннямі, падканцлер суправаджаў іх слязамі і ўздыхамі. Насупраць, ніхто з усіх вяльможаў з большай гарачнасцю і стараннасцю не пераконваў зняць аблогу і вярнуцца па хатах, як Енджэй з Тэнчына, войніцкі каштэлян; ён і схіліў у карысць свайго меркавання большасць рыцараў і шляхты, быўшы захоплены пачуццём да Ганны з Красніка, дачкі падскарбія Польскага каралеўства Зміцера[1], якую горача кахаў.

**АБЛОГА МАРЫЕНБУРГСКАГА ЗАМКА ЗДЫМАЕЦЦА.**

Уладзіслаў, кароль польскі, неахвотна, пасля шматразовых і вельмі варожых напамінкаў наёмных рыцараў, а таксама здаўшыся на настойлівыя перакананні і некаторых сваіх вяльможаў, вырашае, не авалодаўшы Марыенбургскім замкам, зняць аблогу. І хоць кароль загадаў захоўваць гэта рашэнне ў таямніцы, строга пра яго замоўчваючы, аднак гаворка пра гэта тут жа распаўсюдзілася ў войску, а абложаных падбадзёрыла, даставіўшы вялікую радасць. Такім чынам, у бліжэйшую пятніцу, перад святам святога Матфея, дзевятнаццатага верасня, дарэмна не паслухаўшыся карыснай і разумнай рады прускіх рыцараў і гараджан, кароль аддаў свой стан агню. Ужо на паўдарозе да славы ён адыходзіць, зняўшы аблогу, і вяртаецца на радзіму хутчэй у абліччы пераможанага, чым пераможца. Гэта было паказана і яму самому ў гадзіну яго адступу злавесным знакам: калі каралю падвялі czizawy, яго каня[2], на якім ён сядзеў у дзень вялікай бітвы, конь гучна заржаў і пачаў капаць капытамі зямлю; калі ж кароль ужо ўкладваў нагу ў стрэмя, конь раптам упаў, сканаўшы, сваёй фатальнай смерцю азначаючы, што з адмовай караля ад аблогі Марыенбургскага замка радасцям і поспехам, дагэтуль суправаджаючым караля, прыйдзе канец. Бо было несумнеўна і нават вельмі несумнеўна, што Марыенбургскі замак па сканчэнні аднаго толькі месяца пяройдзе пад уладу караля, бо абложаныя з-за недахопу харчу (хоць ён рыхтаваўся на гэты выпадак шмат гадоў) былі вымушаны есці падсмажаную пшаніцу. Ад гэтай нездаровай ежы людзі захворвалі паноснай хваробай, страшнай заразай, ад чаго штодня многія гінулі. Быўшы не ў сілах зносіць такую згубную хваробу, усе абаронцы прыходзяць да камандора Генрыха фон Плаўэна і распавядаюць пра сваё бядотнае становішча. Яны аб'яўляюць, што не будуць трываць нягод далейшай аблогі з прычыны немінучай смерці, ад якой яны паступова ўсе загінуць, яны пакінуць замак. Застрашаны гэтай заявай, камандор Генрых раздае абложаным некалькі тысяч залатых [фларынаў]. Пры гэтым ён настойліва ўпрошвае іх пратрымацца толькі пятнаццаць дзён, запэўніваючы, што па некаторых звестках польскі кароль неўзабаве здыме аблогу. Просьбы і раздача грошай змякчаюць абложаных, і яны дамаўляюцца вытрымліваць аблогу яшчэ пятнаццаць дзён пад той, аднак, умовай, што па заканчэнні гэтага тэрміну яны атрымаюць поўную магчымасць здаць замак польскаму каралю. І вось не прайшло яшчэ

[1] Зміцер з Красніка — тое ж, што Зміцер з Горая (гл. № 1/2010, 1386 г., ст. 100, заўв. 2).
[2] «Czisawy», яго каня, г. зн. яго гнядога каня (гл. № 6/2010, 1410 г., ст. 96, заўв. 3).

гэтых пятнаццаці дзён, як Уладзіслаў, кароль польскі, адступіў, хоць яго адгаворвалі і ганілі за гэта адданейшыя саветнікі, суправаджаючы ўгаворы стогнамі і слязамі. Гэты легкадумны і варты жалю адступ азмрочыў вечную славу каралеўскіх перамог. Тады ўпершыню стала ясна, што кароль, разбіўшы ворагаў, не здолеў выкарыстаць перамогу і спрыяльны час, і гэты адступ пацягнуў за сабой шмат жудасных і згубных войнаў. Енджэя з Тэнчына, каштэляна войніцкага, лічылі галоўным віноўнікам гэтага адступу. Карыстаючыся немалым уплывам сярод рыцараў і простых ваяроў, ён лёгка выклікаў імкненне многіх сысці з круга рыцараў, якія прагнулі зноў убачыць сваіх жонак, хаты і дзяцей, выстаўляючы падставай, быццам венгерскае войска выпальвае і спусташае кракаўскія і сандомежскія землі.

Таксама і іншыя польскія саветнікі (пераважна тыя, якіх князь Аляксандр-Вітаўт, як запэўнівалі, подкупам ці абяцаннямі схіліў да гэтага) прыклалі нямала стараннаў пераканаць караля як мага хутчэй зняць аблогу Марыенбургскага замка. Такім чынам, карысць дзяржаўная, як вельмі часта бывае, была прынесена ў ахвяру асабістай выгадзе. Кароль жа польскі Уладзіслаў вырашаў усе ваенныя і грамадзянскія справы, па недахопе энергіі і млявасці розуму, не сваёй, а чужой воляй.

**ПРЫ ВЯРТАННІ КАРАЛЯ УЛАДЗІСЛАВА ПАСЛЯ АБЛОГІ МАРЫЕНБУРГСКАГА ЗАМКА БІСКУП ПАМЕЗАНСКІ СУСТРАКАЕ ЯГО РАЗАМ З ДУХАВЕНСТВАМ І ГАРАДЖАНАМІ.**

Уладзіслаў, кароль польскі, адыходзячы пасля аблогі Марыенбургскага замка з войскам, абцяжараным разнастайнай здабычай, у той жа дзень прыбывае ў Квідзін. Спыніўшыся па шляху ў замку Штуме і праслухаўшы там абедню, ён аддае замак у трыманне рыцару Енджэю Брахоцкаму, пакінуўшы ў дапамогу некалькіх сваіх прыдворных, дасведчаных ваяроў, а менавіта: Ганка Хелмскага, Каніміра з Туховіц, Яна Голага, Пакоша Быстшаноўскага, Пятра Цэброўскага, Беняша Гаважынскага, Бартоша з Трэмбоўлі і іншых. Пасля адступу караля з Прусіі яны нарабілі шмат страт крыжакам у Марыенбургу ў нечаканых сутычках, нападамі і спусташэннямі не даючы ім супакою, што нават захапілі аднойчы дзесяць тысяч фларынаў, адпраўленых крыжакамі для выплаты жалавання наймітам, перабіўшы пры гэтым шмат суправаджальнікаў. Па прыбыцці караля ў Квідзін Генрых памезанскі, біскуп гэтай вобласці, з усімі канонікамі і духавенствам урачыста выйшаў насустрач і прыняў караля з належнай пашанай. Біскуп увёў караля ў кафедральны сабор, паказаў яму келлю і жыллё нейкай набожнай жанчыны Даратэі. Даратэя вяла суровае пустэльніцкае жыццё і славілася шматлікімі цудамі, але яшчэ не была кананізавана. Дараваўшы затым біскупу, духавенству і гораду палёгкі, аб якіх яны прасілі, кароль на наступны дзень выступіў з Квідзіна, забараніўшы замыкаць горад, а сваім ваярам уступаць у яго, з боязі, каб тыя не ўчынілі гвалтаў і рабаванняў маёмасці біскупа і гараджан. У лагеры, размешчаным за паўмілі ад горада, кароль правёў два дні і ў наступную суботу адправіў у Штум шмат вазоў з харчом для падмацавання. Сам жа лагер быў размешчаны над горадам і возерам Гардзее.

**ГЕНРЫХ ФОН ПЛАЎЭН, АБРАНЫ МАГІСТРАМ ПРУСІІ, ЗБІРАЕ ГРОШЫ НА ВЯДЗЕННЕ ВАЙНЫ ШЛЯХАМ РАСПРОДАЖУ ВАЛАДАРСТВАЎ ОРДЭНА Ў ЧЭШСКІМ КАРАЛЕЎСТВЕ.**

Генрых фон Плаўэн, абраны на месца магістра Прусіі, каб адпомсціць за паразу і вярнуць прускія землі, адправіў да чэшскага караля Венцаслава паслоў і прадаў таму ж каралю Венцаславу значны маёнтак Ордэна Хамонтава ў каралеўстве Чэш-

скім (з прыбыткам у чатыры тысячы фларынаў), за сто пятнаццаць тысяч фларынаў наяўным золатам, з правам выкупіць яго пасля (аднак ён не выкуплены і да гэтага дня). Набраўшы на гэтыя грошы наёмных рыцараў, магістр узнавіў вайну. Акрамя таго, ён пазычыў яшчэ сто тысяч фларынаў, ахвотна дадзеных яму гданьскімі гараджанамі, якія ўжо былі схільныя падпарадкавацца яго ўладзе.

**ЗАХОП ЗАМКА РАДЗІНА.**

У нядзелю, у дзень святога Матфея, дваццаць першага верасня, выступіўшы з Квідзіна, кароль прыбыў раніцай да замка Радзіна, які абложваўся каралеўскімі ваярамі з часу вялікай бітвы; сам жа горад ужо быў у падначаленні караля. Размясціўшыся станам за чвэрць мілі ад замка, над возерам Мяльдзее, кароль стаў абмяркоўваць, ці варта яму зняць аблогу замка, ці ўзяць яго прыступам. Было вырашана, што кароль зусім не павінен спрабаваць авалодаць замкам (бо апошні быў вельмі моцна абаронены сваім натуральным становішчам і ўмацаваннямі, і, акрамя таго, у ім знаходзіліся выдатныя абаронцы), але на наступны дзень, аднак, варта зрабіць ілжывы прыступ у разліку, што страх неяк схіліць абложаных да здачы. Такім чынам, выклікаўшы да сябе для перамоў самых знатных гараджан Радзіна, кароль паспрабаваў пераканаць іх здаць яму замак без кровапраліцця. Калі тыя адмовіліся, кароль адклаў штурм да наступнага дня. Гэта рашэнне, як аказалася, было не так разумна задумана, як мела шчаслівы зыход. Пасля таго як у войску распаўсюдзілася чутка, што кароль прызначыў на наступны дзень прыступ замка, ледзь скончыўся абед, рыцары самачынна, без наказу караля, узяліся за зброю і пайшлі на прыступ замка Радзіна. Такім чынам, нікім не падахвочваемае і без кіраўніцтва войска з вялікім запалам выступіла і пачало з усіх бакоў наймоцны прыступ замка. І хоць крыжакі і іншыя абложаныя пяць і больш гадзін аказвалі моцны супраціў, аднак польскія рыцары вялі прыступ з такой настойлівасцю і жарам, што абаронцы пад ударамі дзід і стрэл, якія так густа і часта пускаліся, што ніхто не адважваўся нават пальца высунуць, палі духам і вымушаны былі спыніць абарону і здаць замак. Рыцар Дабеслаў з Алясніцы з людзьмі сваёй харугвы ўжо ўзламаў вароты ніжняга замка і пры гэтым, затуляючы шчытом таго, хто ўзломваў вароты, атрымаў удар з малой бамбарды ці фістулы, які прабіў шчыт. Акрамя таго, ужо першым узышоў у верхні замак рыцар Пётр Хелмскі (а за ім рушылі ўслед Фларыян з Карытніцы, каштэлян вісліцкі, і іншыя). Калі ж на яго напаў на сцяне[1] віцэ-камандор замка, чалавек адважны, Пётр уступіў з ім у паядынак, звярнуўшы ворага ва ўцёкі. А Пётр з Алясніцы, сандомежскі лоўчы, з іншымі рыцарамі ўжо ўступіў на перадсценную пляцоўку замка і, паранены ў нагу, абараняўся ад удараў зверху толькі сваім шчытом. Такім чынам, абложаныя пад ударамі гэтулькіх бедстваў, асцерагаючыся, як бы ім не прыйшлося загінуць ад рук раз’юшаных рыцараў, складаюць зброю і здаюць замак каралю. Кароль, уступіўшы ў замак каля гадзіны апошняй вячэрняй службы, дараваў жыццё ўсім абложаным і палонным, сярод якіх меліся пятнаццаць крыжакоў, мужоў пажылых і нават старых; іх, аднак, кароль загадаў узяць пад варту. Знайшоўшы ў замку, акрамя таго, значныя скарбы, каштоўныя рэчы і багаты харч, кароль дараваў скарбы і каштоўныя рэчы рыцарам, а харч пакінуў замку.

[1] У тэксце: «in Parkani muro». Польск. parcan азначае «сцяна». Длугаш выкарыстоўвае побач два адназначныя словы, лацінскае і польскае.

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ, ПАКІНУЎШЫ АХОВУ Ў ЗАМКУ РАДЗІНЕ, РАСПУСЦІЎ ВОЙСКА І ПЕРАЙШОЎ ПА МОСЦЕ ВІСЛУ, КАБ ВЯРНУЦЦА Ў ПОЛЬШЧУ.**

Авалодаўшы замкам Радзінам, Уладзіслаў, кароль польскі, у аўторак пасля дня святога Матфея, дваццаць трэцяга верасня, аддаў замак Радзін у трыманне чэху Яську Сокалу, рыцару выпрабаванай вернасці і адвагі. З ім у тым жа замку засталося шмат палякаў і чэхаў, сярод іншых — чэх Жыжка, пасля знакаміты вайскавод у Чэхіі, які праславіўся шматлікімі перамогамі[1], а таксама Ангел і многія іншыя. Затым кароль адбывае з Радзіна і падыходзіць да замка Рагозьна, а адтуль у сераду — у Голуб. Там, папалуднаваўшы ў замку, ён пераходзіць раку Дрвенцу і па ўступе ў Дабжанскую зямлю распускае свае войскі і кожнаму дазваляе вярнуцца ў сваю вобласць.

Правёўшы гэты дзень і ноч пад Цехацінам, кароль у чацвер, перад святам перанясення мошчаў святога Станіслава, прыбывае ў Пшыпуст, для пераправы праз Віслу на лодках па мосце, які туды быў дастаўлены з Плоцка. У Пшыпусце кароль заставаўся пяць дзён, бо з-за нейкага таемнага лёсу насілу атрымалася за гэты тэрмін сабраць і ўсталяваць мост, які ў мінулы раз, калі кароль накіроўваўся ў Прусію, быў усталяваны за паўдня. Таксама не без цяжкасці і намаганняў кароль пераправіўся са сваімі людзьмі праз Віслу; так што нават і на гэтым пацвердзілася, што шчасце здрадзіла каралю. Тады і ўсё польскае войска вярнулася ў розныя месцы па сваіх хатах, з грузам золата, срэбра і іншага каштоўнага начыння; кожны прыносіў усё гэта з радасцю і весялосцю да родных агменяў […]

**ПАСЛЯ ЗДАЧЫ ГОРАДА ТУХОЛІ КРЫЖАКАМ КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ЗМЯШЧАЕ ВАРТУ Ў КАРОНАВЕ.**

Панядзелак, менавіта дзень святога Міхала, таксама аўторак і сераду кароль прабыў у Нешаве; тут ён атрымаў пэўнае паведамленне, якое абвяшчала, што замак Тухоля, якім кіраваў Януш Бжазаглавы, абкладзены, а горад здадзены жыхарамі крыжакам. Ворагі ж, калі не будзе аказана супраціву, неўзабаве здзейсняць уварванне ў Польскае каралеўства, учыняючы рабаванні і пажары. Усхваляваны гэтай навіной (што было адпаведным), кароль утрымаў просьбамі і шчодрымі падарункамі большасць рыцараў з ліку сваіх прыдворных, якія патрабавалі звальнення. Аднак з усіх прыдворных і каралеўскіх рыцараў можна было набраць ледзь сотню дзід ці некалькі больш; кароль паслаў іх для аховы каралеўства ў горад Каронаў, слаба абаронены сценамі і месцазнаходжаннем, далучыўшы да іх у падмогу некалькіх рыцараў з абласцей Вялікай Польшчы. Хоць яны былі дрэнна забяспечаны зброяй, канямі, грашыма і адзежай, бо зброя ў іх саржавела, коні схуднелі, кашалькі апусцелі на службе ўдалечыні ад радзімы, а адзежа знасілася ад спякоты і дажджоў, аднак яны ахоўвалі згаданае месца, як надзейнейшую крэпасць, несучы там рыцарскую варту. Каралеўскае войска ўзмацнілі таксама пазнанскі ваявода Сендзівой з Астрарога, які, пазнаўшы пра цяжкасці каралеўства, прыбыў з уласнай харугвай, і Дабрадаст з Шамотул, пазнанскі каштэлян, які таксама паслаў сваіх людзей.

[1] Ян Жыжка — выбітны дзеяч гусіцкага руху, адзін з правадыроў табарытаў, рэвалюцыйнага крыла руху. Выдатны палкаводзец, адбіў тры «крыжовыя паходы», прадпрынятых еўрапейскімі каталіцкімі дзяржавамі супраць «ерэтычнай» Чэхіі (1420—1422). У барацьбе паміж табарытамі і чашнікамі (бюргерска-дваранскім лагерам руху) атрымаў бліскучую перамогу над апошнімі ў 1424 г.

**КАРОЛЬ УЛАДЗІСЛАЎ ТУРБУЕЦЦА АБ КАРОНАЎСКАЙ АХОВЕ.**

У суботу, у дзень святога Францыска, Уладзіслаў, кароль польскі, выступае з Нешавы і, прыбыўшы ў Юніўладзіславію, спыняецца там са сваім дваром. Для забеспячэння ж абароны зямель свайго каралеўства кароль адправіў некаторых надзейных рыцараў, адных — у Бродніцы, другіх — у Брэст, трэціх — у Накло, чацвёртых — у Рыпін. Паміж імі ён размеркаваў куяўскіх і дабжанскіх жыхароў для далейшай аховы і нясення варты супраць ворагаў. Пры ім у Юніўладзіславіі заставалася зусім мала палякаў і чэхаў. Падчас знаходжання там караля прынеслі новую вестку пра тое, што з-за малалікасці абаронцаў крыжакамі захоплены замкі Астэрод, Нідборг і Дзялдаў, якія кароль даручыў мазавецкім князям. Таксама і двое рыцараў, Станіслаў Харбіноўскі, герба Суліма, і Мікалай Сынавец, герба Старыконь, з асцярогі згубы, бо ворагі ў вялікім мностве стаялі паблізу, пакінулі каронаўскую ахову. Прыбыўшы да караля ў Юніўладзіславію, у апраўданне свайго сыходу яны запэўнівалі (як яно і было), што ворагаў мноства, а ў іх абаронным атрадзе вельмі мала вояроў, і калі б яны яго не адвялі, то ён падвергнуўся б вялікай небяспецы. Гэтым яны ўсялілі ў душу караля трывогу за жыццё яго людзей, азмрочыўшы яе цяжкім клопатам і смуткам, з-за чаго ён часта праліваў слёзы. Кароль лічыў неасцярожным адклікаць іх з Каронава, асцерагаючыся ўварвання ворагаў у глыб свайго каралеўства; а якіх-небудзь войскаў, якімі ён мог бы ўзмацніць іх малалікасць, не заставалася, бо ўсе разышліся па хатах. Тады-то стала ясна, якія цяжкасці і бедствы кароль прынёс сабе і свайму каралеўству заўчасным зняццем аблогі Марыенбургскага замка і наколькі азмрочыў ён здабытую перамогай славу сваю і свайго войска! І стала магчыма цалкам ацаніць, якую выгаду прынесла б цвёрдасць, да якой заклікаў Мікалай, падканцлер Польскага каралеўства, і якое зло пацягнуў за сабой адступ, якога дамогся Енджэй з Тэнчына, каштэлян войніцкі!

***Каментарыі Л. В. Разумоўскай, Б. В. Казанскага, А. П. Вашчанкі.***
***Пераклад Аляксандра ВАШЧАНКІ.***

***Працяг будзе.***




# ЖНІВЕНЬ

**6**

*170 гадоў з дня нараджэння Абуховіча Альгерда Рышардавіча (псеўд. граф Бандзінелі; 1840—1898), беларускага паэта, мемуарыста, перакладчыка.*

**7**

*100 гадоў з дня нараджэння Ермаловіча Якуба (Якава Сідаравіча; 1910—1987), беларускага празаіка.*

**7**

*100 гадоў з дня нараджэння Мальцінскага Хаіма Ізраілевіча (1910—1986), беларускага і яўрэйскага паэта, празаіка, драматурга. Пісаў на ідыш. З 1975 г. жыў у Ізраілі.*

**7**

*100 гадоў з дня нараджэння Цітовіча Генадзя Іванавіча (1910—1986), беларускага этнамузыказнаўца, дзеяча харавога мастацтва, дырыжора, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.*

**7**

*75 гадоў з дня нараджэння (1935) Шыманскага Міхаіла Мікалаевіча, беларускага журналіста, заслужанага дзеяча культуры Рэспублікі Беларусь.*

**9**

*100 гадоў з дня нараджэння Геніюш Ларысы Антонаўны (1910—1983), беларускай паэтэсы, празаіка.*

**10**

*60 гадоў з дня нараджэння (1950) Вераб’я Анатоля Леанідавіча, беларускага крытыка і літаратуразнаўца.*

**12**

*60 гадоў з дня нараджэння (1950) Галубовіча Леаніда Міхайлавіча, беларускага паэта.*

**14**

*85 гадоў з дня нараджэння Міхальчука Сяргея Апанасавіча (1925—1995), беларускага празаіка, перакладчыка, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.*

**19**

*100 гадоў з дня нараджэння Жаўрука Алеся (сапр. Сінічкін Аляксандр Дзмітрыевіч; 1910—1942), беларускага паэта.*

**24**

*105 гадоў з дня нараджэння Мардвілкі Аркадзя Пятровіча (1905—1986), беларускага празаіка, нарысіста, перакладчыка.*

**25**

*100 гадоў з дня нараджэння Корбана Уладзіміра Іванавіча (1910—1971), беларускага сатырыка, байкапісца, празаіка, паэта, заслужанага дзеяча культуры БССР.*

**26**

*75 гадоў з дня нараджэння Клімковіч Святланы Міхайлаўны (1935—2001), беларускага драматурга, празаіка, перакладчыка, крытыка.*

**27**

*60 гадоў з дня нараджэння (1950) Каржанеўскай Галіны Анатольеўны, беларускай паэтэсы, драматурга.*

**31**

*95 гадоў з дня нараджэння Казекі Янкі (Івана Дарафеевіча; 1915—2000), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, заслужанага работніка культуры Рэспублікі Беларусь.*

Яўген ГАРАДНІЦКІ

# ПАЭЗІЯ ДА ВЕРШАЎ І ПАСЛЯ...
## *(творчыя іпастасі Леаніда Галубовіча)*

Упэўнены прыход Леаніда Галубовіча ў паэзію на стыку 1970—1980-х быў адразу заўважаны і крытыкай, і тымі мілоснікамі паэтычнага слова, якія яшчэ не зняверыліся ў гэтым слове, падвергнутым цягам мінулага дзесяцігоддзя значнай дэвальвацыі, канчаткова. Звяртала на сябе ўвагу біяграфія маладога паэта. Яна вылучалася на агульным фоне *«філалагічнага»* пакалення сваёй жыццёвай угрунтаванасцю. Набыў рабочую спецыяльнасць, працаваў электрыкам, ды яшчэ ў родным сяле. А вершы між тым, або якраз і дзякуючы гэтаму, вызначаліся ад самага пачатку амаль класічнай выразнасцю і змястоўнай паўнаважкасцю, гарманічнай суадноснасцю лірычнай тэмы і формы яе ўвасаблення.



*З маці Соф'яй Паўлаўнай. Вёска Вароніна. 2005 г.*

Прыкмечана было найперш тое, чаго на той час востра недаставала паэзіі, якая, на думку аўтара прадмовы да першага яго зборніка вершаў Веры Палтаран, пачынала «задыхацца ад высілкаў штучнае думкі». Рэальна адчуваемай, выяўленай праз вобразна-пластычную структуру верша, с у в я з і з непасрэдным жыццём, з жывой рэчаіснасцю. Выдатны крытык, публіцыст, клапатлівая апякунка маладых талентаў, Палтаран сыграла ў творчым лёсе паэта вельмі істотную ролю. З яе лёгкай рукі, мацярынскага дабраслаўлення і вырушыла галубовічаўская паэзія на пошукі свайго чытача.

Дарэчы, заклапочанасць паразуменнем з чытачом, адчуванне патрэбы ў чытачу адразу стала адной з вядучых тэм Галубовіча, а калі браць шырэй, дык і вызначальным момантам аўтарскай творчай праграмы. Айчынная паэзія, як, зрэшты, і сусветная, паступова страчвала свайго чытача, у ранейшыя часы ўсё ж такі адносна шматлікага. Працэс гэты набываў глабальны характар, паколькі змянялася, па сутнасці, эпоха. З літаратурацэнтрычнай яна пераўтваралася ў арыентаваную на іншыя сродкі эстэтычнай і гуманітарнай камунікацыі.

Хоць паэзія і з’яўляецца сканцэнтраваным выражэннем асабовай суб’ектыўнасці, выяўленнем унутранага свету аўтара, які толькі час ад часу як бы хаваецца за маскай «лірычнага героя», аднак яна, можа, як ніякі іншы від літаратурнай творчасці, патрабуе якраз водгуку з боку тых, каму адрасуецца, да каго прамаўляецца. Гэта заканамерны працэс, абумоўлены прыцяжэннем і ўзаемадапаўненнем супрацьлегласцей. Паўсталае з глыбінь душы павінна ўраўнаважыцца і апраўдацца тым, з чым чалавек адчувае жыццёвую, самую крэўную сувязь. Скіраванаму ў сусвет, у духоўную прастору, паэтычнаму слову на яго «зваротным шляху» да аўтара патрэбна данесці атрыманыя рэзанансныя «пацвярджэнні» — толькі ў такім выпадку паэтычнае самавыяўленне ператвараецца ва ўнутраны дыялог.

Першы верш у першым зборніку «Таемнасць агню» (1984) якраз пра яго — пра таго, хто здолее зразумець думы і настроі паэта, з кім можна падзяліцца самым запаветным.

*Шукаю чытача —*
*Хаўрусніка душы,*
*Які б з майго пляча*
*Цяжар пералажыў*

*І на сваё плячо...*
*Лягчэй дайшлі б да мэты.*

Такі вось вобраз і д э а л ь н а г а чытача ўяўляецца паэту. Чытача-супольніка, у аднолькавай ступені з аўтарам адказнага за цяжар жыцця. Далей у тым жа вершы якраз гаворыцца пра сітуацыю з чытачом: «Так мала чытачоў, / І тыя ўсе паэты». Прыклад, дарэчы, характэрнай для стылю Галубовіча афарыстычнасці выказвання, фармулявання сваіх адносін да людзей і свету ў выразна артыкуляванай форме роздуму, запытання, якія паўстаюць не як канчатковае падвядзенне вынікаў, а як падстава для сустрэчнага роздуму чытача, *дадумвання* ім прапанаванай яму сітуацыі.

Аб тым, наколькі важны для паэта дыялог з чытачом, сведчыць тое, што ягоныя кнігі нязменна адкрываюцца менавіта зваротам да чытача, своеасаблівым пасланнем яму, якое ўтрымлівае самае галоўнае — надзею на паразуменне. У першай кнізе гэта спадзяванне на тое, што «хоць душа адна / на слова адзавецца». У наступнай, у назву якой якраз увайшло гэтае ключавое для яго слова — *душа* («Споведзь бяссоннай душы», 1989), прадпасылаючы плён сваіх «шасці будзённых гадоў», паэт гаворыць:

*Гэта скруха мая і боль,*
*Гэта радасць і спадзяванне*
*На сустрэчу, чытач, з табой,*
*На — душы з душою — спатканне.*

У зборніку ж, які выйшаў у 1994 годзе («Заложнік цемры»), першым змешчаны верш, названы «Паэтычным аўташаржам». Гэта таксама зварот да чытача, аднак ён адрозніваецца ад папярэдніх пасланняў як сваёй канцэптуальнай скіраванасцю, так і фармальнымі адзнакамі. Змянілася эпоха, змяніўся і сам аўтар. Не толькі яго адносіны да свету, да хуткаплыннага часу, але інтанацыя прамаўлення, унутраная напружанасць радка. Больш прыкметнай стала іронія і самаіронія ў, можа быць, занадта сур'ёзнага напачатку паэта, скіраванага найперш на адкрыццё ў жыцці сутнаснага.

Напэўна, гэта ў вышэйшай ступені заканамерна, што паэт з такімі трывалымі повязямі з жыццёвай рэальнасцю ў той жа час вельмі чуйны да таго, як мастацтва паэтычнага слова суадносіцца з духам эпохі, яе настроямі. Шлях паэта — шматмернае паняцце, якім звычайна вымяраецца значнасць творцы і адпаведнасць яго творчага набытку спадзяванням і памкненням сучаснасці. Калі акінуць позіркам творчасць Галубовіча за некалькі дзесяцігоддзяў яго актыўнай і плённай працы (хоць яна і не вылілася, як у некаторых іншых, у бязмерна расцягнуты шэраг кніжак), то, мабыць, гэтае паняцце — *шлях паэта* — тут будзе вельмі дарэчы. Таму што, нягледзячы на, здавалася б, роўнасць развіцця яго паэтычнага таленту, заяўленага так адразу і рашуча, на арганічную цэласнасць яго мастацкага свету, унутраная душэўная праца (а яна якраз і з'яўляецца асноўнай прыкметай *шляху паэта*), мяркуючы па творах, была ўвесь час напружанай і скіраванай на пераадоленне супраціву як жыццёвага, так і творчага матэрыялу. Ёю ўрэшце і абумоўліваецца тое, што паэзія Галубовіча (а пазней і не толькі паэзія) прадстае з'явай жывою, дынамічнай, пазбаўленай скоўваючай зададзенасці і адналінейнасці развіцця.

А гэтаму арганічнаму адчуванню *шляху* зусім не шкодзіць натуральная цэласнасць паэтычнага свету як адмысловай с і с т э м ы. Галубовіч не баіцца паўтораў пэўных ключавых вобразаў, матываў, прыёмаў, якімі яго творы аб'ядноўваюцца ў значна больш абсяжнае ідэйна-мастацкае адзінства. Звернем увагу хоць бы на тыя ж назвы яго кніг. Назва першага зборніка перагукваецца з выбраным, выдадзеным у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» — *«Таемнасць споведзі»*. Той жа *агонь* выступае ў «апазіцыі» да іншай назвы — *«Заложнік цемры»*. Слова *споведзь* прысутнічае ў назве яшчэ адной кнігі — *«Споведзь бяссоннай душы»*. Такім чынам, ужо ў назвах акрэсліваецца кола пастаянных, найважнейшых матываў. Матываў, якія, між тым, у кожным канкрэтным выпадку раскрываюцца па-свойму, выяўляючы сваё кантэкстуальнае значэнне.

Паэзія Галубовіча наскрозь прасякнута вобразамі-канцэптамі сімвалічнага характару, якія ў сваёй сукупнасці прадстаўляюць аўтарскі погляд на свет, яго ўяўленні пра духоўныя, метафізічныя і творчыя магчымасці чалавека. Звяртае на сябе ўвагу, напрыклад, верш, які даў назву першаму зборніку паэта. Самы шырокі сімвалічны сэнс можа быць вычытаны з гэтага твора пра сутнасць чалавечага жыцця. Той агонь, «якім мы праведна згараем», — гэта і само




*З дачкой Ксеніяй і жонкай Верай. 2006 г.*

жыццё ў яго раскрытасці быццю, і яго творчая памкнёнасць, і ўвогуле штосьці, што не паддаецца разгадцы. Больш канкрэтызавана творчая дамінанта гэтага сімвала выяўляецца ў іншым вершы з таго ж зборніка. У вершы «Тварцам агню» на першы план якраз выходзіць тое, што датычыцца самога працэсу творчасці як духоўнай самааддачы: «Гарым, ствараючы, згараем / Ды саграваем іншых мы».

Такім чынам, не толькі прадметнасць светаўспрымання, набліжанасць да рэальных жыццёвых праблем і сітуацый вызначалі адметнасць паэзіі Галубовіча. Хоць крытыка звярнула ўвагу найперш на гэты, рэчыўны бок мастацкага свету маладога паэта. В. Палтаран, да прыкладу, ва ўжо згаданай прадмове пісала: «Свет паэзіі Леаніда Галубовіча — актыўны, дзейны, працавіты. Тут расце хлеб, шумяць над нівамі ліўні, стукаюць сякеры цесляў і ламы далакопаў, — адным словам, тут чалавек і прырода робяць сваю адвечную справу, якая і стаецца зместам вершаў паэта». Хораша сказана! Сапраўды, гэта ўсё выяўлена надзвычай рэльефна і самавіта ў вершах Галубовіча. З тонкай прарысоўкай чалавечых характараў літаральна некалькімі штрыхамі. Разам з тым крытык падкрэслівае, што «малюнак жыцця, жыццёвае назіранне» ў вершах паэта выконваюць значна большую, чым проста рэпрэзентатыўную, ролю. Яны імкнуцца «стаць думкаю пра жыццё». Так, медытатыўнасць — гэта таксама вызначальная характэрнасць галубовічаўскай паэзіі. Палтаран вельмі дакладна вызначыла асноўную асаблівасць гэтай медытатыўнасці — яе жыццёвую аснову, паўставанне думкі з самых глыбінь звычайнага людскога існавання. Надзвычай вобразна, метафарычна ахарактарызавала Палтаран, якая і сама была выкшталцоным майстрам мастацкага слова, думку паэта: «На дзіва здаровая, з камячкамі мацерыковай глебы на корані».

І ўсё ж, і ўсё ж... Яшчэ раз хочацца паўтарыць: не меншую, а мабыць такі і большую ролю, чым прадметныя вобразы, рэаліі, у мастацкім свеце Галубовіча адыгрываюць якраз паэтычныя ўвасабленні глыбінных быццёвых уласцівасцей і прыкмет, архетыповыя вобразы. Вось, да прыкладу, як паслядоўна суадносяцца-супрацьпастаўляюцца паэтам дынамічнай, зменлівай прыродзе тварэння, расходаванню сваіх сіл і здольнасцей зусім іншыя якасці — устойлівасці, трываласці, выразнага ўсведамлення непарушнасці спрадвечных жыццёвых і духоўных каштоўнасцей.

У гэтай сістэме вобразных канцэптаў вылучаецца матыў, які абазначаецца аўтарам шматзначным дзеясловам в ы с т а я ц ь. Ён адносіцца як да асабовага свету чалавека, так і да універсальных уласцівасцей быцця. Прыроднае і чалавечае, адлюстроўваючыся адно ў адным, суадносяцца ў Галубовіча найперш гэтай якасцю, успрымаемай як абавязак. Прырода паўстае своеасаблівай школай мужнасці і трываласці, прыкладам, які заўсёды перад вачыма: «Стой на сваім — як, паглядзі — / Вунь дрэвы скручаныя ў садзе». Апакаліптычнае светаадчуванне

пераадольваецца традыцыйнай для беларускай філасофскай лірыкі схільнасцю да паяднання духоўна ўзвышанага, метафізічнага з зямным, непасрэдна ўспрымаемым, з тым, на што можна так вось проста паказаць рукой (*«паглядзі», «вунь»*).

*Счарнелы, грозны небасхіл*
*Усё з зямлёй змяшае разам...*
*Прадухіліць не маеш сіл,*
*А выстаяць — твой абавязак.*

Выстаяць — гэта значыць заставацца самім сабою і ў той жа час быць адкрытым усім праявам жыцця, адчуваць усёй сваёй істотай рух часу, яго гістарычную значымасць.

Галубовіч з'яўляецца прадаўжальнікам характэрнай у вялікай ступені для беларускай паэзіі традыцыі гаварыць непасрэдна і прама пра самае істотнае і набалелае. У адным з вершаў ён цалкам у духу традыцый класікаў усклікае: «Мне ж баляць людскія болі, / Ды і ўласны боль тужляе... / Праўды! Веры! Хоць бы солі / Той, што раны выяўляе». У працытаваных радках, дарэчы, прыкметна і ўласная аўтарская інтанацыя, узбагачаная вопытам сучаснага асацыятыўнага паэтычнага мыслення. І хоць дадзены верш заканчваецца спецыяльным акцэнтам аўтара на тым, што ён піша «аб свеце белым / так як ёсць — адкрытым тэкстам», гэтая адкрытасць, вядома, нічога не мае агульнага са спрошчанасцю і голай публіцыстычнасцю.

З не меншай уважнасцю і зацікаўленнем, чым да сутнасных асноў жыцця чалавека, адносіцца Галубовіч і да таго, што звязана з яго існаваннем як творцы, паэта. Вершы пра паэтычную творчасць, яе прыроду і прызначэнне — гэта наогул надзвычай характэрная з'ява ў сучаснай літаратуры. У Галубовіча такіх твораў, у якіх выяўляе сябе мастацкая самарэфлексія, багата. У зборніку «Таемнасць агню» звяртаў на сябе ўвагу верш «Паэзія», дзе праз шэраг метафарычных азначэнняў аўтар спрабаваў акрэсліць тыя найбольш абсяжныя сферы быцця, якіх кранаюцца паэтычная думка і пачуццё. Паэзія ў сваёй шматаблічнасці і невычарпальнасці ахоплівае ўсе праявы жыцця асобы, адухаўляючы іх, надаючы ім вышэйшы сэнс. Суаднясеннем у вершы блізкіх па гучанні слоў падкрэсліваецца кантрастнасць паэтычнага свету, амбівалентнасць погляду аўтара на з'явы рэчаіснасці.

*Ты — боль, паэзія. Ты — быль.*
*Твае суровыя законы*
*Не для забаў, не для гульбы —*
*А пошук ісціны да скону.*

Сапраўды, у паэзіі свае, адмысловыя і ў многім суровыя законы, але не чужыя яны і парадаксальнасці. Як і ў гэтым выпадку: нібыта адмаўляецца гульнявы пачатак у паэзіі, а насычанасць верша каранёвымі, унутранымі рыфмамі і сугуччамі якраз паказвае, што аўтар вельмі ўважлівы да магчымасцей, якія дае выкарыстанне семантычнай прыроды мастацкага слова, суаднесенасць гуку і сэнсу. У шэрагу вершаў Галубовіча сустракаемся з такой з'явай, як выяўленне з дапамогай графічнага акцэнтавання ўнутранай вобразнай змястоўнасці слова («Паэтычны аўташарж», «Няма магілы Мандэльштама...»). Так, у апошнім вершы прозвішча найвыдатнейшага рускага паэта прачытваецца ў кантэксце яго трагічнага лёсу, праз супастаўленне далёкіх па сэнсе, кантрастных паняццяў — быццам з самой магілы выходзіць гэты адвечны кліч жыцця *«мама!»*. Вядома, гэта не знарочыстая гульня са словам, тут думка паэта ўвесь час скіравана да самых «апошніх» быційных пытанняў, якія на грані жыцця і смерці. Ды ўсё ж што ні кажы, а паэтычны прыём як сродак выражэння адносін да рэчаіснасці таксама выконвае сваю ролю, і Галубовіч валодае ім па-майстэрску.

У вершы «Паэзія», як і ў іншых творах падобнага кшталту, Галубовічам выразна выяўлены погляды на паэзію і яе суадносіны з жыццём, сфармулявана па сутнасці цэласная аўтарская канцэпцыя, у якой феномен паэтычнай творчасці вывяраецца жыццёвымі, духоўнымі каштоўнасцямі. Паэзія для яго не зводзіцца да напісання вершаў (згадайма някляеўскае выслоўе: «Паэт не той, хто вершы піша...», за якім, дарэчы, стаіць пушкінскае «не тот поэт, кто рифмы плесть умеет...»), яна паўстае як адметны спосаб духоўнай экзістэнцыі, як тое, што аўтар толькі імкнецца ўмясціць у радкі, ці, хутчэй за ўсё, між радкамі. Свой пункт гледжання Галубовіч вобразна-канцэптуальна і нават палемічна выказаў у адным з вершаў:

*Паэзія — жыццё да верша,*
*Да слоў, да першага радка...*

Разам з тым паэт вельмі ўважлівы да таго, як увасабляюцца, якую форму і лад набываюць гэтыя д а в е р ш а в ы я моманты паэтычнага жыцця асобы ў самім тэксце.

Галубовічаўскі верш (як спосаб структурнай арганізацыі паэтычнага выказвання) адносіцца, несумненна, да *класічнага* тыпу, для якога характэрны выразныя, суразмерна гарманічныя формы. Крытыка, здаецца, не надта завастрала ўвагу менавіта на *фармальных* якасцях твораў Галубовіча. А гэты акцэнт якраз варта зрабіць, калі мы хочам мець паўнейшае ўяўленне аб тым, як напрыканцы ХХ стагоддзя рэалізоўвала сябе, якім чынам уключалася ў новы грамадска-культурны кантэкст багдановічаўска-куляшоўская лінія паэтычнага развіцця, тая традыцыя, прадстаўнікі якой заўсёды адчувалі адказнасць «перад строгім вершам, яго пачаткам і канцом».

Паэтычныя здабыткі Галубовіча сведчаць аб тым, што класічны тып верша дзейсны і ў сучаснай літаратурнай сітуацыі, здольны выявіць адчуванні сучаснага чалавека. Здольны ён таксама і да пэўнай трансфармацыі, адаптавання да новага сацыякультурнага і мастацкага кантэксту. Гэта асабліва заўважна было на працягу апошняга дзесяцігоддзя мінулага стагоддзя, з завяршэннем якога супаў выхад кнігі пад назвай «апошнія вершы леаніда галубовіча» (Полацк, 2000).

Трэба наогул заўважыць, што класічная плынь у паэзіі, як і любая іншая, не можа паўнавартасна развівацца, т о л ь к і ўзнаўляючы самую сябе, гэта значыць паўтараючы ад пачатку зададзеныя ўзоры. Захоўваючы пэўную структурную і светапоглядную аснову, несучы ў сабе своеасаблівы ген *класічнасці*, яна разам з тым адкрыта для дыялога з часам. Вядома, пры ўмове, калі яна, па выразе М. Багдановіча, «паэзія жывая».

Зборнікі «Заложнік цемры», «апошнія вершы леаніда галубовіча» адрозніваюцца ад папярэдніх больш прыкметнай пазнакай драматызму быцця, скіраванасцю на раскрыццё супярэчнасцей паміж духам і матэрыяй, жыццём і нябытам, вечнасцю і імгненнем, што выяўляецца і ў дынаміцы мастацкай формы. Верш Галубовіча, застаючыся ў сферы ўплыву класічнай традыцыі, становіцца больш раскаваным, плынным, у большай ступені набліжаным да непасрэднага прамаўлення-роздуму.

Паэзія, якая разумеецца як лад жыцця і адносіны да свету, — гэта для Галубовіча якраз найважней. Жыць п а э т ы ч н а неабавязкова азначае фіксаванне ўсіх момантаў такога жыцця ў літаратурнай форме, у выглядзе строга вызначаных, асвечаных вepisode... 

Паэт, які напісаў у свой час «Эпітафію верлібру» як не ўласцівай яго паэтычнаму дыханню форме мастацкага самавыяўлення («Не магу я пісаць верлібрам. / Задыхаюся ад арытміі радка»), пачаў звяртацца пазней усё часцей і да гэтага жанру. Наважуся выказаць меркаванне, што гэта выклікана таксама і адчуваннем пэўных межаў для магчымасцей выяўлення ўсталяваных форм паэтычнага выражэння. Галубовіча як бы бянтэжыць сама магчымасць падыходу да паэзіі як да прафесійнага занятку з цвёрдай мэтавай устаноўкай.

Галубовіч вылучае ў адным са сваіх вершаў мастацка-рэфлексіўнага характару *тры* магчымыя падыходы да паэтычнай творчасці, якімі вызначаецца набліжанасць/аддаленасць аўтара ад сутнасці паэтычнага: *складанне вершаў, напісанне* і *стварэнне*. Нялёгкае ўзыходжанне на трэці ўзровень стаецца мэтай для таго творцы, які імкнецца да самага поўнага ўвасаблення свайго мастацкага і чалавечага прызвання. Але ці дасягальная ўвогуле такая высокая мэта ў сваім абсалюце?

Напэўна, не. Таксама як невырашальнай па сутнасці з’яўляецца вечная дылема: паэзія ж ы ц ц я і жыццё ў п а э з і і — у чым у большай ступені выяўляецца духоўны патэнцыял чалавека? Выглядае на тое, што Галубовіч апошнім часам усё больш схіляецца да меркавання аб перавазе *паэтычнасці* самога жыцця (нават ва ўсёй будзённасці і вонкавай някідкасці яго праяў) над фармалізацыяй паэтычнага светабачання праз творчы акт. Усё адно «чарнільныя словы», якія паэты «грувасцяць» на паперы, не могуць зраўняцца са «словам адтуль», са Словам, якое зыходзіць з «вуснаў першародных». Ад самога жыцця, з яго таямнічых глыбінь ідзе гэтая прасякнутасць духам першатворнасці, ачышчальнай здольнасці новага светаўспрымання. Гэтае пачуццё далучанасці да першавытокаў быцця, прыходзячы нечакана, як бы перахліствае праз абмежавальныя загародкі літаратурнай формы. Хоць варта пры гэтым адзначыць, што яно ўсё ж пэўным чынам звязана менавіта з творчымі намаганнямі.

*Перабіраю, як пацеркі, словы...*
*Збіваю рыфмамі строфы радкоў, як цвікамі.*
*І раптам чую — за вокнамі — дождж...*
*З вачэй і з шыбаў*
*Змывае трызненні ночы...*
*Паэзія — гэта выпадковы дождж*
*На смагу душы...*

Сутыкненне-дыялог розных спосабаў творчага і асабовага самасцвярджэння выразна адчуваецца тут ва ўсёй сістэме суаднесеных між сабой апазіцый. Калі ў першым радку паэтычная вершатворчасць паўстае размераным заняткам, што супакойвае і лагодзіць, то ў другім яна выяўляецца сваім не самым прывабным бокам, штосьці сапраўды механістычнае дае тут знаць аб сабе. На фоне гэтай супярэчлівасці паміж формай і зместам паэтычнага выказвання паўстаюць найбольшай духоўнай каштоўнасцю праявы самога жыцця, што не звязаны з усвядомленымі намаганнямі розуму, спазнанне якіх чалавекам суправаджаецца звычайна менавіта гэтым «раптам...». І разам з тым менавіта асабовасць успрымання, «смага душы» надаюць быційным з’явам адметны сэнс, далучаюць іх да сферы паэтычнага.

З пошукам паэтычнага ў самім жыцці хутчэй за ўсё звязаны і зварот Галубовіча да прозы, наскрозь лірычнай, сузіральна-медытатыўнай, псіхалагічнай. «Зацемкі з левай кішэні» (такую аўтарскую назву атрымала ў Галубовіча папулярная сёння дробнафарматная пісьменніцкая эсэістыка) сталі прыкметнай з’явай сучаснага літаратурнага працэсу. У пэўным сэнсе іх можна разглядаць як працяг яго паэзіі ў новай форме яе існавання. Ва ўсякім разе гэта менавіта *проза паэта*. Дарэчы, развагі пра загадкавую прыроду паэтычнай творчасці сустракаюцца тут даволі часта. Яны ўплятаюцца ў тканку жыццёвых назіранняў, думак, успамінаў — падобна да таго, як раней уваходзіла мастацкая рэфлексія ў вобразную структуру вершаў. Тут, да прыкладу, знаходзіць выяўленне ў яшчэ больш разгорнута аргументаваным выглядзе ўсё тая ж канцэпцыя «нерукатворнасці» паэзіі, немагчымасці звядзення яе да загадзя зададзеных абмежаванняў фармальнага характару. Каб атрымаць паўнейшае ўяўленне пра напрамак творчых пошукаў Галубовіча, пра яго асабістае разуменне дыялектыкі мастацкай формы і жыццёвай сутнасці, лепш за ўсё звярнуцца непасрэдна да яго тэкстаў, бо якраз у іх і сыходзяцца ўсе абазначаныя майстрам супярэчнасці і залежнасці. Цытаваць усё, што адносіцца ў «Зацемках» да творчага самараскрыцця паэта, было б за́даўга. І ўсё ж хоць бы вось гэта:

*«Бо верш — гэта твая душа, дух твой, твая зямная сутнасць, тваё чалавечае апраўданне перад небам (Богам). І калі паэзія ёсць у табе, то яна адзіная і непаўторная, як ты сам. Нерукатворная, як твой дух. Таленавіты чалавек і ёсць дасканалы верш сам па сабе, ёсць вытлумачэнне самому сабе сваёй боскай прыроды і спрадвечнай зямной гармоніі.*

*А калі пачынаеш паслоўна выцягваць верш з сябе на паперу, шукаць клей тым паасобным словам — форму, стыль, рытм, рыфму, — каб надаць гармонію сябе-верша, то тут і здараецца калі не поўная, то пэўная страта паэзіі. Верш ужо робіцца, ён становіцца рукатворным. Вершам не для сябе, а — з сябе, для некага...»*

Гэтай зробленасці, як і страт, якія ёй спадарожнічаюць, немагчыма пазбегнуць. Але ж цана за іх — знаходжанне паразумення з людзьмі, дзеля якіх і здзяйсняюцца творчыя намаганні. «Які б ні быў талент — пішучы, ён страчвае... Але траціць сябе дзеля ўслаўлення Вечнага, хіба гэта не боскае прызванне?» — так заканчвае свой роздум аўтар, нечакана суадносячы разнапланавыя з’явы: страты ў галіне паэтыкі і расходаванне творцам сваёй душэўнай энергіі.

Безумоўна, аб тым можна толькі шкадаваць, што Галубовіч вырашыў больш не пісаць вершаў. Не маючы намеру дакопвацца ўсіх пабуджальных матываў такога неардынарнага ўчынку, хацеў бы толькі падкрэсліць, што ён увогуле адпавядае агульнай устаноўцы пісьменніка на неразмежаванне паэзіі ў жыцці і творчасці. Ва ўсякім выпадку, гэта ўчынак менавіта п а э т ы ч н ы і падзея па сутнасці сваёй знакавая ў беларускай паэзіі на рубяжы гістарычных эпох, якая змушае па-новаму паглядзець на магчымасці паэтычнага слова. Галоўнае ж, мабыць, у тым, што Галубовіч, якую б жанравую форму ні прымалі яго творы, заўсёды застаецца п а э т а м.

Актыўна працуючы ў літаратурнай крытыцы, ён выяўляе сябе пры гэтым таксама найперш як паэт, творца, чалавек, які ўспрымае літаратурны працэс «знутры». Мабыць, невыпадковая і ягоная ўвага да тых аўтараў, якія знаходзяцца як бы на перыферыі літаратурнага жыцця, таму што яны бліжэй да рэалій паўсядзённасці, на іх прыкладзе выразней бачыцца складанасць і драматызм працэсу ўваходжання мастацтва ў жыццё (жыцця ў мастацтва).

Паэзія — шматаблічная. У *пост*вершаванай форме яна, мяркуючы па ўсім, не траціць сваёй спрадвечнай і таямнічай сутнасці.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# СЕРЭНАДА ПАД ЛЕТНІМ ДАЖДЖОМ

## ЁСЦЬ НА КАГО РАЎНЯЦЦА



Салігоршчына — зямля даўняя. Першыя насельнікі, а імі былі дрыгавічы, жылі тут яшчэ ў IX—XIII стст. Пасля гэтыя мясціны ўваходзілі ў склад Тураўскага, а потым Слуцкага княства. Зразумела, што на той час, дый значна пазней, ні пра якую Салігоршчыну гаворкі не магло ісці. Нават такія вядомыя сёння населеныя пункты, як Старобін, Пагост і іншыя, узніклі толькі некалькі стагоддзяў таму. Ды менавіта назва Салігоршчына надае гэтай зямлі маладосць. З'явіўся ж гэты назоў, як вядома, ад назвы горада беларускіх шахцёраў. Праўда калі ўжо быць дакладным, то спачатку ён зусім і не Салігорскам называўся, а Нова-Старобінскам. Ды і то пасёлкам быў, які ў 1958 годзе заклалі за 130 кіламетраў на поўдзень ад Мінска, на заходнім беразе ракі Случ. Цяперашнюю назву атрымаў праз год. І толькі 7 сакавіка 1963 года стаў горадам абласнога падпарадкавання, а затым і цэнтрам новаўтворанага Салігорскага раёна.

Таму Салігоршчына ўсё ж маладая, а калі зямля маладая, то і людзі, якія жывуць на ёй, маладыя. Не толькі па сваім ўзросце, што асабліва тычыцца самога Салігорска. Маладыя і па духу, памкненнях. Маладыя жаданнем натхнёна працаваць і надалей пераўтвараць свой край, каб ён быў лепшым у краіне. Дый так упэўнены, што зямлі больш працавітай, чым салігорская, не знойдзеш. І ў многім яны недалёкія ад ісціны.

Найперш калі мець на ўвазе працоўныя набыткі ў розных галінах і ў першую чаргу — здабычу калійных угнаенняў. Аднак і культурная сфера па сваіх дасягненнях не з'яўляецца выключэннем. Тым больш што работнікам яе ёсць на каго раўняцца: начальнікам аддзела культуры працуе маладая, энергічная, а да ўсяго прыгожая жанчына **Наталля ГАПАНОВІЧ.**

Яна мясцовая, нарадзілася ў вёсцы Вялічкавічы. Скончыла каледж мастацтваў у Мінску, завочна атрымала дыплом аб вышэйшай адукацыі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў. Спачатку ўзначальвала Старацерушкоўскі сельскі Дом культуры, потым была дырэктарам Салігорскага раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра, а з 2005 года — начальнік аддзела культуры. У падначаленні 37 бібліятэк, 5 школ мастацтваў, Салігорскі краязнаўчы музей, 42 клубныя ўстановы рознага тыпу.

Паэт Леанід Якубовіч, які працаваў машыністам на Салігорскім калійным камбі-

наце і маладым загінуў пры спуску ў шахту, у адным са сваіх вершаў пісаў:

Зайздросце, хлопцы, салігорцам —
Маім сябрам і землякам:
Трымалі іспыт па-геройску
На горды тытул гарняка!

Сапраўды, людзям той прафесіі, дзякуючы якой і з'явіўся гэты цудоўны горад, нельга не зайздросціць. Але, пазнаёміўшыся як з самой Наталляй Іванаўнай, так і з тымі, хто па яе даручэнні стаў для мяне своеасаблівым гідам пры наведванні асобных устаноў культуры, а гэта дырэктар РАМЦ Таццяна Рафальская, галоўны спецыяліст аддзела культуры Ганна Храловіч, метадыст РАМЦ Наталля Ільюшчыц, як і тыя, хто непасрэдна знаёміў са сваім участкам работы, я таксама ўпэўніўся, што салігорцам застаецца па-добраму зайздросціць і ў дасягненнях на культурніцкай ніве. Тое, што робіцца ў гэтым накірунку, сведчыць, наколькі напоўненым жыццём яны жывуць як у самім горадзе, так і на раёне.

У гэтым праяўляецца духоўная патрэба напаўняць сваё жыццё тым, што патрапляе пад вызначэнне прыгажосць. Ад жадання аздобіць сваю паўсядзённасць, будні да імкнення паказаць, на што здатныя ў пэўных жанрах творчасці. Адпаведна і існуюць, як вядома, дзве катэгорыі тых, хто далучаецца да культуры. Адны — гэта тыя, хто становіцца гледачом, слухачом. Другія — хто дзякуючы свайму таленту дае ім такую магчымасць. Праз песні, танцы, творы выяўленчага мастацтва.

Толькі, а гэта таксама вядома, аднаго жадання мала. Неабходны яшчэ адпаведныя ўмовы. Салігорцам пашанцавала, што раённы, калі можна так сказаць, штаб культуры ўзначальвае менавіта Наталля Гапановіч. Акурат яна, акумуліруючы ў сабе вялікую творчую энергію, падпітваючы ёю іншых, умее зрабіць так, каб як яе ўласныя ініцыятывы, так і тое, што прапаноўваецца іншымі, накіроўваліся ў агульнае рэчышча жыццядзейнасці, прыносячы вынікі не проста добрыя, а такія, каб і ў іншых раёнах можна было шмат чаму павучыцца ў салігорцаў.

Тое ж, як шмат робіцца, добра бачна нават з досведу калектываў, пра якія і раскажу, хоць падобных прыкладаў пры жаданні можна прывесці куды больш.

## УЛЮБЁНЫЯ Ў МУЗЫКУ

Салігорская дзіцячая музычная школа па сутнасці равесніца горада: яна ўпершыню адкрыла свае дзверы ў 1961 годзе, што, дарэчы, лішні раз сведчыць на карысць таго, як клопатна савецкая ўлада дбала аб развіцці культуры, як дбала і аб выхаванні юных талентаў.

— Наша школа, — расказвае дырэктар Людміла Равуцкая, — расла разам з горадам. — Калі спачатку ў ёй займаліся 80 чалавек, дык цяпер азамі музыкі авалодваюць больш як 700 навучэнцаў. Працэс гэты праходзіць пад кіраўніцтвам 84 выкладчыкаў, сярод якіх 50 тых, хто сам некалі вучыўся тут. Усяго ж школу за ўвесь час яе існавання скончылі тры тысячы чалавек, і кожны чацвёрты выбраў музыку сваёй прафесіяй, бо па-сапраўднаму ўлюбёны ў яе.

Гэтаксама як улюбёная і сама Людміла Вячаславаўна. Родам яна з вёскі Рабунь Вілейскага раёна, што непадалёку ад вёскі Любань, у якую потым і пераехала разам з бацькамі. Намеснік жа Равуцкай Святлана Дзянісава — цікавае супадзенне — нарадзілася ў Любані. Праўда, у раённым цэнтры, які непадалёку ад Салігорска.

— Атрымліваецца, што абедзве вы — любанцы, — жартую я.

Яны падтрымліваюць мой жарт:

— Любанцы, бо любім сваю справу.

Дый як не любіць яе, калі абедзве ў музыцы бачаць сваё прызванне і абедзве паступова ішлі да запаветнай мары. Равуцкая спачатку скончыла Вілейскую музычную школу, потым Мінскае музычнае вучылішча імя М. Глінкі і ўжо завочна Ленінградскі дзяржаўны інстытут культуры імя Н. К. Крупскай. У біяграфіі Дзянісавай таксама прапісалася музычная школа, потым была вучоба на музычна-педагагічным аддзяленні Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага.

Працуючы ў Салігорскай дзіцячай музычнай школе, у многім з'яўляюцца аднадумцамі, у чымсьці дапаўняючы адна адну, і разам, як гэта і павінна быць, робяць агульную справу, працягваючы тыя традыцыі, што фарміраваліся ў гэтай навучальнай установе не адзін год. Разам з тым надаюць ім новы імпульс, а да набыткаў, што ўжо назапашаны, імкнуцца далучыць новыя напрацоўкі. Абедзве перакананы, што і надалей будуць



*Ансамбль «Палескія крыніцы».*

упэўнена стаяць на пазіцыях акадэмічнай адукацыі, служачы ёй верай і праўдай.

Многія выхаванцы паспяхова выступалі (і гэтаксама працягваюць выступаць) на самых аўтарытэтных абласных, рэспубліканскіх і міжнародных творчых конкурсах, фестывалях і іншых мерапрыемствах. Пачатак жа ўзнагародам школы паклаў Максім Рокач, які ў свой час стаў лаўрэатам 1-й прэміі Міжнароднага конкурсу акардэаністаў, што праходзіў у Германіі. Гэткай жа прэміяй на Міжнародным конкурсе юных піяністаў імя М. Цвятаевай быў уганараваны Арцём Шаплыка. Ён жа атрымаў Гран-пры на фестывалі нямецкай і аўстрыйскай музыкі (Літва). Лаўрэатам з міжнароднага фестывалю «Залатая пчолка» вярнуўся ўзорны духавы аркестр пад кіраўніцтвам Івана Бялькевіча.

Цымбалістка ж Паліна Загнібяда — лаўрэат міжнароднага конкурсу «Адкрытая Еўропа», які сабраў юныя таленты ў сталіцы Расіі Маскве. Свае ўзнагароды ва ўзорнага харавога калектыву (кіраўнік Ганна Агапонька), народнага інструментальнага ансамбля «Колар-бэнд» пад кіраўніцтвам ужо згаданага Бялькевіча. Калі ж сама Равуцкая была кіраўніком баяннага аркестра, ён тройчы станавіўся лаўрэатам Рэспубліканскага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах пад кіраўніцтвам І. Жыновіча.

Тыя, каго вабіць класічная музыка, ужо звыш 20 гадоў з задавальненнем наведваюцца ў камерную залу школы, што працуе ад Белдзяржфілармоніі. У гэтай зале выступалі не толькі многія знакамітыя выканаўцы, а і артысты з блізкага і далёкага замежжа. Добрай традыцыяй стала і правядзенне музычных вечароў, якія становяцца сапраўднай падзеяй у жыцці горада. Толькі некаторыя з іх: «Рамантызм у музыцы», «Казкі ў музыцы», «Пад знакам раяля», «Калі сябруюць музыка і дзеці», «Вясновыя галасы»... З канцэртамі выступаюць таксама і студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Адно з самых маладых аддзяленняў — харавое. Яно было створана 15 гадоў таму

па ініцыятыве двух дырэктараў — Міхаіла Пракаповіча, які ўзначальваў тады музычную школу, і Віктара Хацеева — ён стаяў на чале педагагічнага калектыву гімназіі № 2, у якой навучэнцы авалодвалі дакладнымі навукамі. У школе ж яны змаглі далучыцца да цудоўнага, пашырыць свой кругагляд, стаць эстэтычна больш багатымі.

Неацэнная роля музычнай школы і як рэгіянальнага метадычнага цэнтра, у склад якога ўваходзяць 14 дзіцячых музыкальных школ і школ мастацтваў Слуцкага, Старадарожскага, Салігорскага і Любанскага раёнаў. На базе яе праходзяць майстар-класы, праводзяцца абласныя і рэспубліканскія конкурсы, а таксама іншыя мерапрыемствы, якія сведчаць на карысць таго, што ў салігорцаў ёсць чаму павучыцца ў справе далучэння хлопчыкаў і дзяўчынак да прыгожага.

## ЯКІ ЎКЛАД, ТАКАЯ І АДДАЧА

З дырэктарам Салігорскай дзіцячай мастацкай школы Янінай Круковіч сустрэліся ў парку, дзе ладзілася гарадское мерапрыемства «За здаровы лад жыцця». Знайшлося ў ім месца і юным выхаванцам Яніны Іванаўны. Як, дарэчы, пры правядзенні шмат якіх іншых мерапрыемстваў яны не застаюцца ўбаку, бо талент іх такі, што могуць дапамагчы і ў мастацкім афармленні. Дый папрацаваць на натуры з’яўляецца магчымасць.

Навучанне ў школе вядзецца па такіх спецыяльнасцях, як малюнак, жывапіс, кампазіцыя. Апроч таго, дзеці вывучаюць асновы батыка, габелена, роспісу па дрэве. Трапляе ў поле іхняй увагі і дызайн, кераміка, лепка. Усяго майстэрствам авалодваюць каля трохсот чалавек. Гэта без падрыхтоўчых груп, што знаходзяцца на самаакупнасці і ў якіх займаюцца 95 чалавек.

Выкладчыкаў не так і шмат — толькі 14, але ўсе яны маюць вышэйшую адукацыю, у асноўным у іх першая ці вышэйшая катэгорыя. Калі ж уклад у справу выхавання важкі, то і аддача адпаведная: штогод роўна палова выпускнікоў звязвае сваё далейшае жыццё з мастацтвам.

— Мы, безумоўна, — дзеліцца сваім вопытам Яніна Іванаўна, — не ставім для сябе мэтай зрабіць з кожнага, хто вучыцца ў нас, прафесіянальнага мастака. Тым не менш, хоць школа з’яўляецца ўсяго пачатковым звяном у справе мастацкай адукацыі, але, паколькі падрыхтоўка вядзецца грунтоўна (дарэчы, была яна заснавана ў 1977 годзе), нашы выпускнікі паступаюць і ў Акадэмію мастацтваў, і ў Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў, і ў Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Не кажучы пра іншыя навучальныя ўстановы.

Яніна Круковіч нарадзілася ў горадзе Глыбокае. Скончыла Мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава, завочна — Санкт-Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Па першай спецыяльнасці — мастак-афармляльнік, па другой — мастацтвазнаўца. Працавала мастаком-афармляльнікам у Салігорскім гархарчгандлі, выкладчыкам школы, завучам, і вось ужо пяць, як дырэктар. Калектыў хоць і невялікі, але дружны. Гэта тычыцца як тых, у каго немалы працоўны стаж, так і маладзейшых выкладчыкаў. Ды ўсё ж у старэйшых ёсць чаму павучыцца. Як у Алены Панкрацьевай, якая працуе тут ужо 30 гадоў і ў якой толькі адзін запіс у працоўнай кніжцы. Да старажылаў належыць і Віктар Мялешчанка, які і сам піша пейзажы.

Круковіч з гонарам называе лепшых выпускнікоў школы Юрыя Івашкевіча, Таццяну Лузан, Вольгу Ярашэвіч і іншых, хто паспеў сцвердзіцца ў прафесіянальным мастацтве. З радасцю згадвае Іру Лосік і Волю Таболіч, якія выйшлі пераможцамі конкурсу, што праводзіцца ў Ізраілі. Самі яны, праўда, у гэтую краіну не ездзілі, бо такая паездка не была прадугледжана ўмовамі, а паслалі туды свае малюнкі, якія былі высока ацэнены. Узнагарода юным салігарчанкам — пасадка ў біблейскім садзе Іерусаліма іх імянных дрэўцаў.

Штогод юныя мастакі ўдзельнічаюць у Міжнародным конкурсе дзіцячага малюнка «Бітоля» (Македонія), польскага — «Дзіця і сабака», пабывалі таксама ў Італіі, Нарвегіі, Англіі, Чэхіі...

## ШМАТПРОФІЛЬНА — ЯКАСНА

Ёсць у Салігорску і дзіцячая школа мастацтваў. Дырэктар яе Алег Шчэрбаў, мабыць, здагадваючыся, што мяне цікавіць, навошта мець у адным горадзе дзве ў чымсьці блізкія навучальныя ўстановы, тлумачыць:

— Адрозненне нашай школы ад музычнай і мастацкай — шматпрофільнасць. Калі музычная спецыялізуецца на музыкальным выканальніцтве, мастацкая — на выяўленчым мастацтве, то ў школе мастацтваў у наяўнасці ўсе накірункі мастацтва: харэаграфічнае, харавое, тэатральнае. Апроч таго — рознае музіцыраванне.

Працуе шэсць аддзяленняў: струнна-смычковае, фартэпіяннае, эстраднае, харавое, харэаграфічнае, тэарэтычнае. У сёлетніх планах — адкрыццё яшчэ і тэатральнага.

— Мы, — працягвае Алег Аляксандравіч, — некалькі нетрадыцыйная школа, бо імкнёмся шукаць новыя формы, новыя ідэі, ажыццяўляць новыя праекты, праводзіць новыя конкурсы.

Школа вядзе актыўную канцэртную дзейнасць. Так, летась адбылося 47 розных мерапрыемстваў, сярод якіх большая частка — платныя. Гэта і выезды на прадпрыемствы, у арганізацыі. Падобная актыўнасць дае добры плён: за год было зароблена 90 млн. рублёў.

Прымаюцца захады па стварэнні шматузроўневай сістэмы падрыхтоўкі дзяцей, пачынаючы з 5—6-гадовага ўзросту і завяршаючы 17—18-гадовым. Тым самым выхаванцы будуць навучацца ў школе больш як 12 гадоў. Дзеля ажыццяўлення задуманага распрацавана новая праграма для хлопчыкаў і дзяўчынак, якія дасягнулі пяцігадовага ўзросту. Называецца яна «Цэнтр эстэтычнага выхавання». Тыя, хто прайшоў папярэдні адбор, будуць навучацца два гады. Пасля выкладчыкі парэкамендуюць бацькам, на што іхняга сына ці дачку лепш зарыентаваць: асновы акцёрскага майстэрства, правілы добрых паводзін, асновы калектыўных спеваў, асновы харэаграфіі. Сёлета плануецца яшчэ ўвесці і элементарнае музіцыраванне. Падрыхтоўчае аддзяленне стане другой ступенню навучання. Яно ж дапаможа вызначыць профільны накірунак. Трэцяя ступень — гэта ўжо само навучанне. І, нарэшце, чацвёртая — удзел у калектывах, што працуюць на базе школы.

Усяго іх больш як 15, пяць з якіх маюць ганаровыя званні народных ці ўзорных. Гэта такія калектывы, што даўно паспелі самасцвердзіцца. Дый неаднойчы выходзілі пераможцамі, былі прызёрамі на розных фестывалях, конкурсах, аглядах. Сярод іх народны вакальны ансамбль «Каларыт», якім кіруе Таццяна Якуніна, народны ансамбль народнай музыкі «Маладзік» — дзецішча Мікалая Патоцкага і самога Шчэрбава, ансамбль танца «Тройца» на чале з Ігарам Цемчыным, дзіцячы ўзорны эстрадны аркестр пад кіраўніцтвам Леаніда Карташова.

Гэты аркестр з'яўляецца лаўрэатам розных конкурсаў і фестываляў у нашай краіне. Толькі летась удзельнічаў у некалькіх мерапрыемствах у Расіі, Літве і Беларусі. Сёлета стаў лаўрэатам першай прэміі адкрытага дзіцячага фестывалю-конкурсу джазавай і эстраднай музыкі «Джаз-Тайм», што праходзіў у Салігорску трэці раз і ініцыятарам якога стала дзіцячая школа мастацтваў. Дарэчы, на Беларусі няма аналагаў гэтаму конкурсу. У праграме фестывалю прынялі ўдзел 23 ансамблі, 5 аркестраў, 19 салістаў-піяністаў і 32 інструменталісты. Усяго ж у горад беларускіх шахцёраў прыехалі больш як 350 удзельнікаў з розных рэгіёнаў нашай краіны, а таксама з Санкт-Пецярбурга, Ленінградскай вобласці, Масквы, Маскоўскай вобласці і Растова-на-Доне.

Нельга не пагадзіцца са Шчэрбавым:

— Для дзяцей гэта творчае спаборніцтва, дзе яны могуць не толькі паказаць сваё майстэрства, але і заявіць аб сабе ў час конкурсу, які набыў ужо вядомасць. Без перабольшання, «Джаз-Тайм» — гэта падзея для Беларусі.

Журы фестывалю ўзначальваў скрыпач, аранжыроўшчык, заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ткачэнка. Выступленні юных джазменаў ацэньвалі таксама прэзідэнт Асацыяцыі музыкальных дзеячаў паўднёвай акругі Швецыі, дырэктар міжнароднага музыкальнага фестывалю ў горадзе Крысціянстад Ёні Янгтун; кампазітар, дэпутат Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Беларусі Алена Атрашкевіч; піяністка, лаўрэат міжнародных конкурсаў і фестываляў (Масква) Галіна Успенская, музыкальны крытык Дзмітрый Падбярэзскі.

Чарговы, чацвёрты па ліку фестываль «Джаз-Тайм» мяркуецца правесці ў 2012 годзе. Яго фармат будзе пашыраны, адпаведна гледачоў чакаюць новыя яркія музычныя адкрыцці.

### У РОГУ АДМЕТНАГА МНОГА

Салігоршчына — з тых рэгіёнаў, у якіх беражліва ставяцца і да народных традыцый, абрадаў, шануюць і ўмела прапаган-

дуюць вусна-паэтычную творчасць беларускага народа. Балазе, пры жаданні гэта рабіць не так і складана. Не трэба забываць, што часткай сваёй тэрыторыі раён захоплівае і Палессе. Дакладней — самую паўночную частку Беларускага Палесся, якая мяжуе з Цэнтральнай Беларуссю. Нават і сёння насельніцтва гэтага рэгіёна лічыць сябе палешукамі.

Вядома, гаворкі аб нейкай адарванасці жыхароў гэтага памежжа ад свету і людзей у нашы дні не ідзе. Затое не выклікае сумнення тое, што тут, у далёкай глыбінцы, можна далучыцца да такога пласта народнай культуры, які ў іншых мясцінах калі і зберагаецца, дык толькі дзякуючы энтузіястам. У гэтай жа мясцовасці даўнія традыцыі працягваюць жыць.

У тым ліку і дзякуючы намаганням тых, хто, разумеючы іхнюю гісторыка-культурную каштоўнасць, а таксама важнасць захавання для новых пакаленняў, прымае актыўныя захады для таго, каб нешта вартае ўвагі не толькі не забывалася, а і жыло, квітнела. Як, скажам, калядны абрад «Шчодрык», якому як адметнаму праяўленню лакальнай культурнай традыцыі Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 жніўня 2009 года быў нададзены статус гісторыка-культурнай каштоўнасці Беларусі. Прапісаўся ж гэты арыгінальны абрад, якога ў «жывым» выглядзе больш нідзе не напаткаеш, у вёсцы Рог.

Такая назва ў гэтага населенага пункта — невыпадковая. Знаходзіцца вёска Рог, што адносіцца да Даманавіцкага сельсавета, на поўначы Салігорскага раёна і нават па цяперашнім меркам далёка ад раённага цэнтра — да Салігорска адсюль 65 кіламетраў. Вёска, быццам той вялікі рог, укліньваецца ў балота. Хоць, на жаль, сам населены пункт сёння вялікім назваць ніяк не выпадае, бо ў ім толькі 48 хат, у якіх пражывае ўсяго 61 чалавек. Ды і то яны ў пераважнай большасці старыя ці пажылыя, а дзяцей зусім няма. Хаты з прычыны забалочанасці мясцовасці стаяць групкамі, а то і зусім далёка адна ад адной.

Праўда, вёска Восава, што размешчана за чатыры кіламетры ад Рога, куды большая — 121 двор, 270 чалавек. Яна — адміністрацыйны цэнтр сельскагаспадарчага вытворчага кааператыва «Скаўшын». Аднак эканамічнае становішча гэтай гаспадаркі далёка не лепшае, таму маладыя сем'і і не затрымліваюцца, пераязджаюць у горад.

Толькі гэта на Восаве сказалася ў меншай ступені, чым у вёсцы Рог, якая таксама ўваходзіць у склад СВК «Скаўшын». У пэўнай ступені гэтаму спрыяе і тое, што ёсць сельскі Дом культуры, а таксама сярэдняя школа, якая знаходзіцца на мяжы з вёскай Чырвонае возера, а гэта ўжо тэрыторыя Жыткавіцкага раёна. Калі ж ёсць мясцовая інтэлігенцыя, то і ёсць каму дбаць пра тое, каб і ў глыбінцы не заціхала культурнае жыццё. Калі ж яна да ўсяго працуе з энтузіязмам, то ёсць усе падставы чакаць добрых вынікаў. Вынікі ж гэтыя ў Восаве далі аб сабе знаць яшчэ больш як 25 гадоў назад.

## СВАЁ, НЕ ЗАПАЗЫЧАНАЕ

Пачатак быў пакладзены ў 1973 годзе, калі мясцовая настаўніца Надзея Пузевіч, выдатная выканаўца мясцовых песень, а да ўсяго надзвычай улюбёная ў самабытную культуру гэтых мясцін, што з'яўляюцца для яе роднымі, сабрала энтузіястаў з прапановай стварыць свой фальклорны калектыў. На прапанову Надзеі Рыгораўны з задавальненнем адгукнуліся многія.

На гэтым, несумненна, сказалася і тое, што ў той час адарванасць Восава, як і навакольных вёсак, ад цэнтра раёна адчувалася куды ў большай ступені, чым сёння. Аднак, безумоўна, значна болей на жаданне збірацца разам паўплывала любоў да народнай песні — песні мілагучнай, адметнай, такой, якую больш нідзе не напаткаеш. Песні палескай.

Таму доўга і не вагаліся, як назваць свой фальклорны гурт. «Палескія крыніцы» — было акурат тое, што сведчыла і аб вытоках гэтага духоўнага багацця. Дый адначасова нагадвала аб тым, як ашчадна неабходна ставіцца да яго, каб фальклорныя крыніцы ніколі не засыхалі, каб у іх заўсёды была жывая і чыстая вада.

Першымі артыстамі «Палескіх крыніц» сталі 23 самадзейныя спевакі. Аднак не адны песні гучалі. Не толькі з майстэрствам самадзейных выканаўцаў маглі пазнаёміцца тыя, хто іх добра ведаў у паўсядзённасці — як і бывае заўсёды пры стварэнні нейкага аматарскага калектыву, першымі спевакамі, гледачамі звычайна з'яўляюцца

жыхары таго населенага пункта, у якім пачынае працаваць той ці іншы ансамбль, душу ўсцешвала і музыка. Гармонік, барабан — гэта таксама тое, што асабліва дарагое і блізкае, без чаго ў вёсцы не абысціся, як без хлеба на абрусе.

Таму і паспеў гэты гурт хутка самасцвердзіцца, што ў ім нічога не было прыдуманага і надуманага, а ўсё ішло ад самога жыцця. З народных вытокаў ішло і народнымі вытокамі жывілася. Гэта ж, у сваю чаргу, дазваляла разнастаіць рэпертуар — як жанрава, так і тэматычна. Паступова ў праграму пачалі ўключацца і танцавальныя нумары. Аднак зноў жа — не запазычаныя, не такія, што можна напаткаць і ў іншых самадзейных калектывах, бо яны традыцыйныя ці не для ўсёй Беларусі, а свае, якія бытуюць у Восаве і іншых вёсках.

## ЧЫСТАЯ ВАДА «ПАЛЕСКІХ КРЫНІЦ»

Ужо шэсць гадоў, як фальклорны калектыў «Палескія крыніцы» носіць ганаровае званне «народны». З 2009 года яго ўзначальвае Валянціна Цяляк, дзякуючы якой тое добрае, што было здзейснена за папярэднія гады, не толькі не страчваецца, а і ўзнімаецца на новую творчую вышыню. Па-ранейшаму «Палескія крыніцы», з’яўляючыся яркім носьбітам мясцовай пеўчай традыцыі, гэтаксама як і ў былыя гады, умела прапагандуючы палескую харэаграфію, сваёй дзейнасцю пацвярджаюць правільнасць той думкі, паводле якой, наколькі б імкліва ні развіваўся прагрэс, якія б новыя накірункі ні фарміраваліся ў жанры песні, танца, тое, што звязана з народнымі вытокамі, калі яно падаецца па-майстэрску, заўсёды будзе запатрабавана. Таму песні гэтага гурта гучалі па радыё. Таму пра «Палескія крыніцы» расказвала тэлебачанне. І, зразумела ж, з’яўлялася нямала публікацый, прысвечаных яму. Канцэрты ж... Ці не кожны, хто хоць аднойчы патрапіў на выступленне ансамбля, застаецца задаволеным, адзначаючы для сябе, а то і дзелячыся сваімі ўражаннямі з іншымі, што падобнае рэдка дзе яшчэ напаткаеш.

Захапляе ўжо тое, наколькі рэпертуар не проста разнастайны, а падабраны з густам, з такім разлікам, каб слухачы і гледачы, прыйшоўшы на канцэрт, маглі адчуць усю адметнасць фальклорных традыцый тамашніх мясцін. Уражвае таксама багатая арнаментальная мелодыка спецыфічных напеваў каляндарна-земляробчых і сямейна-абрадавых песень. На высокім выканаўчым узроўні прапаноўваюцца і шматлікія пазаабрадавыя песні. Прытым як аднагалосыя, так і шматгалосыя. Тыя, для якіх характэрны моцны элемент меладычнага і рытмічнага вар’іравання.

Харэаграфічныя нумары таксама не пакідаюць прысутных абыякавымі да таго, што адбываецца на сцэне. Танцы «Карапет», «Людзвінка», «Страдание», «Во саду ли», «Матлей па-рогаўску» — нават сваімі назвамі сведчаць аб тым, што гэта мастацтва аўтэнтычнае, народжанае на палескай глебе, прывязанае да мясцовых рэалій. Але ж праграма выступленняў, безумоўна, гэтымі харэаграфічнымі нумарамі не абмяжоўваецца.

Важна не толькі, што падаць, а і як падаць. Таму нават калі глядзіш традыцыйную польку-трасуху, перажываеш такое адчуванне, быццам з гэтым танцам сустракаешся ўпершыню, настолькі восаўскія артысты выконваюць яе па-майстэрску. Дый як не выконваць, калі ўсе яны належаць да тых, для каго ўжо сам удзел у мастацкай самадзейнасці — свята, паколькі ёсць магчымасць лішні раз душу адвесці, далучыўшыся да таго, без чаго яна, душа, кволіцца пачынае.

## СТРЭЛКА ГАДЗІННІКА, ПАВЕРНУТАЯ НАЗАД

Адметна і тое, што ўдзельнікі гурта — далёка не маладзёны. Наадварот, як правіла, гэта людзі сталага, а то і зусім паважанага ўзросту. Самай старэйшай, Таццяне Хаміцэвіч, ужо 90, аднак творчага імпэту ў яе не паменшала. На сваю Таццяну Навумаўну раўняецца і яе муж Васіль Гаўрылавіч, які на тры гады маладзейшы. Гэткія ж няўрымслівыя, як у жыцці, так і ў мастацкай самадзейнасці, Праскоўя Ільюшчыц, Настасся Чабатарова, Васіль Ільюшчыц, Васіль Каваленя, Алена Паддубіцкая. Ды і іншыя таксама, бо наўрад ці можна было б гаварыць пра «Палескія крыніцы» як пра калектыў самабытны, калі б хтосьці «выпадаў» з гэтага суладдзя, выступаў слабей, чым іншыя.

Дбаюць самадзейныя артысты і аб творчай змене. Для таго, каб пашырыць кола прыхільнікаў традыцыйнай беларускай нацыянальнай культуры, пры «Палескіх крыніцах» быў створаны дзіцячы фальклорны калектыў «Ручаёк», які жывіць сваёй «вадой» «Палескія крыніцы», надаючы іхняй плыні свежасці і плыткасці.

Без удзелу мясцовых артыстаў не абыходзіцца ніводнае каляндарнае ці сямейнае свята, яны жаданыя госці на вячорках і вяселлях, часта выступаюць з канцэртамі, сваёй прысутнасцю яшчэ больш надаюць непаўторнасці веснавым святам і Купаллю. Зажынкі і дажынкі таксама прываблiваюць іх, бо зноў жа ёсць магчымасць належным чынам праявіць сябе. Не кажучы пра шматлікія канцэрты, на якіх не толькі гучаць народныя песні, выконваюцца танцы, а і расказваюцца мясцовыя легенды і паданні, казкі і былiцы. Дый і тапаніміка самадзейнікам не чужая. Ахвотна раскажуць, адкуль з’явілася тая ці іншая назва.

Дзякуючы ўдзельнікам мастацкай самадзейнасці нанава нарадзіўся і абрад «Шчодрык». Менавіта нанава нарадзіўся, бо існуе ён у такім выглядзе, у якім быў на працягу многіх дзесяцігоддзяў, а не рэстаўрыраваны, як гэта бывае ў іншых месцах, калі вяртаецца з небыцця тое, што з’яўлялася духоўным апірышчам для нашых папярэднікаў.

Безумоўна, ніхто не збіраецца сумнявацца ў неабходнасці (як і каштоўнасці) падобнай рэстаўрацыі, ды, пагадзіцеся, усё ж тое, што здзейснілі рогаўцы, куды больш важнае. Яны па сутнасці як бы павярнулі стрэлку гадзінніка назад, нагадалі пра тое, колькі непаўторнасці ў шчадраванні, што належыць да найбольш архаічных навагодніх віншавальных абыходных абрадаў.

Дзякуючы таму нагадалі, што асноўныя элементы гэтага абраду захавала старэйшае пакаленне жыхароў вёскі Рог дый іншых навакольных населеных пунктаў, што ўваходзяць у склад Даманавіцкага сельсавета. Песні, прыгаворы, усе дзеі жылі ў памяці. Павінен быў толькі з’явіцца штуршок, каб усё гэта зноў атрымала сваё паўнавартаснае жыццё, а гэта значыць, каб абрад пачаў ажыццяўляцца поўнасцю, як было раней, а не толькі асобнымі сваімі элементамі, што практыкавалася да таго часу, пакуль гэтым абрадам па-сапраўднаму не зацікавіліся рогаўскія артысты.

## ШЧОДРЫ ВЕЧАР, БАГАТАЯ КУЦЦЯ

Гэта ў цяперашнім выглядзе абрад называецца «Шчодрык». Вядомы ён і як «Шчадрэц». Таксама і «Казельчыкамі» яго называюць. Але ад гэтага сутнасць не мяняецца, бо ўсё адбывалася (як і ў нашы дні праходзіць) у ноч з 13 на 14 студзеня. На стары Новы год, як цяпер кажуць. Тады ж, калі шчадравалі паўсюдна, гэта быў звычайны Новы год. Дакладней нават — першая навагодняя ноч.

Як толькі цямнела, ва ўсіх вясковых хатах садзіліся вячэраць. Быў Шчодры вечар, Багатая куцця. Багатая, бо ўся вячэра і сапраўды была скаромнай, а значыць багатай. Абавязкова рыхтавалі 12 страў. Хто чым багаты, тое і выстаўляў. Ды толькі менавіта каша-куцця з ячменю ў гліняным гаршку, звараная з мясам і прыпраўленая маслам або салам, з’яўлялася самай ганаровай стравай на стале. Яе ставілі з таго краю, дзе сядзеў гаспадар, на абрус, пад якім ляжала сена. Кожны з сямейнікаў цягнуў з-пад абруса сцяблінку. Лічылася, што ў таго, у каго яна аказвалася самай доўгай, мусіў вырасці самы лепшы ў годзе ўраджай.

Пасля таго як гаспадар, запаліўшы свечку, памаліўся, усе пачыналі вячэраць, няспешна ведучы гаворку. Калі крыху насыціліся, надыходзіла чарга куцці. Зняўшы прагарку, гаспадар зачэрпваў лыжкай куццю і падносіў яе да акна, тры разы прамаўляючы: «Мароз, Мароз, хадзі куццю есці!», дадаючы: «Зімою буваць, а летам не буваць, бо залезнымі пугамі будом сцябаць».

Усе пачыналі есці куццю. Паеўшы, першым з-за стала ўставаў гаспадар і тры разы хрысціўся. Следам за ім так рабілі ўсе сямейнікі. Пасля бацька прапаноўваў цягнуць з-пад абруса сцяблінкі дзецям. Калі яна аказвалася даўжэйшай у хлопца, то лічылася, што ён будзе сеяць лён. Самую доўгую выцягвала якая-небудзь дзяўчына, то ёй выпадала вырасціць яго самым даўжэйшым, валакністым.

Моладзь і дзеці беглі да акна, пільна ўзіраючы, ці няма на вуліцы шчадроўнікаў, бо ведалі, што бацькі пасля гэтага пусцяць на вуліцу пахадзіць з імі, пагуляць, людзей павесяліць дый самім павесяліцца.

## ЧАКАЙЦЕ, ЛЮДЦЫ ДОБРЫЯ, НАС, ЗБІРАЕМСЯ

Шчадроўнікі ж у гэты час, як кажуць, не драмалі. Раней шчадраваць збіраліся асобна хлопцы і асобна дзяўчаты з жанчынамі. Цяпер усе разам, але дзяўчыне, каб яе ўзялі з сабой, мусіць быць не менш, чым 18 гадоў. Задоўга да гэтага дамаўляюцца, хто пойдзе па вёсцы, хто ў якога будзе персанажа пераапранацца. Каб лепш засведчыць архаічнасць абраду, падбіраецца саматканая апратка. У першую чаргу для Дзеда і Бабы — бадай, галоўных персанажаў шчадравання.

Старыя вяскоўцы дастаюць са сваіх куфраў суконныя світкі, нагавіцы, андаракі, кашулі... Калі штосьці з адзення пашкоджана ці яго паела моль, на гэта не звяртаецца ўвага. Наадварот, мяркуецца, што тым самым адбываецца яшчэ глыбейшае вяртанне ў мінуўшчыну, а гэта нельга не вітаць.

Адзін з самых адметных персанажаў у «Шчодрыку» — Дзед-Механоша, які носіць мех з падарункамі. Гэта самы старэйшы ў гурце мужчына, на галаве ў якога знаходзіцца берасцяная маска, падобнай якой больш нідзе на Беларусі не напаткаеш. Вырабляецца яна з вялікага кавалка бяросты, асцярожна знятага з дрэва. Каб кавалак гэты не пашкодзіць, выбіраюць цэльны. Знешні бок бяросты становіцца знешняй часткай маскі.

Калі ў іншых, хоць і далёка не многіх месцах яна рабілася як свайго роду накладка на твар, то ў тамашніх мясцінах гэтая маска нагадвае сабой шапку, у якой бяроста злучаецца ў так званыя зубчыкі, што надае масцы трываласць і адначасова падкрэслівае яе арыгінальнасць. Зразумела, што выразаюцца дзіркі для вачэй, носа і роту.

Гэтая абрадавая маска адноўлена ў сваім першапачатковым выглядзе дзякуючы мастацкаму кіраўніку Восаўскага СДК Аляксандру Дубіцкаму і ягоным вучням.

Калі для Дзеда няма світкі, то ён можа апрануць і стары шынель. У рукі даюць бярозавы кій з чырвоным бантам наверсе. Баба ж, яе завуць Засявальніцай, ходзіць з палатнянай торбай-кайстрай цераз плячо, у якой зерне жыта.

Не абыходзіцца без Зарканошы — ён нясе калядную зорку. Як і без жанчын-Шчадрух, якія радуюць сваімі песнямі. А яшчэ двое мужчын, накрыўшыся посцілкай ці прасцінай, ператвараюцца ў Каня, галава якога зроблена як лялька з лейцамі. Адзін з іх ідзе, несучы ляльку-Каня, другі трымае яго ззаду за пояс. За прасціну ці посцілку прывязваецца хвост, хоць абрад можа праводзіцца і без яго. Зайшоўшы ў хату, у якой цесна, прасціну могуць скінуць. Той, хто трымае Каня, пачынае ў гаспадароў прасіць для яго аўса.

Адметнасць абраду шчадравання надае і прысутнасць Казы. Гэта лялька-пудзіла са скуры забітай жывёліны, набітая саломай, а ў ножкі ўстаўлены драўляныя палачкі, каб можна было стукаць імі па падлозе. Тым самым атрымліваюцца рытуальныя скокі казы.

Дарэчы, для таго, каб чуўся рух Каня, да шыі яго прывязваюць званочак. Званочак вешаюць і на шыю казе. А яшчэ павязваюць ёй бант. Як кажуць, для форсу. Казу нясе старэйшая жанчына, апранутая ў вывернуты кажух. На нагах у яе лапці (па магчымасці абуваюць у іх і Дзеда-Механошу), а на галаве хустка з макатрасамі. Нязменны «ўдзельнік» гэтага абраду і Жуўравель, што ўяўляе сабой кій, у якога замест дзюбы крывы канец. Жураўля нясе высокі мужчына альбо жанчына, накрыўшыся зверху прасцінай. Ёю пакрыты і сам кій.

## З УСХОДУ НА ЗАХАД... «ПА СОНЦЫ»

Апрануліся шчадравальнікі ў свае строі, сабраліся разам і пайшлі па вёсцы, не мінаючы ніводнай хаты. Не заходзяць толькі ў тую, дзе яшчэ прысутнічае жалоба. Ад хаты да хаты ідуць з песнямі, прыпеўкамі. Стараюцца як могуць: каб усе пачулі іх, каб нагадаць, што гэты вечар — не звычайны, а сустрэча Новага года. Пры гэтым па вёсцы рухаюцца з усходу на захад, як кажуць, «па сонцы».

Не ведае спакою гармонік у руках Васіля Ільюшчыца. І сам Васіль Уласавіч немалады, нарадзіўся ў 1929 годзе, і ягоны інструмент сталага веку — прыдбаў яго Ільюшчыц у нейкага майстра Мельніка ў Гомелі яшчэ 55 гадоў таму. Ды як бы маладзее музыка, калі расцягвае ягоны мех. Дарэчы, Васіль Уласавіч — не рогаўскі, нарадзіўся ў Чырвоным Возеры, а жыве ў Пісаравічах. Аднак, паколькі рогаўскі гарманіст Сяргей

Бердніковіч памёр, ахвотна адгукаецца на запрашэнне пашчадраваць разам з ансамблем «Палескія крыніцы».

Гэтаксама лёгкі на пад'ём і Васіль Каваленя. Ён таксама родам з Чырвонага Возера, а жыве ў Восаве, усяго на два гады маладзейшы за Ільюшчыца. Як Васіль Уласавіч не развітваецца са сваім гармонікам, так Каваленя — з барабанам.

Толькі наблізіліся шчадравальнікі да чарговай хаты, як пачынаюць спяваць:

Ці дома, дома сам пан-гаспадар?
Святы вечар, святы Васілёк!

У гэты час Дзед-Механоша падыходзіць да вакна хаты з таго боку, дзе вісяць абразы. За ім рухаецца ўвесь гурт шчадравальнікаў. Дзед стукае ў вакно кіем, пасля чаго ўсе пытаюцца дазволу зайсці. Раней, калі дзеці ўжо спалі, хто-небудзь з сямейнікаў выносіў каляду на вуліцу. Цяпер жа, паколькі ў вёсцы Рог дзяцей няма, запрашэнне ў хату адбываецца абавязкова. А потым абрад праходзіць у ягонай паслядоўнасці. Абавязкова з уключэннем у песню для Казы «Ой, ну-ну, каза» просьбы даць пачастунак: «рэшата аўса, наверх каўбаса, яшчэ сала, каб каза скакала». Усё гэта гаспадары па чарзе выносяць.

Шчадравальнікі абыходзяць усе хаты, у якіх гарыць святло. Раней, бывала, да самай раніцы хадзілі, нават у суседнія вёскі на кані ездзілі. Вярнуўшыся ў Рог, збіраліся ў каго-небудзь у хаце, дзялілі грошы і пачастункі, накрывалі святочны стол. Пасля чаго святкавалі першы дзень Новага года.

## КАБ ЗАМУЖ, ДЫ ХУТЧЭЙ...

То было Васілле, якое прысвячалася свойскім жывёлам і птушкам. Гаспадар старанна хаваў у хляве загадзя спечаныя булачкі. З такім разлікам, каб гэтых святочных піражкоў ставала і каровам, і коням, і авечкам, і свінням. Раніцай разам з бабуляй-гаспадыняй і ўнукамі ён спяшаўся паглядзець, ці захаваліся гэтыя прысмакі. Калі дзеці знаходзілі іх, уважліва разглядаў. Аказаліся цэлымі — значыць, і ўвесь год пройдзе добра, скаціна не будзе хварэць.

У гэты час гаспадыня брала абруч, у які сыпала прыгарак з куці, а таксама зерне курам. Рабілася гэта дзеля таго, каб яны пастаянна трымаліся двара і несліся толькі ў сваім хляве. Дзеці ж пад вечар 13 студзеня насіліся па вёсцы, стукалі ў вокны хат, пыталіся, называючы гаспадыню па імені. Напрыклад: «Цётка Ганна, дзе вашы куры нясуцца?» Тая адказвала: «У куратніку, у куратніку». Пасля гэтага дзеці жадалі: «Хай заўсёды там нясуцца!»

Для дзяўчат жа навагодняя ноч станавілася магчымасцю паваражыць, каб збылося тое, пра што марыцца. Навёўшы перад Шчадрацом парадак у хаце, яны, выносячы смецце на дрывотню, старанна ўслухоўваліся, у якім канцы вёскі забрэша сабака. Паводле народнага павер'я, менавіта ў тую хату дзяўчына і пойдзе замуж. А яшчэ стараліся дзяўчаты непрыкметна ўзяць першы блінец, які ў гэты вечар спячэ маці. З ім таксама спяшаліся на дрывотню. Калі ж дзяўчат збіралася некалькі, раскладваліся блінцы і клікалі сабаку. Чый блінец ён з'ядаў першым, тая і павінна была першай знайсці сабе мужа.

Быў і такі спосаб вызначыць, адкуль чакаць сабе жаніха. Узяўшы рубель — так, як вядома, называецца здаўна доўгая жэрдка, якой увязваюць воз сенам ці саломай, ставілі яго на сметніку і разбягаліся. У чый бок рубель падаў, тая дзяўчына і першай ішла замуж. Калі ж якая-небудзь з іх адна такім чынам высвятляла свой лёс, то рубель, упаўшы, паказваў, з якога боку ёй чакаць суджанага.

Маглі дзяўчаты зрабіць і так. Хапалі колькі маглі дроў і неслі іх у хату, дзе пачыналі лічыць. У каторай аказвалася цотная колькасць, тая спадзявалася знайсці сабе ў новым годзе пару. І, наадварот, пры няцотнасці даводзілася чакаць наступнага года.

А яшчэ якая-небудзь дзяўчына, якой надта не цярпелася высветліць, ці пашанцуе ёй у бліжэйшы час, на ноч клала на калодзеж па піражку з чатырох бакоў. Раніцай правярала наяўнасць іх. Калі знаходзіла некранутымі, заставалася сумнай, бо была ўпэўнена, што яшчэ на год застанецца адна.

Няшмат знойдзецца сёння тых, хто такую варажбу ўспрыме ўсур'ёз. Ды, бадай, кожны, хто даведаецца пра яе, не застанецца да гэтага звычаю, як і да іншых, абыякавым. Перафразаваўшы знакамітае барадулінскае: «Трэба дома бываць часцей», можна з упэўненасцю сказаць: трэба часцей далучацца да народных вытокаў, да нацыянальных абрадаў і традыцый. Дзеля таго, «каб душою не ачарсцвець, каб не страціць святое штосьці».

Што і робяць удзельнікі народнага фальклорнага калектыву «Палескія крыніцы». І не толькі яны.

### «СУЗОР'Е» — ДЛЯ ТАЛЕНТАЎ РАЗДОЛЛЕ

Народны ансамбль танца «Сузор'е», што працуе пры гарадскім Палацы культуры, пакуль не можа пахваліцца такой багатай біяграфіяй, як «Палескія крыніцы». Праўда, гэта калі мець на ўвазе ягоны ўзрост: заснаваны ў 1999 годзе. У астатнім жа з імі адчувае сябе зусім як роўны. Адбываецца гэта дзякуючы таму, што гэтаксама як і ў «Палескіх крыніцах», у «Сузор'і» першаступенная ўвага надаецца прапагандзе лепшых узораў народнай творчасці. Але ў параўнанні з восаўскімі артыстамі сузор'еўцы пайшлі далей. Яны не задавальняюцца толькі мясцовым матэрыялам, а і прапагандуюць абрадавыя, старажытныя, жартоўныя і традыцыйныя танцы і песні розных рэгіёнаў нашай краіны.

Ансамбль «Сузор'е» быў створаны цяперашнім ягоным мастацкім кіраўніком Вадзімам Матанцавым сумесна з жонкай Людмілай Аляксандраўнай, па прафесіі харавіком, якая таксама і вакалістка. Адметнасцю калектыву і стаў сінтэз вакалу і харэаграфіі.

— Менавіта спалучэнне гэтых двух жанраў, — гаворыць Вадзім Пятровіч, — і дазваляе пазнаць і раскрыць усю глыбіню і прыгажосць беларускай народнай культуры.

Вадзім Матанцаў нарадзіўся ў Салігорску. Падкрэслівае, што па нацыянальнасці — рускі. Здавалася б: адкуль такая зацікаўленасць фальклорам, да ўсяго беларускім? На гэта, аказваецца, шмат паўплывала тое, што, будучы школьнікам, займаўся ў дзіцячым узорным ансамблі «Іскарка», кіраўнік якога Мая Хоміч і прывіла яму, як і іншым дзецям, любоў да мастацтва, культуры. Апроч усяго Мая Цітаўна засяроджвала ўвагу і на тым, наколькі багаты і змястоўны той пласт яе, што мае народныя вытокі. Яна вучыла сваіх выхаванцаў любіць прыгожае.

Гэтыя ўрокі для Матанцава так шмат значылі, што ён паступіў у Мінскі інстытут



*А гэта «Сузор'е».*

культуры. Па размеркаванні трапіў у Капыль, дзе тры гады выкладаў харэаграфічныя дысцыпліны ў мясцовай школе мастацтваў, арганізаваў дзіцячы і дарослы калектывы мастацкай самадзейнасці. Вярнуўшыся ж у родны горад, і стварыў ансамбль танца «Сузор’е».

— Спачатку ў мяне быў асноўны склад з моладзі горада, — успамінае Вадзім Пятровіч. — Развучвалі народныя танцы — традыцыйныя, фальклорныя. Але хутка ўпэўніўся, што аднаго гэтага накірунку, каб калектыву самасцвердзіцца, мала. Таму для разнастайнасці рэпертуару пачалі ўключаць у праграму і эстрадныя, сучасныя танцы.

Працавалі, як кажуць, без раскачкі і ў першы ж год ужо выступалі не толькі на пляцоўках горада і раёна, дзе сёння яны заўсёды жаданыя артысты, а і паехалі на гастролі. Ды не ў які-небудзь суседні раён, а ў сам сонечны горад Сочы. Ім выпаў гонар у пасёлку Лазараўскае адкрываць Цэнтр нацыянальных культур. Пасля паспяховага выступлення ў Сочы там сталі па сутнасці сваімі.

Ансамбль «Сузор’е» з’яўляецца двойчы лаўрэатам Міжнароднага фестывалю народнай творчасці «Кубанскі казачок», а на адборачным туры Міжнароднага фестывалю «Культура збліжае народы» атрымаў Гран-пры. Аб высокім майстэрстве сузор’еўцаў сведчыць і тое, што ўжо праз тры гады пасля заснавання калектыву было прысвоена ганаровае званне «народны».

Сёння ў «Сузор’і» больш як 100 удзельнікаў. Ансамбль танца-то адзін, але ў ім як бы некалькі падраздзяленняў.

— Паступова, — працягвае гаворку Матанцаў, — вырашыў стварыць дзіцячы калектыў, які працаваў на самаакупнасці і складаўся з розных груп — ад 4 гадоў і старэйшых. Праз пяць гадоў з’явіўся яшчэ і калектыў з 60—70-гадовых. «Тапатушкі» назвалі яго. Менавіта ўдзельнікі гэтага калектыву і радуюць гледача фальклорнымі нумарамі — як песеннымі, так і танцавальнымі.

Майстэрства сузор’еўцаў па заслугах ацанілі ў Расіі, Іспаніі, Польшчы, Бельгіі, на Украіне. Пацвярджэнне таму — не толькі воплескі ўдзячных гледачоў у час выступленняў, а і новыя ўзнагароды. Прынамсі, ансамбль стаў лаўрэатам Міжнароднага фестывалю народнай творчасці ў бельгійскім горадзе Намюр. З гэткай жа ўзнагародай вярнуўся і з горада Луганска (Украіна), дзе праходзіў Міжнародны фестываль харэаграфічнага мастацтва «Вясеннія арабескі». З іспанскага ж горада Валенсія сузор’еўцы, удзельнічаючы ў фальклорным фестывалі, прывезлі два срэбныя дыпломы.

Гэта няпоўны пералік таго, што сведчыць аб тым, наколькі мастацтва народнага ансамбля танца «Сузор’е» запатрабавана. Што ўжо ў такім разе казаць пра свайго, салігорскага гледача. Для іх «Сузор’е» — адзін з лепшых самадзейных калектываў горада, таму яны і чакаюць з нецярпеннем кожны яго канцэрт.

## АВАЦЫІ... «АВАЦЫІ»

Увогуле, у Палац культуры наведвальнікі заўсёды заходзяць ахвотна. Ведаюць, што ім у ягоных сценах абавязкова прапануюць нешта цікавае, а то і пастараюцца здзівіць чымсьці новым. У прыватнасці, вялікі рэзананс меў праект «Авацыя», які распрацаваў аддзел культурна-масавай работы. Гэта былі вечары-прэзентацыі тых, хто заслужыў да сябе павагі, пра каго ведаюць, але тым не менш не лішне яшчэ раз напомніць, чым гэты чалавек адметны, на што здатны.

— Прайшло чатыры такія вечары, — гаворыць загадчык культурна-масавага аддзела Ірына Падсекіна. — На першы погляд як быццам не так і шмат, але...

— Вы хочаце сказаць, — развіваю я думку Ірыны Сцяпанаўны, — што не ў колькасці справа...

— Сапраўды, — пагаджаецца яна і задумваецца. — Як бы лепш сказаць... Бадай, так: гэта па сутнасці раскрыццё канкрэтнага чалавека ў часе. Аднак такое раскрыццё, якое адбываецца і праз расказ пра яго, але і ён сам у час гэтага вечара сведчыць, на што здатны, чаго дасягнуў.

Першы вечар прысвячаўся юбілею Ларысы Гулкоўскай. Ларыса Уладзіміраўна шмат гадоў кіруе хорам «Натхненне», удзельнікамі якога з’яўляюцца ветэраны педагагічнай працы. Наўрад ці дасягнулі б яны такога майстэрства, калі б з імі не працаваў гэткі захоплены песняй чалавек, як Гулкоўская.

Ды ёсць і тое, што праз песню не выкажаш. Прынамсі, пэўныя, але знакавыя штрыхі біяграфіі. Яны перад гледачамі атрымалі сваё раскрыццё, засведчыўшы, што якраз такія людзі, як Ларыса Уладзіміраўна, натхнёнасцю, апантанасцю і запальваюць агеньчык натхнення і ўпэўненасці ў сэрцах тых, хто таксама любіць песню.

Несумненна, у кожнага не толькі сваё жыццё, а па сутнасці і свая рака жыцця. З той хіба розніцай, што ў адных яна паўнаводная, хуткаплынная, а ў другіх — запаволеная. «Рака жыцця» называўся і вечар, гераіняй якога была Валянціна Папова, што належыць да тых людзей, якія жывуць ярка, паўнакроўна. Такую ж назву мае і яе кніга, прэзентацыя якой адбылася ў час гэтага вечара. Хоць Папова ўжо немаладога ўзросту, не адзін дзесятак гадоў аддала педагагічнай працы, ды па-ранейшаму маладая душой, працягвае працаваць. Пра гэта і гаварылі тыя, хто прыйшоў яе павіншаваць — мясцовае кіраўніцтва, работнікі аддзела адукацыі, сябры. Пра гэта сведчылі і творы, якія гучалі са сцэны.

Больш як 40 гадоў прымае актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці Ганна Кот. Апошнім часам яна звязала свой творчы лёс з ансамблем «Каларыт», які, дарэчы, нядаўна адзначыў сваё 30-годдзе. Так спявае, як далёка не многім удаецца. Паслухаеш у яе выкананні народныя песні — і каторы раз ловіш сябе на думцы, наколькі таленавіты наш народ, які багаты ў яго творчы патэнцыял. Дый іначай, бадай, і быць не можа, бо сутнасць таго, як жыве, што робіць, чым захапляецца народная спявачка, зводзіцца да таго, што арганізатары вынеслі ў назву гэтага вечара — «Песня — душа мая, мой лёс, мая малітва».

Да 65-годдзя ж Вялікай Перамогі быў прымеркаваны вечар-канцэрт Генадзя Сіўцова «Паклонімся вялікім тым гадам». Акампанаваў спеваку аркестр дзіцячай музычнай школы пад кіраўніцтвам Івана Бялькевіча.

Неўзабаве пачынаецца ажыццяўленне новага праекта «Прызнанне». У час вечароў, што адбудуцца ў рамках яго, гаворка пойдзе пра лепшых дзелавых людзей Салігоршчыны. Маецца намер прадставіць тых, хто займаецца рознымі відамі дзейнасці, у тым ліку і прадпрымальніцкай. Думаецца, што і гэтыя сустрэчы прыцягнуць увагу многіх і шмат хто прыйдзе на той ці іншы вечар, каб лепей пазнаёміцца з людзьмі, чый уплыў на жыццё горада і раёна, несумненна, значны.

У планах работнікаў культуры Салігоршчыны і іншыя цікавыя задумкі, якія, верыцца, абавязкова здзейсняцца, бо за ажыццяўленне іх бяруцца тыя, хто валодае высокім прафесіяналізмам і ніколі не кідае слоў на вецер. Пачынаючы, канечне ж, ад самога начальніка аддзела культуры Наталлі Гапановіч. Пад кіраўніцтвам Наталлі Іванаўны проста нельга працаваць напаўсілы. Наадварот, яна сваім прыкладам, ініцыятывай, разуменнем менавіта дзяржаўнага падыходу да работы заахвочвае на задумы і добрыя справы.

* * *

Праз некалькі дзён пасля камандзіроўкі, калі я, знаходзячыся ўсё яшчэ пад уражаннем ад наведвання Салігоршчыны, узяўся за напісанне гэтага матэрыяла, нечакана за акном пайшоў дождж. Такі шчодры, што хацелася паспяшацца на вуліцу, каб адчуць усю яго асвяжальную прахалоду. Міжволі прыгадаўся верш вядомага беларускага паэта Хведара Гурыновіча (ён родам з вёскі Крывічы Салігорскага раёна), які называецца «Запрашаю пад дождж»:

Я запрашаю вас пад дождж,
Пад дождж і сонечныя промні.
Ёсць у мяне білеты з бронню.
Вы не ў гуморы сёння? Ўсё ж
Я запрашаю вас пад дождж.

Я запрашаю вас пад дождж,
Дзе, як Кіжы, плывуць па плошчы
Дамы, і дожджык іх палошча —
Свавольны — ўпоперак і ўздоўж.
Я запрашаю вас пад дождж.

Таксама міжволі з’явілася і назва матэрыялу — «Серэнада пад летнім дажджом». Чаму менавіта серэнада? Ды таму, што серэнада — гэта твор, у якім гучыць прызнанне ў любві. Праўда, да жанчыны. Але хіба Салігоршчына не выклікае да сябе такога стаўлення, калі хочацца прызнавацца ў сваёй прыязнасці да яе? Што, як чытач заўважыў ужо, я і стараўся выказаць у сваім прызнанні-захапленні справамі работнікаў культуры гэтага раёна.

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

# ВЁСКА ЛЯСІШЧА І ЯЕ ЛЮДЗІ

## *Гісторыя вёскі ва ўспамінах*

Стогадовы юбілей мая родная вёска адзначыла ў 2004 годзе. Дакладней, магла б адзначыць, каб было каму апавясціць і сабраць ураджэнцаў. Але я даведалася, што наш сваяк дзядзька Аркадзя збірае матэрыялы пра вядомых землякоў, пра загінуўшых у вайну лесішчан, шмат ведае пра гісторыю вёскі, і таму ўлетку 2009 года падтрымала яго энтузіязм. Такім чынам, выказваю шчырую падзяку маім землякам і суразмоўцам **Кашавару Аркадзю Фёдаравічу** і **Капарыху Аляксандру Фёдаравічу,** а таксама ўсім, чые ўспаміны і згадкі далі мне матэрыял для гэтага нарыса.



*Лясіцкія хлопцы. Канец 1940-х гадоў.*
*У цэнтры з гармонікам — Аркадзь Фёдаравіч Кашавар.*

***З асабістага***.

На радзіме бацькі я гадавалася да шасці гадоў, а потым часта прыязджала туды і школьніцай, і дарослай. Менавіта тут жылі мае дзед Сцяпан і бабка Маня Каржанеўскія, і тут я ў жніўні 1950 года нарадзілася. Сувязь з малой радзімай захавалася па сённяшні дзень, бо ў Лясішчы, а таксама ў Новым Двары, у Слуцку, у Салігорску жывуць мае крэўныя.

Праўда, выйшла так, што Лясішча чамусьці не трапіла ў мой пашпарт. Паколькі матулю на роды завезлі ў бальніцу суседняй вёскі, то нехта мне Вялікую Сліву ў метрыкі і ўпісаў. (Малады бацька служыў у войску.) Але ва ўсіх маіх творчых біяграфіях у графе «месца нараджэння» ўказана правільная інфармацыя.

### ПЕРШАПАСЯЛЕНЦЫ

Вёска Лясішча, што за некалькі кіламетраў ад Слуцка ў бок Вялікай Слівы, узнікла на пачатку XX стагоддзя на месцы былога фальварка (альбо засценка). Фальварак месціўся на дзвюх выцерабленых палянах сярод вялікага лесу. (Адсюль і назва, што азначае «вялікі лес».) Пані, якая тут асела, па нейкіх прычынах мусіла прадаць зямлю і з’ехаць. Мясціну пачалі абжываць людзі з Васілінак, Бокшыц, Гарадзішча. З усходняга боку паставілі хаты Кашавар Нічыпар, Красуцкі Андрэй, Станілевіч Станіслаў, Шарамет Сафрон, Грачок Васіль, Капарыха Трафім, Більдзюкевіч Адам, Грачок Рыгор, Капарыха Ёсіп, Гурыновіч Арсен. З заходняга боку пасяліліся Валатовіч Антон, Валатовіч Фёдар, былы найміт пані нехта Рымашэўскі і Казлоў Лук’ян. Я пайменна назвала першапасяленцаў — тых, што вёску запачаткавалі. Пры савецкай уладзе з суседніх засценкаў і сёл сюды перабіраліся (у тым ліку мусова) іншыя гаспадары. У лепшыя часы ў вёсцы было 57 двароў.

Сем’і ва ўсіх традыцыйна былі ладнымі, шматдзетнымі. Без дапамогі падрастаючых

дзяцей абысціся ў гаспадарцы было цяжка: кожная сям'я мела коней, кароў, авечак, свіней, і ўся жыўнасць патрабавала штодзённага догляду. Не меней працы трэба было ўкладаць у палеткі, засеяныя бульбай, жытам, просам, лёнам. А касьба, а нарыхтоўка дроў, а будоўля талакою! На сядзібах сталі гумны, свірны, хлявы, многія з мужчын самі плотнічалі, сталярылі, будавалі хаты, рабілі бочкі і сані, плялі кашы. Жанчыны ткалі на кроснах, адбельвалі палатно, самі абшывалі хатніх.

Пабудаваўшыся, кожны гаспадар пры сваёй хаце абавязкова садзіў вяз або ліпу. «Як думаеш, для чаго?» — хітравата пытаецца мой апавядальнік Аркадзь Фёдаравіч. І сам адказвае: «Гэта была мясцовая фабрыка абутку, бо з кары нашы продкі плялі лапці. У лапцях тады хадзілі круглы год».

Многія лесішчане з цягам часу парабіліся сваякамі, бо дзеці выраслалі, любіліся, жаніліся, стваралі ўласныя сем'і. Нявестаў і жаніхоў далёка не шукалі. Ды і неабходнасці такой не было — у сваёй вёсцы хапала моладзі.

## ПЯРЭДАДЗЕНЬ РЭВАЛЮЦЫІ. СКРУТНЫ ЧАС

Такім чынам, адлік жыцця вёскі пачаўся ў дарэвалюцыйныя часы. Здаровых мужчын, як таго патрабавалі законы Расійскай імперыі, забіралі тады ў войска паслужыць «цару-бацюшку». Лясіцкія жыхары не выключэнне. Фёдар Кашавар, напрыклад, служыў маракам на піцерскім флоце, плаваў па ўсім свеце. У тым самым Піцеры, пры царскай рэзідэнцыі, неслі службу Сцяпан Каржанеўскі і Фёдар Валатовіч. Сцяпан Валатовіч падчас Першай сусветнай ваяваў аж у Карпатах. Пятрок Валатовіч апынуўся ў палоне і тры гады адбыў у Германіі. Так што ў Першую сусветную абышліся, можна сказаць, «малой крывёй».

***Жывыя драбніцы*.**

*Мой дзед Сцяпан, асілак па росце і камплекцыі, трапіў у адборны Сямёнаўскі полк і знаходзіўся, як цяпер сказалі б, у службе аховы царскага палаца. Успамінаў, як адбываў варту ноччу: «Зморышся, задрэмлеш, стоячы на пасту, а вінтоўка як грымне аб люстраную падлогу — аж рэха пойдзе калідорамі». Не раз бачыў зблізку царскую сям'ю, і, калі яго ўнучкі падраслі, жартаваў: «Ну, пакажыце, які ў вас талы...» (Відаць, памятаючы «талы» царскіх дачок.)*

*Ад Першай сусветнай майго дзеда ўратавала якаясь кішэчная інфекцыя. Камісаваны па хваробе, ён пешкі вярнуўся на радзіму.*

Гарадское насельніцтва Слуцка пераважна было яўрэйскім. Так званыя балаголы трымалі коней, мелі павозкі і займаліся перавозам тавараў ды грузаў. Сёння іх назвалі б «дальнабойшчыкамі». Далёка вазілі — у Мінск, Баранавічы, і абавязкова брыгадамі, а не па адным, інакш можна было б і не давезці.

Улада перавярнулася неяк раптам. «Далоў цара!» — крычалі ўзбуджаныя случакі, бегаючы па вуліцах. Мясцовы люд разбіраў тавары на прамысловых складах, якія раптам зрабіліся «нічыйнымі». Пашанцавала і майму дзеду: ён прынёс пад пахай жалезны ложак і нямецкую швейную машынку «Зінгер».

У 1918 годзе новая, савецкая ўлада паднімала людзей на барацьбу з інтэрвенцыяй. У слуцкім ваенкамаце аб'явілі, што патрабуюцца плотнікі для будаўніцтва мастоў. 400 чалавек адгукнуліся — бо хто з вясковых мужчын не трымаў у руках сякеру? Але добраахвотнікаў праверылі на «кваліфікацыю», хто справіўся — застаўся паблізу дома.

20-я гады запомніліся як час скрутны, няўстойлівы. Людзі спалі ў выкапаных зямлянках, бо адусюль пагражала небяспека: то немцы прыйдуць, то палякі... (Польская дывізія з царскай Расіі вярталася праз Беларусь на радзіму.) Палякі, якія на той час акупіравалі Случчыну, расстралялі 14 мясцовых партызан. Сярод іх, кажуць, была і шляхта. З лесішчанскіх ад рук белапалякаў загінуў сын Грачка Яфім.

Вось адна гісторыя, характэрная для таго часу. Сын Фёдара Валатовіча Міля (Ілья) браў жонку з Кублішчаў, а там у 20-м годзе стаялі палякі. Падчас вяселля адзін з гасцей жаніха (з Ячава) забіў двух польскіх жаўнераў, завёз у лес і скінуў там. Усё вяселле са страху разбеглася хто куды, асобныя нават начавалі ў лесе, бо палякі раз'юшыліся, шукалі вінаватага. У бацькі жаніха зрабілі вобыск у гумне, а якраз там Папковіч і хаваўся. Не знайшлі, аднак, бо зашыўся глыбока ў сена. Вярнулася няўдалае вяселле дадому на трэці дзень, іх тут не маглі дачакацца...

## КАЛГАСНАЯ ЯВА

Калгасы на Случчыне (як, мабыць, і паўсюль) арганізоўваліся цяжка, са скрыпам. Мясцовай гаспадарцы далі імя Чапаева. Кожны селянін свайго каня завёў у агульны хлеў, сена насілі — кожны свайму, а дзяжурылі цэлыя суткі па чарзе. Валік Більдзюкевіч неяк напаіў коней, а вароты закрыў кепска, дык коні пазадзіралі хвасты і разбегліся па сваіх хатах. (Зімой тое было.) Селяніна ў выніку судзілі — «за развал калгаса» — і саслалі на Беламор'е. Там мала хто, кажуць, выжываў, але яму пашанцавала: вярнуўся, нейкі час жыў на пасяленні ў Асіповічах, а ў 41-м, пры немцах ужо, заявіўся ў вёску з «палявой» жонкай. Праўда, яе давялося адправіць, бо дома чакала свая ды з дзецьмі. Гэты Валік увогуле, кажуць, зух быў і прайдзісвет. Халасцяком на вялікаслiўскай дарозе (раней яна пралягала паўз Гнілую) займаўся разбоем пры дапамозе пісталета-«пугача».

Сярод тых, хто не прыняў савецкую ўладу, быў Рыгор Грачок, ён адмаўляўся ісці ў абагуленую гаспадарку, і за гэта яму забаранілі пасвіць карову на калгасных пашах. Аднаасобнікі трымаліся купна, падтрымлівалі адзін аднаго. Збіраліся яны ў Піліпа Капарыхі, разам маліліся Богу, сумесна адзначалі святы. Іх улада не любіла і пры магчымасці помсціла.

Лічыўся кулаком Валатовіч Мікалай, над ім вісела рэальная небяспека раскулачвання. Справа ў тым, што ягоны цесць меў свой лес і дапамог зяцю пабудавацца. Выштукаваны дом кідаўся ў вочы, хлеў таксама быў ладны, падворак дагледжаны. Яго жонка Алеся вырошчвала клубніцы ў агародчыку (рэдкасць па тым часе!) і не раз частавала вясковых дзяцей. Аднойчы ўначы Мікалай запрог каня, прывязаў да воза карову і знік у невядомым кірунку. Дом іх як кулацкі разабралі і перавезлі ў Вялікую Сліву, у ім размясцілі сельскі савет. Алеся з трыма дзецьмі перабівалася на сваёй сядзібе ў часовым буданчыку, а ў іхнім хляве размясцілі калгасных коней. Пазней лесішчане даведаліся, што Мікалай Валатовіч апынуўся ў Петраградзе, працаваў там шаўцом у арцелі.

Трагічная гісторыя здарылася з Юзікам Станілевічам, які сам быў родам з Новага Двара, а пасля ў Лясішчах купіў хату. Змоладу ён з братам Адамам пабываў у Амерыцы, але іх разам з іншымі расійскімі «бунтаўшчыкамі» ўлады пасадзілі на параход і выслалі дадому. Вярнуўшыся, Юзік у 30-я гады працаваў на слуцкай чыгунцы. Якраз тады арганізоўвалася кавалерыя, цягнікі везлі авёс і сена. Мясцовыя, жывучы цяжка, пры зручным выпадку кралі, і гэты Юзік па мянушцы «Кундаль» данёс на аднаго чалавека. У таго зрабілі вобыск ды на год пасадзілі. Адбыўшы пакаранне, той чалавек разам са Сцяпанам Валатовічам адпомсціў Станілевічу: яны напісалі данос у сувязі з нейкай правінай; маўляў, хацеў устроіць аварыю, каб прычыніць шкоду савецкай уладзе. Увесну 38-га года дачка Юзіка Броня (а дзяцей было пяцёра) не пайшла ў школу. У той дзень арыштавалі, а потым і расстралялі бацьку.

Раскулачылі Сафрона Шарамета. Забралі з трыма сынамі, толькі жонка засталася. Хату іх, зноў жа, разабралі і перанеслі на палігон. Палігон гэты пад Слуцкам адкрылі ў 33-м годзе. Велізарны ён быў — ад Навадворцаў аж да Казловічаў, займаў плошчу ў 24 квадратныя кіламетры. З-за гэтага палігона планавалі нават знесці Лясішча, бо вёска стаяла ўпрытык.

Старшынёй калгаса быў прызначаны Сцяпан Валатовіч. Яго аднавяскоўцы не надта паважалі і, каб пазбавіцца такога начальніка, усім сялом падалі заяву ў суседнюю вёску. Так утварылася аб'яднаная гаспадарка, куды ўвайшлі Новы Двор, Агароднікі і Лясішча.

У хаце Антося Більдзюкевіча адкрылі школу, дзе першым настаўнікам быў нехта Спірыдон са Слуцка (кватараваў у Валатовіча). Хата пуставала, бо яе гаспадару, згодна павевам часу, прыпісалі шпіянаж і выслалі сям'ю ў Сібір. А ўсё таму, што іх праведаў сваяк з Заходняй Беларусі, малады хлопец. Нявестка Антося, Ядвіня, пасля вайны прыязджала зірнуць на іх сядзібу, а там ужо ні хлява, ні гумна, ні свіронка — усё пазвозілі... А сын Адам пасля з'ехаў у Амерыку ды там і асеў.

Новая ўлада спрабавала ўвесці новыя святы — апроч рэлігійных, якія ўсёй вёскай адзначалі ў капліцы. Шырока, напрыклад, калгаснікі святкавалі Дзень сталінскай канстытуцыі. Калгас выдзяляў грошы на вечарыну. Кажуць, што старшыня, Карп Іванавіч Пацыкалік, лесішчанам спрыяў і даваў болей мяса, чым іншым брыгадам. Сам

запрагаў жарабца і вёз гасцей, людзі зносілі сталы. Ішла пагалоска: «Карпей прыехаў!» Прывозіў ён прадстаўнікоў і да Фёдара Кашавара. У маці, як успамінае дзядзька Аркадзя, было аж шэсць вілак. Самі не карысталіся, выкладвалі толькі для высокіх гасцей. На закусь падавалі сала са шкуркай. Гэта важны момант. Справа ў тым, што існаваў план па здачы свіных шкур. Не здаць было дзяржаўным злачынствам. Каб шкуру захаваць, кабанчыка смалілі ў пограбе ці ў лясным гушчары. А як хто данясе — бяда!

Клуб адкрылі ў вёсцы пасля вайны. З часам, калі брыгадзе далі прэмію, то на гэтыя грошы рашылі купіць тэлевізар. Мясцовыя вучні ладзілі канцэрты, прыязджалі і самадзейныя артысты з сельсавета.

Як Сталін памёр, адны плакалі, а другія ўспрынялі спакойна. Ёсць мясцовая версія, што «парцейных» мо прымушалі гараваць, бо шкадавалі ж і Патрыса Лумумбу. А дзе, скажыце, той Лумумба і хто ён нам?!

## ЯШЧУР

Яшчур — гэта небяспечная інфекцыя, на якую хварэюць каровы. У 1939 годзе яе знайшлі ў лясіцкіх рагуль. Вёску ачапіла міліцыя, аб’явілі каранцін. Стварылі штаб і міліцэйска-камсамольскія пасты, прыцягнулі адпаведныя санітарныя службы. З мая па жнівень з вёскі нікога нікуды не выпускалі. Калі каму пільна собіла па справе ў горад, ці ў навакольныя вёскі, ці, наадварот, з горада ў вёску — толькі з афіцыйнага дазволу і цераз спецыяльны пост.

Штаб з тэлефонам размяшчаўся ў хаце Фёдара Кашавара, там жа захоўвалі фармалін і іншыя неабходныя прэпараты. Усёй гэтай хіміяй загадвала галоўны ветурач з Мінска Варэнік Ефрасіння Іванаўна. Оперупаўнаважаным прызначылі старэйшага лейтэнанта Беразоўскага. Дзяржаўныя службы мелі задачу — не дапусціць эпідэміі — і да сваіх абавязкаў ставіліся сур’ёзна. З усіх хлявоў пад мятлу вычысцілі гной, звезлі яго ў штабель на поле і засыпалі зямлёй. Двойчы на тыдзень праводзілі дэзінфекцыю двароў, хат і хлявоў. Даручалі гэтую справу не толькі дарослым, але і падлеткам.

Для жывёлы быў выгараджаны летні лагер. Днём яна пасвілася, а вечарам кароў заганялі ў лагер, дзе іх даілі мясцовыя кабеты. Малако злівалі ў адну ёмкасць, запісвалі, чыя гадаванка колькі дала, а потым кіпяцілі і адпаведна запісам выдавалі гаспадыням.

***Жывыя драбніцы.***
*Неяк насунулася хмара, на выпасе пачаўся лівень, усе работніцы пахаваліся ў будку, а адной месца не хапіла. Сядзіць дзяўчына ля будана, прамоклая да ніткі, і такой няшчаснай выглядае... Грачок у будан ушыўся, усіх, як мядзведзь, пацяснію і кажа: «Калі б Бог спусціў з неба лесвіцу, то Насця першай узышла б на неба...» Дзяўчынай той была мая цётка, што потым жыла і памерла ў Лідзе.*

Яшчур гэты злашчасны знайшлі ў Лявона Кашавара і Фёдара Капарыхі. Дык у іх пабілі і кабаноў, і курэй, і нават ні ў чым не вінаватага сабаку. Усё жывое ў двары! Праўда, ахоўнікі пасля свініну згатавалі ды з’елі — і нічога кепскага з імі не адбылося. Апрацоўвалі ж двары і будынкі ў гэтых калгаснікаў асабліва старанна.

Капліцу, якая існавала на ўскраі вёскі з 1905 года, на перыяд каранціну прыстасавалі пад краму. З гэтага, бадай, і пачаўся канец «рэлігійнага дурману» ў Лясішчы. У 40-м годзе капліцу разабралі і прыбудавалі да школы ў якасці яшчэ аднаго класа. (Трэба заўважыць, што ўсе сацыяльныя будынкі ў той час былі кулацкімі дамамі.) Крыжы і харугвы перавезлі ў Цараўцы (цяпер — Кірава); куды падзеліся абразы, культавае начынне і звон — невядома.

***Жывыя драбніцы.***
*Калі наступала суш і пагражала знішчыць ураджай, з горада зноў клікалі святара. Той прыязджаў не адразу, бо ў яго, як сцвярджалі мясцовыя знаўцы, дома меўся барометр. І толькі як пакажа ён змену ціску, тады поп і ладзіць набажэнства з хрэсным ходам. Клалі на воз у знак падзякі хто што мог: рэшата пшаніцы, скрутак палатна, вышытыя ручнікі... І дождж абавязкова выпадаў.*

## ЗНІШЧАНЫЯ ДУБНІКІ

Пасёлак Дубнікі размяшчаўся правей Вялікай Слівы. Там жылі Сцяпан Каржанеўскі, Чыж Алёна, Самусевіч Васіль,



*Дзед Сцяпан і баба Маня. Пасярэдзіне — брат бабулі. Пачатак 1950-х.*

Тупік Андрэй, Станілевіч Адам і іншыя. Стаяла 12 хат. Старшыні сельскага савета (а іх было чамусьці двое) незалюбілі дубнікоўцаў: у калгас не ідуць, замест гэтага шыццём ботаў займаюцца і нядрэнна зарабляюць. Непарадак. І прадстаўнікі ўлады не доўга думаючы пабралі сякеры, пайшлі ды пасеклі саламяныя стрэхі на хатах дубнікоўцаў. Лёгкія стрэхі тут жа з’ехалі, і апынуліся мужчыны, жанкі і іх дзеці, можна сказаць, пад чыстым небам. Такімі вось радыкальнымі метадамі выконваўся сталінскі план па зносе хутароў.

Дубнікоўцы мусілі пераносіць свае хаты ў іншыя паселішчы. Хто падаўся ў Вялікую Сліву, хто ў горад, а большасць — у Лясішча. Шчыльна, па-суседску і пасяліліся. З вялікаслiўскага хутара тады ж перабраўся Юрый Ярашэвіч. Лёгка сказаць «пасяліліся», «перабраўся»... Разбяры хату па бярвенцах, перавязі на конях, складзі нанова, накрый, абжывіся на новым месцы! І ўсё гэта без ніякіх «пад’ёмных», без кампенсацыі за прымусовае перасяленне і беззаконне ўлады!..

***Жывыя драбніцы**.*

*Пярэбары моцна ўскладніліся з-за каранціну па яшчуры. Жанчыны бралі мяхі, казалі паставым: «У зелле», а самі кустоўем беглі на свой хутар. Аднойчы такім чынам папаўся Сцяпан Каржанеўскі. Паставыя яго затрымалі, прывялі ў штаб. Тады гаспадары хаты Кашавары пачалі прасіць ветдоктарку: «Гэта ж наш сват. Адпусціце яго...» Справа ў тым, што Сцяпанаў старэйшы сын Міша, яшчэ жывучы ў Дубніках, ажаніўся з іхняй Евай. Нядоўга яны пажылі, бо ў 43-м Міша прапаў без вестак.*

Недалёка ад вёскі, у бок Гнілой, размяшчаліся яшчэ два хутары. Там жылі Іван Кашавар і Кандрат Гурыновіч, якія пабудаваліся на палетках сваіх бацькоў. Жонак узялі багатых. Іван — Куліну з Валатоў, Кандрат сваю — з Вялікай Слівы. Сведчанне таго, што жылі заможна, — бетонны калодзеж, выкапаны на дзве гаспадаркі. На той час гэта рэч небывалая! У 1939, калі хутары зносілі, знеслі і гэтыя дзве сядзібы. Бетонныя кольцы мужчыны дасталі з зямлі і прыкацілі ў Лясішча, каб выкапаць там новы калодзеж.

## КАМДЗІЎ ЖУКАЎ

У 1934-м ля Слуцка размясцілася кавалерыйская дывізія пад камандаваннем Георгія Канстанцінавіча Жукава — будучага маршала і чатыры разы Героя Савецкага Саюза. У дывізію ўваходзілі тры пехотныя палкі, адзін — механічны (з тачанкамі) і пяць уласна кавалерыйскіх. Сталася так, што камдзіў і будучы герой меў да Лясішча зусім канкрэтны і пільны інтэрас. Ігнат Місюк, які перанёс хату з Дубнікоў, адкрыў шавецкую арцель і назваў яе ў духу часу — «Іскра». Славілася арцель на ўсю акругу, абутак быў якасны, меў попыт, і сам Жукаў заказваў сабе ў Ігната хромавыя боты. Прыязджаючы на прымеркі, спыняўся ў яго хаце. Атрымае абноўку, то, бывала, і замочвалі. Прыходзілі мужчыны, завязвалася нязмушаная бяседа. Паглядзець на «галоўнага кавалерыста» прыбягалі хлапчукі, у тым ліку малы сын Фёдара Кашавара. Можа, таму, што ў гаспадара адны дочкі нарадзіліся, Шура і Воля, Місюк суседскага хлопца амаль за сына

лічыў. Песціў яго, запрашаў прыйсці, частаваў. Так што малому Аркадзю цукерак ад камдзіва не раз перападала.

***З успамінаў Аркадзя Кашавара.***

*Пад'язджае аднойчы камдзіў на адкрытай машыне, а каля Лясішча мосцік разломаны. Шафёр ад'ехаў — і на хаду пераскочыў канаву разам з тым мосцікам. Мой бацька Фёдар быў непадалёку, аддаў Жукаву чэсць па-ваеннаму. Той пытаецца ў бацькі: «З якога года?» — «З 1890-га». — «Дзе служыў?» Пазней, прыехаўшы да Місюка, Жукаў папрасіў «пазваць марачка» і з цікавасцю распытваў яго пра флоцкае мінулае, пра далёкія краіны — Англію, Штаты, Хельсінкі, Гібралтар...*

Ля слуцкага парку, на вуліцы Жукава, стаяў бюст савецкага палкаводца. На ім імя пазначылі, а высокі статус — не. Дык Аркадзь Фёдаравіч звяртаўся ў адміністрацыю Прэзідэнта і дабіўся-такі, што ўстанавілі Жукаву новы, адпаведны «чыну» помнік з правільнай шыльдай... але на вуліцы 14-ці партызан. (Тых самых, якіх расстралялі белапалякі.) «Няма дасканаласці ў свеце», як гаварыў Маленькі прынц...

## КАШАВАРЫ

У Нічыпара і Параскі Кашавараў з'явілася на свет сямёра дзяцей, з іх толькі адна дзяўчынка. Лявон — у 1887, Хведар — у 1890, Трафім — у 1893, Іван — у 1895, Рыгор — у 1905, Мар'я — у 1907, Алёша — у 1910. У Лясішча яны перабраліся з чатырма сынамі, астатніх дзяцей нарадзілі тут. Параска слабая была здароўем і недзе ў 20-х памерла.

Усе браты аселі ў роднай вёсцы, працавалі ў адной брыгадзе. Род моцны, не радавы, кожны ў ім нечым адметны. Мужчыны непітушчыя, а таму здаровыя, усе пражылі доўгае і змястоўнае жыццё. Малодшага, дзядзьку Алёшу, жанатага з Гэляй Каржанеўскай, мы правялі ў апошні шлях на пачатку 2009-га. Ён крыху не дацягнуў да стогадовага юбілею.

Найбольш багатае на прыгоды жыццё выдалася, відаць, у старэйшага — Лявона. Ажаніўшыся, той перабраўся ў Вялікую Сліву. У 20-я падаўся ў Амерыку, куды паехалі і згаданыя браты Станілевічы. Лявона не справадзілі дадому толькі таму, што ён тады перабраўся ў Паўднёвую Амерыку, дзе рабіў на коркавым заводзе. Па чутках, дзядзька Лявон перадаў Юзіку Станілевічу золата для жонкі, але той нібыта не аддаў. Як яны разбіраліся потым — невядома.

Увогуле, яго гісторыя магла б стаць асновай для прыгодніцкага рамана. Расказваюць, што Лявон прыязджаў праз акіян у водпуск, каб забраць з сабою жонку з дачкой. Аднак пакуль ён валачыўся па заробках, на адно дзіця прыбавілася, і дачок стала дзве. Нягледзячы на гэта, ён моцна ўгаворваў Кацярыну памяняць месца жыхарства, тая не пагаджалася. Тым часам скончыўся тэрмін візы (як тады казалі, «шэф-карты»), і давялося застацца самому. Нічога асаблівае пра «Амэрыку» Лявон расказаць не мог, толькі задзіраў галаву ды захоплена цмокаў. «Я больш са Слуцка навін прывязу, чым ён з той Амерыкі», — скептычна гаварыла цётка Зося.

Пра «марачка» Фёдара Кашавара я ўжо не раз згадвала. Карабель, на якім ён служыў да рэвалюцыі, падарваўся на міне і тануў. Прыйшла падмога, экіпаж грузіўся ў



*А. Кашавар з жонкай Гэляй.*
*На заднім плане яе сястра і брат — Насця і Міша Каржанеўскія. Пачатак 1930-х гадоў.*

шлюпкі, а капітан учапіўся за мачту і даваў апошнія распараджэнні: хацеў пайсці на дно разам з суднам, як таго патрабаваў марскі закон. Два капітаны з прыбыўшай падмогі падняліся да яго, расчапілі яму рукі і сілком звялі з тонучага карабля. Пасля перажытага стрэсу (дзесяць маракоў усё ж патанулі) Фёдар патрапіў служыць на «Аўрору». Праўда, у спісах яго імя не значыцца, бо пацярпелы экіпаж быў расфарміраваны, і новенькі на караблі лічыўся як бы па-за штатам.

Дзяцей Фёдара вясковыя чамусьці звалі па імені маці — «Ева Зосіна», «Косця Зосін», «Аркадзя Зосін», і яны супраць нічога не мелі. Дачку Фёдара Еву ўзяў замуж мой дзядзька Міша, які загінуў у Прусіі, пакінуўшы сіратою малую дачушку Ніну. (Яна, дарэчы, захавала наша прозвішча і перадала яго дзецям.)

Іван пайшоў па бацьку: быў самым разважлівым з сыноў. Яго пры бальшавіках забралі ў армію, тры гады не абзываўся, думалі — згінуў. Аказваецца, ён служыў у дывізіі Чапаева кавалерыстам. У 1924 годзе Іван з'явіўся як з неба — цэлы, здаровы, нават не кантужаны. Спадабалася яму Куліна з Валатоў. Умела барабаніць ды прыпеўкі спяваць. Набожная была, баптыстка... Дзве іх дачкі памерлі малымі, і бедная Куліна ледзьве з розуму не зрушылася ад такой бяды.

Нічым асаблівым не вылучаўся толькі адзін сын Нічыпара — Трахім. Свету, у адрозненне ад братоў, не пабачыў, не ваяваў. Жонку ўзяў не вельмі ўдалую і жыў бедна. Праўда, адна адметнасць усё ж была. Трахім быў паталагічна сумленны, ён нічога з калгаса не краў. «Іншы хоць дроў пад паху возьме, — расказваў А. Капарыха, — хоць зерня ў галёшы, а гэты ну проста не мог браць чужога. Мо таму і жыў бядней за іншых...» Ёсць, праўда, і іншая версія адносна маральнасці Трахіма — быццам не краў ён агульнага выключна па сваёй баязлівасці. Так што трактаваць можна па-рознаму, але факт ёсць факт... Мабыць, у калгасах людзі не выжылі б, калі б не мелі магчымасці чым-небудзь пажывіцца. «Калгас — гэта вялікае балота», — сказаў мне адзін з лясіцкіх жыхароў. І ў гэтых словах вялікая сярмяжная праўда таго часу.

Рыгор, як і брат Іван, перажыў асабістую драму: пры першых родах памерла ягоная жонка, дачушку Аню гадавала цётка Адарка ў дзедавай хаце. Ажаніўся другі раз, узяў з Міхееў Ганну Гук. Дзеці пасыпаліся як гарох: Міша, Маня, Коля, Тамара, Ліда, Таня, Толік... Праўда, меншы, Толік, з'явіўся на свет з некаторым перапынкам, пасля вайны, з якой Рыгор вярнуўся цяжка паранены. (Перад гэтым ён паспеў прайсці фінскую вайну.) Санітары падбіралі загінуўшых з поля боя, а ў байца пульс прамацваецца. Праз ладную дзірку ў чэрапе ішла кроў. Адправілі беспрытомнага ў астраханскі шпіталь. Дома ўжо і памінкі паспелі справіць. Калі Рыгор ачомаўся, сказаў сваё імя і адкуль ён, медработнікі напісалі ліст у беларускую вёску. Прывезлі яго са шпіталя слабым, за вухам, як казалі, «скура без косці іграе»... Далечвалі ў Мінску, куды павезлі на самалёце. Так ён і застаўся з парушэннямі: хадзіў няпэўна, рукі растапырыўшы... Пасля вайны нарадзіўся меншы сын, Толік-«пажарнік». Мянушку таму далі за адзін выпадак. Мужыкі навучылі малога страляць запалкамі, той вазьмі ды пачні дурэць з імі ў сваёй хаце. Загарэлася пасцель з падушкамі, ледзьве патушылі...

Мар'я жыла ў Цараўцах. Яе муж, Сямён Галагуцкі, не вярнуўся з фінскай вайны. Яна сама паднімала чатырох дзяцей, цярпела голад і нястачу. Сваякі, шкадуючы ўдаву, не раз насілі ім есці. Цётку запомнілі добрай і спагадлівай.

Наш дзядзька Алёша, меншы сын Нічыпара, ваяваў на Заходнім фронце, служыў на ваеннай хлебапякарні. Падчас фашысцкай акупацыі ён быў на крок ад смерці: хаваў у сваім гумне чатырох савецкіх не то дыверсантаў, не то разведчыкаў (былі апрануты ў нямецкую форму). Калі ворагі іх злавілі і забілі, то знайшлі ў кішэні лясіцкі адрас. Алёшу тут жа забралі ў слуцкую турму. Тады яго жонка Гэля з братавай пайшла ў горад, пазычыла ў заможнага случака залаты грош ды выкупіла мужа ў ахоўнікаў. Гэта адбылося ў чацвер, а на наступным тыдні, у аўторак, турма была вычышчана ад насельнікаў: усіх да аднаго расстралялі. Пазыку Гэля аддала, прадаўшы на базары кабанчыка.

Алёша ў калгасе працаваў конюхам, потым пастухом. Рана пахаваў жонку. Пережыў і сына Сашу, які прыжыўся на Урале, і дачку Нілу. Да глыбокай старасці дапамагаў дачцэ Тані па гаспадарцы, нават

касіў. Пры пахаванні ранняй вясной 2009-га салдаты з мясцовай вайсковай часці аддалі яму чэсць як ветэрану Вялікай Айчыннай — стрэлілі тройчы залпам, а аркестр прайграў Дзяржаўны гімн Беларусі.

## АЙЧЫННАЯ

Выйшла так, што ў Лясішчы першымі даведаліся пра падзел Еўропы. Каранцін па яшчуры ўжо скончыўся, штаб скасавалі, а тэлефон у хаце Фёдара Кашавара быў яшчэ падключаны. Прыехалі тэлефаністы яго зняць, ажно хата зачынена: дарослыя на працы, дзеці ў школе... 17 верасня 39-га года ў 4 гадзіны раніцы дзяржаўны апарат зазваніў. Фёдар моўчкі выслухаў і кажа: «Вайна з Польшчай». Так лесішчане атрымалі першымі сакрэтную інфармацыю. Але праз два дні тэлефон такі знялі — згледзелі прамашку.

Міша Каржанеўскі працаваў на нафтабазе бухгалтарам. Калі ў 41-м аб’явілі мабілізацыю, на збор у Слуцк паехаў на веласіпедзе. Прыёмны пункт ад ваенкамата знаходзіўся ў педвучылішчы. Поўны двор людзей з рэчамі агледзела з неба нямецкая «рама», сфатаграфавала і перадала сваім. Наляцела шэсць бамбардзіроўшчыкаў, якія прыцэльна пакідалі ў двор бомбы. З прызыўнога пункта ўтварылася крывавая каша: загінула чалавек 600. А Міша якраз адышоўся з двара па патрэбе і таму не трапіў пад бамбёжку. На трэці дзень, у сераду, у Слуцку ўжо былі немцы. Яны найперш запатрабавалі ў насельніцтва здаць веласіпеды і паляўнічыя стрэльбы. Фёдар Кашавар узяў сына, накідаў на воз травы і паехаў па кінуты ў полі веласіпед зяця.

***З успамінаў Аркадзя Кашавара.***

*«Фашыстаў поўна, ідуць суцэльнай сцяной на Бабруйск, мы з канём дарогу перасекчы не можам. Нямецкі афіцэр заўважыў гэта, спыніў калону і даў нам праехаць. Бацька кіўнуў яму ў знак удзячнасці. Увесь 14-ы гарадок абгароджаны жэрдкамі ў тры рады і канавамі, а за ім мо тысяча коней. Зроблены насцілы, каб конь мог падысці да канавы і папіць чыстай вады. Мы веласіпед разабралі, сенам накрылі, увязалі ўсё ў капу і самі селі зверху».*

Ёсць звесткі, што Міхаіла Каржанеўскага адправілі ў штрафную роту (з улікам дарэвалюцыйнай біяграфіі бацькі). Земляку перад боем сказаў: «Ты мяне толькі знайдзі, каб вочы закрыць. Па чупрыне мяне пазнаеш...» (У яго былі прыгожыя, хвалістыя, як у маці, валасы.) Настолькі адчуваў сваю смерць... Але на месцы бою зямля была ўздыблена, пераарана снарадамі, і цела майго дзядзькі не пахавалі, бо не знайшлі.

Мой бацька Толя, меншы сярод дзяцей, быў у вайну падлеткам. А ў 43-м ледзьве не замялі ў Германію дзеда Сцяпана (яму тады было 60 гадоў). Немцы акружылі базар і хапалі народ для адпраўкі, у ачапленне трапіў і дзед. Але і яго, як перад тым Алёшу Кашавара, са слуцкай турмы выратавалі сваякі.

Дзесяць чалавек з Лясішча загінулі на франтах Вялікай Айчыннай:

Аляксееў Міхаіл Васільевіч (няма звестак),

Валатовіч Канстанцін Ільіч (у 45-м, ва Усходняй Прусіі),

Грачок Ціхан Раманавіч (там жа),

Гурыновіч Кандрат Арсенцьевіч (у 44-м, пад Варшавай),

Гурыновіч Юрый Арсенцьевіч (там жа),

Капарыха Якаў Дзмітравіч (у 44-м у Прусіі),

Каржанеўскі Міхаіл Сцяпанавіч (у 45-м, там жа),

Красуцкі Андрэй Андрэеевіч (у 41-м),

Кудзёлка Сцяпан Фёдаравіч (у 44-м, у Эстоніі),

Кудзёлка Якаў Фёдаравіч (у палоне ў 44-м).

Усе яны ўпісаны ў кнігу «Памяць» Слуцкага раёна (2001).

***Жывыя драбніцы*.**

*Крэпскі Іосіф Серафімавіч, які пасяліўся калісь у фальварку, быў аднагодкам майго дзеда (з 1882 года). З сям’ёю ён выехаў на Устронь. Чалавек славіўся тым, што вырабляў гармонікі і выдатна іграў. Калі Фёдар Валатовіч перад вайной выдаваў замуж дачку, ён запрасіў музыку іграць на вяселлі. Той не мог адмовіць земляку. Прывёз з сабой чатырох памочнікаў, і надта добрае вяселле ўдалося.*

*У таго Крэпскага было восем дзяцей, сыноў пабралі на фронт, і падчас вайны сям’я атрымала тры пахавальныя. Яго*

*жонка ад роспачы і шоку заснула і праляжала дзесяць дзён у летаргічным сне. Так і не прачнуўшыся, памерла. Мацярынскае сэрца не перанесла страты...*

Людская памяць захавала і ганебныя старонкі вайны, звязаныя са службай у мясцовай паліцыі. Чалавек восем знаходзілася ў той «шайцы», сярод іх Пятрок В. Ён трапіў у палон і знаходзіўся ў слуцкім лагеры. Ганна Андрэева шукала сярод палонных свайго мужа, Красуцкага, і бачыла, як Пятрок біў сваіх — выслужваўся перад ворагам. Падчас акупацыі ажаніўся і жыў у разгуле, «заганяючы» з хаўруснікамі нямецкія прадукты. Сцяпан Грачок абураўся: «І тую ўласць грабілі, і гэтую абіраюць...»

Калі фашыстам пачало прыпякаць у пяты, хітры Пятрок скеміў, што пара з паліцыі даваць дзёру. Адзін доктар падвучыў яго прытварыцца хворым. Перад немцамі паліцай кульгаў і енчыў — быццам у яго невыносна баліць нага. Дабіўся, што яго камісавалі па стане здароўя, а потым выйшаў на партызан.

Трагічна ў канцы вайны загінуў дзед Нічыпар Кашавар. А справа была так. У Навадворцах стаяў батальён немцаў і вайсковая часць. Ім пры адступленні спатрэбілася шэсць падвод. З коньмі выправіліся Рыгор, Алёша і яшчэ чатыры мужыкі з вёскі. Стары Нічыпар прыйшоў і падмяніў сыноў — адзін з лясіцкіх суправаджаў нямецкія падводы.

Пад Баранавічамі абоз абстралялі партызаны, Нічыпар з навадворскімі papадалі ў канаву, пакідалі і коней сваіх, і немцаў — паўцякалі. Спыніліся нанач пры шашы, у Кіявічах. Нічыпара ўладкавалі ў вольнай хаце. І трэба ж было такому стацца, што нямецкі самалёт скінуў бомбу якраз на тую хату, і дзеда смяротна параніла. Землякі забралі яго пашпарт і вярнуліся дахаты, бо не ведалі, як дапамагчы чалавеку ў такіх абставінах. А дома тым часам аб'яўлена мабілізацыя, бо вораг ужо ля Брэста і фронт коціцца на Берлін. Бралі ўсіх, хто нарадзіўся з 98-га па 25-ы год. Рыгор з Алёшам якраз знаходзіліся на прызыўным пункце, калі ім паведамілі жахлівую навіну пра бацьку.

## «САШЫК» КАПАРЫХА

Каб адшукаць паболей звестак пра родную вёску, я сустрэлася ў Мінску з земляком Капарыхам Аляксандрам Фёдаравічам (23-га года нараджэння). Ягоны дзед Іосіф Паўлавіч быў родам з Бокшыц, у вёсцы яго ўсе звалі выключна Ёсіпкам. Бацька Фёдар, як і дзед, быў на ўсе рукі майстрам, гаспадарку меў заможную. У сям'і было чацвёра дзяцей. Саша з дзяцінства быў гаваркім, жвавым, адрозніваўся лёгкім, вясёлым характарам (які, дарэчы, захаваў па сёння). Ён успамінае, як дапамагаў маці, Еўдакіі Васільеўне, пячы хлеб. Браў іголку з ніткай, ішоў у лес і абіраў там дубок. Лісты нізаў на нітку, надзяваў на шыю і так нёс дадому, каб пасля іх маці клала на лапату, пад буханкі. Калі Саша з братам адыходзілі на вайну, маці ранкам выграбла з печы забыты бохан хлеба. Яна палічыла гэта добрым знакам. Дала па кавалку сынам і сказала: «Хавайце пры сабе. Як бы цяжка вам ні было, а гэты хлеб вас збережэ».

Так і выйшла. Абодвух раніла — і абодва засталіся жывымі. Але не будзем забягаць наперад.

Пры акупацыі пайшлі чуткі, што жанатых хлопцаў немцы ў Германію не забіраюць. Сашу 18 гадоў, маладзён, а бацька ўжо нявесту нагледзеў — Ніну Ярашэвіч, што жыла непадалёку. Прыглядзься, кажа, якая дзяўчына... А яны ні пра якія любошчы і не думалі. Перад вайной хадзілі ў Навадворцы ў клуб, дзе танчылі пад гармонік і «бубенчык». Вечарамі гаманілі на Ніінай лаўцы. Сябры, адным словам... «Ну і як яна табе? Мо ў сваты пойдам?» — не адставаў бацька. — Каб жа іншы хто не схапіў...» І ўгаварыў-такі сына. Бацька з шурынам бяруць гарэлку, хлеб у торбу — і з жаніхом да дзяўчыны. У той дома меншы брат, сястра з мужам, маці, а бацька іх памёр яшчэ да вайны. Не гатовай аказалася Ніна да такога павароту ў сваім лёсе. Азіраецца разгублена: «Не знаю я», — не можа вызначыцца. Тады родзічы мудра адышліся і пакінулі яе са сватамі, маўляў — думай сама, табе жыць... І дачка пагадзілася. «Калі ж вяселле?» — «На Тройцу».

Пярсцёнкі ім выплесквалі з жоўтых медных манет, шліфавалі, падганялі. Падчас вянчання ў слуцкай царкве людзі шапталіся: «А маладзенечкія якія...» Ніна трошкі вышай і кучаравая (і дзеці ў іх кучаравыя ўдаліся). З Вясеі нанялі аж сем музыкаў, гулялі на вуліцы. Пасля вяселля, расказвае Аляксандр Фёдаравіч, павялі маладых на ноч у чыстую палавіну. А маладая і просіць: «Пакуль я не прывыкну, не ўлілося ў вашу сям'ю — ты

мяне не чапай. Ці мала што...» Два месяцы так было. І настолькі нявестка спадабалася бацькам, так «улілася», што стала як свая, як тут і нарадзілася! «Тата», «мама», паважлівая, работу з рук адбірае... Як такую не любіць? Мужа звала толькі «Сашык».



Аляксандр Фёдаравіч Капарыха.

У 1944-м А. Капарыха пад Кёнігсбергам быў цяжка паранены. Ваяваў ён разам са стрыечным братам Яшам (яны прасілі камандзіраў, каб іх не разлучалі). Падчас бою аднойчы трапілі пад такі абстрэл, што галавы няможна было падняць. Першым брата параніла ў руку разрыўнымі кулямі, потым Сашу — у абедзве нагі. Цэлы дзень яны ляжалі на полі бою. Вакол енчылі, храплі, качаліся — даходзілі байцы.

***З успамінаў Аляксандра Капарыхі***.

*Выносіў мяне на спіне салдат з суседняй роты. Перамовіліся з ім, аказалася — случак, з Бярозаўкі, завуць Міша Шыловіч. Ён пытае: «Куды цябе раніла?» Кажу: «Многа ран».*

*Праз 30 гадоў на слуцкім базары перасёкся я з мужыком, бо і ў мяне «Запарожац», і ў яго. Разгаварыліся пра запчасткі, пра тое, хто куды паранены быў, дзе ваявалі... «А ты не той баец, у каторага многа ран?» Першы, атрымліваецца, мяне пазнаў! Абняліся, пацалаваліся... Некалькі разоў сустракаліся сем'ямі. Былі як свае... Памёр ён ужо.*

Якаў Капарыха з вайны не вярнуўся. Аляксандр больш за год пракачаўся ў шпіталях. Раздробленыя косці на правай назе зрасліся няправільна, выходзілі асколкі, і жыццё было пад пагрозай. Медыкі напісалі бацькам: «Так і так, патрабуецца ампутацыя; не аднімем нагу — не выжыве». Бацькі адказалі: «Вам лепш ведаць, ратуйце як можаце».

***З успамінаў Аляксандра Капарыхі***.

*23 лютага мяне на поездзе прывезла ў Слуцк медсястра. Я на пратэзе, з кастылямі, у зімовай салдацкай шапцы. Снегу ў нас — па пояс. Добрыя людзі знайшлі каня, падвезлі да дому. Маці галосіць, жонка абдымае...*

*Кожныя выхадныя былі ў клубе танцы. Я, праўда, упіраўся: «Куды я такі?» А жонка ўсё роўна выцягнула. Яна ж танцорка была, фізкультурніца... Лейтэнант падышоў, схіліўся перад ёю — запрашае. Яна ў мяне пытаецца: «Ісці?» Я дазволіў. Той і другі раз падступаў, але болей Ніна не пайшла з ім. Такая разумная была жанчына... Я заплакаў, дадому ідучы, а яна насварылася, каб не смеў раскісаць. І не такія з фронту вярталіся...*

Трэба сказаць, што ў бядзе Аляксандра не пакідаў ніхто — ні сваякі, ні жонка, ні дзяржава. Бацька збудаваў сыну асобную хату, свінню даў з парасятамі, цешча выдзеліла цёлку. Дапамагаў муж старэйшай сястры Надзі — Сяргей Грачок, добры, душэўны чалавек. Праз год нарадзілася першая дачка, потым — хлопец, затым яшчэ дачка. Тры гады снілася вайна ў кашмарах, а потым адступіла. Жыццё наладжвалася. Жонка працавала ў Лясіцкай пачатковай школе, усіх пераросткаў павывучвала. Працу яму як інваліду падбіраў райсабес: устроілі ў брыгадзе кладаўшчыком. Усім распараджаўся Капарыха — фуражом, сіласам, камбікормам, і гэта з шасцю класамі адукацыі! Добра, што жонка навучыла карыстацца лічыльнікамі... З'ездзіў, кажа, чатыры бясплатныя «Запарожцы» і не меў звычкі, як іншыя, зазіраць у чарку. На такой жа выдзеленай дзяржавай машыне ездзіў вялікі сябра Капарыхі Міша Валатовіч, сын Мілі (жыў насупраць нашага дзеда), які з фронту вярнуўся без абедзвюх ног. І яму даверылі адказную пасаду — загадваць фермай. Можна сказаць, што два франтавікі і трымалі брыгаду. Моцная была, багатая ў Лясішчы брыгада. Племянных цялят 700 галоў, а яшчэ 300 — аўцаматак і бараноў.

Пакінуў працу Капарыха па стане здароўя ў 80-х, калі калгас ішоў ужо да заняпаду. Ніны Юр'еўны не стала ў 2003 годзе. Перад смерцю, перанёсшы інсульт, яна на кухні абняла нечакана свайго «Сашыка», пацалавала і прамовіла: «Дарагі мой, за ўвесь век я табе не змяніла». Цяпер ён пад апекай дзяцей-мінчукоў, узімку — у горадзе, а летам — у роднай вёсцы.

## МОМАНТ ІСЦІНЫ

Шэсць гадоў мне, вялікая, а бацькоў бачу рэдка — у Капыльскім раёне яны працуюць аграномамі, пачалі там будавацца. Верасень, мае сяброўкі збіраюцца ў школу, і я за імі следам: таксама хачу вучыцца. Настаўніца, здаецца, і выгляду не падала, што я там «незаконна». Аловак мне дала, сшытак, палачкі паказвала... Дні два гэтак «гуляла» я ў першакласніцу, пакуль хатнія хітрасцю не затрымалі мяне дома.

Эпізод гэты згадаўся мне падчас гутаркі з Аляксандрам Фёдаравічам. Пачала высвятляць: хто яшчэ мог там вучыць у пачатковых класах? І ўрэшце зразумела, што «вучылася» я ў Ніны Юр'еўны, яго любай жонкі! Усё неяк сышлося, склалася ў адну карціну: і як я шукала тэлефон земляка праз сястру Таццяну, і як дамаўлялася аб сустрэчы, і як блукала ў незнаёмым раёне, адшукваючы патрэбны дом...

Усе тыя шэсць гадоў, пакуль я вырастала з кашулек у дзедавай хаце, ён быў недзе блізка — суседам, таварышам нашага дзеда, сябруком Алёшы і Хведара Кашавараў. З яго сынам-аднагодкам мы, вядома ж, гулялі ў дзіцячыя гульні. Я ўглядалася ў прамяністы, усмешлівы твар старога, як быццам хацела выклікаць з падсвядомасці яго ранейшы вобраз — якім ён быў пяцьдзесят з лішнім гадоў таму...

Хоць майго дзеда Капарыха ведаў «як аблупленага», але расказаў пра яго мала. Запомніў толькі яго старым, панылым, калі той сядзеў на лаўцы пры сваёй хаце і ціха жаліўся: «Стараўся я, стараўся, рабіў, рабіў — і на калхоз, і на Алёшу... (Зяця. — **Г. К.**) Раней трэба было пакінуць. А цяпер няма сілы...» Што работнік ён быў рэдкі, усе гавораць. Кажуць, на працы не даваў вяскоўцам перакурыць. Маўляў, чаго сядзець дарэмна? Да бабулі Мані ён таксама не надта быў спагадлівым, і калі адышла яна па хваробе ў лепшы свет, гаварыў мужчынам: «Беражыце сваіх бабуль».

Вобраз дзеда з часам перацярпеў пэўныя змены і змяніўся ў бок больш рэалістычны. Вобраз бабкі Мані па-ранейшаму невыразны, цьмяны, хаця кажуць, што яна, нягледзячы на ўзрост, даглядала мяне добра і ўвогуле з людзьмі была выключна далікатнай. І толькі вобраз вёскі застаецца ранейшым. Яна стаіць у мяне перад вачыма такой, якой была тады. Зрэшты, не так ужо і змянілася Лясішча, хіба што даўно разбурыўся клуб, з'явіліся дачнікі ды апусцелі асобныя хаты. А людзі жывыя, пакуль іх памятаюць. І жывыя, і мёртвыя аднолькава жывяць свой род, а значыць — і народ.

***Восень 2009 г.***

***P. S. Вядомая беларуская пісьменніца Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ ў сёлетнім жніўні адзначае свой высокі юбілей. Яе паэзія даўно палюбілася чытачам, але, напэўна, мала хто ведае, што першая публікацыя вершаў Галіны Анатольеўны прыпадае на 1967 год і дэбют гэты адбыўся ў «Маладосці».***

***З таго часу шмат падзей адбылося ў жыцці нашага аўтара, і найперш — гэта многа кніг у самых розных жанрах — ад філасофскай лірыкі да драматургіі. Нямала зроблена знакамітай пісьменніцай і ў журналістыцы. А што тычыцца сённяшняй публікацыі ў гэтым нумары часопіса, дык, безумоўна ж, вельмі кранальна і ўхвальна, што ў свой юбілейны месяц душой і сэрцам ёй схацелася пабыць з той мясцінкай, дзе выпала нарадзіцца, дзе толькі-толькі завязвалася вялікае Жыццё. А як інакш? Усё ад родных крыніц ды палеткаў!***

***Рэдакцыя «Маладосці» сардэчна віншуе Галіну Анатольеўну Каржанеўскую з важкім юбілеем, жадае і надалей плёну ў творчай працы і вялікіх поспехаў ва ўсім, што дорыць з дня ў дзень жыццё!***

***МАЛАДОСЦЕЎЦЫ***

Мая прафесія



Ірына Клімковіч

# МОСТ ПАМІЖ МІНУЛЫМ І БУДУЧЫНЯЙ

***Гарадскі пасёлак Мір, на першы погляд, звычайнае мястэчка, дзе царква і касцёл стаяць на адной плошчы. Такіх у Беларусі шмат, бадай што замак вылучае яго сярод іншых. Ён захаваўся з сівой даўніны і ўключаны ў спіс Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Але Мір заўсёды быў вядомы і сваімі майстрамі. У старадаўніх дакументах мястэчка пералічаны сорак дзевяць прафесій рамеснікаў. Сярод краўцоў, кушняроў, балтушнікаў, шаўцоў, кавалёў, збройнікаў, ювеліраў згадваюцца і ганчары, сталяры, цесляры, рэзчыкі па дрэве. Апошнія прафесіі ў мястэчку можна набыць і сёння.***

***Калі ў мінулым стагоддзі ўзяліся ўзнаўляць замак з руін, высветлілася, што няма адпаведных майстроў. Тады Саветам Міністраў была прынятая пастанова аб стварэнні на базе аб'екта рэстаўрацыі прафесійна-тэхнічнага вучылішча рэстаўрацыйных работ. У першую чаргу вучылішча мусіла займацца адраджэннем страчаных традыцый і рамёстваў — стаць своеасаблівым мостам паміж мінулым і будучыняй. Цяпер навучальная ўстанова афіцыйна называецца Мірскі дзяржаўны мастацкі прафесійна-тэхнічны каледж і выпускае не толькі майстроў па рэстаўрацыі старажытнасцей. Але ўсё па парадку, таму крыху гісторыі.***

### ГІСТОРЫЯ ЗАМКА — ГІСТОРЫЯ МЯСТЭЧКА

Сёння, выехаўшы з Мінска па аўтастрадзе Масква—Брэст, неўзабаве пасля Стоўбцаў трапляеш на скрыжаванне з «замкавай дарогай». Яна злучае старажытныя гарады Слуцк, Капыль, Нясвіж, Карэлічы, Навагрудак і Ліду. Пяць стагоддзяў таму гэтая дарога служыла своеасаблівым абарончым колам. Праз 20—30 кіламетраў на ёй стаялі замкі.

Старажытнаму мястэчку Мір, якое знаходзіцца пасярэдзіне «замкавай дарогі», пашанцавала: яго галоўная каштоўнасць — замак, збольшага адрэстаўраваны. Гісторыя замка цесна звязана з гісторыяй самога паселішча Мір. Аб паходжанні назвы дакладных звестак няма. Магчыма, яна паходзіць ад «мір» — калектыў, грамада. Магчыма, утварылася ад слова «эмір». Татары жылі тут з часоў Вітаўта. Першае летапіснае ўпамінанне пра мястэчка адносіцца да 1395 года, калі крыжакі спустошылі Мір. Вядомы беларускі паэт і краязнаўца Уладзіслаў Сыракомля лічыў, што тут пасля адной з бітваў адбылося перамір'е. Вядома, не выключаны і іншыя версіі...

Далейшая гісторыя Міра вядома з 1434 года. Вялікі князь літоўскі Жыгімонт Кейстутавіч «пажалаваў мірскі двор разам з людзьмі» свайму набліжанаму баярыну Сенку Гедыгольдавічу, да гэтага паселішча было дзяржаўнай маёмасцю. У 1496 г. Мір перайшоў да Юрыя Ільініча, ініцыятара будаўніцтва мураванай фартэцыі —

Мірскага замка. Дакладная дата яе ўзвядзення невядомая. Першыя згадкі адносяцца да 1527 года. Юрый Ільініч займаў пасады маршалка гаспадарскага і надворнага, кіраваў лідскім, берасцейскім і ковенскім староствамі, валодаў шматлікімі маёнткамі.

Адны навукоўцы лічаць, што неабходнасць узвядзення мураванага замка Ільінічам дыктавалася выступленнямі сялян супраць феадала, набегамі крымскіх татар, міжусобнай барацьбой паміж групоўкамі паноў. Іншыя сцвярджаюць, што ўзвядзенне ўласнай рэзідэнцыі было самым дзейсным доказам асабістай значнасці і наяўнасці багацця. Менавіта дзякуючы наяўнасці Мірскага замка другі Юрый Ільініч, унук вышэйзгаданага, атрымаў тытул графа «Свяшчэннай Рымскай імперыі на Міры».

Так ці інакш, у выніку з'явіўся Мірскі замак з 25-метровымі вежамі і непрыступнымі мурамі. Ён адпавядаў усім патрабаванням ваеннай справы таго часу. Замак набыў статус адміністрацыйнага цэнтра Мірскага графства. Род Ільінічаў валодаў ім на працягу трох пакаленняў. Унук будаўніка замка, першы граф Свяшчэннай Рымскай імперыі з гэтага роду стаў і апошнім яго прадстаўніком. У 1568 г., паміраючы бяздзетным, ён у якасці падзякі за апеку перадаў Мір разам з графскім тытулам сыну свайго выхавацеля Мікалаю Крыштофу Радзівілу па мянушцы Сіротка. Мірскае графства ўвайшло ў склад Нясвіжскага маярату Радзівілаў. Яны валодалі Мірам на працягу больш чым двух стагоддзяў.

Мір і замак зведалі свае ўзлёты і падзенні, мяняліся гаспадары. З канца XVIII стагоддзя замак пераходзіў па чарзе да графскіх і княжацкіх сем'яў Гогенло, Берленбургаў, Вітгенштэйнаў, а з другой паловы XIX стагоддзя да 1939 года належаў князям Святаполк-Мірскім. У 1896 годзе Мікалай Святаполк-Мірскі пабудаваў у Міры новы палац і радавую царкву-пахавальню. Аднак падчас Першай сусветнай вайны палац згарэў і быў адноўлены ў 1917 годзе.

Упершыню Мірскі замак моцна пацярпеў у 1655 годзе, падчас руска-польскай вайны. Ён зведаў аблогу ўкраінскага гетмана Івана Залатарэнкі і маскоўскага ваяводы А. М. Трубяцкога. У сакавіку 1706 года шведы на чале з каралём Карлам XII захапілі Мір, а замак узялі штурмам і спалілі. У сярэдзіне XVIII ст. на пастаяннае жыхарства ў замак перабіраецца Караль Станіслаў Радзівіл. Ен ладзіў у замку забавы і банкеты, туды з'язджалася шмат гасцей. У верасні 1785 г. тут гасцяваў апошні манарх Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Пры падаўленні паўстання Тадэвуша Касцюшкі ў 1794 г. рускае войска А. В. Суворава пасля штурму захапіла і разрабавала замак. Гэткім жа, калі не больш стратным, для замка і мястэчка стаў 1812 год — летам у баях паміж войскамі Баграціёна і маршала Даву быў спалены і разбураны палац. Выбухнуў парахавы склад, які размяшчаўся ў паўночна-ўсходняй вежы. А ўвосень засталіся без дахаў і астатнія вежы. Былі назаўсёды страчаны шматлікія замкавыя гарматы, якіх у Міры было не менш, чым у Нясвіжы, а таксама іншае ўзбраенне. Невядома куды падзеліся куранты, разрабаваны багацці палаца.

Пасля вайны 1812 года ніякіх значных падзей у Міры не адбывалася. Велічны замак пакрысе прыходзіў у заняпад. Чым больш ён разбураўся, тым больш вабіў да сябе аматараў даўніны. У 1891 г. Мірскі замак разам з некаторымі маёнткамі купіў князь Мікалай Святаполк-Мірскі. Яго сын па-свойму зразумеў выгаду ад спадчыны. Пайшлі чуткі, што вядуцца перагаворы з купцамі аб продажы ім замкавай цэглы. Вучоныя і грамадскасць забілі трывогу. Аднак на той час вялікая колькасць цэглы ўжо была раскрадзена. Толькі ў 1922 г. Міхаіл Святаполк-Мірскі распачаў рэстаўрацыйныя работы ў замку. Яны працягваліся да смерці князя ў 1938 г. Рэстаўрацыя вялася няспешна, пачынаючы з паўднёва-ўсходняй вежы, а затым і ў палацы — «у год па пакоі». Для азнаямлення з ходам работ у замку ў 1929 г. прыязджаў прэзідэнт Польшчы Ігнацы Масціцкі. Ён добрымі словамі падтрымаў старога князя ў яго высакародных намаганнях. Але жыццё князя ішло на схіл, а да завяршэння справы было яшчэ вельмі далёка.

З 1939 па 1941 год у сценах замка размяшчалася працоўная арцель. Падчас нямецкай акупацыі — гета і камендатура. Амаль чатыры дзесяцігоддзі пасля гэтага лёсам замка ніхто ўсур'ёз не цікавіўся. А калі нарэшце пачалася рэканструкцыя — разваліўся СССР...

У 2000 годзе замак перайшоў пад эгіду ЮНЕСКА, і дагэтуль там вядуцца рэстаўрацыйныя работы. У перспектыве, як плануецца, тут будзе адкрыты атэльны комплекс для прыёму дыпламатаў і іншых высокіх гасцей. Пакуль жа ў адной з вежаў, якая найлепш захавалася, працуе музей.



*У майстэрні мастакоў роспісу па дрэве. Майстра вытворчага навучання — Святлана Браніцкая.*

## «ЗАЛАТЫ ВЕК» МІРА

Нягледзячы на тое, што Мірскі замак нясвіжскія Радзівілы ўспрымалі як сваю загарадную рэзідэнцыю, дзякуючы ім для гэтых мясцін з другой паловы XVI ст. наступіў «залаты век». Пад уціскам багатых гараджан Мікалай Крыштоф Радзівіл у 1579 годзе даў Міру права на самакіраванне, якое асноўнымі пунктамі супадала з магдэбургскім. Падчас вандровак па Італіі і Усходнім Міжземнамор’і ён так уразіўся гарадамі вытанчанай культуры, садамі і віламі Венецыі, што па вяртанні на радзіму распачаў у сваіх уладаннях вялікія пераўтварэнні. Пабудаваны пры замку яшчэ Юрыем Ільінічам аднапавярховы палац быў перароблены ў трохпавярховую загарадную вілу. Яе вокны зашклілі звычайным і каляровым французскім шклом. У некаторых пакоях меліся вітражы з роспісамі. Падлогі былі паркетныя і выкладзеныя пліткаю. Архіўныя дакументы і літаратурныя звесткі дазваляюць уявіць прыгажосць палацавых інтэр’ераў. Сцены пакояў былі аздоблены мармурам, ляпнінай, шпалерамі. Тут вісела дарагая зброя. У палацы было шмат скульптур, карцін, габеленаў. Магчыма, у адным з пакояў размяшчалася бібліятэка, бо Мікалай Крыштоф Радзівіл любіў чытаць і сам пісаў кнігі. На галоўнай вежы ўсталявалі вялікі гадзіннік са званамі, сярод якіх быў мілагучны ажурны звон. З паўночнага боку за валам быў разбіты «італьянскі сад», які ўяўляў сабой сістэму баскетаў. Гэта сістэма квадратаў, ніш, павільёнчыкаў, якія адмяжоўваліся адзін ад аднаго алеямі і дарожкамі. У садзе апроч алей з мясцовых парод дрэў налічвалася больш за 400 цеплалюбных раслін з розных куткоў зямнога шара. Тут раслі апельсіны, лімоны, фігі, мірт, кіпарыс, самшыт, чырвонае і лаўровае дрэвы, італьянскі арэх. Усё гэта вырошчвалася ў бочках і летам выстаўлялася на адкрытае паветра. Замак акружылі нанава насыпаныя валы з чатырма брамамі — Нясвіжскай, Слонімскай, Віленскай і Мінскай. За імі з паўднёвага боку ўладкавалі звярынец — вялікі загон для звяроў.

Род Радзівілаў быў першым магнацкім родам, які ініцыіраваў стварэнне на Беларусі мануфактур. У першай палове XVIII ст. у сваіх уладаннях імі былі заснаваны 24 мануфактуры. Асаблівая роля ў гэтым належыць жонцы Караля Станіслава Радзівіла Ганне Катажыне. У Міры яе лічаць фундаткай і мецэнаткай усіх мясцовых мастацтваў і рамёстваў. Маці 15 дзяцей, яна, рана страціўшы мужа, падняла ўвесь гэты край да ўзроўню перадавой капіталістычнай вытворчасці. Па яе загадзе будавалі грэблі, дарогі, масты і млыны, стваралі мануфакту-

ры, у тым ліку мануфактуру па вытворчасці дываноў у Міры. Тут працавалі палатняныя і суконныя мануфактуры. А каля 1747 г. і майстэрня па вытворчасці мастацкіх тканін — шпалер. Апроч гэтага дзякуючы Ганне Катажыне ў Налібоках і Урэччы дзейнічалі фаянсавыя фарфурні, там жа апрацоўвалі шкло, а ў Сімакаве і Паланечцы рабілі мэблю. Пазней сын Ганны Катажыны, Міхал Казімір Радзівіл (Рыбанька), адкрые ў Карэлічах мануфактуру габеленаў, дзякуючы якой мястэчка ўвойдзе ў гісторыю.

Такім чынам, прадстаўнікі Радзівілаў забяспечвалі сябе высокакаштоўнымі творамі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — займаліся мецэнацтвам, фундавалі нацыянальную прамысловасць. Як кажуць сёння, займаліся імпартазамяшчэннем і лічылі гэта за гонар. Менавіта з княжацкага роду Радзівілаў пайшла ініцыятыва адраджэння айчынных промыслаў і рамёстваў, падтрыманая іншымі магнацкімі родамі.

Што тычыцца Мірскага замка, то, як мяркуюць даследчыкі, ягонымі архітэктарамі, мулярамі і майстрамі, якія аздаблялі інтэр'еры, былі мясцовыя жыхары. Падтрымліваючы традыцыі тутэйшых майстроў, нясвіжскія Радзівілы далі ім магчымасць укласці свой досвед і ўменне ў своеасаблівы выгляд вежаў, выраб цэглы і арыгінальную муроўку. Убранне замкавых пакояў не захавалася, але археолагі знайшлі невялікія фрагменты пячной кафлі, камінаў, часткі вокнаў і дзвярэй, рэшткі мэблі, посуду і шкла. Пра колькасць і разнастайнасць прадметаў раскошы, якія рабіліся рукамі беларускіх майстроў у часы Радзівілаў, расказваюць архіўныя дакументы і інвентарныя запісы.

Таму невыпадкова, што менавіта ў Міры была адчынена навучальная ўстанова, якая працягвае старадаўнія традыцыі мясцовых рамёстваў і промыслаў.

## ШКОЛА АДРАДЖЭННЯ РАМЁСТВАЎ

*Размова з дырэктарам Мірскага дзяржаўнага прафесійна-тэхнічнага каледжа* ***Уладзімірам Альбінавічам КАДЛУБАЕМ***

Тое, што ўраджэнец Карэліцкага раёна **Уладзімір Кадлубай** дваццаць гадоў аддаў роднай навучальнай установе, невыпадкова. Ён скончыў Гродзенскі педагагічны інстытут, а потым колькі гадоў прысвяціў педагагічнай дзейнасці ў родным раёне. Цяпер яго гістарычныя веды і педагагічны досвед цудоўна спалучаюцца на пасадзе дырэктара каледжа. Каледжа, чыё існаванне накіраванае на захоўванне і аднаўленне старадаўніх майстэрстваў. А прыродныя здольнасці руплівага дырэктара Уладзіміра Альбінавіча дапамаглі яму стварыць у каледжы сваю міні-вытворчасць. Тут распілоўваюць лес, сушаць яго. З атрыманай драўніны, згодна са старадаўнімі беларускімі традыцыямі, робяць якасную мэблю і мастацкія вырабы. Такая прадукцыя славіцца не толькі ў рэгіёне, а і па ўсёй краіне, плюс — гэта практыка, заробкі для навучэнцаў і прыбыткі, якія ўмацоўваюць матэрыяльную базу каледжа. Пагадзіцеся, такога дырэктара яшчэ трэба пашукаць.

**— Уладзімір Альбінавіч, колькі слоў пра гісторыю навучальнай установы, якія прафесіі дае яна навучэнцам?**

— У 1985 годзе, калі пачаліся праектныя работы па аднаўленні Мірскага замка, паўстала пытанне і пра стварэнне ўласнага рэстаўрацыйнага вучылішча. На той час у СССР патрэбных майстроў па рэстаўрацыі выпускалі толькі ў Ленінградзе і Ташкенце. Першапачаткова наша вучылішча планавалі размясціць у самім замку. Але ў старажытных мурах немагчыма было наладзіць побыт навучэнцаў, і ад гэтай ідэі адмовіліся. У 1988 годзе будынак рэстаўрацыйнага вучылішча разам з вучэбна-вытворчымі майстэрнямі і інтэрнатам узвялі на месцы старой школы. Будынкі вучылішча, паміж якімі зрабілі пераходы, утварылі маналітны вучэбны комплекс, своеасаблівы горад майстроў. Уявіце: дзеці прачынаюцца ў інтэрнаце, снедаюць, а потым абедаюць і вячэраюць у сталовай галоўнага вучэбнага корпуса, ідуць на заняткі або ў вучэбныя майстэрні, а потым зноў — у інтэрнат. І ўсё пад дахам, аўтаномна і зручна!

Рыхтуем мы спецыялістаў па такіх накірунках, як дэкаратыўна-прыкладное мастацтва; сталярныя, паркетныя, шкляныя і рэстаўрацыйна-аднаўленчыя працы. На першай ступені навучання ў нас можна атрымаць прафесіі падрыхтоўшчыка мастацкіх вырабаў з керамікі; рэзчыка па дрэве; сталяра; станочніка дрэваапрацоўчых станкоў; рэстаўратара каменнага дойлідства, дэкаратыўна-мастацкіх афарбовак і дэкаратыўных атынковак, элітных вырабаў.

Статус каледжа і другую ступень навучання — прафесійна-тэхнічную — вучылішча набыло з 2008 года. Цяпер можна атрымаць спецыяльнасці, якія тычацца тэхналогіі і дызайну мэблі. Пасля заканчэння выпускнікі маюць магчымасць працягнуць сваю адукацыю ў вышэйшых і сярэдніх навучальных установах.

Спектр шырокі і, што самае галоўнае, запатрабаваны. Па будаўніча-рэстаўрацыйных працах наш каледж адзіны ў краіне.

**— З часоў знікнення СССР у нашай краіне шмат што змянілася. Несумненна, змены закранулі і вас. Паўстаюць новыя праблемы? Як вы іх вырашаеце?**

— Праблемы, безумоўна, ёсць. Гэта праблемы з наборам. Раней да нас ішлі вучыцца практычна з усяго Савецкага Саюза, нават з Казахстана. Мы, так бы мовіць, рыхтавалі спецыялістаў па рэстаўрацыі для ўсяго «Паўночна-заходняга краю». СССР разваліўся, і паток маладых людзей да нас зменшыўся. Да таго ж паўстала пытанне запатрабаванасці кадраў. Многія мастацкія фабрыкі і рэстаўрацыйныя майстэрні зменшылі бюджэт, яны ледзь выжывалі. Падціснулася і наша навучальная ўстанова. Яна разлічана на 720 месцаў, а цяпер у ёй навучаюцца ўсяго 328 чалавек. Нам давялося перабудоўваць навучальны працэс, падладкоўвацца пад запатрабаванасць рынку. Увялі новыя спецыяльнасці, ад некаторых адмовіліся. Так, раней рыхтавалі мастакоў і дэкаратараў. Цяпер не рыхтуем, яны не запатрабаваныя. Выпускалі раней мастакоў роспісу па дрэве, інкрустатараў саломкай, цяпер для іх няма працы. Але ж нельга згубіць такія прафесіі. Набіраем па іх групы раз на тры гады.

Яшчэ на нас адбілася дэмаграфічная сітуацыя. Штогод беларусаў нараджаецца меней і меней. Плюс адмена ільгот на праезд студэнтам і навучэнцам ПТВ. Раней да нас прыязджалі вучыцца дзеці з усёй Беларусі. Дзве трэці з іх былі або сіроты, або з няпоўных сем'яў. Зразумела, цяпер такія дзеці не могуць сабе дазволіць часта ездзіць дахаты. Раней было бясплатнае трохразовае харчаванне, цяпер — аднаразовае. Таму нашы патэнцыяльныя навучэнцы абіраюць іншыя навучальныя ўстановы — бліжэй да дому. У нас вучацца ў асноўным дзеці з бліжэйшых раёнаў: Нясвіжскага, Баранавіцкага, Навагрудскага... Хаця трапляюцца навучэнцы і з Гродна, і з Наваполацка, і з Рэчыцы...



*Дырэктар каледжа Кадлубай Уладзімір Альбінавіч.*

Мы стараемся даваць нашым выпускнікам па некалькі прафесій. Так, калі мы рыхтуем рэстаўратараў каменнага дойлідства, то намагаемся даць ім кваліфікацыю атынкоўшчыка або абліцоўшчыка, плітачніка. Выпускнікі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва атрымліваюць кваліфікацыю падрыхтоўшчыка мастацкіх вырабаў з керамікі і атынкоўшчыка-маляра. Мастакі роспісу па дрэве паралельна навучаюцца пісьму па тканінах і шклу, пішуць алейнымі, гуашавымі і акрылавымі фарбамі. А ў сувязі з тым, што на прадпрыемствах у наш час запатрабаваны станочнікі, мы апроч гэтай спецыяльнасці дадаем станочніка дрэваапрацоўчых станкоў, рэзчыка па дрэве і бяросце. Тры кваліфікацыі адначасова! Затое ў нашых выпускнікоў няма праблем з працаўладкаваннем.

І яшчэ. Раней пры паступленні абавязкова трэба было здаваць малюнак. Адбіралі лепшых з тых, хто валодаў майстэрствам малявання. Цяпер, калі навучэнцаў мала, мы бяром у каледж усіх жадаючых. Зрэшты, навучыць маляваць можна кожнага.

**— Дзе вашы выхаванцы знаходзяць прымяненне сваім ведам і ўмельству? Ці адразу яны робяцца майстрамі ў сваёй справе?**

— Нашы выпускнікі працуюць практычна па ўсёй Беларусі. Але асноўныя кадравыя заказчыкі — Гродзенская, Мінская і Брэсцкая вобласці. Там і дзяржаўныя, і прыватныя рэстаўрацыйныя аб’екты, прадпрыемствы па вытворчасці мэблі, мастацкіх промыслаў. Базавыя прадпрыемствы: мінская Белрэстаўрацыя, Слонімская мастацкая фабрыка, карэліцкае ПМК-152, Радашковіцкая фабрыка «Беларуская мастацкая кераміка».

Важную ролю ў каледжы адыгрывае вытворчае навучанне. Яно большай часткай праходзіць у вытворчых майстэрнях. Іх у каледжы ажно трынаццаць. Навучэнцы спачатку спасцігаюць сакрэты майстэрства, а потым выконваюць і заказы, якія паступаюць ад насельніцтва, арганізацый. Сёння сярод дачнікаў папулярныя розныя ландшафтныя кампазіцыі, садова-паркавыя скульптуры, фантанчыкі і альтанкі, дэкаратыўная мэбля. Робім і мяккую мэблю, дзвярныя і аконныя блокі нестандартных форм, памераў. Цэрквы і касцёлы замаўляюць нашым разьбярам іканастасы, аналоі і ківоты. Такую працу выконваюць навучэнцы з другога курса, на першым яны вучацца рабіць самае простае — раздзелачныя дошкі, куфэркі, простыя вырабы з гліны... Пасля рэалізацыі прадукцыі 75 працэнтаў ад прыбытку ідзе навучэнцам, 25 працэнтаў — каледжу. Летась такім чынам мы зарабілі 106 мільёнаў рублёў. Лепшыя працы навучэнцаў размешчаны ў музеі на першым паверсе навучальнага корпуса. Тут і макеты Мірскага замка, і дэкаратыўны посуд, і наборы мэблі, і разьблёнае дрэва, і інкрустацыя саломкай... Усё, што завецца дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам.

**— Калі падыходзіш да будынка каледжа, звяртаеш увагу на мноства скульптурных кампазіцый. Калі крочыш калідорамі навучальнай установы, немагчыма застацца абыякавым да мастацкага афармлення інтэр’ераў. Адразу адчуваецца, што ўсё гэта зроблена натхнёнымі і творчымі людзьмі. Як каледж выхоўвае імкненне да творчасці ў дзяцей?**

— Практычна ўсё афармленне каледжа і сумежнай тэрыторыі зроблена рукамі навучэнцаў і выпускнікоў. У Міры заўсёды існавалі свае школы майстроў, тых жа керамістаў. Мы ходзім па хатах, збіраем мастацкія вырабы, якія захаваліся з мінулага. У выніку ў майстэрні керамістаў утварыўся збор вырабаў старых майстроў. Вучні каледжа на іх аснове ствараюць сучасныя вырабы, якія мы потым запускаем у вытворчасць або гандлюем імі падчас фестываляў і свят.

Месцазнаходжанне каледжа адыгрывае немалую ролю ў выхаваўчым працэсе. Навучэнцы з задавальненнем працуюць на рэстаўрацыі Мірскага замка, удзельнічаюць у фестывалях, выставах-ярмарках. Той, хто вучыцца на рэстаўратара помнікаў каменнага дойлідства, падчас практыкі на замкавым комплексе набывае веды і досвед па рэстаўрацыйна-аднаўленчых працах і вырабе пячных канструкцый, камінаў, кафлі і кладкі, мазаічных кампазіцый і атынкоўцы. Нашы навучэнцы і выпускнікі бяруць удзел у рэстаўрацыі іншых гісторыка-культурных аб’ектаў, як у Беларусі, так і за мяжой. Гэта тычыцца і помнікаў драўлянага дойлідства. У музеях або храмах навучэнцы займаюцца аднаўленнем драўляных твораў мастацтва розных эпох, развіваюць традыцыйныя формы беларускага дойлідства.

Каледж бярэ ўдзел і ў прафесійных конкурсах майстэрства, займае прызавыя месцы і атрымоўвае ганаровыя ўзнагароды. Гэта і рэспубліканскія, і абласныя конкурсы дэкаратыўнай, прыкладной творчасці, і фестываль прафтэхадукацыі «Беларускі вянок», і рэспубліканская выстава-ярмарка «Горад майстроў»... У далейшым у межах міжнароднага праекта «Народныя рамёствы XXI ст.» адбудзецца кантакт з літоўскімі і шведскімі калегамі-рэстаўратарамі. Усё гэта спрыяе веданню гісторыі і культуры, адраджэнню народных промыслаў і традыцый, абмену досведам паміж рэгіёнамі Беларусі і іншымі краінамі, стварэнню ўмоў для творчай самарэалізацыі.

**— А хто рыхтуе вашых талентаў?**

— Цяпер у нас 20 майстроў вытворчага навучання і 10 педагогаў. Спачатку хачу згадаць тых, на каго кладзецца асноўны цяжар працы ў каледжы. **Алена Сянкевіч,** намеснік дырэктара па вучэбна-выхаваўчай працы, працуе тут усяго год, але мае досвед педагагічнай працы, набыты падчас вучобы ў педагагічным універсітэце, працы настаў-

ніцай, намеснікам дырэктара школы. **Алена Агейчык,** намеснік дырэктара па вучэбна-вытворчай працы, скончыла бабруйскае мастацкае вучылішча, Мінскі інстытут культуры. Яна як ніхто іншы разумее і карэктуе творчыя памкненні сваіх калег і навучэнцаў каледжа. На яе плечы кладзецца нялёгкі клопат па арганізацыі і правядзенні вытворчай практыкі і конкурсаў прафесійнага майстэрства.

Касцяк нашых майстроў складаюць людзі, якія скончылі нашу навучальную ўстанову, потым завочна вучыліся або ва універсітэце культуры, або ў Віцебскім педагагічным інстытуце, усе маюць мастацкую адукацыю. Дзякуючы таму, што яны самі вучыліся тут дзецьмі, рабілі ўсё сваімі рукамі, цяпер наш каледж можа браць заказы і выпускаць уласную прадукцыю. У асноўным усе майстры абзавяліся тут сем’ямі, атрымалі кватэры. Думаю, і надалей застануцца працаваць, як сям’я керамістаў **Швайкоўскіх,** да прыкладу. **Святлана Швайкоўская**, заслужаны работнік прафтэхадукацыі, працуе тут з 1989 года. Вытанчаныя і арыгінальныя працы па ручной лепцы, якія выконваюць вучні ў майстэрні керамікі, зроблены па яе эскізах. Яна не раз абараняла гонар роднага каледжа на конкурсах і фестывалях прафесійнага майстэрства, заўсёды атрымлівала прызавыя ўзнагароды. Вось ужо дваццаць гадоў майстэрству ганчарства, атынкоўкі і роспісу вучыць дзяцей яе муж **Уладзімір Швайкоўскі**. Сустрэўшыся падчас вучобы ў бабруйскім мастацкім вучылішчы, яны вырашылі назаўсёды звязаць сябе з творчай прафесіяй.

Амаль з самага пачатку працуюць тут і такія майстры, як мастак народных рамёстваў і выкладчык спецыяльных дысцыплін **Таццяна Будзейка**, выкладчык чарчэння і выяўленчага мастацтва **Таццяна Кожух**, настаўнік малявання і працоўнага навучання **Павел Кучко**. У 1990 годзе скончыў мірскае вучылішча і пайшоў сюды на працу мастак народных рамёстваў і выкладчык спецдысцыплін **Мікалай Гіз**. Са сваімі вучнямі ён рабіў для мірскага касцёла святога Мікалая бакавыя алтары, аналоі, гадзіннікі, падсвечнікі. З сярэдзіны 1990-х гадоў у каледж прыйшлі такія таленавітыя настаўнікі, як выкладчыкі спецдысцыплін **Наталля Харланава** і **Аляксандра Шапяленка**, выкладчык матэматыкі, інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі **Уладзімір Хіневіч**. З маладых майстроў хацелася б адзначыць **Аляксея Якубоўскага.** На самым пачатку свайго прафесійнага шляху ён зрабіў памылковы крок, але ў свой час адумаўся. Цяпер ён рэзчык ад Бога. Яго працы на конкурсах займаюць выключна першыя месцы.

Асаблівую ўвагу звярну таксама і на выкладчыка біялогіі і хіміі **Канстанціна Петрымана,** выпускніка Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта. Дасведчаны выхавацель, ён шчыра любіць дзяцей, а як апантаны знаўца гісторыі сваёй краіны даўно заваяваў павагу не толькі сваіх калег, але і шматлікіх турыстаў, гасцей нашага мястэчка. Яго захапляльныя расповеды пра далёкае мінулае старажытнага Міра, ягоных уладальнікаў і простых жыхароў можна слухаць гадзінамі.

Сапраўдны майстра насамрэч павінен валодаць шматлікімі майстэрствамі. Ён павінен і выхоўваць, і навучаць майстэрству, і сам павінен быць мастаком, каб ажыццяўляць творчыя задумы. Толькі такі майстра выхавае дастойную сябе змену.

**— Дзякуй за размову**.

## ЖЫВЕ Ў МІРЫ БАТЛЕЙКА

Не толькі замкам і каледжам славіцца мястэчка Мір. У галоўным корпусе мірскага каледжа знаходзіцца прадстаўнічая зала музея-тэатра-студыі «Мірская батлейка». Музей быў створаны ў 1989 г. намаганнямі мастака-энтузіяста **Галіны Жаровінай** і яе аднадумцаў. А пачыналася ўсё з гуртка, дзейнасць якога была скіраваная на вывучэнне гісторыі батлейкі, на збор друкаваных і архіўных звестак, графічных матэрыялаў, на фіксацыю тых батлеек, якія захоўваюцца ў музеях Масквы і Пецярбурга. І як вынік адбылося адраджэнне батлейкі ў Міры.

Народжаная яшчэ ў эпоху сярэднявечча, батлейка прыйшла да нас з Заходняй Еўропы ў XVI ст. Яна ўяўляла сабою перасоўны лялечны тэатр у выглядзе мініяцюрнай копіі сярэднявечнага храма. Назва паходзіць ад горада Betleem — Віфлеем. Згодна з Евангеллем, там нарадзіўся Ісус Хрыстос. Першапачаткова ўсе спектаклі ў такім тэатры засноўваліся на біблейскіх сюжэтах, а яе героямі былі Дзева Марыя, немаўлятка Ісус і святыя. Пазней з’явіліся камедыйна-бытавыя эпізоды, якія чаргаваліся біблейскімі

сцэнамі. Вандроўныя акцёры хадзілі з такімі тэатрамі-скрынямі па гарадах, мястэчках і вёсках, вакол іх збіралася ўсё наваколле. Падчас вялікіх свят і народных кірмашоў такія тэатральныя відовішчы арганізоўваліся гарадскімі ўладамі сумесна з цэхамі рамеснікаў. На Беларусі батлейка была вельмі папулярнай, набыла свае адметныя рысы і праіснавала да пачатку ХХ ст. Драўляная скрыня батлейкі мела два паверхі — верхні, дзе ставіліся евангельскія драмы, кшталту «Цара Ірада», і ніжні, са сцэнкамі маленькіх чалавечых камедый. Народ адразу пазнаваў герояў — святых Іосіфа з Марыяй, анёла і чорта, яўрэя, казака, доктара і, вядома, бабу з мужыком.

Сярод батлеек, створаных у Міры, ёсць і знакамітая Ельненская батлейка, адроджаная па копіі з маскоўскага музея тэатральнага мастацтва, і батлейка ў выглядзе мірскага замка, і ў выглядзе нясвіжскай ратушы, і невялічкія хатнія калядныя батлейкі. Апантаным людзям, якія аднаўлялі майстэрства батлейкі, давялося быць і архітэктарамі — стваралася архітэктура скрыні, і рэзчыкамі па дрэве, нават скульптарамі — кожная лялька з'яўляецца скульптурай, і краўцамі — шылася адзенне для лялек, і мастакамі — распісваўся верхні ярус і бакавыя сцэны скрыні, і акцёрамі, і песнярамі, і музыкамі, і шмат кім яшчэ. У мірскім мастацкім каледжы, дзе адраджаюць старадаўнія віды майстэрства і навучаюцца новым, батлейка дае магчымасць зразумець усе рамёствы ў спалучэнні і повязі паміж сабою.

Але на дасягнутым праца батлеечнікаў не скончылася. Трэба было ўключыць батлейку ў сучаснае жыццё і разам з тым навесці мост з мінулым. Гэта дало стымул сабраць шмат звестак пра былых уладароў Мірскай зямлі — пра магнатаў Радзівілаў. Сабраная праца была ўвасоблена ў цыкле спектакляў-інтэрмедый пад агульнай назвай «Радзівіліяда». Па жывапісных партрэтах мінулага і архіўных запісах былі створаны лялькі ўсіх нясвіжскіх Радзівілаў і архітэктара Бернардоні. У спектаклях на рэальных гістарычных фактах распавядаецца пра майстроў і мецэнатаў краю. Разам з тым паказваюцца і замалёўкі паўсядзённага мясцовага жыцця і жыцця каледжа, дзе героі — пэтэвэшнік і сучасныя жыхары Міра. Прадстаўленні батлейкі выклікаюць сапраўднае захапленне ў гледачоў. Яе запрашаюць да сябе і беларускія, і замежныя фестывалі. Мірскія батлейшчыкі пабывалі ўжо са сваім тэатрам у Літве і Германіі. А паглядзець на батлейку ў Мір прыязджалі нават з Японіі.

У мірскай батлейкі ёсць і свой сімвал — кола з загадкавымі насечкамі ўсярэдзіне. Такое кола з'яўлялася кляймом або пячаткай старадаўняга майстра на цаглінах Мірскага замка. Цяпер батлеечнікі надалі пячатцы сакральны сэнс, і яна стала сімвалам дасягнення дасканаласці ў рамястве. На аснове пячаткі аформлена ўся невялікая зала тэатра-студыі батлейкі. З міні-пячатак складаюцца і роспісы на сцэнах, і ўсе партрэты Радзівілаў, зробленыя рукамі навучэнцаў і педагогаў каледжа. І нават столік пасярод студыі, які сімвалізуе ўяўны цэнтр Еўропы, ад якога ідуць напрамкі на Нясвіж, Рым, Парыж... Да падзелу Рэчы Паспалітай гэтыя землі насамрэч былі адным з цэнтраў еўрапейскай культуры і рамёстваў, куды на шматлікія кірмашы і фэсты прыязджалі замежныя госці. А нясвіжскія Радзівілы былі Мецэнатамі з вялікай літары, якія ўкладалі грошы не толькі ў айчынную культуру, але і ў еўрапейскую.

Дарэчы, на самым пачатку, як толькі дзеці ў новым навучальным годзе пераступаюць парог каледжа, у тэатральнай студыі «Мірская батлейка» адбываецца пасвячэнне ў студэнты. Будучым навучэнцам паказваюць і музей, і тое, што зрабілі для батлейкі іх папярэднікі. А пасля выпускных іспытаў тут пасвячаюць у майстры. Усё гэта адбываецца падчас батлеечных спектакляў, дзе галоўнай тэмай праходзіць сувязь паміж рамеснікам-навучэнцам і майстрам мінулых часоў. Але дзеці тады ўжо выступаюць не ў якасці гледачоў, а ў якасці дзейных асоб. Яны з захапленнем сочаць за пазнавальным сюжэтам спектакля і на пастаўленыя пытанні ў ім адказваюць сваімі рэплікамі.

У выніку мірская батлейка выконвае шмат функцый і дае будучым майстрам вялікі духоўны зарад. Такая падача гісторыі і рамяства стымулюе дзяцей да набыцця ведаў. Яны з пашанай ставяцца да нашай гісторыі, да радзімы, да рамяства. Не проста разьбяр, не проста муляр, не проста цясляр, не проста рэстаўратар дэкаратыўна-мастацкіх пафарбовак ці ляпных вырабаў, не проста keраміст. Гэта перш за ўсё прафесіянал і мастак, які ведае гісторыю сваёй краіны і ганарыцца ёю. І гэта самае асноўнае!

# ТАЛЬКА І ВАКОЛІЦЫ

Талька знаходзіцца за 21 км на паўднёвы ўсход ад раённага цэнтра Пухавіччыны — горада Мар'іна Горка. Чыгуначная станцыя на лініі Мінск—Асіповічы вядомая і ўсім, хто едзе далей, на Магілёўшчыну, праз Асіповічы дызелем да Бабруйска альбо праз Асіповічы на Старыя Дарогі. У дзевятнаццатым стагоддзі і на пачатку дваццатага Талька адносілася да Амяльнянскай воласці. Паселішча вядомае яшчэ і як радзіма акцёра І. Шацілы. Дарэчы, старажылы (у прыватнасці, Людміла Фёдараўна Аскерка, якая пражывае зараз у г. п. Свіслач Пухавіцкага раёна) сцвярджаюць, што ў Тальцы нарадзіўся акцёр Віцебскага драматычнага тэатра імя Я. Коласа Алесь Матусевіч. Настаўніца Наталля Ільініч, якая жыве і працуе ў Тальцы, напісала кнігу «Талька і наваколлі» (Мінск, 2004), у якой, у прыватнасці, удакладняе гістарычныя вытокі паселішча: «Раней мы лічылі, што Талька ўзнікла ў другой палове XIX ст., калі тут прайшла чыгунка і была пабудавана станцыя. Але ў 2000 г. у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі быў знойдзены дакумент, які даказвае, што Талька існавала ўжо ў 1830 г.

Дакумент гэты, 1833 г., называецца «Аб ліквідацыі Смілавіцкага місіянерскага рымска-каталіцкага манастыра». У ім расказваецца, як пасля паўстання 1830-1831 гг. расійскія ўлады, каб абмежаваць уплыў каталіцызму і пальшчызны, зачынілі францысканскі кляштар у Смілавічах. Маёмасць кляштара мінскі губернатар загадаў прадаць з адкрытага торгу і грошы перадаць у казну. На торг з'ехалася шляхта і купцы-яўрэі «из деревень Жицина Лейба и Берко, из Тальки Иосель Иоселевич, из Мацеевич Румер Елеович, Иохим Мовилович, Михелевич, из Сутина Хаим Израелович и брат его Евгур». Пакуль што гэта першая пісьмовая згадка пра Тальку…»

*(Ільініч Н. Талька і наваколлі. Мн., 2004. — С. 5.)*

У дачыненні да Талькі літаратурнай варта згадаць ці не адразу імя Язэпа Ціхінскага. Беларускі лексікограф. «Беларуская Энцыклапедыя» тлумачыць: «…Ціхінскі Язэп (1921 г.), беларускі лексікограф. Жыў у маёнтку Прусін на Магілёўшчыне. Аўтар 16-томнага «Беларуска-польска-рускага слоўніка» (не выдадзены), складанню якога прысвяціў амаль 40 гадоў жыцця. Рукапіс слоўніка (636 аўтарскіх аркушаў) уключае больш за 150 тысяч агульных слоў, асобных уласных імён, назваў дзяржаў, гарадоў, мясцовасцей, а таксама пашыраныя запазычанні («алігарыя», «альманах» і іншае). Пры перадачы слоў вытрыманы важнейшыя фанетычныя асаблівасці беларускай мовы (аканне, яканне, дзеканне, цеканне), адлюстравана прэфіксальнае словаўтварэнне (алей-алеяць-алеян-алеяны-алеявы-алея-алейніца-паалеяць). Працу Ціхінскага высока цаніў М. Федароўскі. Частка рукапісу слоўніка (7308 старонак) зберагаецца ў бібліятэцы АН Літвы. У 1909-1912 гадах друкаваў допісы ў газеце «Наша ніва» пад псеўданімам Язэп Бурачок». Вось, здаецца, і ўсё.

А што ж Талька?..

Цытую адзін дакумент (ён знойдзены ў Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь кандыдатам гістарычных навук Віталем Скалабанам): «Академический центр. Отдел общий. 7 декабря 1921 года.

Совнарком Белоруссии.

Доклад.

Есть два великих для каждого белоруса имени Романов и Цехинский (так прозвішча пададзена ў дакладзе. — **А. К.**), отдавшие всю свою жизнь культурному возрождению своего народа, и к концу своей жизни очутившиеся в самых тяжелых условиях: выбитые из колеи жизни эти маститые старцы обречены буквально на голодную смерть…

Цехинский всю свою жизнь употребил на составление Белорусского словаря, в результате своей 30-летней (так у арыгінале: 30.., — **А. К.**) работы он создал колоссальный с точки зрения науки классический словарь в 50 тысяч слов, одна рукопись которого весит 1 пуд.

Работая над ним, Цехинский лишился зрения и доживает остатки своих дней на станции Талька в крайней нужде и беспомощности.

Рукопись этого словаря передана его родственниками в Академический центр.

Было бы преступлением оставить погибать от голода лучших сынов Белоруссии.

Помощь должна быть оказана немедленно… Цехинскому 3 миллиона рублей».

Згодна энцыклапедыі, памёр Ціхінскі ў 1921 годзе. Ці дачакаўся вучоны, чыё нават імя па бацьку невядома, дзяржаўнай падтрымкі? Ці ў Тальцы памёр? Дзе пахаваны? Чаму менавіта ў Тальцы дажываў свой век Язэп Ціхінскі?.. Высвятленне месца пахавання якраз можа стаць адной з мэт краязнаўчай экскурсіі.

Першым адрасам, куды можна было б завітаць, давайце выберам Талькаўскую сярэднюю школу. Месціцца яна на свабодным пляцы. І калі б праяўлялася шырэйшая ўвага да лёсу такіх вось сельскіх навучальных устаноў, тут можна ўладкаваць сапраўды адметную сядзібу агратэхнічнай школы — з вялікім і прыгожым садам. Праўда, не трэба ідэалізаваць і магчымыя перспектывы. Была б у Тальцы большая колькасць вучняў, як шмат гадоў раней, то і жыццё кіпела б іначай. І зараз пры школе працуе лясніцтва. Яно і зразумела, бо поруч — нямала лясных угоддзяў. Дзеці з цікавасцю ўдзельнічаюць у пасадках лесу, збіраюць сасновыя і яловыя шышкі, спасцігаюць сакрэты лясного гаспадарання. Працуе ў школе і краязнаўчы музей. Генератар гэтай грамадскай ініцыятывы — настаўніца Наталля Ільініч. Мы ўжо згадвалі, што яна з’яўляецца аўтарам цікавага гісторыка-краязнаўчага даследавання пра вёску Талька і яе ваколіцы.

У 1952-1954 гг. працаваў настаўнікам Талькаўскай СШ пісьменнік-сатырык Міхась Скрыпка (1907—1991). Краязнавец Наталля Ільініч занатавала ўспаміны Ларысы Аляксандраўны Тужык, былой вучаніцы Міхася Скрыпкі: «Міхась Аляксандравіч вучыў наш клас у 1952-1954 гадах, гэта былі 8, 9 і 10 класы. У 9-м і 10-м ён у нас быў і класным кіраўніком. Выкладаў рускую мову і літаратуру. Невысокага росту, тоўсценькі, вельмі добры чалавек, любіў смех, жарты. Адукаваны. У нас увогуле былі вельмі эрудзіраваныя, прафесійныя настаўнікі. Калі Міхась Аляксандравіч прыязджаў у Тальку, падарыў мне сваю кнігу з подпісам…»

Асобная тэма ў літаратурнай гісторыі Талькі — творчы і жыццёвы лёс Якуба Коласа. Менавіта з Талькі пачыналася ў 1930-я гады трывалае знаёмства народнага песняра з Пухавіччынай. Пра гэтую вёсачку пісаў паэт у сваім артыкуле «За паўтара дзесятка гадоў». А яшчэ ж варта згадаць раку, на якой размешчана вёска, — таксама Талька. Звернемся да коласаўскіх радкоў:

Талька — слаўная рачушка,
Грунт яе пясчаны,
Бераг мяккі, як падушка,
Дзірваном засланы.

Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч — малодшы сын Якуба Коласа (нарадзіўся ў Мінску ў студзені 1926 года). Вось што ён згадвае ў сваіх успамінах пра пачатак сяброўства Коласа з Пухавіцкім краем: «З 1933 года сям’я летавала на Пухавіччыне, у Тальцы. Хто параіў бацьку адважыцца ад’ехаць ад горада так далёка, не ўзгадаеш. Там адпачывала сям’я Кандрата Крапівы з дзецьмі — Барысам і маленькім Гарыкам, там жа летаваў Сымон Баранавых…»

*(Міцкевіч М. Пад бацькоўскім дахам. Мн., 2009. — С. 41.)*

Постаці ў айчыннай літаратуры вядомыя. Кандрат Кандратавіч Крапіва (сапраўднае прозвішча Атраховіч) нарадзіўся ў вёсцы Нізок Уздзенскага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям’і 5 сакавіка 1896 года. Вучыўся ў царкоўнапрыходскай школе ў вёсцы Нізок, Уздзенскім народным вучылішчы, 4-класным гарадскім вучылішчы ў Стоўбцах, з якога перавёўся ў такое ж вучылішча ў Койданава (цяпер Дзяржынск). Пасля заканчэння апошняга ў 1913 г. здаў экстэрнам экзамен на званне народнага настаўніка. Восенню 1914 года атрымаў месца настаўніка ў пачатковай земскай школе ў вёсцы Мнішаны на Міншчыне. Праз некаторы час быў мабілізаваны ў армію. У сакавіку 1916 года скончыў школу прапаршчыкаў. Удзельнічаў у баях на Румынскім фронце. Як настаўнік у лютым 1918 года дэмабілізаваны. Настаўнічаў у вёсцы Каменка на Уздзеншчыне. У 1920-1923 — камандзір Чырвонай Арміі. З 1924 г. зноў настаўнічаў на Уздзеншчыне ў пасёлку Астравок. У 1925 годзе пераязджае ў Мінск… У 1925-1926 гг. працаваў інструктарам Цэнтральнага бюро краязнаўства пры Інбелкульце, у 1932—1936 гг. — загадчыкам аддзела ў часопісе «Полымя рэвалюцыі»… Не выключана, што з Пухавіччынай Кандрата Крапіву пазнаёміў наш зямляк Мікола Каспяровіч (1900—1937), які нарадзіўся ў Ізабалёве, ды, відавочна, Тальку, яе ваколіцы добра ведаў. Мікола Каспяровіч з 1926 года працаваў навуковым сакратаром Цэнтральнага бюро краязнаўства. Значыць, былі агульныя стасункі… На пачатак 1930-х гадоў Кандрат Крапіва — досыць вядомы пісьменнік. Першыя яго сатырычныя кнігі — «Асцё» (1925), «Крапіва» (1926, 4-е перапрацаванае і дапоўненае выданне ў 1932), «Біблія» (1926), «Байкі» (1927), «Ухабы на дарозе» (1930), «Пра нашых шкоднікаў, папоў ды ўгоднікаў» (1930), «Хвядос — Чырвоны нос» (1931), «Калючы строй» (1932), «Выбраныя байкі» (1932)… У 1934 апублікавана і пастаўлена п’еса Крапівы «Канец дружбы». У 1937 — «Партызаны». Існуе версія, што матэрыялам да гэтай п’есы Кандрату Крапіве паслужыла гісторыя пра 16 дукорскіх парты-

зан. Дарэчы, гэта цалкам верагодна. Вядомая актрыса, народная артыстка БССР Вера Пола ўспамінала ў свой час такі фрагмент сваёй творчай біяграфіі: «За час сваёй работы ў Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы мне давялося сыграць нямала роляў у розных спектаклях. Але чамусьці заўсёды дастаўляла вялікае задавальненне выконваць ролі ў спектаклях па п'есах Кандрата Крапівы. У спектаклі «Канец дружбы» я іграю ролю Насці, у «Партызанах» — Кацярыны, у «Хто смяецца апошнім» — Ганны Паўлаўны, жонкі Гарлахвацкага, у «Пяюць жаваранкі» — Паўліны.

Чаму ж так падабаліся мне гэтыя ролі, чаму так добра было выконваць іх? Ды, відаць, таму, што аўтар п'есы пастараўся, каб яны былі яркія, арыгінальныя. Відаць, можа, і таму, што Кандрат Кандратавіч добра ведаў наш тэатр, ведаў акцёраў і зараней меркаваў, хто будзе іграць тую ці іншую ролю, хто больш падыдзе на яе.

Памятаю, як упершыню мы рыхтаваліся да пастаноўкі спектакля «Партызаны». Для таго, каб лепш зжыцца з ролямі, каб лепш уявіць сабе абстаноўку таго часу, калі адбывалася дзеянне п'есы, мы разам з Кандратам Кандратавічам зрабілі паездку ў Дукору, дзе ў 1920 годзе дзейнічалі партызаны пад кіраўніцтвам Андрэя Блажко. Там жылі іх сваякі, там былі відавочцы падзей. Гутарылі з людзьмі, пачулі шмат цікавага, таго, што нам потым вельмі дапамагло ў рабоце над спектаклем. Я іграла ролю Кацярыны — дачкі кулака Маргуна. Трэба сказаць, што роля псіхалагічна складаная: тут і каханне да сялянскага хлопца Рыгора, і кулацкая сквапнасць да багацця, хцівасць, якая прыводзіць да жорсткасці, здрады. Па тым, як прымалі гледачы спектакль, можна было меркаваць, што наш калектыў няблага справіўся з работай — спектакль цікавіў, хваляваў. Ён быў паказаны і на 1-й дэкадзе Беларускага мастацтва ў Маскве ў 1940 годзе…»

*(Сцяг працы, 1971, 9 сакавіка.)*

На пачатку 1930-х гадоў пабачыла свет першая кніга рамана Кандрата Кандратавіча «Мядзведзічы». За плённую творчую і навуковую працу Кандрат Крапіва быў узнагароджаны званнем Героя Сацыялістычнай Працы, адзначаны чатырма ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай рэвалюцыі, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны 2-й ступені, Чырвонай Зоркі, Дружбы народаў, многімі медалямі. Акадэмік АН БССР, доктар філалагічных навук Кандрат Крапіва — тройчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, народны пісьменнік БССР, заслужаны дзеяч навукі БССР. Памёр Кандрат Крапіва 7 студзеня 1991 года. Творчая спадчына знакамітага літаратара, які не толькі адпачываў на Пухавіччыне, але і тварыў, пісаў байкі, вершы, драматычныя творы, складае многія і многія тамы.

Зусім іншы творчы лёс у пісьменніка Сымона Баранавых (1900—1942), які таксама адпачываў у Тальцы. Зямляк Кандрата Крапівы, ён нарадзіўся ў вёсцы Рудкова Уздзенскага раёна. Парабкаваў у юначыя гады. У 1920-1923 гады служыў у Чырвонай Арміі. У 1925—1928 гадах вучыўся ў Мінску на рабфаку. У 1931 годзе скончыў літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педфака Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у Беларускім радыёцэнтры, затым адказным сакратаром часопіса «Беларусь калгасная». У 1936 годзе арыштаваны, асуджаны на 10 год зняволення. Памёр у 1942 годзе. Першая кніга апавяданняў Сымона Баранавых пабачыла свет у 1930 годзе — «Злосць». Тым жа годам пазначаны і аповесці «Чужая зямля» і «Межы». І толькі ў 1957, праз чвэрць стагоддзя пасля смерці аўтара, выйшаў з друку раман «Калі ўзыходзіла сонца». А ў 1967 і 1989 гг. творы пісьменніка зноўку перавыдаваліся — «Дзве аповесці» і «Новая дарога». Хто ведае, магчыма, старонкі рамана «Калі ўзыходзіла сонца» — таксама адтуль, з пухавіцка-талькаўскай прасторы?..

«А на адкрыццё паляўнічага сезона ў Тальку прыязджала цэлая капэла пісьменнікаў. Запомніўся Сташэўскі, які з такім захапленнем расказваў гісторыі пра прыгоды паляўнічага, што мы з Юркам слухалі яго, разявіўшы раты, — успамінае Міхась Міцкевіч. — Як Юрка перажываў, як яго цягнула на паляванне! Ён аж затросся ад жадання пайсці разам з імі! А дарога была няблізкаю — кіламетраў з пятнаццаць да Суціна, вакол якога раскінуліся бясконцыя разлівы Пцічы, дзе тысячы і тысячы качак выводзіліся і жыравалі…», — успамінае Міхась Канстанцінавіч Міцкевіч.

Некалькі слоў пра Васіля Сташэўскага. Імя яго зараз амаль што не згадваецца. А між тым Васіль Пятровіч Сташэўскі, які нарадзіўся 23 сакавіка 1895 года ў вёсцы Лугавая Капыльскага раёна ў сялянскай сям'і, у свой час досыць актыўна працаваў у беларускай літаратуры. У 1914 годзе будучы пісьменнік скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю. Удзельнічаў у Першай сусветнай вайне. У час грамадзянскай вайны прымаў удзел у барацьбе супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1918-1920 і 1923 гг. настаўнічаў, у 1920-1921 — ваенком і загадчык аддзела асветы Магільнянскага валаснога рэўкома, сакратар Нясвіжскага павятовага ваенкамата, загадчык беларускага пададдзела Мінскага павятовага аддзела народнай асветы. Вучыўся ў беларускай драматычнай студыі ў Маскве (1921-1922). Пасля заканчэння Мінскага настаўніцкага інстытута (1924) выкладаў гісто-

рыю і літаратуру на настаўніцкіх курсах і рабфаку ў Оршы, узначальваў культаддзел Аршанскага акруговага Савета прафсаюзаў. З 1927 г. — адказны сакратар літаратурнага аб'яднання «Маладняк», з 1929 г. — аб'яднання «Полымя». У 1928-1929 г. працаваў у газеце «Савецкая Беларусь». У 1937 рэпрэсіраваны. Прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Рэабілітаваны 8 чэрвеня 1957 года. Член Саюза пісьменнікаў СССР з 1934 года. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 года. У кастрычніку 1937 расстралялі і пісьменнікаў-ураджэнцаў Пухавіччыны Міхася Чарота, Анатоля Вольнага…

Першая п'еса Васіля Сташэўскага — «На другі дзень» была надрукавана ў «Аршанскім маладняку» ў 1926 годзе. Васіль Сташэўскі — аўтар п'ес «Бацька і сын», «Кацярына», «Сашка-будаўнік», «Беспрытульныя», «У цемры», «Музыка Цвілеўскі», «Спявай, вясна!», «Архангелы з крэсаў», «Прысяга ў лесе», «Гарачы віхор», «На варце», «На платформу», «Самсон і Людміла», «Мікола Гоман»… Пералік далёка не поўны. А яшчэ ж былі і кнігі прозы, болей як паўтузіна зборнікаў аповесцей, апавяданняў, нарысаў пабачыла свет у 1930-1933 гадах. Мо ёсць у іх і сюжэты з пухавіцкіх паляўнічых вандровак?..

Адно з захапленняў Якуба Коласа ў час адпачынку на Пухавіччыне — рыбная лоўля.

У звязку з гэтай тэмай прывядзём яшчэ адно сведчанне талькаўскага летавання Якуба Коласа — ва ўспамінах Антона Бялевіча: «…І, праўду кажучы, быў трохі расчараваны, калі ўпершыню пабачыў яго на свае вочы.

А было гэта так: ад пухавіцкай раённай газеты, яшчэ ў пачатку трыццатых гадоў, паехаў я ў калгасы Талькаўскага сельсавета. Быў спякотны летні дзень. Пайшоў да Свіслачы — паплёскацца. Бачу — сядзіць на беразе пад ракітавым кустом нейкі дзядзька, вудзіць рыбу. Прыйшоў на бераг і мой знаёмы аграном з калгаса. Мы з аграномам пачынаем раіцца, дзе лепш зайсці ў раку, а дзядзька рукою махае нам: далей адыдзіцеся, не палохайце рыбу…

От яшчэ! Плюхнуўся я ў ваду. Дзядзька падняўся, зматаў вудачкі.

— Ай, нядобра, — нахмурыўся аграном.

— А што?

— А тое самае: Коласаву рыбу ты напалохаў, разагнаў.

— От яшчэ! Не выдумляй.

— Я праўду кажу. Якуб Колас гэтую мясціну аблюбаваў…

— Чакай! — перапыняю таварыша. — Дык гэта Якуб Колас быў?!

— Ён. Не паспеў я цябе папярэдзіць…

Веру і не веру! Які ж гэта Колас? Я ж думаў пра яго, як пра дзівоснага чараўніка, як пра казачнага асілка, а ён — звычайны чалавек, у нейкім аблавухім капелюшы, басаногі…

А таварыш хітравата ўсміхаецца, кажа:

— Рыбакі ў камашах і макінтошах не ходзяць на раку…»

*(Успаміны пра Якуба Коласа. Склад. І. С. Курбека. / Мн., 1982. — С. 173-174.)*

Міхась Канстанцінавіч у сваіх успамінах канкрэтызуе некаторыя дэталі: «Паміж паляўнічымі вандроўкамі Юрка прападаў з вудай на рачулцы Талька. Зрабіў ён вуды мне і бацьку. Напэўна, тут бацька ўпершыню захапіўся рыбалоўствам…

Вудзілі на талькаўскай яме і часамі паспяхова. Рыбы было многа, і іншы раз бацька выцягваў добрага ляшча. Аб яго поспехах стала вядома, і Кандрат Крапіва, майстар вострага слова, прысвяціў яму такую эпіграму:

Быў я ў Парыжы на кангрэсе,
То ў Загібельцы, браце, лепш:
Няма грыбоў у Булонскім лесе,
А ў Сене — хоць бы адзін лешч!»

*(Міцкевіч М. Пад бацькоўскім дахам. Мн. 2009. — С. 42.)*

…Амаль што ніколі не згадваецца пра тое, што ў час вайны ў Тальцы жыла разам з сынам вядомы літаратуразнаўца, крытык Ларыса Кароткая, маці Варлена Бечыка. Была партызанскай сувязной. Талька засталася ў дзённіках Варлена Бечыка. Вось што ён занатаваў у кастрычніку 1978 года: «І снілася мне ноччу талькаўская Кепціха (нават імя па бацьку яе не ведаю, не помню) з трыма дзецьмі-сіратамі. І плакаў я ў сне, і стаяла перад вачыма яе гаротная хата. Трэба напісаць Колю Трызне і папрасіць, каб пра яе — ці жыве — мне расказаў».

Крыху — з творчай і жыццёвай біяграфіі Варлена Бечыка. Нарадзіўся Варлен Леанідавіч 25 чэрвеня 1939 года ў вёсцы Астрашыцкі Гарадок Мінскага раёна ў сям'і настаўнікаў. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1960) выкладаў беларускую мову і літаратуру ў Пліскай сярэдняй школе Смалявіцкага раёна. У 1962-1966 гг. — аспірант кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна. З 1966 па 1971 гг. — літсупрацоўнік рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва» і часопіса «Нёман». З 1972 года — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. З 1981 г. — намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Мастацкая літаратура». Кандыдат філалагічных навук. Член СП СССР з 1971 г. Памёр 13 лістапада 1985 г. Выступаў у друку з крытычнымі і літаратуразнаўчымі артыкуламі з 1959 г. Выйшлі яго кнігі літаратурна-крытычных артыкулаў «Свет жывы і блізкі» (1974), «Прад высокаю красою» (1984), кніга пра паэзію А. Куляшова «Шлях да акіяна» (1981),

адзін з аўтараў «Истории белорусской советской литературы» (1977). У сааўтарстве з М. Ярошам выдаў манаграфію «Беларуская савецкая лірыка» (1979). Напісаў брашуру, прысвечаную памяці беларускіх паэтаў, загінуўшых на Вялікай Айчыннай вайне «Радзіме — радок і жыццё» (1986).

Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП БССР імя І. Мележа (1987, пасмяротна) за кнігу «Прад высокаю красою».

Засталася Талька, ваколіцы і ў памяці маці Варлена Бечыка — літаратуразнаўца Ларысы Кароткай. Пра Пухавіччыну-партызанку — яе ўспаміны… Але спярша — старонкі з біяграфіі Ларысы Лявонцьеўны Кароткай. Яна нарадзілася, дзе і яе сын, у вёсцы Астрашыцкі Гарадок Мінскага раёна, 7 сакавіка 1919 года.

Кандыдат філалагічных навук. Дысертацыю абараніла ў 1963 годзе. У 1967 годзе Ларысе Лявонцьеўне было прысвоена званне дацэнт… Яшчэ ў перадваенныя гады — у 1938 годзе — Кароткая скончыла Мінскі педагагічны інстытут. У Айчынную вайну ўдзельнічала ў камуністычным падполлі і партызанскім руху. Настаўнічала ў Астрашыцкім Гарадку і вёсцы Талька, а таксама ў Прылуках Мінскага раёна. З 1955 года працавала ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Друкавацца пачала з 1944 года. Даследуе старажытную беларускую і рускую літаратуры, гісторыю вальналюбства і атэізму на Беларусі. Выступае з артыкуламі пра сучасную беларускую літаратуру. Удзельнічала ў складанні хрэстаматыі «Старажытная руская літаратура ў даследаваннях» (разам з Л. Гусевай, 1979) і іншых навучальных і метадычных дапаможнікаў для студэнтаў філалагічных факультэтаў. Выдала манаграфіі «Публіцыстыка XIII—XVI стагоддзяў у барацьбе з царкоўна-рэлігійнай ідэялогіяй» (1963), «Антыцаркоўная сатыра XVII ст.» (1968), «На шляхах да атэізму: (Антыцаркоўная традыцыя ў старажытнарускай літаратуры)» (1971), «З гісторыі свабоды мышлення і атэізму ў Беларусі» (1978, у сааўтарстве). Аўтар грунтоўных літаратурна-крытычных артыкулаў, творчых партрэтаў, прысвечаных Івану Навуменку, Нілу Гілевічу, Алегу Лойку і інш.

Нельга не ўзнавіць адзін жыццёвы і адначасова творчы эпізод з біяграфіі Ларысы Лявонцьеўны Кароткай. Тым болей, што гэта мае непасрэднае дачыненне да гісторыі Пухавіччыны. Звернемся да нарыса Ларысы Кароткай «Гісторыя адной казкі і адной песні»:

«Вусная творчасць беларускага народа часоў Вялікай Айчыннай вайны — помнік мужнасці, стойкасці і гераізму савецкіх людзей, помнік велічы народнага духу.

Песні, частушкі, казкі, прыказкі, якія ўзнікалі ў тыя цяжкія і грозныя гады, прасякнуты верай у перамогу, нянавісцю да крыважэрнай фашысцкай саранчы, заклікам да рашучай барацьбы.

У гэтым сэнсе цікавай з'яўляецца маласвядомая казка «Зоркавы горад». Упершыню я пачула яе ў пачатку 1942 года. Дарогі вайны прывялі мяне ў Пухавіцкі раён. Вымушаная на нейкі час знікнуць з вачэй Астрашыцка-Гарадоцкай паліцыі, я ішла да свайго бацькі ў вёску Суцін. На падыходзе да Суціна на скрыжаванні дарог убачыла я чалавека няпэўнага ўзросту: стары не стары, але па стомленым твары, пасівелай галаве і прыгорбленай постаці было відаць, што нялёгка ён жыў і напакутаваўся нямала. Вопратка, торба, кій і лапці выдавалі ў ім падарожнага чалавека — хутчэй за ўсё жабрака.

Я прывіталася. Чалавек адказаў мне і спытаўся, куды іду.

— Студэнткай была. Да бацькі ў Суцін дабіраюся.

— Немцаў ты, відаць, не баішся, што ідзеш так смела. Кажуць, палонныя з поезда ўцяклі, дык фашысты па аколіцах шныпараць, іх ловяць. Бач, колькі слядоў ад машын і матацыклаў. Хутка назад перціся будуць, дык ці не лепей перачакаць. Хадзем са мною. Тут недалёка ёсць добрае месца, дзе прыхавацца можна.

Чалавек прывёў мяне ў густы ельнік і, расхінаючы яловыя лапкі, вывеў да сваёй схованкі — на невялічкую палянку, засланую лапкамі і саломай.

— Сядай, адпачні. Без агню, вядома, не дужа сагрэешся, але ад ветру зацішна.

Стары паклаў кій, зняў торбу, прымасціўся на саломе. Села і я.

— Ну, то падмацуемся чым ёсць.

У мяне нічога не было. Чалавек дастаў з торбы хлеб і сала. Падзяліўся са мною. Мы перакусілі.

— А хто ж вы і адкуль, добры чалавек?

— Цяпер добрыя людзі ў добрых пра гэта не пытаюцца.

Я сумелася: праўду стары кажа. А ён, памаўчаўшы:

— Ды і што мне гаварыць?
Да вайны я меў работу,
Сваю хату, свае боты.
Ды пачвары прывалілі,
Вочы мае высмалілі.
Мусіў плесці сабе лапці,
Ісці з торбай жабраваці.

Спачатку здзівіла, што чалавек гаворыць у рыфму, але я на ўсё забылася, калі да мяне дайшоў сэнс ягоных слоў. Глянула яму ў твар: вочы чалавека былі нерухомыя і глядзелі міма мяне…

— Страшныя прымаўкі вы гаворыце.

— Жыццё цяпер яшчэ страшнейшае.

— Гэта так, бацька. Наглядзелася і я на людскія пакуты. І дакуль гэта будзе? Калі ўжо скончыцца наша гора?

— Эх, дачушка, хто ж ведае гэта. Вось раскажу табе лепей, калі хочаш, адну быльнебыліцу.

І чалавек расказаў мне казку пра Зоркавы горад, пра ваенны парад у Маскве і пра будучую нашу перамогу. Гаварыў ён у рыфму, толькі мроі хлопчыка пераказаў прозай. «Казка не казка: у ёй праўда жывая, у ёй гора, надзеі і сіла людская», — так думалася і мне, калі стары скончыў свой расказ.

Потым, па дарозе ў Суцін, я старалася ўспомніць казку цалкам, даслоўна, каб падзяліцца з людзьмі сваім набыткам.

У Суціне, выявілася, казку ўжо ведалі. Нейкі чалавек (па апісаннях атрымлівалася — мой нядаўні знаёмы) заходзіў у вёску і расказваў гэту казку. Была нядзеля. Паліцаі на другім канцы сяла гулялі на нейкіх хрэсьбінах. Якраз у той момант, калі расчуленыя жанчыны частавалі казачніка, прывалокся п'яны паліцай.

— Што тут за зборышча? Адкуль гэты стары? Дакументы ёсць?

— Якія ў сляпога і старога дакументы?

— Разбяромся ў паліцыі. Ідзі са мной!

— Куды ты пацягнеш чалавека? — спрабавалі заступіцца жанчыны. — Зенкі заліў і не бачыш, што яму ісці цяжка. Ён жа знявечаны.

— Ці-ха! Не ваша справа. Падымайся, стары!

— Дык я ж не бачу, куды ісці. Хіба што ты вядзі.

Чалавек узяў паліцая за руку. Той памкнуўся весці. Праз колькі крокаў казачнік нечакана запеў:

— А божа ты мой,
Які свет настаў,
Што пан паліцай
Павадыром стаў!

Быццам ён запарушыў паліцаю вочы з'едлівай песенькай: той аж пазеляне ад злосці. Чалавек жа знянацку рэзка тузануў паліцая, стукнуў яму кіем па галаве і спрытна, быццам відушчы, кінуўся ў кусты. Пакуль паліцай ачухаўся, пакуль пачаў страляніну, прыбеглі на падмогу ягоныя п'яныя хаўруснікі, чалавек знік, — расказвалі мне ў Суціне дзеці.

«Добрай дарогі чалавеку, — думала я. — Хай нясе людзям сваю казку».

Хутка я зноў вярнулася ў Астрашыцкі Гарадок. Аказваецца, і ў Гарадку ведаюць гэтую казку. Наш падпольшчык, настаўнік Мікалай Феафанавіч Войценкаў, чуў і запісаў яе таксама, хоць крыху не такою: у яго апавяданне скрозь вялося прозаю і ад імя савецкага салдата, які ўцёк з германскага палону і заначаваў на падворышчы спаленай хаты.

Мы пераказвалі казку свайму старэйшаму таварышу, завучу Кірылу Іванавічу Шастакову.

— Гэтай казцы цаны няма! — сказаў ён. — Такая вера ў перамогу, у Маскву! Такое жыццёвае павучанне добрым людзям! Такая ганьба нягоднікам! Распаўсюджваць яе трэба.

— Кірыл Іванавіч! Казка добрая, згодны. Але ж — гады?! Гэта ж падумаць толькі: яшчэ цэлых тры гады вайны прарочыць яна.

— А вы не бачыце, што вайна зацягваецца? Ну, можа, і не на тры гады. Дык у казцы ж пра аднаўленне гаворыцца. Ды пра якое аднаўленне! А гады тут, можа, і сімвалічныя.

І мы згадзіліся. Зрабілі пераклады і на рускую мову — для распаўсюджвання сярод ваеннапалонных. Наша сувязная Ніна Міхайлаўна Бараноўская, якая працавала ў воласці сакратаром, размножыла тэксты, перадрукаваўшы на машынцы.

І пайшла казка ад сяла да сяла…»

*(Кароткая Л. Жывое, роднае...: Літ.-крытыч. арт. — Мн., 1989. — С. 123-126.)*

Ужо пасля вайны (з 1946 па 1947) настаўнікам, загадчыкам навучальнай часткі Талькаўскай сярэдняй школы працаваў Алесь Макарэвіч, крытык, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук, аўтар кніг «Сатыра Кандрата Крапівы», «Ад песень і дум народных», «Фальклорныя матывы ў драматургіі Янкі Купалы», «Кароткі літаратурны слоўнік» (вытрымаў два выданні). А нарадзіўся крытык таксама на Пухавіччыне — у вёсцы Шэлягі (30 жніўня 1918 года).

…Кароткі фрагмент літаратурнай, гісторыка-краязнаўчай увагі да Талькі, да падзей на чыгуначнай станцыі ў час Вялікай Айчыннай вайны — у кнізе гісторыка і публіцыста Уладзіміра Паўлава «Дзеці ліхалецця» (Мінск, 2005). Адзін з раздзелаў так і называецца — «Апошні эшалон: Піянерскія лагеры ў пасёлку Талька Пухавіцкага раёна».

Цікавы штрышок можна было б узнавіць, зазірнуўшы ў Тальку 1950-х… Справа ў тым, што ў Талькаўскай сярэдняй школе выкладаў музыку беларускі хормайстар, музычны педагог, кампазітар Антон Міхайлавіч Валынчык (1896—1985), які самым цесным чынам звязаны з айчыннай літаратурай. Менавіта ён пісаў і рыхтаваў для выканання свае песні і хары на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Адама Русака, Петруся Броўкі. Не выключана, што нешта складалася і ў блаславёнай Тальцы… «У 1956-57 узначальваў хор Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках (Магілёўская вобл.), адначасова настаўнічаў у Пухавіцкай, Талькаўскай СШ (Мінская вобл.)», — піша пра Антона Валынчыка даследчык гісторыі культуры, літаратуразнаўца Аляксей Пяткевіч.

*(Пяткевіч А. Людзі культуры з Гродзеншчыны. Гродна, 2000. — С. 46.)* Удакладнім некаторыя старонкі біяграфіі ўраджэнца вёскі Мялькaнавічы Слонімскага раёна. У 1964 годзе Антону Міхайлавічу было прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Але гэтаму папярэднічалі многія творчыя і жыццёвыя выпрабаванні. Нарадзіўся будучы творца ў сям'і царкоўнага рэгента. У 1914 годзе скончыў Жыровіцкую духоўную семінарыю. Служыў у войску ў 1914—1918 гг. У 1919—1924 гг. працаваў выкладчыкам музыкі і спеваў у гімназіі ў горадзе Лунінец, на Берасцейшчыне. Затым — у Клецкай беларускай гімназіі. У 1929 годзе кампазітар пераязджае ў Навагрудак. Працуе там да 1939 года. А з 1939-га і па 1947 г. — у сярэдняй школе і ў настаўніцкай семінарыі ў Слоніме. І паўсюль, дзе толькі не працаваў, стварае і ўзначальвае хары навучэнцаў. Завочна скончыў Вышэйшыя музычныя курсы Варшаўскай кансерваторыі пры Крамянецкім музычным ліцэі (1937). Быў мастацкім кіраўніком Беларускага міжабласнога ансамбля песні і танца ў Ашмянах (1947-1949). Але, відавочна, не ўсім даспадобы была акрэсленая беларускасць кампазітара і хормайстра, ды яшчэ ўспаміналі, дзе быў і чым займаўся ў час Вялікай Айчыннай вайны… Як вынік — пазбаўленне сталай працы. Супрацоўнічаў тады з праваслаўнымі харамі ў Клецку, Наваградку, Слоніме, Жыровічах, Мінску. Праўда, гэты клопат быў знаёмы Антону Валынчыку яшчэ з 1920-х гг. У 1957-1961 гг. Антону Міхайлавічу даверылі кіраўніцтва Маладзечненскім абласным ансамблем песні і танца. З 1961 года А. Валынчык стала жыве ў Гродне. У 1961—1976 гг. загадвае кафедрай музыкі і спеваў Гродзенскага педінстытута. Адначасова працуе хормайстрам Гродзенскага народнага ансамбля песні і танца «Нёман», мастацкім кіраўніком Гродзенскай народнай харавой капэлы. Як і ў ранейшыя гады, апрацоўвае народныя песні, увасабляе ў канцэртныя праграмы творы І. Баха, Л. Бетховена, П. Чайкоўскага, Ф. Шуберта, С. Манюшкі, К. Вебера. З Антонам Валынчыкам былі знаёмыя і сябравалі многія пісьменнікі.

Не вельмі далёка ад Талькі і паселішча з простай назвай Весялова.

Асобны наш маршрут пралягае ў вёсачку Весялова, што месціцца непадалёку ад Талькі. Можна было б і не вылучаць гэты адрас асобна. Але ж давайце зробім кароткі прыпынак менавіта тут.

Зусім невялікае паселішча ў Талькаўскім сельсавеце — вёска Весялова. У 2002 годзе тут пражывала ўсяго 24 жыхары, мелася 19 двароў. Але і яна, вёска Весялова, дзякуючы таму, што доўгі час тут было лецішча пісьменніка Аляксандра Капусціна, патрапляе ў наша літаратурна-краязнаўчае поле зроку. У творчай спадчыне празаіка, публіцыста засталіся творы, навеяныя пухавіцкімі, талькаўскімі краявідамі. Сюды, да пісьменніка ў госці прыязджаў празаік Леанід Левановіч.

Удава пісьменніка Аляксандра Капусціна (давялося ўдзельнічаць у той сустрэчы і аўтару гэтых радкоў разам з пісьменнікам Алесем Марціновічам) падаравала Талькаўскай школе шмат кніг з бібліятэкі літаратара. І першнаперш — кнігі, аўтарам якіх ён з'яўляўся. Адбылося гэта ўжо пасля смерці Аляксандра Пятровіча. Але клопат гэты жонка літаратара выканала як запавет мужа, які даўно збіраўся наведацца да талькаўскіх школьнікаў. Ды ўсё гэта ніяк не атрымлівалася… А пасля здзяйсненню перашкодзіла раптоўная смерць.

Непадалёку ад Талькі, за 5 км, на рацэ Свіслач знаходзіцца вёска Церабуты. У пачатку XX стагоддзя вёска была прыналежнай Амяльнянскай воласці. Было ў Церабутах 136 двароў, 974 жыхары. Сёння, аглядаючы нямногія хацінкі Церабутоў, у гэта цяжка паверыць. У 1888 годзе ў вёсцы была адкрыта царкоўнапрыходская школа. Тады ж быў узведзены і школьны будынак.

Рэчка, навакольныя лясы заўжды прыцягвалі сюды на адпачынак. У даваенныя гады ў Церабутах здымаў хаціну на лета літаратуразнаўца, мастацтвазнаўца Антон Ус (1894—1980). Асоба ў гісторыі беларускай культуры легендарная, да канца так і не раскрытая. Нарадзіўся Антон Антонавіч у вёсцы Мішуковічы Мінскага раёна. Скончыў Маскоўскі універсітэт. У 1929 годзе, між іншым, калі было яму 35 (!) гадоў. Вучыцца, выходзіць, ніколі не позна. У 1930-1932 гг. загадваў кафедрай мастацтвазнаўства Маскоўскага універсітэта. Пасля два гады працаваў загадчыкам сектара літаратуры і мастацтва ЦК КП(б)Б. У 1944—1948 гг. — загадчык сектара выяўленчага мастацтва Інстытута мовы, літаратуры і мастацтва АН БССР. У 1948—1956 гг. — на выкладчыцкай рабоце. Друкаваўся з 1930 года. Аўтар артыкулаў па праблемах выяўленчага мастацтва, літаратуры, нарысаў аб творчасці Н. Сілівановіча, В. Пярова, І. Рэпіна, В. Сурыкава, І. Шышкіна, І. Левітана і інш. у перыядычным беларускім і расійскім друку.

У пасляваенныя гады на лецішча ў Церабуты прыязджаў з сям'ёю пісьменнік Георгій Папоў. Пра гэта і зараз успамінае яго дачка — пісьменніца і драматург Алена Папова.

Загібелька — хутар з некалькіх хат. За 3 км на поўдзень ад Талькі. Зараз паселішча не існуе. Тут Колас жыў упершыню ўлетку 1935 года. Вось што ўспамінае пра той час Пятрусь

Броўка: «Гэта было ў Загібельцы, непадалёк ад станцыі Талька. Улетку 1935 года Якуб Колас толькі наладзіў свой адпачынак, як нечакана для яго выпала паездка ў Парыж на Сусветны кангрэс міру. Тады гэта было рэдка, а сама паездка вельмі неабходная і пачэсная, адмовіцца было нельга. І хоць дзядзьку Якубу, памятаю, нялёгка было развітацца са сваімі вудачкамі і грыбнымі кошыкамі, а больш за ўсё з цудоўным наваколлем, што так лагодна ўплывала на яго думку, ён накіраваўся ў Парыж.

Мы на Беларусі сачылі за Сусветным кангрэсам, які ўзнімаў магутны голас супраць фашызму, радаваліся, што і наш прадстаўнік, дарагі дзядзька Якуб, выказаў на кангрэсе шчырае цвёрдае слова ў абарону міру…

Калі Якуб Колас з'явіўся, заўважылі, што самаю вялікаю для яго радасцю было акунуцца ў звычны штодзённы побыт. Неяк уранку, выйшаўшы на прагулку, каля 8 гадзін, я заўважыў: дзядзька Якуб ужо варочаецца з цікавейшага паходу. Ён мяне не бачыў, а я, каб не перашкодзіць ягонаму задаволенаму настрою, не абзываўся і толькі сачыў, стаіўшыся за густым ажынавым кустом. Трэба было бачыць, з якім задавальненнем нёс Якуб Колас з лесу поўненькі, з каптуром, кошык чорнагаловенькіх баравікоў у адной руцэ, а ў другой вялізны прут з панатыканымі баравічкамі, якія ўжо не лезлі ў кошык. Ён ішоў босы з падкасанымі штанінамі і, здавалася, нешта напяваў ад вялікае радасці… Дзесьці на добрай сцяжынцы ён нават падбег, але асцярожна, каб не пагубляць здабытак».

Адпачываў Колас з сям'ёю ў Загібельцы ў хаце лесніка Волеся Ануфрыевіча Бранавіцкага.

Сярод назваў ваколіц Талькі, тапонімаў, гідронімаў ёсць многа запамінальных слоў. Частка з іх агучана ў краязнаўчай «энцыклапедыі» Наталлі Ільініч «Талька і наваколлі»: Малінавая града, Мурашава балота, Сарафінава гара, Слаўчакаў лес, Барсукі (лес), Яўсейчыкава паляна, Крачкова грэбля, Чайны дзедка (паляна), Ласіныя ямы, Ваяціна (балота), Паддуб'е (поле), Грымячае (возера), Шкуцішын хутар, Майсееўшчына (лес), Лысая гара (поле).

Наталля Ільініч расказвае ў сваёй кнізе пра росшук тапоніма Грымячае возера, якое і згадвае Якуб Колас у сваім вершы «Загібелька». Чытаем наступнае ў краязнаўчым даследаванні: «Я. Колас хадзіў вудзіць рыбу на возера Грымячае. Гэтая таямнічая мясціна знаходзіцца на поўдзень ад рудні ў лесе на адлегласці 7—8 кіламетраў. Нялёгкі быў шлях да яго. Мы з дзецьмі нават заблудзіліся на лясных сцежках і, мабыць, не знайшлі б гэтае возера, каб нам не дапамог Павел Ільіч Малькоў, жыхар Талькі. Ён правёў нас да жаданай мэты…»

(*Ільініч Н. Талька і наваколлі. Мн., 2004. — С. 44.*)

Краязнаўцы разам з настаўніцай здолелі «расшыфраваць» старажытны тапонім. Возера Грымячае — яшчэ адна старонка Коласавай прысутнасці на Пухавіччыне.

«…Сапраўды — адкуль такая назва? Дзед Павел патлумачыў нам, што так назвалі гэтае возера з-за таго, што яно знаходзіцца ў балоце, пад ім пласты торфу, ідзе працэс торфаўтварэння. Пры гэтым выдзяляюцца бурбалкі сярністага газу. Вось вам і гром. Яшчэ пра Грымячае расказваюць такую легенду.

У Руднянскім лесе ёсць балота, а пасярод яго возера. Падысці да яго немагчыма — берагі вагаюцца. Кажуць старыя людзі, што раней на гэтым месцы замак стаяў. У замку тым жыў багаты і дужа ганарлівы шляхціц. Нядобрая слава ішла ў наваколлі пра гэтага чалавека — быў ён жорсткі і скнарлівы. У пана таго была прыгажуня дачка, якую ён вельмі любіў.

Аднойчы разгулялася непагадзь — холад, вецер, дождж. Прыйшоў да замка нейкі здарожаны чалавек і папрасіўся пераначаваць. Жыў той прышлы ў замку два дні і дзве ночы. За гэты час ён заўважыў, як пан здзекуецца над сваімі слугамі. Тады падарожны заступіўся за слуг пана. Пану гэта не спадабалася, і ён прагнаў прышлага. Адыходзячы, вандроўнік сказаў шляхціцу: «Калі твая дачка будзе гатаваць ежу і ў яе выпадзе з рук і разаб'ецца яйка, тады твой замак праваліцца пад зямлю».

Праз тры дні так і адбылося. Дачка ўпусціла яйка, і яно разбілася. У той жа час-момант загрымеў гром, пачаўся страшэнны лівень. Апоўначы замак праваліўся — утварылася возера. Часам яно грыміць, калі прыслухацца. Нібыта злуецца, гырчыць той жорсткі пан. Ад таго возера і завуць Грымячым».

*(Ільініч Н. Талька і наваколлі. Мн., 2004. — С. 44.)*

…Наўрад ці гэтае літаратурна-краязнаўчае падарожжа з'яўляецца поўным пераказам тае мастацкай атмасферы, што існавала ў розныя гады ў Тальцы і яе ваколіцах. Таму, збіраючыся на ўскраіну Пухавіцкага раёна, на яго мяжу з Асіповіцкім, разлічвайце і на новыя, свае адкрыцці. Галоўнае — уважліва разгледзець гэты край, знайсці цікавых суразмоўцаў з ліку старажылаў гэтых мясцін.

***Алесь КАРЛЮКЕВІЧ***